УДК 2
ББК 86
К26

Шрифты предоставлены компанией «ПараТайп»

**Карповіч Лявон Эдвардавіч**
К26 Біблейскія гісторыі Новага Запавету, ілюстраваныя паштовымі маркамі : Развагі над зьместам Бібліі / Лявон Эдвардавіч Карповіч. — [б. м.] : Издательские решения, 2019. — 242 с.
ISBN 978-5-4496-1958-7

Кніга «Біблейскія гісторыі Новага Запавету, ілюстраваныя паштовымі маркамі» — вынік жаданьня спазнаць сэнс зьместу Бібліі пры дапамозе мастацкіх твораў, выявы якіх разьмешчаны на паштовых марках розных краін сьвету. У кнізе каля ста артыкулаў і прыблізна 800 ілюстрацый. І яшчэ спроба маіх разважаньняў над зьместам Бібліі. Спроба зразуменьня гэтага зьместу… Запрашаю паразважаць разам са мною і адначасова знаёміцца з творамі знакамітых майстроў мастацтва…

**УДК 2**
**ББК 86**

12+ В соответствии с ФЗ от 29.12.2010 №436-ФЗ

ISBN 978-5-4496-1958-7

# Зьмест

# Біблія і філятэлія

*Наказваю вам: любіце адзін аднаго. (Яна 15:17)*
*Усё Пісаньне боганатхнёнае і карыснае для навучаньня, для выкрыцьця, для выпраўленьня, для настаўленьня ў праведнасьці, каб быў дасканалы Божы чалавек, да ўсякае добрае справы падрыхтаваны. (Другое да Цімафея 3:16,17)*

Сьвятое пісьмо зьмяшчае праўду пра Бога і праўду пра чалавека і паказвае дзеі чалавецтва праз адносіны з Богам. Кнігі Сьвятога Пісаньня, якое складаецца з Старога і Новага Запаветаў, маюць агульную назву «Біблія». Назва паходзіць з грэцкай мовы і азначае ў перакладзе «кніга», якая зьяўляецца найбольш важнай з усіх кніг, проста «Кніга Кніг». Сапраўды, Біблія зьяўляецца адной з найважнейшых кніг у гісторыі сьвету, і не толькі ў сэнсе духоўным, але і літаратурным, гістарычным і сацыяльным. Няма ніякіх сумневаў, што для многіх людзей Біблія зьяўляецца свайго роду жыцьцёвай інструкцыяй, своеасаблівай кнігай псыхалягічнай, філязофскай, унівэрсальнай. Для мільёнаў Біблія была і застаецца крыніцай вечнай ісьціны і мудрасьці, усіх вучыць любіць і дараваць.

Паводле дадзеных Уікліф Глябальны Альянс Біблія даступная для чытаньня ў 471 мове — гэта родная мова прыкладна 4,8 мільярдаў чалавек. Біблія перакладалася ўжо ў далёкай старажытнасьці. Першы пераклад Старога Запавету зроблены ў трэцім стагодзьдзі да нашай эры. Падчас узьнікненьня хрысьціянства стандартным перакладам Бібліі на лацінскую мову, якая выкарыстоўвалася ў набажэнстве, стала Вульгата, пераклад, зроблены Сьвятым Еранімам у 382—406 гадах.




Рэпрадукцыя карціны мастака Мэрызі да Караваджа Мікеланджэла «Сьвяты Еранім» на марцы пошта Мальты (2007 г.)



У 1970 годзе пошта Парагваю выпусьціла ў карыстаньне марку з відарысам карціны Альбрэхта Дзюрэра «Сьвяты Еранім у пустыні». Таксама быў зроблены прыгожы картмаксімум

На сёньняшні дзень Новы Запавет перакладзены на 1223 мовы, а часткі Бібліі — яшчэ на 1002.

Першая друкаваная Біблія — гэта Біблія Гутэнбэрга. Надрукавана ў 1452—1455 гады ў Майнцы Іяганам Гутэнбэргам.




Марка пошты Злучаных Штатаў (1952 г.) да 500-годзьдзя Бібліі Гутэнбэрга

Наш знакаміты зямляк Францыск Скарына з Полацку ў 1517 г. у Празе арганізаваў друкарню, пераклаў на тагачасную беларускую мову, напісаў прадмовы і на працягу 1517 -1519 г. надрукаваў 22 кнігі Старога Запавету. Скарына друкаваў Біблію як з рэлігійнымі так і з асьветніцкімі мэтамі, пра што піша ў прадмове: «дедтем малым початок всякое доброе наукы, дорослым помножение в науце, мужем моцное утверьжение». Сваё выданьне Скарына ўпрыгожыў 52 гравюрамі, выкананымі ім.




Таму вельмі слушна Беларуская пошта выдала ў 1997 годзе сэрыю з чатырох марак, прысьвечаную Францыску Скарыне і яго Бібліі

Слушна было б, каб да 500 — гадовага юбілею было зроблена паштовае выданьне з усімі Скарынаўскімі гравюрамі. Гэта быў бы ня толькі знак павагі, але і сьветны падарунак філятэлістам усяго сьвету.

Дарэчы, першы поўны пераклад Бібліі з арыгінальных моў на польскую мову гэта Біблія Брэсцкая з 1563 г.

Як па перакладах так і па тыражы Біблія, сярод іншых кніг, ня мае сабе роўных. Таму Біблія аказвала і аказвае вялізарны ўплыў на чалавечую гісторыю, культуру і мастацтва.




На марцы пошты Славеніі (2007 г.) выява Далматынавай Бібліі — першага поўнага перакладу Бібліі на славенскую мову (1584 г.)

На пачатку было Слова. Слова запісана ў Кнігу, а Кніга была супраць выяваў: «Не рабеце сабе куміраў і выяваў, і слупоў ня стаўце ў сябе, і камянёў з выявамі не кладзеце ў зямлі вашай, каб кланяцца перад імі, бо Я Гасподзь, Бог ваш» (Лявіт 26:1).

Не магло быць іначай сярод паганцаў, якія пакланяліся ідалам і прыносілі ім ахвяры. Абраны народ павінен быў быць верным Нябачнаму. І яўрэі не стварылі ніводнай выявы Бога. Першыя сцэны біблейныя паўсталі ў Рымскай імпэрыі. Гэта былі ілюстрацыі Септуагінты — грэцкага перакладу Старога Запавету. Стары Запавет забараняў тварыць выявы, а Новы Запавет не зьнімаў гэтай забароны. Але зьявіўся Бог-чалавек, Ісус, «выява Бога Нябачнага». Гэта выклікала мажлівасьць стварэньня вобраза Бога. Доўга цягнуліся спрэчкі... 

маўклівае малярства ставіць перад вачамі» казаў Сьвяты Базыль у 379 годзе, а ягоны брат Сьвяты Георгій з Нысы скажа, што абразы замяняюць кніжкі, прыносячы гледачу тыя самыя карысьці. Але яшчэ доўгі час Кніга і выява не знаходзілі шляху да паяднаньня. Яно зьявілася пасьля Нікейскага і Халкедонскага царкоўных сабораў і расквітнела ў Італіі эпохі Адраджэньня.




Першая марка, прысьвечаная Божаму Нараджэньню, зьявілася 7 сьнежня 1898 года. Пошта Канады выпусьціла марку (Мі. 74) з картай сьвету і надпісам CHRISTMAS (XMAS 1898)

Матывы Біблейныя можна распазнаць у творах знакамітых мастакоў і скульптараў, паэтаў і пісьменьнікаў, творах, якія сабраныя ў знакамітых музэях, галерэях і бібліятэках усяго сьвету. Біблія аказала вялікі ўплыў на мову, якой размаўляем, на творчасьць музычную. Мы жывём у сьвеце, які ў значнай ступені стаў упарадкаваны праз культуру Біблійную.

Выдадзена шэраг кніг, дзе сабраныя самыя знакамітыя творы мастакоў, ілюструючых Біблію. Здавалася б, навошта займацца зьбіраньнем і апісаньнем, як паштовая марка ілюструе Біблейскія сюжэты. Але з дапамогай паштовых марак кожны жадаючы можа «напісаць сваю кнігу» з біблейскімі сюжэтамі, якая будзе рукатворнай і непаўторнай, бо немагчыма сабраць усе паштовыя маркі на Біблейскую тэму. Што дня паяўляюцца ўсё новыя экзэмпляры, а самыя першыя становяцца ўсё больш недаступнымі для тых, хто жадае іх мець. Праца пакліча ў пошук, паспрыяе новым знаёмствам і сяброўствам, паспрыяе пазнаваньню зьместу Кнігі, яго асэнсаваньню, прывядзе да веры або ўмацуе ў ёй.




Энтані Ван Дэйк, «Сьвяты Еранім». Блёк пошты Гранады (1999 г.)

Давайце зробім спробу паказаць дзеі вызваленьня чалавецтва праз паштовыя выданьні. Марка, уведзеная да штодзённага ўжываньня ў 19 ст., гэта доказ выкананьня паштовай аплаты. Разам з тым гэта наклееная на пісьмо мініяцюра, якая разам з пісьмом і яго зьместам пераадольвае граніцы моў і культур, злучаючы людзей і народы.

Пакажам з дапамогай паштовых марак доўгія дзеі збаўленьня, якія папярэдзілі нараджэньне, жыцьцё, дзейнасьць, сьмерць і паўстаньне зь мёртвых Ісуса Хрыста. Для таго, каб ня толькі разгледзець мініяцюрныя малюнкі, але як мага больш даведацца аб тым, што яны паказваюць. Толькі тады марка вучыць, забаўляе і выхоўвае.

Лявон Карповіч

Мястэчка Луна-Воля

# Падзеі перад Нараджэньнем Ісуса. Нараджэньне, дзяцінства і юнацтва Ісуса Хрыста

## Нараджэньне Маці Божай

Незадоўга да Нараджэньня Хрыста ў невялікім горадзе Галілейскім Назарэце жылі праведныя Ёакім з роду прарока і цара Давіда і Ганна з роду першасьвятара Аарона. Яны ня мелі дзяцей. А гэта ў тыя часы лічылася пакараньнем за грахі, так успрымалі іх стан суайчыньнікі. Аднак яны не гублялі надзеі на літасьць Божую і далі абяцаньне прысьвяціць Богу для служэньня ў храме дзіця, калі яго пашле ім Гасподзь. Аднойчы старац Ёакім прыйшоў у Ерусалімскі храм, каб прынесьці Богу ахвяру. Але першасьвятар не прыняў ахвяру, бо лічыў Ёакіма нявартым гэтага з-за бязьдзетнасьці. У вялікім смутку Ёакім пайшоў у пустэльню, дзе са слязьмі маліўся Богу аб дараваньні яму дзіцяці. Ганна, даведаўшыся што здарылася з мужам, таксама шмат і шчыра малілася. «Усё на зямлі прыносіць плод свой Богу; калі б у мяне было дзіця, я таксама прысьвяціла б яго Богу». Не паспела яна так падумаць, як зьявіўся перад ёй анёл і сказаў: «Ганна, твая малітва пачута Богам. У цябе скора народзіцца дачка; цераз яе будзе дадзена выратаваньне усяму сьвету і назавеш ты яе Марыяй. Імя гэта азначае «Ўзвышаная».

Анёл зьявіўся і Ёакіму і сказаў: «Бог прыняў малітву тваю і яўляе табе сваю мілату — жонка твая скора народзіць дачку Марыю, і народзінамі яе ўзрадуецца ўся зямля. І вось табе знаменьне: ідзі да храма Ерусалімскага і там, ля Залатых варот, сустрэнеш жонку тваю, каторай павядомлена тое, што і табе».




У 1999 годзе пошта Ізраіля паказала на сваёй марцы рэпрадукцыю малюнка Дэвіда Робертса, на якім ён намаляваў Калодзеж Дзевы Марыі, што знаходзіцца ў цэнтры Назарэту. Сюды магчыма прыходзілі па ваду бацькі Марыі і Марыя

Ёакім паспяшаў у Ерусалім і сустрэў жонку ля Залатых варот.




У 1992 годзе пошты Швецыі і Расіі ажыцьцявілі сумесны выпуск марак з рэпрадукцыямі ікон «Сустрэча Ганны і Ёакіма»

Падзея знайшла адлюстраваньне на іконах і карцінах. У хрысьціянскай рэлігіі (праваслаўі, каталіцызьме, уніяцтве) абраз,

ікона — гэта выявы Ісуса Хрыста, Богамаці і сьвятых, якія маюць культавае прызначэньне.

Гісторыі Ганны і Ёакіма прысьвяціў свае творы Джота ды Бандонэ (італ. Giotto di Bondone, каля 1267—1337). «Сцэны з жыцьця Ёакіма і Ганны», ён намаляваў на сьценах капэлы дэль Арэна (Скравены) у Падуі ў 1305 годзе. Пачынаецца апавяданьне ў левым верхнім куце правай сьцяны і ўвесь гэты ярус прысвечаны падзеям, якія напаткалі Ёакіма і Ганну — бацькоў Марыі, Маці Хрыста. Фрэскі цыклу «Жыцьцё Ёакіма і Ганны» уключаюць наступныя падзеі:

— 1. Выгнаньне бязьдзетнага Ёакіма з храма.

— 2. Ёакім сярод пастухоў.

— 3. Зьвеставаньне Сьвятой Ганне.

— 4. Ахвярапрынашэньне Ёакіма.

— 5. Сон Ёакіма.

— 6. Сустрэча ля Залатых Варот.




У 1972 годзе пошта Арабскага Эмірату Аджман выпусціла ліст з шасьці марак, на якім адлюстраваны рэпрадукцыі апошніх пяці фрэсак. Момант сустрэчы ля Залатых Варот Ерусаліма паказаны на чацвёртай і шостай марках

дымаюць адзін аднаго, але яшчэ дужых людзей. Адчуваючы ўзаемную павагу, яны адгадваюць пачуцьці і думкі адзін аднаго і адгукаюцца на іх. Тут сплятаюцца не целы, а душы. Па адной з легенд менавіта ў гэты момант была зачатая Марыя ад пацалунку мужа і жонкі.

Але радасьць пагадненьня ўтойвае ў сабе рок у выяве загадкавай жанчыны ў чорным, якая стаіць трохі наводдаль ад іншых жанчын, што выйшлі насустрач Ёакіму. Яна перасьцерагае і нагадвае, што бясхмарных радасьцей няма, і што за кожную хвіліну шчасьця будучыня адгоджвае нягодамі, прадказвае слаўны, але трагічны лёс Маці Божай.




Магчыма таму на марцы пошты Кампучыі з 1985 года паказаны толькі гэты фрагмент фрэскі, на якім адсутнічаюць Ганна і Ёакім, а бачым толькі сьведкаў гэтай сустрэчы. Яе дапаўняе марка пошты Італіі (2003 г.), на якой паказаная хвіліна сустрэчы Ёакіма і Ганны і жанчына ў чорным. Выданьне прасьвечана 700-сотай гадавіне асьвячэньня царквы Сьвятой Марыі Міласэрднай у 1303 годзе папам Рымскім

Мастацтвазнаўцы пішуць, што ў гісторыі мастацтва цяжка знайсьці твор больш кранальны, чым гэта фрэска. На мосьце перад гарадскімі варотамі, нібы сьвятадзейнічаючы, урачыста і прымірэнча двое старых аб-

«Тым часам прайшлі пакладзеныя ёй месяцы, і Ганна ў дзявяты месяц нарадзіла і спытала спавівальную бабку: каго я нарадзіла? Адказала тая: дачка. І сказала Ганна: узвысілася душа мая ў гэты дзень, і паклала

дачку. Паз некалькі дзён Ганна папраўілася, дала грудзі дзіцяці і назвала яе Марыя» «Протаэвангельле Якава» (Гісторыя Якава пра нараджэньне Марыі).




Багародзіца ў тысячу разоў часьцей сустракаецца на карцінах, чым у Біблейскіх тэкстах. Але марак, прысьвечаных нараджэньню Марыі, адзінкі. Таму вельмі прыемна, што ў 1996 годзе пошта Рэспублікі Беларусь выпусьціла Блёк з маркай, на якой разьмешчаны відарыс іконы, намаляванай Пятром Яўсеевічам з Галынца ў 1649 годзе «Нараджэньне Маці Боскай». Ікона зьберагаецца ў Нацыянальным мастацкім музэі Беларусі

Пад сьветлакарычневым балдахінам з зялёнай на карычневай падкладцы драпіроўкай на пасьцелі пад чырвонай коўдрай, аблакаціўшыся на падушкі, сядзіць Ганна ў сінім адзеньні і белай з чырвонымі затканымі палосамі намітцы. Побач служанкі з дарамі. Справа сядзіць Ёакім з кіем у руцэ. На пярэднім пляне — сцэна купаньня Маткі Боскай дзьвюма служанкамі. Гэта адзіны падпісаны аўтарам твор сярод твораў 17 ст. на Беларусі. Пётр Яўсеевіч намаляваў этнаграфічна дакладную карціну сялянскага быту Магілёўшчыны. Але будзем памятаць, што Маці Боская нарадзілася ў Ізраільскім горадзе Назарэце. Там прайшло дзяцінства Марыі.




Частка карціны Барталоме Эстэбана Мурыльё «Нараджэньне Найсьвяцейшай Багародзіцы» (Люўр, Парыж) разьмешчана на марцы пошты Сьра Леонэ (1994 г.)

Мастак паказаў, што нараджэньне Маці Божай адбылося ў асяродзьдзі бязьмернай любові, ў кругу анёлаў, якія клапаціліся пра яе з моманту яе нараджэньня.




«Нараджэньне Марыі». Выданьне пошты краіны Аджман (1972 г.)

У верасьні, менавіта гэтай залатой парой, адзначаецца Сьвята Нараджэньня Прасьвятой Багародзіцы Марыі як дзень сусьветнае радасьці. Нараджэньне Багародзіцы наблізіла прышэсьце на зямлю Царства Нябеснага.




У 1452 годзе Філіпіна Ліпі (італ. Filippino Lippi; 1457/58—18 красавіка 1504) стварае адну з лепшых сваіх карцін: тонда «Мадона з немаўлём і сцэны з жыцьця сьвятой Ганны» (Флярэнцыя: гал. Палацінa палац Піці). На марцы пошты Анцігуа і Барбуда (1966 г.) фрагмэнт карціны. Справа Ганьне паказваюць загорнутую ў пялёнкі Марыю

Бацькі Марыі Ёакім і Ганна адносіліся да яе не толькі як да сваёй дачкі, але і як да скарбу, абяцанага Богу.




На левай сьцяне капэлы дэль Арэна (Скравены) у Падуі намаляваная ў шасьці сцэнах гісторыя Марыі, якая працягвае гісторыю Ёакіма і Ганны — бацькоў Марыі. Першыя дзьве фрэскі гэта: 1. Нараджэньне Марыі. 2. Уводзіны Марыі ў Храм. Яны на марках пошты Арабскага Эмірату (1972 г.)

Калі дзяўчынцы споўнілася тры гады, бацькі сабралі родных і знаёмых, адзелі Марыю ў сьвяточнае адзеньне і пайшлі ў Ерусалім. Калі яны падышлі да храма, насустрач выйшаў першасьвятар Захарыя ў суправаджэньні іншых сьвятароў. Ганна паставіла Марыю на першую ступеньку і хацела весьці яе за руку, але на зьдзіўленьне дзяўчынка сама ўзышла па пятнаццаці ступенях храме без дапамогі.




«Увядзеньне Багародзіцы ў храм» рэпрадукцыю карціны Філіпа Ліпі на блёку пошты Лесота (1988 г.)




Пошта Балгарыі ў 1977 г. у сэрыі ікон IX — XIX ст. на адной з марак адлюстравала ікону «Увядзеньне Багародзіцы ў храм»

Першасьвятар зразумеў, што гэта дзіцё незвычайнае і ўвёў яе ў «Сьвятое сьвятых», куды ён сам мог заходзіць толькі раз у год для ахвяраваньня.

Нараджэньне Дзевы Марыі маці Ісуса Хрыста не было падзеяй выпадковай, бо

ёй была адведзеная важная роля ў ажыцяўленьні Боскай ідэі выратаваньня чалавецтва. Менавіта жанчына і паклала яму аснову і застаецца на ўсе часы носьбіткай духоўнасьці і чысьціні.

У храме Марыя навучалася Сьвятому Пісаньню і рознаму рукадзельлю.




Намаляваў Малалецтва Мадонны мастак Дэ Сурбаран Франсіска (1598 — 1664). Пошта Расіі ў 1985 годзе выдала марку з рэпрадукцыяй гэтай карціны

Жыцьцё Прасьвятой Багародзіцы — гэта прыклад любові да Бога, любові да бліжняга, духоўнасьці. Яна — адзіная Дзева, душа якой не была абцяжарана ніводным грахом, ні на адзін момант. Паломнікі, пабыўшы ў Назарэце, сьведчаць, што неба там асаблівае, непараўнальнае ні з чым, ярка-блакітнага колеру. Блакітны колер — сымбаль Божай Маці, яе чысьціні і духоўнасьці. Таму ўсе храмы ў яе гонар (асабліва драўляныя) прыгожага блакітнага колеру.

## Шлюб Найсьвяцейшай Панны Марыі

Калі дзяўчынцы споўнілася 14 гадоў, першасьвятар сказаў ёй, што настаў час пакінуць храм, дзе яна правяла 11 гадоў, і ў адпаведнасьці з габрэйскім Законам павінна ўзяць шлюб.

Сарамліва і пакорліва прасіла будучая Маці Божая, каб дазволена было ёй застацца ў храме і служыць Богу, бо паклялася ў вечнай чысьціні. «Але калі Бог хоча іначай, — сказала яна, — хай спаўняецца Яго сьвятая воля».

Першасьвятар, зьдзіўлены такім мудрым адказам, пераказаў яго ўсім сьвятарам для прыняцьця рашэньня. Галасы падзяліліся. Некаторыя лічылі, што, няма такога звычаю і таму не выпадае каб дзяўчынка засталася ў сьвятыні. І, нарэшце, што ў Ізраілі лічыцца грахом, калі жанчына не дае народу патомства. Другія былі такога меркаваньня, што нікога нельга прымушаць да шлюбу, асабліва гэта датычыцца Марыі, для якой, здаецца, у Бога ёсьць свае пляны. Яшчэ іншыя казалі, што трэба прасіць Бога ў агульнай малітве адкрыць Яго волю. Гэта прапанова ўсім спадабалася, таму ўсе сьвятары пачалі маліцца пры ўсіх людзях, як раптам пачуўся голас, каб першасьвятар склікаў усіх маладых людзей з племя Давіда. Кожны зь іх павінен прынесьці сухую пальмавую галінку. Чыя галінка зазелянее, той павінен быць нарачоным Марыі.




У 1972 годзе пошта Арабскага Эмірату Аджман выпусьціла сэрыю марак, на якіх адлюстраваны рэпрадукцыі фрэсак Джота ды Бандоне. На гэтай марцы маладыя людзі аддаюць свае галінкі першасьвятару

Па закліку сабраліся маладыя людзі, кожны напісаў на сваёй галінцы яго імя і ад-

даў першасьвятару. Першасьвятар сабраў усе галінкі і паклаў на алтар. Калі прыйшлі назаўтра, то ўбачылі, што ні адна галінка не зацьвіла. Зноў сьвятары сталі маліцца і зноў пачулі голас з Сьвятая Сьвятых, што не хапае яшчэ аднаго ўдзельніка. Доўга шукалі, пакуль знайшлі Язэпа, які на пытаньне, чаму не прыйшоў разам з іншымі, адказаў, што не лічыў сябе годным і, акрамя таго, пастанавіў жыць халастым. Але па загаду першасьвятара ён прыбыў у Ерусалім. Калі паўторна галінкі злажылі на алтар, менавіта яго галінка зацьвіла прыгожай лілеяй. Акрамя таго на галаву Язэпа села белая як сьнег галубка. Язэп быў вельмі зьбянтэжаны, але павінен быў паддацца волі Божай. Неўзабаве паклікалі Марыю, каторая з дзявочым румянцам падала руку нарачонаму. Так у прысутнасьці сьведак адбыліся заручыны.




У 1982 годзе пошта краіны Антыгуа і Барбуда выдала прыгожы блёк з рэпрадукцыяй карціны Рафаэля

«Заручыны Марыі» (італ. Lo sposalizio della Vergine) — так называецца карціна Рафаэля Санці, якую ён намаляваў у 1504 годзе для капліцы Альбізініх (Albizzinich) у касьцёле Сан Францэска ў Сіта дзі Кастэла. Цяпер карціна знаходзіцца ў зборах Пінакатэкі дзі Брэра.

У сярэдзіне бачым сьвятара, па левай старане — Мадонна і яе сьвіта з пяці жанчын з далікатнымі рысамі твару, поўнымі ўдзячнасьці. Справа Язэп з расьцьвіўшай галінкай і пяцёра мужчын, адзін зь якіх у роспачы і злосьці ломіць сваю галінку праз калена. Карціна напісана, калі Рафаэлю споўнілася усяго 21 год.




Пошта Калюмбіі ў 1968 г. разьмясьціла на марцы рэпрадукцыю карціны Балтазара дэ Фігуэроа «Заручыны Сьвятога Язэпа з Сьвятой Марыяй». Сьвяты Язэп трымае ў руцэ расцьвіўшую лілеяй галінку. Над усімі прысутнымі радасна лятаюць анёлкі




«Заручыны Марыі» Рафаэля Санці на марцы Віетнаму (1983 г.). «Заручыны Богамаці». Майстар жыцьцярысу Багародзіцы (Meister Des Marienlebens, 17 ст.). Марка Эмірату Рас — эль — Хайма.

У 1613—1614 гадах Эль Грэка працуе над сваёй астатняй карцінай «Заручыны Богамаці».




Пошта Румыніі выбрала для сваёй маркі (1966 г.) самую апошнюю працу мастака Эль Грэка «Заручыны Богамаці» (1614г. Мастацкі музей, Бухарэст). Гэта карціна засталася няскончанай: кісьць рукі Язэпа, працягнутая ў бок Нявесты, засталася недамаляванай…

«Нараджэньне Ісуса Хрыста было так: па заручынах Маці Яго Марыі зь Язэпам, перш чым сышліся яны, выявілася, што Яна мае ва ўлоньні ад Духа Сьвятога.




«…анёл Гасподні ў сьне явіўся яму і сказаў: Язэпе, сыне Давідаў! ня бойся прыняць Марыю, жонку тваю; бо зачатае ў Ёй ёсьць ад Духа Сьвятога» — на марцы Злучанага Каралеўства (2011г.)

А Язэп, муж Яе, будучы праведны, не жадаючы зьняславіць Яе, хацеў употай адпусьціць Яе. Калі ж надумаў ён гэта, — вось, анёл Гасподні ў сьне явіўся яму і сказаў: Язэпе, сыне Давідаў! ня бойся прыняць Марыю, жонку тваю; бо зачатае ў Ёй ёсьць ад Духа Сьвятога; і народзіць Сына, і дасі Яму імя: Ісус, бо Ён уратуе людзей Сваіх ад грахоў іхніх» (Паводле Мацьвея 1:18—21).

Шлюб за звычай адбываўся праз дзесяць — дванаццаць месяцаў пазьней. Пры вялікай прысутнасьці людзей у сьвятыні Ерусалімскай адбыўся гэты шлюб. Язэп ахвяраваў сваёй нарачонай агатавы персьцень на знак вернасьці. Персьцень гэты і цяпер знаходзіцца ў катэдры Пэруджы.

## Дабравесьце

Пасьля заручынаў да шлюбу Марыя жыла адна. У той час паслаў Бог Анёла Гаўрыіла ў горад галілейскі Назарэт да Марыі. «Анёл, увайшоўшы да Яе, сказаў: радуйся, Дабрадатная! Гасподзь з Табою; браславёная Ты сярод жанчын. А Яна, угледзеўшы яго, сумелася ад словаў ягоных і разважала, што б гэта было за вітаньне. І сказаў Ёй анёл: ня бойся, Марыя, бо Ты здабыла мілату ў Бога; і вось, зачнеш ва ўлоньні, і народзіш Сына, і дасі Яму імя: Ісус; Ён будзе валадарыць над домам Якава вечна, і Царству Ягонаму не будзе канца. А Марыя сказала анёлу: як будзе гэта, калі Я мужа не знаю? Анёл сказаў Ёй у адказ: Дух Сьвяты сыйдзе на Цябе, і сіла Усявышняга ахіне Цябе; таму і вялікі і будзе названы Сынам Усявышняга; і дасьць Яму Гасподзь Бог пасад Давіда, бацькі Ягонага; і будзе народжанае Сьвятое назавецца Сынам Божым; вось, і Альжбета, сваячка Твая, называная няплоднаю, і яна зачала сына ў старасьці сваёй, і ёй ужо шосты месяц; бо ў Бога не застанецца бясьсілым ніякае слова. Тады Марыя сказала: вось, раба Гасподняя; хай будзе Мне паводле слова твайго. І адыйшоў ад Яе анёл» (Паводле Лукаша 1:26—38).



«Дабравесьце» — малюнак з Армянскага рукапіснага Эвангельля 1280 г. на блёку, выдадзеным поштай Грэцыі ў 2001 г.

«Ён для нас людзей і для нашага збаўленьня зышоў зь неба і дзякуючы Духу Сьвятому прыняў цела з Марыі Дзявіцы і стаў чалавекам» — абвяшчае урачыста Credo, сфармуляванае на Нікейскім і Канстантынопальскім Саборах у IV веку.



Рэпрадукцыя карціны «Дабравесьце» з раньніх работ Рафаэля Санці на блёку сумеснага выпуску пошты Францыі і пошты Ватыкану, надрукаваным у 2005 годзе

Бог зьвяртаецца да Марыі, каб праз Яе рэалізаваць свой адвечны плян. Чакае Яе даверу. Дыялёг, які вырашыў лёсы сьвету, стаў адной з найпапулярнейшых тэмаў у хрысьціянскім мастацтве ўсіх часоў.

Таямніца Увасабленьня, пачаткам якога ёсьць Дабравесьце, зьмяшчаецца ў сэрцы хрысьціянства. Адвечнае Слова, Сын Божы, сапраўдны Бог прыймае чалавечую прыроду, каб чалавек меў удзел у прыродзе Бога. Адбываецца гэта праз пасрэдніцтва Жанчыны, адаранай чалавечай свабодай.



«Дабравесьце» на паштовай марцы Польшчы, надрукаванай у 1960 годзе. Дэталь гатыцкага алтара працы Віта Ствоша ў Марыяцкім касьцёле ў Кракаве.



Барталаме Эстэбана Мурыльё, «Дабравесьце» на марцы пошты Выспы Кука 1975 года. Музэй Прада, Мадрыд, Гішпанія



«Дабравесьце» на марках краін Анцігуа і Барбуда (1991 г.), (Фра Анджэліка) і Парагваю (1975 г.), (Андрэа дэла Робі)

На карціне Эль Грэка, напісанай у 1614 годзе, адсутнічаюць элемэнты архітэктуры, якія ёсьць на іншых карцінах. Тут усю карціну займаюць нябесныя пастаці. Дабравесьце паказваецца як зьява па-

надчасовая. Нават постаці Марыі і Анёла выцягнутыя, здаецца, што яны ўзносяцца ў паветра. Гэта яшчэ больш падкрэсьлівае надпрыродную прычыну зачацьця.




Рэпрадукцыя карціны Эль Грэка «Дабравесьце» на марцы пошты Гвінэі Экватарыяльнай, выдадзенай у 1972 г.

Фігура Духа Сьвятога, зыходзячага на Марыю ў выглядзе галубіцы, становіцца цэнтральнай. Аточаны Ён бляскам, напамінаючым ясны агонь. На Ім канцэнтруецца ўвага, бо Ён вінавайца адбываючагася цуду.




Эль Грэка, «Дабравесьце» на блёку Мазамбіку, выдадзеным у 2001 годзе

Эль Грэка, мастак родам з Крыту, зьяўляецца аўтарам не менш дзесяці карцін пад назвай «Дабравесьце». Працаваў над сваімі карцінамі ў Вэнэцыі, Рыме і Гішпаніі. Яго карціны нельга зблытаць з працамі іншых мастакоў нават недасьведчанаму чалавекку.

Праўда ёсьць такая, што пораўні людзкі як і боскі памер таямніцы Дабравесьця ўвесь час зьдзіўляе, прамаўляе да сэрца і зьмяняе тых, каторыя ведаюць пра гэту таямніцу, над гэтай таямніцай задумваюцца, хочуць і гатовыя зьмяняцца.

Але, ці хочам гэтага мы? Ці знаходзім мы для гэтага час?

## Сустрэча Марыі і Елісаветы

«І ўстаўшы, Марыя ў дні тыя, пасьпяшалася ў нагорную краіну, у горад Юдаў, і ўвайшла ў дом Захара, і прывітала Елісавету. Калі Елісавета пачула вітаньне Марыіна, варухнулася дзіцятка ў чэраве ў яе; і Елісавета напоўнілася Духам Сьвятым, і ўсклікнула моцным голасам, і сказала: Дабраславёная Ты сярод жанчын, і дабраславёны плод улоньня Твайго! І адкуль гэта мне, што прыйшла Маці Госпада майго да мяне? Бо калі голас вітаньня Твайго дайшоў да слыху майго, варухнулася дзіцятка радасна ў чэраве маім. і дабрашчасная Тая, Якая паверыла, бо збудзецца сказанае Ёй ад Госпада» (Паводле Лукаша 1:39—45).




Сустрэча Марыі і Елісаветы. Тынтарэтта, 1588 г. Марка Грэнады 1996 г.

Сьвяты Ян Хрысьціцель, які пазьней прадказваў прыход Збаўцы, зрабіў гэта першы раз у лоне сваёй маці. Яго ўзварухненьне паслужыла прычынаю, што Елісавета з дапамогай Духа Сьвятога распазнала ў

Дзіцятку Збаўцу і укленчыла з пакораю перад Марыяй.

Такім чынам Елісавета стала першым чалавекам, якая абвясьціла Божай Маці яе будучыню.



Сустрэча Марыі і Елісаветы на марцы Парагваю (1971 г.). Рэпрадукцыя карціны Барталамэўса Цайтблома (Bartholomaeus Zeitblom). І на марцы Нігера (1984 г.).рэпрадукцыя карціны Даменіка Гірландайё

Словы прывітаньня Елісаветы ўвайшлі ў склад вядомай хрысьціянскай малітвы, званай Песьня Найсьвяцейшай Багародзіцы. У адказ Дзева Марыя прамовіла велічны падзячны гімн, які пачынаецца зь яе слоў: «...праслаўляе душа Мая Госпада, і ўзрадаваўся дух мой у Богу, Збаўцу Маім» (Паводле Лукаша 1:46—48).



Выява карціны Рафаэля «Сустрэча Марыі і Елісаветы» на блёку краіны Сэнт-Вінцэнт і Грэнадзіны (2012 г.)

Дом Елісаветы і яе мужа Захарыі знаходзіўся ў Аін-Карыне (Вясна ў вінаградніку), маляўнічым прыгарадзе на захадзе Ерусаліма. Ён быў вядомы ў бізантыйскі пэрыяд, як горад Юдэі, які згадваецца ў Новым Запавеце (Лукаша 1:39). Гэта была радзіма Яна Хрысьціцеля, які абвясьціў аб прыходзе Ісуса Хрыста і хрысьціў яго ў рацэ Ярдан.



Сустрэча Марыі і Елісаветы на марцы пошты Астравы Кука (1976 год) і на марцы пошты Емэну (1969 г.).



«Сустрэча Марыі і Елісаветы» — мастак Vleughels Nicolas — марка Сьерра Леонэ (1994 г.). З маркі Ліхтэнштэйна (2010 г.) з капліцы Марыя-Хілф невядомага аўтара даведваемся, што на сустрэчу Марыю прывёз Язэп. На марцы пошты Кіпру (1985 г.) рэпрадукцыя карціны мастака Ларэнца Лота (Lorenzo Lotto)

На горным схіле знаходзіцца царква Адведзінаў, якая належыць да ордэна

францішканаў. Яна была пабудаваная на месцы, дзе знаходзіўся дом Елісаветы, маці Яна, які наведала Марыя.



У 2000 годзе пошта Ізраіля выпусьціла марку, на якой разьмешчаны відарыс царквы Адведзінаў у Аін-Карыне

Існуючая царква была пабудаваная ў 1955 годзе пасьля археалягічных раскопак на месцы папярэдняй царквы па праекце, распрацаваным вядомым італьянскім архітэктарам Антоніо Барлузі (Barluzzi), па-майстэрску ўпрыгожаная і ўтрымоўвае рэшткі старажытных пабудоў. Фасад Царквы ўпрыгожаны мазаікай, на якой адлюстраваны візыт Марыі, а сьцены дворыка ўпрыгожаны фарфоравымі таблічкамі з словамі Малітвы Марыі праслаўленьне Бога — Magnificant — «Праслаўляе душа мая Госпада...» на розных мовах.



У Аін-Карыне знаходзіцца Горненскі манастыр, дзе ўшаноўваецца Ікона «Цалаваньне Божай Маці і Елісаветы». Пошта Расіі на марцы 2004 года адлюстравала гэты манастыр і Ікону

«Даведаўшыся, што Марыя чакае дзіця, Язэп хацеў пакінуць Яе патаемна. Як чалавек вельмі добры, ён не хацеў аддаць Яе на зьнявагу і пакараньне згодна з суровым Законам. «Калі ж надумаў ён гэта, — вось, анёл Гасподні ў сьне явіўся яму і сказаў: Язэ-пе, сыне Давідаў! ня бойся прыняць Марыю жонку тваю; бо зачатае ў Ёй ёсць ад Духа Сьвятога; і народзіць Сына, і дасі Яму імя: Ісус, бо Ён уратуе Сваіх людзей ад грахоў іхніх» (Мацьвея 19—21).

Што зрабіў Язэп, пачуўшы гэта?

«Устаўшы ад сну, Язэп зрабіў, як загадаў яму анёл Гасподні, і прыняў жонку сваю і ня знаў Яе, нарадзіла Свайго першароднага Сына пакуль, і Ён даў Яму імя: Ісус» (Мацьвея 1:24,25).

## Нараджэньне Сьвятога Яна Хрысьціцеля

З глыбінь мінулага, з мрокаў ананімнасьці Бог здабывае чалавека і ўключае яго ў рэалізацыю сваіх незвычайных плянаў. Так было зь Янам Хрысьціцелем і яго сям'ёй. Бог паклікаў яго, каб ён абвясьціў прыход Збаўцы і падрыхтаваў яўрэяў да Яго прыходу. Сам Ісус сказаў, што «сярод народжаных (...) не было большага за Яна Хрысьціцеля». Менавіта, дзякуючы гэтым словам Хрыста, вакол Яна Хрысьціцеля, якога называюць таксама Папярэднікам, разьвіўся моцна ажыўлены культ.

Нарадзіўся Ян Хрысьціцель у Аін-Карыне (Юдэя) за паўгоду да нараджэньня Хрыста. Яго бацькамі былі юдэйскі сьвятар Захарыя і Елісавета. Нараджэньне Яна Хрысьціцеля прадказаў Арханёл Габрыэль, які абвяўіўся Захарыі, калі той складваў ахвяру ў сьвятыні. Паколькі стары Захарыя не паверыў, што стане бацькам у такім узросьце, Арханёл учыніў так, што Захарыя анямеў ажно да нараджэньня дзіцяці.

У 1979 годзе пошта Сувэрэннага Ваеннага Мальтыйскага Ордэна прысьвяціла сэрыю марак з выявамі панэляў, якімі дэкаравана купель Яна Хрысьціцеля у Баптыстэрыі ў Сіене. Адна зь іх прысьвечана падзеі, якая адбылася з Захарыям ў Сьвятыні.




На марцы (1979г.) бронзавая панэль Якопа дела Квэрча (Jacopo della Quercia (1428—29)) «Аб'яўленьне Захарыі»

Калі хлопчык нарадзіўся, родныя хацелі назваць яго так, як бацьку, Захарыем, але Елісавета настойвала на тым, што сына трэба назваць Янам. Гэта пацьвердзіў і Захарыя, напісаўшы імя «Ян» на паперы, і ў гэтую хвіліну да яго вярнуўся дар мовы.




Яшчэ адна марка Сувэрэннага Ваеннага Мальтыйскага Ордэна, выдадзеная ў 1979 г., адлюстроўвае барэльеф «Нараджэньне Яна Хрысьціцеля» на бронзавай панэлі Якопа дела Квэрча

Ян — ад габрэйскага біблейскага імя Johanan («Бог ёсьць міласэрны»). Гэтае імя — самае папулярнае сярод благаслаўёных і сьвятых, агульная лічба якіх перавышае дзьве сотні.




У 2004 годзе пошта заходнеафрыканскай краіны Сьера Леонэ выпусьціла паштовы ліст, прысьвечаны 300-годзьдзю Санкт-Пецярбургу «Мастацкія скарбы Эрмітажа». На адной з марак дэталь карціны Тынтарэта «Нараджэньне Яна Хрысьціцеля» (1554 г.)

Тынтарэта вельмі дакладна паказаў сцэну, якая ўзьнікае ў доме з зьяўленьнем на сьвет маленькага чалавека.

У вялікім пакоі, дзе ў глыбіні пад полагам стаіць ложак парадзіхі, клапоцяцца жанчыны. Далёкім ад агульнага хвалявання застаецца толькі бацька Яна, Захарыя, які абліччам нагадвае сівавалосых і натхнёных пракокаў. Ні на каго ня гледзячы, ён стаіць у баку, прыклаўшы рукі да грудзей і падняўшы погляд да нябёсаў; яго аблічча ўвасабляе пакорлівасьць волі Бога.



Рэпрадукцыя карціны. Захоўваецца ў Дзяржаўным Эрмітажы ў Санкт-Пецярбургу.

Увага жанчын паглынутая нованароджаным, якога ўзяла на рукі Марыя. Яе адрозьніваюць ад іншых вакол галавы ледзь прыкметнае зьзяньне і традыцыйны колер

адзеньня — чырвоная сукенка і сіні плашч. Да дзіцяці схіляецца карміцелька, а служанкі занятыя сушкай і падрыхтоўкай пялёнак. На падлозе таз з вадой, жароўня з вуглямі, рыжы кот падпільноўвае бесклапотна разгульваючую курыцу.



«Немаўля Хрыстос і Ян Хрысьціцель з ракавінай». Барталомэ Эстэбана Мурыльё (1675—80. Музэй Прада, Мадрыд). Блёк пошты Антыгуа і Барбуды (1995 г.)

Яшчэ ва ўлоньні маці Хрысьціцель узрадаваўся, адчуўшы прысутнасьць Мэсіі. Гэтая сустрэча нясе глыбокі сэнс. Ян Хрысьціцель як бы прадбачыў небясьпекі і жудасную несправядлівасьць якія выпадуць на долю Хрыста і будуць прасьледваць чалавецтва.



Фернанда Яньес (Fernando Yáñez, 1489—1536), «Багародзіца са Сьвятой Ганнай і Сьвятой Елісаветай». Блёк Грэнады (2000 г.)

У Бібліі няма згадкі пра тое, што ў дзяцінстве Хрыстос і Ян сустракаліся. раўда, пры яго зьяўленьні на сьвет прысутнічала Найсьвяцейшая Дзева Марыя, якая прыйшла адведаць яго маці Альжбету. Але ў творчасьці вельмі многіх мастакоў, як бачым, ёсьць карціны, дзе Хрыстос і Ян разам.

Па паданьні слых пра нараджэньне Яна Папярэдніка дайшоў да цара Ірада і, калі прыйшлі ў Ерусалім вешчуны з пытаньнем пра тое, дзе знаходзіцца Цар Юдэйскі, які нарадзіўся, Ірад успомніў пра сына Захарыі, выдаўшы загад на забіцьцё немаўлятак, паслаў забойцаў і ў Іутту. Захарыя ў той час зьдзяйсьняў служэньне ў храме, а Елісавета схавалася з сынам у пустэльні. Забойцы запыталі ў Захарыі, дзе схаваў ён сына. Захарыя адказаў, што зараз ён служыць Богу і ня ведае, дзе яго сын. Яго забілі, пра што ўспамінае Бог у Сваім звароце да фарысэяў: «Каб апала на вас уся кроў праведная, пралітая на зямлі, ад крыві Авэля праведнага да крыві Захарыі, сына Варахіевага, якога вы забілі паміж храмам і ахвярнікам» (Паводле Мацьвея 23:35).

«Нараджэньне Яна было падрабязна апісана. У апісаньні ёсьць адна дэталь, якая ў Эвангельлі будзе часта паўтарацца. Анёл сказаў напалоханаму Захарыю: «Ня бойся!» Гэтае самае падбадзёрваньне не раз пачуюць Апосталы. І сёньня Касьцёл чуе яго і з надзеяй паўтарае ўсім людзям.

Ніводзін з нас не зьяўляецца ў сьвеце безыменнай шасцярэнькай. Бог ведае кожнага з нас па імені і ўсё пра нас. Кожнага з нас праз хрост Ён далучае да свайго існаваньня — адорвае надзеяй вечнасьці. Давайце ж не будзем баяцца!» — кажа, зьвяртаючыся да нас, ксёндз Яраслаў Грынашкевіч.

Сёньня, калі жыцьцё ва ўсіх сваіх праявах надзвычайна ўскладнілася, словы **«Ня бойся!»** актуальныя для нас, як ніколі.

## Нарадзіўся вам сёньня Збаўца

*Слова сталася целам і пасялілася*
*між намі.*
*Паводле Яна 1:14*

Калі Марыя была ўжо цяжарнай, выйшаў загад рымскага кесара Аўгуста. Дзе хто не жыў, дзеля перапісу павінен прыйсьці ў тое месца, дзе жылі яго продкі. Язэп і Марыя паходзілі з роду цара Давіда, таму павінны былі ісьці ў Віфлеем.




У 1981 годзе пошта Вялікабрытаніі выпусьціла сэрыю марак «Каляды вачыма дзяцей». На адной зь іх Язэп і Марыя набліжаюцца да Віфлеему

Ад Назарэту да Віфлеему было болей двухсот кілямэтраў. Такое падарожжа ў тыя часы патрабавала некалькі дзён праз гарыстую цяжкую для падарожжа, нават здаровым і сільным, Самарыю. Якая адважная была Марыя!




На марцы Новай Зэляндыі, надрукаванай у 2000 годзе, цяжарная Марыя на асьліку ў суправаджэньні Язэпа вандруюць па Самарыі да Віфлеему. Галаву Марыі ахінае німб, Язэп пяшчотна глядзіць на жонку




Мастак Пітэр Брэйгель (Нідэрлянды, Фляндрыя) у 1566 г. намаляваў карціну «Перапіс у Віфлееме» (Брусэль. Каралеўскі музэй вытанчаных мастацтваў). Пошта Бэльгіі ў 1969 г. выпусьціла марку, на якой вылучыла з карціны дэталь — Язэп з Марыяй, якіх цяжка знайсьці на карціне недасьведчанаму гледачу

Маленькі пахілены чалавечак вядзе за сабой асьліка, на якім сядзіць кабета ў зялёнай накідцы. Ніхто на іх не зьвяртае ніякай увагі. Ніхто не здагадваецца, што тут народзіцца Сын Божы.

І, пакуль сям'я змагла дабрацца да месца, усе дамы былі запоўнены прыйшоўшымі людзьмі. Свабоднай была толькі пячора, куды заганялі авечак у час непагоды.




Пошта Панамы на марцы (1997 г.) адлюстравала, як Марыя і Язэп шукаюць жыльлё ў Віфлееме

Тут у пячоры, уся мэбля якой складалася зь ясьляў з саломай, нараджаецца Збаўца. Слова становіцца целам і пасялілася між намі, Бог становіцца чалавекам. Многа разоў у розныя спосабы Бог прамаўляў да

чалавека. Цяпер прамовіў да нас праз Свайго Сына!

Так Бог умілаваў сьвет, што Сына свайго Адзінароднага даў, каб кожны, хто ў Яго верыць не загінуў, але меў жыцьцё вечнае.

За сотні гадоў да нараджэньня Хрыста ў Бібліі былі запісаныя словы прарокаў Ізраіля, якія прадказвалі Яго прышэсьце. У Старым Запавеце, які пісаўся многімі людзьмі на працягу 1500 гадоў, зьмешчана больш за 300 прароцтваў гэтай падзеі. Першае зь іх выказана ў прысудзе зьмею з вуснаў Бога. Гэта быў плян выратаваньня грэшнага чалавека і вяртаньня яму бессьмяроцьця: «І варожасьць пакладу паміж табою і паміж жанчынаю, і паміж семем тваім і паміж семем яе: яно будзе біць цябе ў галаву, а ты будзеш джаліць яго ў пяту» (Быцьцё 3:15).



У 1986 годзе пошта Германіі выпусьціла марку і картмаксімум з відарысам Ортэнбергерскага Алтара (Ortenberger) з 1430 г.

Цудоўны вобраз укленчанай Марыі ў ціхім ушанаваньні і малітве перад ляжачым маленькім Дзіцяткам. Марыя нарадзіла Яго ў спосаб надпрыродны і першая аддала ўшанаваньне і паклон Дзіцятку, абнятаму прамяністай Глорыяй, згодна са словамі Сьвятога Пісьма: «Якога парадзіла і ўшанавала...». Дзіцятка, лежачы ў ясьлях з правай рукой у жэсьце бласлаўленьня, сымбалізуе Боскасьць і паўнату розуму ад хвілі Свайго нараджэньня. Паказаная далей стайнячка, вельмі ўбогая, сымбалізуе руіны дому Давіда, які калісьці быў каралём, і надыход новай эпохі. Бо нарадзіўся Той, Чыё каралеўства будзе «зацьверджана навекі», Які збудуе «новы дом».




Люстраное адбіцьцё малюнка з маркі Германіі мы бачым на выпушчанай у 1998 годзе марцы пошты Польшчыю. Грудзяцкі Алтар (каля 1390 г.), Нарадовы Музэй ў Варшаве

Дзень Божага нараджэньня ад IV веку, часу ўстанаўленьня гэтага сьвята, стаў днём асабліва ўрачыстым у сьвеце хрысьціянскім. Сама падзея нараджэньня Ісуса Хрыста апісана вельмі суха ў Эвангельлях Мацьвея (1:18—25) і Лукаша (2:1—7). Людзкая набожнасьць патрабавала больш шырокага апісаньня Божага Нараджэньня. Гэта прывяло да шматлікіх проб адлюстраваньня гэтай тэмы ў розных формах мастацтва, пачынаючы з сярэдніх вякоў да цяперашняга часу. Многія з твораў паслужылі ілюстрацыямі да паштовых марак, якія выпускаюцца ва ўсіх краінах сьвету. На марках зьяўляюцца відарысы твораў Рафаэля і Джота, Дзюрэра і Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла і Тыцыяна, Батычэлі і Рубенса, Бэрніні і Пусэна, Рэмбрандта і Караваджа, Бацічэлі і Брэгеля, Іванова і Шагала...

Першая марка, прысьвечаная Божаму Нараджэньню, зьявілася 7 сьнежня 1898 года і дала пачатак новай тэме ў філятэліі. З

таго часу колькасьць марак, прысьвечаных Божаму Нараджэньню, вырасла да тысяч і выдаецца поштамі усіх краін сьвету.



Божае Нараджэньне на марцы пошты Парагваю з 1971 г. з выявай карціны Конрада фон Суста (1404 -?) (Konrad von Soest)

У першай палове XV стагодзьдзя асаблівых рысаў набрала сцэна нараджэньня Хрыста, якая атрымала назву «Ушанаваньне Дзіцяткі». Стала яна адной з найважнейшых ілюстрацый тэмы прышэсьця Ісуса на сьвет.




Карціна, намалёваная мастаком Антоніа Карэджа (1489—1534) адлюстравана на адным з самых вялікіх блёкаў (173x235 мм), які выпушчаны поштай Карэі ў 1983 годзе

«Каляды — дзіўныя дні, незвычайныя. Быццам адкрываецца ў гэты час неба, адмыкаецца зямля, а ўсё тое іншае, нябачнае выпускае на сьвет белы сваіх насельнікаў». Тацяна Валодзіна.




Першая беларуская марка, прысьвечаная нараджэньню Ісуса Хрыста, надрукавана 23 сьнежня 1997 года. На марцы адлюстраваны звычай калядаваньня на Сьвята Божага Нараджэньня, калі калядніклі ў калядных строях з Віфлеемскай зоркай абходзяць дамы з Калядымі песьнямі

Сьвяты час Божага Нараджэньня злучае нашы думкі і сэрцы, аб'ядноўвае нас сілаю міласьці Бога да чалавека і чалавека да Бога, напаўняе радаснай удзячнасьцю, якую прыносім Айцу за Яго неабсяжную міласьць да людзей, каторую абьявіў у сваім Сыне. Адбываецца гэта пры адной умове: мы павінны гэтага моцна хацець.

«Нарадзіўся голы, гаворыць Бог, каб ты мог вырачыся самога сябе.

Нарадзіўся ўбогі, каб ты мог лічыць Мяне адзіным багацьцем.

Нарадзіўся ў стаенцы, каб ты навучыўся асьвячаць кожнае месца.

Нарадзіўся слабы, каб ты ніколі Мяне не баяўся.

Нарадзіўся з любові, каб ты ніколі не ўсумніўся ў Маёй любові.

Нарадзіўся ноччу, каб ты паверыў, што магу асьвяціць усялякую рэчаіснасьць, ахутаную цемрай.

Нарадзіўся ў аблічы чалавека, Бог гаворыць, каб ты ніколі не саромеўся быць сабою.

Нарадзіўся як чалавек, каб ты мог стаць сынам Божым.

Нарадзіўся, церпячы перасьлед з самага пачатку, каб ты навучыўся прымаць усялякія цяжкасьці.

Нарадзіўся ў беднасьці, каб ты быў просты ў адносінах да людзей.

Нарадзіўся ў тваім чалавечым жыцьці, гаворыць Бог, каб усіх людзей прывесьці да дома Айца».

## Пастухі — першыя наведвальнікі Ісуса

Вакол Бэтлеема раскінуліся прасторныя пашы, дзе ў час нараджэньня Ісуса пастухі ноччу вартавалі свае статкі, пільнавалі таго, каб які зьвер не ўбіўся ў статак і не нарабіў шкоды. «Раптам зьявіўся ім анёл Гасподні і слава Гасподняя апраменіла іх; і спалохаліся страхам вялікім. І сказаў ім анёл: ня бойцеся; я ўзьвяшчаю вам вялікую радасьць, якая будзе ўсім людзям: бо сёньня нарадзіўся вам у горадзе Давідавым Збаўца, Які ёсьць Хрыстос Гасподзь; і вось вам знак: вы знойдзеце Дзіця ў пялюшках, Яно ляжыць у яслях» (Лукаша 2:8—11).




Так гэта падзея адлюстраваная марцы Грэнады, выдадзенай у 1977 годзе і на марцы Гішпаніі, выдадзенай у 1972 г.

Так пастухі сталі першымі.

«І раптоўна зьявілася з анёлам шматлікае войска нябеснае, славячы Бога і заклікаючы: слава ў вышынях Богу, і на зямлі мір, і ў людзях добрая воля» (Лукаша 2:12,13).




«Войска нябеснае» на марцы Сэнт Вінсэнта (1997 г.) і Грэцыі (2000 г.)

Людзі па прадказаньню прарокаў з нецярпеннем чакалі прыходу Мэсіі. Таму не дзіўна, што пастухі, пачуўшы такую навіну, пакінуўшы статак, пабеглі ў Бэтлеем.

«Калі анёлы адышлі ад іх на неба, пастухі сказалі адзін аднаму: хадзем у Бэтлеем і паглядзім, што там сталася, пра што абвясьціў нам Гасподзь. І пасьпяшаўшыся, прыйшлі, і знайшлі Марыю і Язэпа, і Дзіцятка, Якое ляжала ў яслях» (Лукаша 2:14,15).




«Сьвятая сямья». Карціна Тыцыяна на марцы Новай Зэляндыі (1963 г.)

Сцэны зьяўленьня анёла і нябеснага воінства пастухам і наведваньня пастухамі Дзіцяткі адлюстравана многімі мастакамі ў сваіх творах, што, у сваю чаргу, надрукавана на паштовых марках розных краін.

У глыбіні карціны, калі прыгледзецца, убачым анёла, які абвяшчае добрую навіну пастухам, а на пярэднім пляне адзін з пастушкоў ужо падзіўляе Дзіцятка.



Пошта Аўстраліі на прыгожым блёку ў 2013 годзе адлюстравала карціну мастака Пола Ньютана, на якой пастухі — першыя наведвальнікі Ісуса падзіўляюць Дзіцятка

А калі ўбачылі, то расказалі ўсім, адкуль яны даведаліся, што нарадзіўся Хлопчык. Усе, пачуўшы гэта, былі вельмі зьдзіўленыя тым, што пастухі расказалі ім. А Марыя захоўвала ўсе гэтыя словы, складаючы ў сэрцы Сваім. Вярнуліся пастухі да свайго статку, славячы і хвалячы Бога за ўсё, што яны чулі і бачылі, у адпаведнасьці з тым, што ім было сказана.




Пастухі — першыя наведвальнікі Ісуса на марках Мадагаскара (1984 г.) і Ауцітакі (1988г.)

Сцэну наведваньня пастухамі Дзіцяткі намаляваў у сваёй працятай трапятаньнем карціне Карэджа (1489—1534) італьянскі жывапісец Высокага Адраджэньня. Немаўля Хрыстос азорвае карціну чароўным сьвятлом, сьвятлом гэтак яркім, што жанчына ля яго прымушана засланяць вочы ад гэтага асьляпляльнага зьзяньня. Кій пастуха вядзе погляд гледача ў глыб кампазыцыі, накіроўваючы яго ўгару да анёлаў, якія ў сваю чаргу, паказваюць уніз на Немаўля.




У 1967 годзе пошта Англіі таксама выдала марку з яскравым малюнкам, прысьвечаным наведваньню пастухоў



Палюбуемся блёкам пошты Мікранэзіі (1996 г.) з выявай карціны Антоніса Ван Дэйка. Арыгінал карціны «Пакланеньне пастухоў» знаходзіцца ў царкве Прасьвятой Багародзіцы ў Дэдэрмундзе (Бэльгія). Незвычайна, што адзін з пастухоў жанчына




«Пакланеньне пастухоў» адлюстравалі на марках пошты Злучаных Штатаў Амэрыкі (1971 г.) і Рас — эль — Хаймы (1972 г.)

Сеньня, сьвяткуючы Эвангельле, паўсюдна бачым шопкі — ідылічную, салодкую

карцінку, якая ў шматлікіх сцэнках Раства паўтараецца, якія паказваюцца падчас Калядаў. Гэтыя інсцэніроўкі ідэальна падыходзіць для сьвяточнага настрою, у якім мы знаходзімся ў гэты тыдзень. Ці не губляем мы аднак таго, што адбылося ў рэчаіснасьці? Габрэі чакалі на працягу стагодзьдзяў (і чакаюць) на прыход Мэсіі. Ад Дабравесьця адбываліся падзеі, якія паказвалі, што гэта не звычайнае Дзіця. Калі Яно нарадзілася, анёл паслаў да яго пастухоў, кажучы ім, што адбылося. Яны пайшлі, знайшлі Дзіцятка, расказалі іншым, што адбылося. Складаецца такое ўражанне, што нечага, пры апісаньні гэтай падзе ў Бібліі, не хапае. Як бы штосьці прапушчана. Чаму навіна не распаўсюдзілася па ўсім Бэтлееме?



У 2005 годзе пошта Бразіліі выпусьціла прыгожы блёк з рэпрадукцыяй карціны мастака Оскара Пэрэйры да Сільва. Пастухі падзіўляюць Дзіцятка ў яськах

На полі блёку бачым Бэтлеемскую зорку і трох вандроўнікаў, якія рухаюцца за ёю. Хто яны? У левым куце бачым, што гэта тры каралі, тыя каму належыць наступнымі адведаць Збавіцеля. Над усімі Сьвяты Дух у выглядзе галуба, і лятаюць навокал вясёлыя і радасныя анёлкі.

Нарадзіўся Збаўца, а большасьць павадзіць сябе як бы нічога ня здарылася! Напэўна габрэі чакалі, што Мэсія зьявіцца ў залатой калясніцы, якая спусьціцца з неба, ці яшчэ ў які дзіўны, алё адпаведны падзеі, спосаб? Народзіны ў стайні ніяк не адпавядалі чаканьням. Ці мы не жывем такімі самымі пачуцьцямі? Молімся, просім Бога дапамагчы і чакаем на цуд, не зважаючы, што Бог пасылае людзей, якія гатовы нам дапамагчы, але мы на іх увагі, не звяртаем таму, што чакаем анёла? Гэта як у тым анекдоце, калі людзі, уцякаючы ад наваднеьня, хочуць забраць з сабой сьвятара. Але ён адмаўляецца, гаворачы, што верыць у Боскую дапамогу. Вада ўсё прыбывае, зноў падплываюць людзі і клічуць сьвятара. Але сітуацыя паўтараецца. Праз некаторы час вада даходзіць да вежаў храма і новыя людзі, убачыўшы сьвятара, які чапляецца за званьніцу, каб не патануць, клічуць яго да лодкі. Але сьвятар рашуча адмаўляе, бо верыць у цуд. Нарэшце вада затапіла і вежы храма, так што сьвятар патануў. Па сьмерці стаіць перад Богам і з крыўдаю гаворыць: так верыў у Цябе і што? А Бог на гэта кажа: дурань, тры разы пасылаў табе дапамогу, чаму не скарыстаў?

## Ахвяраваньне Дзіцятка Ісуса ў Сьвятыню

Калі мінула восем дзён пасьля нараджэньня Божага Дзіцяці, сьвятар учыніў на Ім абрад абразаньня. І дадзена было Яму імя Ісус. Гэтае імя, падказанае анёлам яшчэ да Яго нараджэньня, азначае: «Бог выбаўляе». Абразаньне было знакам саюзу заключанаму Богам з Абрамам васемнаццаць вякоў перад нараджэньнем Ісуса. Абрам разам з новым імем Абраам атры-

маў ад Бога абяцаньне незьлічонага патомства.




«Абразаньне». Блёк пошты Грэнады (1987 г.) з выявай карціны Джаваньні Бельліні

Ад гэтага часу абразаньне сталася вонкавым выразамудзелу ў Божым абраньні ўсіх патомкаў Абраама.



Гэтую ж падзею намаляваў Альбрэхт Дзюрэр, а пошта Парагваю зьмясьціла на паштовай марцы, выпушчанай у 1982 годзе

Дзюрэр зьмяшчае сцэну абразаньня ў храме ў месцы Сьвятым. Заслону, якая аддзяляе Сьвятая Сьвятых, адхіляе Язэп, бо Хрыстос нарадзіўся і адкрывае людзям приступку да Айца. Па левай старане сыметрычна постаці Марыі знаходзіцца незнаёмы назіральнік з сьвечкаю ў руцэ. Так аўтар пазначае пункт з якога павінна назірацца сцэна. Гледзячы на малюнак, глядач несьвядома атаясамлівае сябе з гэтым назіральнікам і становіцца ўдзельнікам сьвятой падзеі.

Такім чынам, ужо ў самым пачатку зямнога жыцьця Збаўцы Бог сьведчыць, што Ісус прыйшоў у сьвет не парушыць Закон, а выканаць яго.




Абрад абразаньня адлюстравалі на сваіх марках пошты Гішпаніі (1969 год, фрагмэнт карціны Алонса Кано і Лібэрыі (1983 г., фрагмэнт карціны Рафаэля)

Згодна Закону Госпада кожны першынец прысьвячаецца Богу. Таму, калі Ісусу споўнілася шэсьць тыдняў, Яго прынесьлі ў раскошны Ерусалімскі храм, каб скласьці адпаведную ахвяру як за першынца ды за ачышчэньне Маці, як сказана ў Законе Гасподнім, двух галубоў альбо двух галубіных птушанят (Паводле Лукаша 2:22—39).




На паштовай марцы Парагваю з 1970 года постаці старца Сымона і прарочыцы Ганны. Гэта рэпрадукцыя карціны Ганса Мэмлінга. На блёку Аргентыны, выдадзеным у 1990 годзе, бачым галубіных птушанят у руках Язэпа

Кожная назва ў Эвангельлі не зьяўляецца выадковай і адлюстроўвае розныя ась-

пекты сьвята. Так «Ачышчэньне» азначае выкананьне Закону Майсеевага, бо Закон прадпісвае жанчыне, што нарадзіла хлопчыка, сорак дзён ачышчацца ад «крыві», а потым адразу прынесьці щ храм ахвяру за сваё ачышчэньне.

Тут важна разумець, што жанчына ачышчаецца не ад нараджэньня, а менавіта ад крыві, якая суправаджае гэтую падзею, бо само па сабе нараджэньне дзіцяці ёсьць заўсёды чыстым і благаславёным. Кроў і пакуты, якія яго суправаджаюць, ёсьць знакам праклёну, які Бог наклаў на Еву за непаслушэнства і патрабуе ачышчэньня. Багародзіца была пазбаўленая гэтага праклёну паводле Божага Провіду.

Нараджэньне Хрыста было падобным да таго, як Ён пасьля Ўваскрэсеньня прыйшоў да вучняў праз зачыненыя дзьверы, так і тут не парушыў дзявоцтва Сваёй Маці. Але Яна прыйшла ў Храм, каб выканаць Закон, хаця не мела ў гэтым патрэбы. Яна прынесла ў Сьвятыню Таго, хто выбавіў Яе ад граху і праклёну — Збавіцеля нашага Ісуса Хрыста.




У 1982 годзе пошта краіны Антыгуа і Барбуда надрукавала на марцы рэпрадукцыю карціны Рафаэля «Ахвяраваньне ў храм»

«Ахвяраваньне» — таксама выкананьне Закону Майсея. Паводле яго мужчыны з калена Левія прызначаліся на службу ў Храме, а сваіх першынцаў ізраільцяне павінны былі выкупляць. Тое самае зрабіў і Язэп: ён прыйшоў у Храм, каб выкупіць Сына, але адначасова «пасьвяціць яго Госпаду» — значыць аддаць Богу назаўсёды і поўнасьцю. Выкананьне Закону было знакам дасканалай паслухмянасьці Богу. Як няпослух старога Адама прывёў да праклёну, так паслухмянасьць новага Адама — Хрыста — сталася збаўленьнем для людзей, пачаткам іх новай гісторыі жыцьця. І, у рэшце, гэтае сьвята ёсьць «Сустрэча». Збавіцеля не распазнаюць сьвятары, высокапастаўленыя служкі храма... Дзіцятка Ісуса сустракае Ганна-прарочыца. Канешне, яна чакала Збавіцеля, ведала, Хто такі Мэсія, пазнала Яго ў выглядзе Дзіцятка на руках Марыі. Але не толькі пазнала, а як сапраўдная прарочыца распавяла пра Яго ўсім, хто чакаў збаўленьня ў Ерусаліме. І ў гэтым ёсьць прыклад для нас. Каб нам, калі мы пабачылі Бога ці ў асабістай сустрэчы, ці ў Сьвятым Пісаньні, ці ў Эўхарыстыі, ці ў Таямніцах Царквы, не стацца падобнымі да сьвечкі, якую схавалі пад пасудзінай, але наадварот — асьвятляць пакой — засьведчыць і прапаведаць Бога сьвету і тым, хто «чакае збаўленьня».




«Ахвяраваньне ў храм». Выява карціны Фра Барталамея (Fra Bartolommeo) на блёку пошты Гаяны (1994 г.)

Самая ж сьветлая, напоўненая надзеяй сустрэча з Госпадам — у Сымона. Старэнькі сьвятар, які помніць яшчэ часы Юды Макавея, прыняў на свае рукі Бога. У час сваёй

маладосьці, чытаючы Сьвятое Пісаньне, ён патрапіў у непаразуменьне ад словаў прарока Ісаі, які кажа: «... вось, Дзева ва ўлоньні зачне і народзіць Сына.» Традыцыя расказвае, што ён падумаў, што гэта памылка: «Дзева зачне і народзіць». Сымон узяўся было сьцізорыкам сьцерці «Дзева», каб выправіць на «жанчына», але яго спыніў анёл Божы, які і пацьвердзіў праўдзівасьць напісанага, і прадказаў яму, што ён не памрэ, пакуль не пабачыць Мэсію.

Надышоў гэты шчасьлівы дзень. Сымон убачыў Хрыста. І што ён кажа да Бога? «Цяпер адпускаеш, Уладар, слугу Свайго ў супакоі...", бо ён пабачыў збаўленьне сьвету, Сьвятло для прасьвятленьня ўсіх народаў. Сьмерць з гэтага моманту не так пужае, бо за змрокам — сьвятло і супакой.



Шчасьлівы дзень Сымона старца. «Ахвяраваньне ў храм» на блёку пошты Ніуэ (1989 г.). Выява карціны Рэмбрандта

Сымбалем гэтага сьвята ёсьць запаленыя сьвечкі. Сьвечка — сымбаль Хрыста, які прынёс сьвятло вечнай Праўды ўсім народам. А на Грамніцы сьвечка таксама сымбалізуе Марыю, пакорную слугу Пана, поўную ласкі, у душы якой заўсёды гарэла сьвятло веры, надзеі і любові. Яна была першай, якая паверыла, і таму Бог бязьмежна ўзвысіў Яе. Але прынёсшы Дзіцятка Ісуса ў Сьвятыню, з вуснаў Сымона Марыя пачула прароцтва пра тое, што «меч пройдзе праз Яе душу» (Лукаша 2:34).



Марка пошты Емэну (1969 г.) з сэрыі, прысьвечанай візыту Папы. Карціна «Ахвяраваньня ў храм» Гіацынта Дыяна (Giacinto Diana (1730—1803)

Асьвячоныя ў дзень сьвята — «Сустрэча Госпада нашага Ісуса Хрыста» сьвечкі называюць «Грамнічнымі», бо іх запальваюць у час навальніцаў, якія суправаджаюцца моцным ветрам, маланкамі і грымотамі, каб апека Маці Божай выратавала ад небясьпекі стыхіі. Запаленую грамнічную сьвечку так сама даюць у рукі паміраючаму, каб Найсьвяцейшая Дзева Марыя прывяла яго душу ў неба.

## Пакланеньне мудрацоў

*Вол ведае гаспадара свайго, і асёл ясьлі гаспадара свайго; а Ізраіль ня знае Мяне, народ Мой не разумее. (Ісаі 1:3)*

«Калі ж Ісус нарадзіўся ў Віфлееме Юдэйскім ў дні цара Ірада, вось, мудрацы з усходу прыйшлі ў Ерусалім і кажуць, дзе народжаны Цар Юдэйскі? Бачылі бо мы зорку Яго на ўсходзе і прыйшлі пакланіцца Яму. Пачуўшы гэта, цар Ірад занепакоіўся, і ўвесь Ерусалім зь ім. І сабраўшы ўсіх пер-

шасьвятароў і кніжнікаў народных, пытаўся ў іх: дзе мае нарадзіцца Хрыстос? Яны ж сказалі яму: у Віфлееме Юдэйскім, так бо напісана праз прарока: «І ты, Віфлееме, зямля Юдава, нічым ня меншы сярод ваяводзтваў Юдавых, бо з цябе выйдзе Правадыр, Які ўсьцеражэ народ мой Ізраіля. Тады Ірад, употай паклікаўшы мудрацоў, выведаў у іх час зьяўленьня зоркі і, паслаўшы іх у Віфлеем, сказаў: ідзіце, добра разьведайце пра Дзіця і, як знойдзеце, накажыце мне, каб і я пайшоў пакланіцца Яму. Яны, выслухаўшы цара, пайшлі. І вось, зорка, якую бачылі яны на ўсходзе, ішла перад імі, пакуль, прыйшоўшы, ня стала ўгары над месцам, дзе было Дзіця. Угледзеўшы зорку, яны ўсьцешыліся радасьцю вельмі вялікай, і, увайшоўшы ў дом, убачылі Дзіця з Марыяю, Маці Яго, і, упаўшы, пакланіліся Яму; і адкрыўшы скарбы свае, прынесьлі Яму дары: золата, ладан і сьмірну» (Мацьвея 2:1—11).




«Пакланеньне вешчуноў». У верхняй частцы мініяцюры з ангельскай Псалтыры (13 стагодзьдзе) — вешчуны ў Ірада. Марка выдадзена поштай Германіі ў 1987 г.

Ніхто ня ведае, колькі сапраўды было тых мудрацоў. На вельмі старых карцінах з II і III вякоў ёсьць іх двое, чацьвёра, шасьцёра і, нават, дванаццаць. Біблейскае апавяданьне аб мудрацах з Усходу ўзбагацілася многімі сымбалічнымі ўдакладненьнямі.

Стаўшы на калені перад Дзіцяткам, мудрацы паднесьлі Яму дары, пра якія казаў прарок Ісая: «Мноства вярблюдаў пакрые цябе — драмадэры з Мадыяма і Эфы; усе яны з Савы прыйдуць, прынясуць золата і ладан і ўзьвесьцяць славу Гасподнюю» (Ісая 60:6).




Рубенс. «Пакланеньне мудрацоў» на блёку пошты Мальтыйскага Ордэну (2005 г.)

Золата як цару, ладан — як Богу і сьмірну — як чалавеку. Таму прынята, што было іх трое.

У VI в. мудрацоў назвалі каралямі, а ў VIII веку далі ім імёны: Каспар, Мэльхіёр і Балтазар. Гэтыя назвы сталі традыцыйнымі. Так называюць іх і цяпер.




«Пакланеньне мудрацоў» на блёку Парагваю з выявай карціны Рубенса (1984 г.)

Агульным на гэтых творах зьяўляецца паказ раскошы, падкрэсьленай незвычайнайнасьцю аддзеньня ўсходніх мудрацоў,

багацьцем дарагіх дароў. Ва ўсякім разе відавочны пачатак Новай Эры, калі Бог становіцца Богам для ўсіх народаў сьвету, а не для аднаго абранага народу, як было раней. На Захадзе ўжо пачынаючы з IV веку 6 студзеня сталі адзначаць Сьвята Трох Каралёў, якое стала называцца Сьвятам Аб'яўленьня Гасподняга. І ад таго часу ў гадавой калейцы дзён ёсьць адзін асаблівы дзень, поўны шчасьця. І ёсьць у гэтым дні адна гадзіна бласлаўлёная. Усялякі енк болю замаўкае тады на зямлі, усялякая турбота мінае, як дым ветрам разьвеяны, усякія, хоць бы найсмутнейшыя губы ўсьмешка надзеі расхіляе. Гэта хвіліна, калі першы прамень зоркі каляднай з неба да зямлі даляціць.




«Пакланеньне мудрацоў» на блёку пошты Парагваю: выява карціны Дзюрэра (1978 г.)




Выява карціны Тыцыяна «Пакланеньне мудрацоў» на блёку пошты Тэркс і Кайкос (Turks and Caicos Islands), 1988 г

Сцэна паднашэньня дароў мудрацамі стала тэмай для многіх твораў мастацтва, у якіх адлюстроўваюцца ў сымбалічны спосаб розныя ідэі. Так, пачаўшы ад сярэдніх вякоў, каралі становяцца прадстаўнікамі трох пакаленьняў: юнак, чалавек сталы і старац. Ці трох кантынэнтаў, на каторых галошана добрая навіна: Эўрапеец, Азіят і Негр.

Чаму Сьвяты, зьвязаныя з нараджэньнем Ісуса Хрыста зьяўляюцца такімі важнымі для нас?

Папершае, гэтыя Сьвяты нагадваюць нам, што Ісус прыйшоў для нас усіх. Першымі вітаюць Ісуса... пастухі. Але чаму пастухі? Праца пастуха была адной з самых пагарджаных прафэсій у тыя дні. Такія пагарджаныя прафэсіі ёсьць і сёньня. І хоць ніякая праца не ганьба, але ёсьць прафэсіі, у якіх не надта хочуць працаваць. Пастух — адна з такіх горшых прац. Але анёлы сказалі пра нараджэньне з самага пачатку менавіта пастухам. І пастухі былі першымі, каб вітаць яго.




Блёк пошты Вануату (1982 г.), на якім мастак адначасова паказаў і анёлаў, якія абвясьцілі пастухам Цудоўную навіну, і першых наведвальнікаў Дзіцяткі — пастухоў, і зорку, якая вяла мудрацоў, і самых мудрацоў ля Сьвятой сям»і

Але гэта яшчэ не ўсё. У Эвангельлі ад Мацьвея чытаем, што яшчэ хтосьці прыйшоў пакланіцца Ісусу. Хто гэта? Вешчуны з Усходу. Вешчуны — людзі вельмі адукаваныя, вельмі разумныя, поўная супрацьлег-

ласьць пастухоў. У тыя часы гэта Усход быў цэнтрам навукі і ведаў. Былі гэта людзі вельмі багатыя. Яны прыносяць Ісусу золата, ладан і сьмірну — падарункі каралеўскія! Раней Вешчуны спыніліся на двары караля Ірада. Гэта як калі б хтосьці сёньня спыніўся ў палацы прэзыдэнта. Не абы хто можа спыніцца пры двары караля. Толькі высокапастаўленыя асобы, вельмі ўплывовыя! Толькі тыя, хто знаходзіўся сярод эліты тагачаснага сьвету.

Значыць Ісус прыйшоў таксама і да багатых і да мудрых! Яны таксама маюць патрэбу ў ім у якасьці Збавіцеля.

Зьвярніце ўвагу, што ўсе людзі ў Ім маюць патрэбу. Ісус прыйшоў для ўсіх: багатых і бедных, адукаваных і неадукаваных, маладых і старых, мужчын і жанчын, беларусаў, палякаў, немцаў, амэрыканцаў — да ўсіх людзей. Ісус прыйшоў для ўсіх — уключаючы вас і мяне.

Гэта першая прычына, чаму гэтыя Сьвяты радасныя. Яны нагадваюць нам, што Ісус прыйшоў для ўсіх нас. Не мае значэньня што мы жывем 2000 гадоў пазьней. Ісус прыходзіць таксама сёньня і хоча зьмяніць да лепшага жыцьцё кожнага.

Калі ж Ісус нарадзіўся ў Віфлееме, рэакцыі былі розныя. Адны хацелі яго забіць. Напрыклад, цар Ірад. Яму не пасавала, што нарадзіўся Ісус. Ён хацеў жыць па-свойму. Сёньня таксама шмат такіх ворагаў Ісуса. Але якіх людзей было найбольш? Абыякавых. Марыя і Язэп ішлі з хаты ў хату і прасіліся на пастой. Людзі ім адмаўлялі. Гэта вобраз абыякавасьці да Ісуса. І сёньня многія людзі проста абыякавыя. Часта яны ня дрэнныя, ня злыя, як правіла, вельмі прыстойныя. Ісус стукаецца ў іх сэрца. Але кажуць, не цяпер можа быць пазьней. Былі і тыя, хто прывітаў Ісуса з вялікай радасьцю, прыйшлі яны, каб пакланіцца Яму.

Да якой групы кожны сябе аднясе?

Будзьма як пастухі і мудрацы. Прывітаем Ісуса! Запросім у сваё жыцьцё! І тады Калядныя Сьвяты стануць самымі прыгожымі ў нашым жыцьці!

## Уцёкі ў Егіпет

Аддаўшы дары: золата, ладан і сьмірну, мудрацы пайшлі адпачыць і ў сьне атрымалі наказ не вяртацца да Ірада, каб не казаць яму, дзе знайшлі Дзіцятка. Таму яны іншай дарогай адышлі ў сваю краіну.




Мудрацы ў сьне атрымліваюць наказ не вяртацца да Ірада на марках пошты Італіі (1975г., панэлі з сабора Alatri — невядомы аўтар 14 стагодзьдзя) і Англіі (1971г., вітраж Кентэрбэрыйскага сабору)

«Калі ж яны адышлі, — вось, анёл Гасподні яўляецца ў сьне Язэпу і кажа: устань, вазьмі Дзіця і Маці Ягоную, і ўцякай у Егіпет, і будзь там, пакуль не скажу табе, бо Ірад загадаў шукаць Дзіцятка, каб Яго загубіць» (Паводле Мацьвея 2:13).




На марцы Швэйцарыі (1966 г.) зьяўленьне анёла Язэпу — адна з выяваў на столі ў Царкве Сьвятога Марціна ў Зіліс (Zillis)

Калі прайшоў некаторы час, Ірад зразумеў, што яго падманулі, і вырашыў зрабіць усё магчымае, каб пазбавіцца ад таямнічага саперніка. «Тады Ірад, убачыўшы, што мудрацы ашукалі яго, разгневаўся надта і паслаў пазабіваць усіх дзетак у Віфлееме і ва ўсіх межах яго, ад двух гадоў і ніжэй, паводле часу, які выведаў у мудрацоў.




Пошта Емену на марцы (1969 г.) паказала рэпрадукцыю карціны мастака Паскуале Аціна, на якой салдаты Ірада забіваюць немаўлят. Забіцьцё немаўлят — тэма маркі Выспаў Кука, выдадзеная ў 1973 г. (Мініяцюра Люксэмбургскага часаслова 15 в.)

Тады збылося сказанае праз прарока Ерамію, які кажа: «Голас у Раме чуцен, плач, і галашэньне, і лямант вялікі; Рахіль плача па дзецях сваіх і не хоча суцешыцца; бо іх няма» (Паводле Мацьвея 2:16 — 18).




Забіцьцё немаўлят — тэма марак пошты Парагваю (1968 г. дэталь карціны Пітэра Брэйгеля (Pieter Bruegel) і (1982 г. рэпрадукцыя карціны Рубенса)

У Вэронскай царкве Сьв. Стэфана знаходзіцца шэдэўр стылю барока — Капэла Нявінных. Капэла збудавана для захоўваньня мошчаў пяці вэронскіх біскупаў, рэліквій сарака хрысьціянскіх пакутнікаў, якія перш былі пахаваныя ў крыпце цэрквы, і, паводле легенды, рэліквіі чатырох нявінных немаўлятак, забітых Ірадам. Тут сабраны лепшыя вэронскіе творы жывапісу эпохі барока. На алтарах з мошчамі біскупаў тры цудоўныя карціны: «Забіваньне немаўлят» — Аціна Паскуале, Сорак пакутнікаў — Аляксандра Туркі і пяць вэронскіх біскупаў — Антонія Басэці. Гэтыя немаўляты лічацца ў хрысьціянстве першымі сьвятымі мучанікамі. У Парыжы стаяць храм і могілкі, прысьвечаныя ім. У каталікаў дзень памяці сьвятых немаўлятак −28 сьнежня, у праваслаўных — 11 студзеня па новаму стылю.

«Ён устаў, узяў Дзіця і Маці Ягоную, і адышоў у Егіпет, і быў там да Ірадавай

сьмерці, каб збылося сказанае Госпадам праз прарока, які кажа: «З Егіпта паклікаў Я Сына Майго» (Мацьвея 2:14—15).




На марцы Польшчы (1974 г.) Алтар ананімнага кракаўскага мастака (Майстар Дамініканскага Трыпціху, каля 1460 г.) з касьцёла Дамініканцаў. Нацыянальны музэй. На марцы Ватыкану (1960 г.) — «Падарожжа Сьвятой сям'і» (Фра Анджэліка)

Гэты Алтар належыць да найлепшых твораў польскага гатыцкага малярства XV веку. Першы раз паказваецца на ім рэалістычны выгляд прыроды, новы канон пастацяў, эпічны і поўны драматызму паказ уцёкаў Сьвятой сям'і ў Егіпет.

У гэтай «трохчастковай» гісторыі: уцёкі Сьвятога сямейства ў Егіпет, забіваньне немаўлят, вяртаньне зь Егіпту — толькі яе крайнія эпізоды ў інтэрпрэтацыях мастакоў маюць падставу ў Сьвятым пісаньні.




На марцы Камэруна (1979 г.) выява рэпрадукцыі карціны «Уцёкі ў Егіпет» галандзкага жывапісца Калькара (Calckerv, 1460 -1519) і марка Бэльгіі (1971 г.)

Паколькі аповед Мацьвея вельмі кароткі, мастакі шукалі падрабязнасьці ў іншых — апакрыфічных — крыніцах і з гэтых крыніц дабаўлялі ў свае карціны розныя элемэнты.




Пошта Рэспублікі Верхняя Вольта (Буркіна-Фасо) ў 1972 г. выпусьціла прыгожы блёк з выявай рэпрадукцыі карціны «Уцёкі ў Егіпет» Джэнтыле да Фабрыяна (Gentile da Fabriano)

Галоўныя пэрсанажы ў гэтай сцэне — Дзева Марыя, якая едзе на асьле, немаўля, якога яна трымае на руках, і Язэп, як правіла, што вядзе асла. Звычайна працэсія на карціне рухаецца — падкрэсьліць варта — зьлева направа.

Паміж 1524 і 1530 гг. Антоніа да Карэджа (Correge) выканаў у купале Пармскага сабора велізарную фрэску «Ўнебаўзяцьце Багародзіцы». Нароўні з працамі Карэджа ў купале сабора паўсталі і яго знакамітыя алтарныя выявы, сярод якіх «Адпачынак на шляху ў Егіпет» з карагодам анёлаў. Чаша з вадой цудоўнай крыніцы ў руцэ Дзевы напаіць сына. Іосіф толькі што сарваў фінікі з пальмы, каб накарміць яго. У глыбіні бачны анёл, які прывязвае да дрэва стомленага асла. Вышэй — радасныя анёлы ў аблоках, аблітыя цёплым залацістым чароўным сьвятлом.




Рэпрадукцыю карціны Карэджа «Адпачынак на шляху ў Егіпет» на марцы Мадагаскару (1984 г.) і «Уцёкі ў Егіпет» на марцы Парагваю (1971 г.) — рэпрадукцыя карціны Міхала Пахера (Michal Pacher)

Адпачынак на шляху ў Егіпет — папулярная тэма ў мастацтве. Дзева Марыя і Немаўлятка сядзяць на фоне пэйзажу, звычайна пад пальмавым дрэвам. Язэп прысутнічае тутака ж, асёл бачны на заднім пляне. Пажыткі ўцекачоў, злучаныя ў вузел, ляжаць на зямлі. У гары лятаюць анёлы і прыносяць ім ежу. Але малюнкі на марках не адлюстроўваюць падарожжа па пустыні. Гэта зьвязана з сымбалічным паданьнем аб-

ставін уцёкаў. Так, прысутнасьць на карцінах пальмавага дрэва, знака сьвету, давала падставу бачыць у гэтым сюжэце ілюзію на ўваход у Ерусалім, калі дарогу Выратавальніку высьцілалі пальмавымі галінамі.




Рэпрадукцыю карціны Караваджа «Адпачынак на шляху ў Егіпет» на блёку выпусьціла ў 2009 г. пошта Сан Марына

Калі ў ляндшафце, адлюстраваным мастаком, ёсьць некалькі дрэў, то адно зь іх абавязкова будзе пальма.




У 1992 г. пошта Венэсуэлы выпусьціла блёк з рэпрадукцыяй карціны Луціа Рываса. Сьвятая сям'я прыйшла ў Егіпет. І адзін зь егіпцян адчувае незвычайнасьць прышэльцаў і радасна вітае іх

Пра жыцьцё Сьвятой сям'і ў Егіпце ў Бібліі няма ніякіх зьвестак. Але мастакі не маглі не адюстраваць у сваіх творах гэты пэрыяд. Вядома, гэтыя працы плод іхай фантазыі. Удалося адшукаць толькі адно паштовае выданьне, на якім мы можам убачыць момант прыбыцьця Сьвятой сям'і ў Егіпет.

Задумаемся, чаму Марыя, якая верыла і ведала аб Боскім паходжаньні яе Сына, як ведаў аб гэтым і Язэп, чаму яны не разважаючы рушылі ў вельмі далёкі і небясьпечны шлях? Чаму не разважалі: што можа зрабіць хай сабе і цар Боскаму Дзіцятку? Дзеяньні іхнія тлумачацца поўнай і беззаганнай верай у Бога і падпарадкаваньнем Слову Божаму. Але Марыя не чула гэтага Слова, яна адклікнулася на словы Язэпа мужа свайго. І гэта прыклад сямейных адносін, прыклад поўнага даверу і павагі.




«Сон Язэпа» — марка з выявай рэпрадукцыі карціны мастака Гаэтана Гандольфі (Gaetano Gandolfi) фірмы «ZAZZLE» USA

«А як Ірад памёр, — вось, анёл Гасподні ў сьне зьяўляецца Язэпу ў Егіпце і кажа: устань, вазьмі Дзіця і Маці Ягоную і ідзі ў зямлю Ізраілеву; бо памерлі тыя, што шукалі душы Дзіцяці. Ён устаў, узяў Дзіця і Маці Ягоную і прыйшоў у зямлю Ізраілеву. Але пачуўшы, што Архелай валадарыць ў Юдэі замест Ірада, бацькі свайго, пабаяўся туды ісьці; і атрымаўшы ў сьне наказ, адышоў у межы Галілейскія, і, прыйшоўшы, пасяліўся ў горадзе, які называецца Назарэт, каб збылося сказанае праз пракрокаў, што

Ён Назарэем назавецца» (Мацьвея 2:19—23).

У процілегласьць руху зьлева направа ва ўцёках у Егіпет на карцінах эўрапейскіх мастакоў, якія паказваюць вяртаньне з Егіпту — рух справа налева і Ісус ужо значна падросшы.

Пра вандраваньне Сьв. Сямейства ў Егіпет захавалася мноства паданьняў. Зь іх адно абвяшчае, што, калі Язэп з Дзіцяткам і Яго Маці ўвайшлі храм, дзе было 365 ідалаў, то ўсе ідалы ўпалі на зямлю і зьнішчыліся, і выканалася над імі слова прароцкае: «Вось, Гасподзь сядзіць на воблаку лёгкім і прыбывае ў Егіпет. І затрымцяць ад аблічча Яго ідалы Егіпецкія, і сэрца Егіпта растане ў ім» (Ісая 19:1).




«Вяртаньне з Егіпту» бачым на марцы Парагваю (1971 год), дзе разьмешчана рэпрадукцыя карціны мастака Марцірыоса (Maestro De Los Martirios). Маленькі Ісус ужэ можа вяртацца на радзіму не на руках маці, а пеша. На марцы пошты Аўстраліі (2011 г.) ў далечыні відаць, як падаюць і развальваюцца ідалы.

Якая ж адважная была Марыя, калі, пачуўшы словы Язэпа аб тым, што трэба ісьці, узяла Дзіцятка і ноччу накіравалася ў невядомы шлях. Яны былі адважныя, бо ахоўвалі сваю сям’ю, жыцьцё свайго Дзіцяці ад бязьлітаснага Ірада.

Сьвяты Павал нагадвае: «Бог не даў нам Духа боязі, але сілы, любові і разважлівасьці» (2 Цім 1, 7). Гэта значыць, што, дзякуючы Божай ласцы, мы таксама пакліканыя да такой жа адвагі і разважлівасьці ў барацьбе за хрысьціянскую сям'ю, за кожнае ненароджанае і народжанае жыцьцё.

## Мадонна — мая Спадарыня

Першым, хто намаляваў выяву Божай Маці, гэта Эвангеліст Лукаш. Згодна з паданьнем, ён пісаў выяву Багародзіцы з Самай Чысьцюткай Дзевы Марыі і Богамаці, убачыўшы Сваю Выяву, прамовіла: «Мілата Якая нарадзілася ад Мяне і Мая з гэтым абразам ды будзе».




Намаляваў гэту падзею Джо́рджа Вазáры (1511—1574) італьянскі мастак, архітэктар і аўтар «Жыцьцяпісаў», заснавальнік мастацтвазнаўства. Пошта Італіі ў 2011 г. адлюстравала карціну на блёку

З той пары да нашага часу была намалёвана вялізарная колькасьць выяваў Маці Божай. Ад выяваў на сьценах Рымскіх катакомбаў і да сучаснага мастацтва. Так толькі Рафаэль намаляваў 42 карціны, прысьвечаныя Мадоньне. Альбрэхт Дзюрэр стварыў акрамя аддзельных карцін цыкл гравюр «Жыцьцё Марыі». Больш дваццаці работ прысьвяціў Мадоньне Бэльліні...

Найбольш вядомы твор Альбрэхта Дзюрэра «Сьвята ружанцаў» (1506, Прага, Нацыянальная галерэя). На гэтай карціне

Мадонну з Немаўлём ушаноўваюць імпэратар і Папа рымскі, а за імі — натоўп народу, у якім Дзюрэр намаляваў, у тым ліку многіх сваіх сучасьнікаў. Мадонна, Немаўля-Хрыстос і Сьвяты Дамінік, заснавальнік братэрства пацерак, раздаюць вянкі з руж укленчаным, якія моляцца. Чальцы братэрства пераконвалі вернікаў не проста перабіраць пацеркі, а ўяўляць, што іх пацеры — гэта ружы: белыя, сымбалізуючыя чысьціню Дзевы Марыі, і чырвоныя каралі нагадваюць пра кроў Хрыста. Таму карціна мае дзьве назвы «Сьвята пацерак» і «Сьвята ружовага вянка».



Пошта рэспублікі Нігер разьмясьціла выдарыс гэтага цудоўнага твору на сваім паштовым блёку ў 1979 годзе

Ззаду справа стаіць перад дрэвам экстравагантна апрануты малады чалавек. Так мастак намаляваў сябе. Ён назірае за разьвіцьцём падзей перад ім і чытае пры гэтым дакумэнт, на якім Дзюрэр зьмясьціў свой подпіс і дату: 1506.

У карціне, якая лічыцца адной з самых выбітных прац Поля Гагена, перад намі «таіцянская» Марыя трымае маленькага Ісуса на руках, які далікатна прытуліўся да сваёй маці. У абодвух можна ўбачыць німб над галавой. Праходзячыя міма дзяўчыны, угледзелі гэту зьяву і схіляюцца перад Імі. Склаўшы рукі перад грудзьмі, яны шлюць Ім усякія добрыя пажаданьні. Ззаду іх лунае над зямлёй анёл з блакітнажоўтымі крыламі. Мастак упрыгожвае гэту незвычайную падзею ўсімі даступнымі мэтадамі і фарбамі, выкарыстоўваючы яркую маляўнічасьць прыроды.



Пошта Гвінэі Экватарыяльнай у 1974 годзе выпусьціла марку і картмаксімум з рэпрадукцыяй карціны Поля Гагена «Ia Orana Maria» (у перакладзе з таіцянскага — «Мы молімся табе, Марыя»; яшчэ адна назва «Авэ, Марыя»), напісанай ім у 1891 г. пасьля свайго першага прыбыцьця на Таіці

Кампазыцыя «Мадонна Ларэта» ўпрыгожыла фамільную капэлу Кавалетці ў царкве Сант-Аўгустына ў Рыме.




У 1967 годзе пошта Парагваю разьмясьціла на марцы дэталь карціны «Мадонна Ларэта» (Мікеланджэла Караваджа, каля 1601 —1603, Рым, царква Сан-Аугустына)

Іншая назва карціны — «Мадонна деі Пелегрыні». На карціне два пілігрыма (паітальянску — пелегрыні) схілілі калены перад выявай Мадонны. Мадонна з Немаўлём

пазіраюць спакойным і ўважлівым поглядам на вернікаў.

Мадонна з Немаўлём малявалася гэтак часта і з такой колькасьцю варыянтаў — у інтэр'еры, на пэйзажным фоне, у асяродзьдзі мноства сьвятых, данатараў і іншых «удакладняючых» падрабязнасьцяў, што ў назве карціны стала неабходным паказваць якую — небудзь асаблівасьць, характэрную менавіта для яе. Так, дадзеная выява Багамаці з Немаўлём стала вядомай як «Мадонна на лузе» ці «Мадонна на сенажаці». Мадонна моліцца над сьпячым на яе каленях Дзіцяткам. Іх пастава натуральная і разам з тым сымбалічная: кампазыцыя дзьвюх постацяў не можа не выклікаць ва ўяўленьні выяву будучага аплакваньня Хрыста.



Пошта Ангілы ў 1973 годзе прысьвяціла марку адной з прац Джаваньні Бэльліні «Мадонна на лузе» (Лёнданская Нацыянальная Галерэя). Прастора напоўнена сымбалічнымі дэталямі, якія ўсяляюць ў душу гледача сум і трывогу

Знакамітая карціна Рафаэля — «Сыкстынская мадонна» (па назьве манастыра, для якога была напісаная алтарная выява) — і, верагодна, самая знакамітая з усіх карцін, калі-небудзь напісаных.

Аб гэтай карціне напісаныя тамы розных прац, але мне найбольш да спадобы тое, што напісаў Васіль Гросман. Гэта варта цытаваньня.

«Рафаэль у сваёй Мадоньне выдаў таямніцу матчынай прыгажосьці. Але не ў гэтым невычэрпнае жыцьцё карціны Рафаэля. Яна ў тым, што цела і твар маладой жанчыны ёсьць яе душа, — таму так чароўна Мадонна. У гэтым зрокавым малюнку матчынай душы сёе-тое недаступна сьвядомасьці чалавека.



Рафаэль. «Сыкстынская мадонна». Выяву карціны разьмяшчалі пошты розных краін. Нямеччына, 2012 г.

[...] Прыгажосьць Мадонны трывала злучана з зямным жыцьцём. Яна дэмакратычная, людзкая; яна ўласьцівая масам людзей — жаўтатварым, касавокім, гарбатым з доўгімі бледнымі насамі, чорнатварым з кучаравымі валасамі і тоўстымі вуснамі, яна ўсечалавечна. Яна душа і люстэрка чалавечае, і ўсе, хто глядзяць на Мадонну, бачаць у ёй чалавечае, — яна выява матчынай душы, і таму прыгажосьць яе навечна сплецена, зьлітае з той прыгажосьцю, што ўтойваецца, невынішчальна і глыбока, усюды, дзе нараджаецца і існуе жыцьцё, — у скляпах, на гарышчах, у палацах, у ямах».

У карціне Ганса Мемлінга «Мадонна на троне з Дзіцяткам і двума Анёламі» яго Мадонна лірычная. Мемлінг да драбнюткіх падрабязнасьцяў старанна стварае аблічча Мадонны і даходзіць у яе малюнку да таго, што яна падаецца ідэальнай. Алёлы присутныя ў дзяцінстве Ісуса. На карціне

адзін анёл падносіць дзіцятку яблык, другі грае.




Пошта Ганы ў 1981 годзе разьмясьціла на паштовым блёку рэпрадукцыю гэтай карціны Мемлінга

«Сьвятая Марыя (з габрэйскай Miriam) у розных мовах азначае Тую, якую любіць Бог, і Тую, якая любіць Бога, не ўчыніла граху, усяляе радасьць, зьяўляецца ўзорам прыгажосьці.

Маці Касьцёла азначае, што Касьцёлам зьяўляемся ўсе мы, веруючыя людзі, таму Яна зьяўляецца Маці для ўсіх нас.

Маці ласкі Божай — так сказаў пра Яе арханёл Габрыэль, «поўная ласкі», без граху.

Маці беззаганная азначае, што Бог выбраў Марыю для зьдзяйсьненьня свайго спрадвечнага пляну збаўленьня чалавека і такім чынам бязьмерна ўзвысіў Яе над усімі стварэньнямі.

Маці непарушная — Маці, але пры гэтым заўсёды беззаганная Дзева.

Люстра справядлівасьці азначае, што Яна ўвасабляе саму справядлівасьць, г. зн. сьвятасьць.

Сталіца мудрасьці азначае, што мудры той, хто ўмее добра, узорна жыць.

Марыя зьяўляецца сьвятыняю Духа Сьвятога, таму мы называем Яе Сьвятыня духоўная.

Вежа Давідава азначае, што Яна Найпрыгажэйшая з Давідавых збудаваньняў. Як вядома, Марыя паходзіла з роду Давідавага.

Словы Вежа з косьці слановай нагадваюць пра тое, што слановая костка вельмі каштоўны матэрыял, які служыць для аздобы дарагіх рэчаў і вырабу ўпрыгожаньняў.

Залаты доме азначае, што Яна самая прыгожая і бясцэнная.

Арка Запавету — Арка або Каўчэг, у якім знаходзіліся скрыжалі Божага Запавету, каўчэг — гэта знак прысутнасьці Бога.

Брама нябесная азначае, што Марыя, нарадзіўшы Ісуса Хрыста, адчыніла браму ў неба, якая была зачыненая пасьля першароднага граху Адама і Евы.

Зорка ранішняя азначае, што Марыя, як тая Зорка, зазьзяла на небасхіле, прадвяшчаючы вялікае Сьвятло, г. зн. Ісуса Хрыста.

Каралева Анёлаў азначае, што Маці Божая зьяўляецца Каралеваю, бо Яе Сын, Пан Ісус, — Валадар Сусьвету і ўсіх стварэньняў.

Заклік Каралева сем'яў дапісаны ў літанію ў 1995 г., каб напамінаць пра тое, што Маці Божая павінна валадарыць у кожнай сям'і» — так прыгожа напісала Іна Ламака.

## Маленькі Ісус у Храме

Ісус жыў і выхоўваўся ў Назарэце. У гады дзяцінства і юнацтва Ісуса Назарэт быў усяго невялікай вёскай, якая разьмяшчалася на палогіх узгорках Галілеі над Ізраільскай далінай. Зьвестак пра трыццацігадовы адцінак жыцьця ў Назарэце ў Бібліі няма, акрамя аднаго выпадку. Вось апісаньне з Эвангельля паводле Лукаша: «А Дзіця расло і мацавалася духам, напаўняючыся мудрасьцю; і мілата Божая была на Ім. Кожны год бацькі Ягоныя хадзілі ў Ерусалім на сьвята

Пасхі. І калі Яму было дванаццаць гадоў, прыйшлі яны таксама як звычайна ў Ерусалім на сьвята; калі ж, пасьля заканчэньня дзён сьвята, вярталіся, застаўся Хлопчык Ісус у Ерусаліме; і не заўважылі таго Язэп і Маці Ягоная; але думалі, што Ён ідзе зь іншымі; прайшоўшы ж дзённы шлях, пачалі шукаць Яго сярод родзічаў і знаёмых; і не знайшоўшы Яго, вярнуліся ў Ерусалім, шукаючы Яго. Праз тры дні знайшлі яго ў храме, сядзеў сярод настаўнікаў, слухаў іх і распытваў іх; усе, хто слухаў Яго, зьдзіўляліся з розуму і адказаў Ягоных» (Паводле Лукаша 2:40—47).



Відарыс Храма адлюстраваны на марцы, выдадзенай поштай Ізраіля ў 2011 годзе

Храм у Ерусаліме пабудаваны Ірадам. У Ерусаліме адноўлены такі выгляд Храма, калі дванаццацігадовы Ісус быў у ім.




Рэпрадукцыя карціны Дзюрэра «Дванаццацігадовы Ісус у храме» на марцы пошты Парагваю, выдадзенай у 1982 годзе

Калі ўрачыстасьці Сьвята закончыліся і бацькі Ісуса адправіліся ў зваротнае падарожжа, ён застаўся ў Ерусаліме, як бы хацеў усрыняць усю Мудрасьць і Сьвятасьць, якія захоўвалі муры Сьвятыні. Тут Ён быў у Сябе, у доме свайго Айца. Калі дванаццацігадовы хлопец сядзеў паміж вучонымі, слухаў іх і задаваў ім пытаньні, Яго Бацькі з болем у сэрцы шукалі Яго праз тры дні, абыходзячы ўвесь Ерусалім. Праз тры дні знайшлі Яго ў Сьвятыні. Тое, што яны ўбачылі, вельмі іх зьдзівіла. Зьдзівеньне Бацькоў зразумелае. На карціне Дзюрэра на Іх твары адлюстроўваюцца мноства розных пачуцьцяў: яшчэ жывы іх боль, выкліканы зьнікненьнем Сына, радасьць, што Ён знайшоўся, зьдзіўленьне нечаканымі Яго паводзінамі і атачэньнем.




Бацькі Ісуса радасныя, што знайшлі Сына, і зьдзіўленыя Яго атачэньнем і паводзінамі. Марка пошты Шаржы (1970 г.) з сэрыі «Жыцьцё Ісуса»




Дучо ды Буанінсеня (Duccio di Buoninsegna), «Жыцьцё Ісуса Хрыста». Марка пошты Рас-эль-Хаймы (1970 г.)

Мастакі стараліся пашырыць зьвесткі з Бібліі аб размове Ісуса з вучонымі мужамі ці, як іх яшчэ называюць, дактарамі.

Буйным плянам на наступнай карціне Дзюрэра паказаны твары мудрацоў і Хрыста. Адчуваецца «напруга дыспуту». У цэнтры кампазыцыі — рукі Ісуса, Ён упэўнена адлічвае на пальцах свае аргумэнты ў гутарцы. Рукі аднаго з настаўнікаў сьведчаць пра «нярвовасьць і збянтэжанасьць».



«Хрыстос сярод настаўнікаў» карціна Альбрэхта Дзюрэра, напісаная ім у Вэнэцыі ў 1506 г. Знаходзіцца ў музэі Цісэна-Барнемісы ў Мадрыдзе. Марка Рэспублікі Тога (1978 г.)

Які зьмест адказаў дванаццацігадовага Ісуса настаўнікам юдэйскім?

Эвангеліст нічога не кажа пра гэта. Гутарка праходзіла ў храме і вялася з кніжнікамі, якія займаліся тлумачэньнем Сьв. Пісаньня, таму можна не сумнявацца ў тым, што пытаньні і адказы як настаўнікаў, так і Ісуса дакраналіся прароцтваў пра Мэсію. У гэтай гутарцы Ісус выяўляе не толькі мудрасьць, але і веды Сьв. Пісаньня, якія прыводзяць у зьдзіўленьне кніжнікаў.

Працяг апісаньняў такога ж зьдзіўленьня мы знаходзім у далейшых апавяданьнях Эвангелістаў.

«Калі Ісус прыйшоў у сінагогу ў Назарэце і стаў вучыць там, то «І ўсе засьведчылі Яму гэта, і дзівавалі са словаў мілаты, якія зыходзілі з вуснаў Ягоных, і казалі: ці не Язэпаў гэта сын?» (Паводле Лукаша 4:22).

Паўней зьдзіўленьне юдэяў перадае Мацьвей: «І прыйшоўшы на бацькаўшчыну Сваю, вучыў іх у сынагозе іхняй, так што яны зьдзіўляліся і казалі: адкуль у Яго гэтая мудрасьць і сілы? [...] адкуль жа ў Яго ўсё гэта?» (Паводле Мацьвея 13:54—56).

А калі Ісус вучыў у храме, то: «І дзівавалі, Юдэі, кажучы: як Ён ведае Пісаньні ня вучыўшыся?» (Паводле Яна 7:15).




Спатканьне ў Храме адлюстроавана на марцы пошты Перу (2011 г.)

Характэрна, што і жыхары Назарэта, роднага горада Ісуса, і юдэі, гэта значыць ворагі яго, сьведчаць, што ён не хадзіў ні ў якую школу. Сам Ісус ня толькі не аспрэчвае гэтага, але сьцвярджае: «Маё вучэньне — не Маё, а Таго, Хто паслаў Мяне...» (Яна 7:16).




Рэпрадукцыя карціны Жана Энгера «Ісус сярод дактароў» (1862 г.) на марцы пошты Рэспублікі Нігер (1967 г.)

Вось гэтаму вучэньню Таго, Які паслаў, вось гэтым словам Самога Бога дзівавaліся юдэі, калі слухалі пропаведзь Ісуса. І несумнеўна, тая ж прамудрасьць Божая выявілася ў пытаньнях і адказах дванаццацігадовага Ісуса. Звярніце ўвагу, што Ісус — Бог і чалавек — не атрымаў мудрасьць з да-

памогай нейкіх зьнешніх цудаў, але ў выніку сьціплай і карпатлівай працы.

«І ўбачыўшы Яго, зьдзівіліся; і Маці ягоная сказала Яму: Дзіця! што Ты зрабіў з намі? вось, бацька Твой і Я зь вялікаю скрухаю шукалі Цябе. Ён сказаў ім: навошта было вам шукаць Мяне? ці вы ня ведалі, што Я павінен быць у тым, што належыць Айцу Майму? Але яны не зразумелі сказаных Ім словаў» (Лукаша 2:48,49).




Маленькі Ісус адказвае Маці на Яе папрок на марцы Фуджэйры (1976 г.)

Прыгожа сцэну спатканьня апісвае Роман Брандштэцьцер: «У гэтую ўласна хвіліну Марыя і Язэп убачылі Ісуса. Марыя у наплыве радасьці бегла да Яго, каб Яго абняць. Але Язэп уражаны выглядам Хлопца сярод дактароў, прытрымаў жанчыну за плячо і забыўшы нядаўні непакой, паглынаў у сябе Яго натхнёныя і мудрыя словы. Але жанчына, вызваліўшы сваё плячо з далоні мужа, пабегла па ступенях порціку, расхіліла дактароў і кінулася на шыю укаханаму Сыну гаворачы: «Дзіця! што Ты зрабіў з намі? вось, бацька Твой і Я зь вялікаю скрухаю шукалі Цябе».

## Трыццаць гадоў схаванага жыцьця

«І калі яны зрабілі ўсё паводле Закона Госпадняга, вярнуліся ў Галілею, у горад свой Назарэт. А Дзіця расло і мацавалася духам, напаўняючыся мудрасьцю; і мілата Божая была на Ім» (Паводле Лукаша 2:38,39).

«І Ён пайшоў зь імі і прыйшоў у Назарэт; і быў у паслушэнстве ім. І Маці Ягоная захоўвала ўсе словы гэтыя ў сэрцы Сваім. А Ісус мацаваўся ў мудрасьці і росьце і ў любові ў Бога і людзей» (Паводле Лукаша 2:50,51).

Два кароткіх фрагмэнты Эвангельля ад Сьвятога Лукаша, апісвае нам 30 гадоў схаванага жыцьця Ісуса ў Назарэце. Абодва апісаньня не даюць нам практычна ніякіх гістарычных дэталяў. Не аб дзяцінстве, не аб першых гадах Яго маладосьці. Не кажа нічога пра дарослае жыцьцё Ісуса. Даведваемся толькі, што Ён жыў у Назарэце і добра разьвіваўся, як і любое здаровае, акружанае клапатліваю апекаю і каханьнем бацькоў дзіця. Не гледзячы на гэта, гэтыя два фрагмэнты маюць вельмі вялікае значэньне. Праз трыццаць гадоў Ісус вучыцца цалкавітаму адданьню Айцу, выкананьню Яго волі. Праз трыццаць гадоў Ісус вучыцца пакорнай і цярплівай службе бліжнім. Жыцьцё Ісуса ў Назарэце прамаўляе да нас, што манатонная штодзённасьць не павінна быць пакутлівай ці, тым болей, зьнішчальнай. Але можа быць месцам адкрытым на мілату, на любоў да Бога, на любоў да бліжняга, на мілату да сябе самога. Жыхары Назарэту, каторыя што дзень знаходзіліся з Ісусам, размаўлялі зь Ім, маліліся зь Ім у сынагозе, будуць зьдзіўляцца падчас Яго публічнай дзейнасьці і будуць задаваць пытаньне: «Адкуль у Яго гэтая мудрасьць і сілы? ці не цесьляроў Ён Сын? ці не Ягоную Маці завуць Марыя, і браты Яго Якаў і Ёсій, і Сымон і Юда? і сёстры Яго ці ня ўсе сярод нас? адкуль жа ў Яго ўсё гэта? І паняверыліся ў Ім. А Ісус сказаў ім: ня бывае прарока без пашаны, хіба што толькі на бацькаўшчыне сваёй, і ў доме сваім. І ня ўчыніў там

многіх цудаў з-за няверства іхняга» (Паводле Мацьвея 13:54—58).

Ісус не выдзяляўся нічым надзвычайным, што магло бы казаць аб Яго незвычайнай будучыні. Можа для таго параўнаўча мала мастацкіх твораў прысьвечана жыцьцю Ісуса ў Назарэце? Можна назваць такія творы, як «Сьвяты Язэп-цясьляр» Жоржа дэ Латур, «Разьвітаньне Хрыста з Маткай» Альбрэхта Дзюрэра, «Ісус у доме сваіх бацькоў» (Майстэрня цесьляра) сэра Джона Эверта Мілеса...




У 1979 годзе пошта Брытанскай калёніі Сэнт-Крыстофер Нэвіс і Ангілья надрукавала прыгожы блёк з выявай карціны сэра Джона Эверта Мілеса «Ісус у доме сваіх бацькоў» (Майстэрня цесьляра)

Апошняя карціна напісана ў 1849—50 гады. Захоўваецца ў Tate Britain, Лёндан. Мастак намаляваў сцэну ў майстэрні цесьляра. Цясьляр Сьв. Язэп робіць дзьверы. Маленькі Ісус парэзаў руку. Парэз гэты напамінае знак стыгмату, правобраз расьпяцьця. Маці Сьв. Марыя цалуе Сынка ў шчаку пакуль Язэп разглядае параненую руку. Малады Ян Хрысьціцель нясе ваду, каб прамыць рану, што сымбалізуе пазьнейшае Вадохрышча. Сьвятая Ганна выдаляе цьвік абцугамі. Памочнік Язэпа, які прадстаўляе патэнцыйных будучых апосталаў, назірае за гэтай падзеяй. Тут яшчэ многа зашыфраваных сымбаляў. Лесьвіца напамінае пра лесьвіцу Якава; голуб сымбалізуе Сьвяты дух. Авечкі ў загоне на заднім пляне ўяўляюць будучыню хрысьціянскай паствы. Затое тэма Сьвятога сямейства з Ісусам Дзіцяткам была самай каханай тэмай мастацтва Высокага Адраджэньня. Найбольш выбітныя мастакі ахвотна і многа малявалі Марыю з Немаўлём і Сьвятым Язэпам, часта дадаючы хлапечую постаць Сьвятога Яна Хрысьціцеля.




Карціна Жоржа дэ Ля Тур: «Цясьляр Сьвяты Язэп» (1840—1845, Музэй Люўр, Парыж). Паштовая марка Манака (1993г.). У сямейных абставінах маленькі Хрыстос на марцы Аману.

Тэма Сьвятога сямейства цалкам адпавядала попыту на прыватныя рэлігійныя карціны, якія асьвячалі хатні ачаг, ідэю шлюбу і бацькоўства.




У 1975 г. пошта Сан Марына выпусьціла марачны ланцужок. У цэнтры разьмешчана рэпрадукцыя карціны «Сьвятое сямейства» пэндзьля Мікеланджэла, якую ён намаляваў каля 1503 г. для сям'і Доні

Марыя, якая сядзіць на траве, прымае ад Язэпа Дзіцятка, якое ставіць ножку на Яе плячо, а ручкамі абапіраецца на галаву. Ззаду з-за мурку высоўваецца малы пуца-

ваты хлопец у вярблюджай шкуры, які трымае ў руцэ невялікі крыж. Гэтыя рэквізыты інфармуюць, што гэта маленькі Сьвяты Ян Хрысьціцель.



Пошта ГДР зрабіла ў 1957 годзе цудоўны падарунак філятэлістам, якія зьбіраюць картмаксімумы. На паштоўцы і марцы рэпрадукцыя карціны Андрэа Мантэны (1431—1506) «Сьвятое сямейства з Елісаветай і маленькім Янам Хрысьціцелем»

Андрэа Мантэнья у сваёй карціне, як і большасьць майстроў эпохі Адраджэньня, зьвяртаецца да выявы Мадонны з Немаўлём, якія ўвасабляюць уяўленьне зямной прыгажосьці і глыбіні найпрыгажэйшага з чалавечых пачуцьцяў — мацярынства. Мадонна глядзіць на Немаўля сур'ёзна, са стрыманай пяшчотай, Твары Язэпа і Елісаветы, якія зьдзіўляюць сваёй жыцьцёвай сілай, нясуць на сабе адбітак пражытых гадоў і перажытых пакут. Яны адцяняюць квітнеючую юнацкасьць Марыі. Язэп і Елісавета як бы ахоўваюць Мадонну і яе каханьне да Дзіцяці.

Сюжэт мірны, а карціна сумная. Пранізьлівыя колеры, замкнёнасьць кампазыцыі. Позіркі старэйшых зьвернутыя на Хрыста і толькі маленькі Ян, якога ў будучыні назавуць Хрысьціцель, адвёў вочы і заклікае да маўчаньня, нібы прадракаючы лёс Немаўляткі Хрыста. Дарэчы, а што ў кошыку, які як бы ў руцэ ў Хрысьціцеля? Можа хто-небудзь ведае?

Альбрэхт Дзюрэр, як ніхто другі, сваімі работамі ілюстраваў цэлыя тэмы Бібліі. Ім створаны сэрыі гравюр: «Страсьці Хрыстовы», «Жыцьцё Марыі», «Апакаліпсіс», «Сем Жахаў Марыі»...




Пошта Народнай Рэспублікі Конга ў 1979 г. выдала блёк з рэпрадукцыяй гравюры Альбрэхта Дзюрэра «Сьвятое сямейства з пяцьцю анёламі»

Гравюра «Сьвятое сямейства з пяцьцю анёламі» створана ў 1503 годзе. У цэнтры ліста постаць Марыі з немаўлём на каленах. Над імі — Бог-бацька і знак Сьвятога Духа (голуб, які выпраменьвае Сьвятло). За Багародзіцай анёлы сваімі крыламі агароджваюць яе і Язэпа. Зьлева — частка прасёлкавай дарогі, ля ног Марыі сьцелюцца палявыя кветкі. Выява Марыі займае асноўную частку ліста. Яна сядзіць на ўзвышэньні. Край спадніцы драпіруецца на пярэднім пляне. Шыракаполы плашч атачае яе постаць і хавае ўзгорачак і камень, на якім яна сядзіць. Галава Марыі не пакрытая, пышныя валасы хвалямі спадаюць на плечы. Постаць Язэпа таксама намалявана ў поўны рост. На яго галаве манаскі капялюшык, у руках ён трымае свой капялюш, як знак пакланеньня і служэньня, у руцэ яго дарожны кій. Марыя,

Ісус і Язэп — асноўныя выявы гравюры. Анёлы намаляваны дзьвюма групамі. Яны аддаюць хвалу Немаўлю. Тэма мацярынства, закладу неўміручасьці роду чалавечага — аснова задумы мастака.




Пошта Гішпаніі ў 1979 годзе пусьціла ў абарот сэрыю марак з рэпрадукцыямі карцін Вісэнтэ Хуана Масіпа — вядомага пераважна пад імем Хуана дэ Хуанэса, гішпанскага жывапісца. На адной зь іх выява карціны «Сьвятое сямейства» (1540—1545. Музэй сабора Уэскі.)




Марку з рэпрадукцыяй карціны Эль Грэка «Сьвятое сямейства» выпусьціла пошта Экватэрыяльнай Гвінэі ў 1972 г.

Найбольш выбітныя мастакі ахвотна і многа малявалі Марыю з Немаўлём і Сьвятым Язэпам, часта дадаючы хлапечую постаць Сьвятога Яна Хрысьціцеля. Гэтая сцэна цалкам адпавядала попыту на прыватныя рэлігійныя карціны, якія асьвячалі хатні ачаг, ідэю шлюбу і бацькоўства. Дазваляла паказаць важнасьць сям'і, цяпло ўзаемных адносін ў фарміраваньні дзіцяці і ўкараняла ўвасобленага Бога ў звычайным чалавечым Сьвеце.




Блёк Парагваю (1982 г.) «Сьвятое сямейства Францыска I» (Люўр, Парыж). Дзева Марыя з Немаўлём Хрыстом, Сьвяты Язэп, Сьвятая Елісавета з сынам Янам Хрысьціцелем. Ззаду фігуры двух анёлаў




«Мадонна з ружай» (Музэй Прада, Мадрыд, Гішпанія). Сьвяты Язэп, Сьвятая Марыя, немаўлята Ісус і Ян Хрысьціцель, у якога ў руцэ палоска паперы з надпісам «Ecce Agnus Dei» (Вось Ягня Божае). Блёк пошты Парагваю (1983 г.)

«Мадонна з Дзіцём і Сьвятой Ганнай» — адна з самых прыгожых карцін Караваджа (1605—1606) Багародзіцы для свайго часу. Маці Божая маладая і прыгожая вучыць свайго сына, якога яна трымае, зьнішчыць зьмяю, сымбаль зла або першароднага граху. Сьвятая Ганна, маршчыністая старая ба-

буля, сьведка падзеі, у гонар якой прызначалася карціна.




Выяву карціны адлюстравала на блёку, выдадзеным ў 2004 годзе, пошта краіны Сэнт-Вінсэнт і Грэнадыны

Ісус, азораны залатым Сьвятлом, якое сыходзіць з неба, параніў сябе, робячы цярновы вянок. Маці з сумам назірае за сынам, ведаючы, якія пакуты Яго чакаюць. Выява поўная сымбаляў. Фіялетавая туніка — вопратка, якую насілі Сьвятары падчас Адвэнту, шыцьцё і кнігі кажуць пра каханьне да працы, садавіна на стале намякае на выкуп, галубы — на ахвяру...




«Дом у Назарэце» (Марыя, якая разважае пра будучыню Хрыста) так называецца карціна Франсіска Сурбарана, выява якой адлюстравана на блёку пошты Эмірату Рас-эль-Хайма (1970 г.).

Марыя ведае, што яна ў бліжэйшы час будзе сузіраць, як Ён, яе Сын, мучыцца на крыжы. Яго цела паламаюць, пакрыюць ранамі.

«Мая каханая Маці», кажа Ісус ёй: «Ты павінна прыгатаваць сябе. Такая воля Айца Майго. І адкупленьне чалавецтва дасягнута можа быць толькі за кошт кожнай кроплі Крыві Сына Тваайго».




На марцы пошты Лаосу (1984 г.) выява карціны Антоніа да Карэджа. Самы ласкавы з сыноў чалавечых, разьвітваецца з каханай маці

Гэту галерэю прыкладаў выяваў карцін Сьвятога сямейства, надрукаваных на паштовых марках, можна доўжыць і доўжыць. Але гэта можа зрабіць кожны ахвочы сам для сябе, падбіраючы, перш за ўсё тое, што хоць кропельку наблізіць да большага разуменьня Бібліі.

## Абразы Маці Божай

Сусветная іканаграфія ведае 700 назваў ікон Багародзіцы. Марыялогія вылучае наступныя тыпы: Адзігітрыя («Шляхаводніца»), Аранта («Знаменьне»), Еляуса («Замілаваньне»), і Акафістная.

Вылучаецца асобна тып Агіёсарытыса («Нявеста Ненявестная») — Багародзіца без Дзіцяці Хрыста.

Пошты краін сьвету не ў стане адлюстроўваць усё мноства ікон і кожная краіна выбірае найбольш шануемыя і блізкія для яе народу. Так і я ў сваім артыкуле

вырашыў расказаць аб найбольш шануемых абразах Маці Божай на Беларускай зямлі і аб іконах, якія адлюстравала на сваіх марках Беларуская пошта.

Спрадвеку на нашай зямлі і сярод праваслаўных, і сярод каталікоў культ Багародзіцы быў асаблівы. Маці Божая — Заступніца, Апякунка, Збавіцельніца, Міласэрная... Беларускі народ шмат прыдумаў Ёй іменаў, у якіх — непазбыўная надзея і самая шчырая вера. Можа, таму на Беларусі столькі прыгожых і вельмі жыццёвых легенд аб Яе дзівосным нам зьяўленьні, столькі камянёўсьледавікоў — на іх відаць адбітак зграбнай ступні, і лічыцца, што сьляды пакінула Багародзіца, ходзячы па нашай зямлі, столькі цудатворных ушаноўваемых ікон...




Маці Божая Жыровіцкая на марцы фірмы ZAZZLE

Ікона–акно ў духоўны сьвет, у яе свая мова, праз якую перадаецца духоўная інфармацыя непасрэдна ў патаемныя глыбіні сэрца чалавека. Ікона — гэта сьвята для вока, бо Сьвятыя на вобразах увасабляюць унутраны слых і занатаваньне пачутага Божага Адкрыцьця.

Звыш 300 гадоў Вастрабрамская Божая Маці зьяўляецца асаблівай Заступніцай літоўскіх, беларускіх і польскіх земляў. Прыгожае адлюстраваньне Найсьвяцейшай Марыі Панны са зьлёгку схіленай галавой у арэоле з дванаццаці зорак і шматлікіх праменяў схіляе да роздуму і малітвы.

Далікатная стройная постаць Багародзіцы з прыадкрытымі вачамі і скрыжаванымі на грудзях далонямі абуджае любоў і давер. Несамавітая асалода і лагоднасьць, задуменнасьць і адначасова глыбокая павага выпраменьваюцца з гэтай выявы. Ікона была прывезеная ў Вільню з Крыма з Корсуні Вялікім князем Літоўскім Альгердам. Ён падараваў яе сваёй жонцы, якая ў сваю чаргу прынесла яе ў дар Сьвята-Троіцкай абіцелі, што ўзьнікла на тым месцы, дзе загінулі сьвятыя мучанікі Антоній, Ян, Яўстафій. У 1498 годзе адбылася закладка сьцяны новай і брамы з вялікай вежай у Вострым канцы Вільні. Пабудаваная брама атрымала назву Вострая Брама. У капліца над Вострай Брамай зьмясьцілі цудоўны абраз Вастрабрамскай Божай Маці.




Пошта Летувы адлюстравала цудадзейны абраз на марцы ў 1990 годзе

Каля 1671 г. выява Маці Міласэрнасьці была закрыта срэбранай пазалочанай сукенкай. Сярэбраны паўмесяц з выгравіраваным надпісам: «Падзяку Табе складаю Божая Маці за тое, што Ты выслухала мае просьбы і прашу Цябе, Маці Міласэрнасьці, будзь ласкавая да мяне», які знаходзіцца ў ніжняй частцы абраза — гэта вота з 1849 г. Галаву Божай Маці аздабляюць дзьве кароны. Адна — у стылі барока для Каралевы Нябёсаў, другая — у стылі ракако — для Каралевы Польшчы. Вострая Брама зьвязана таксама з культам Божай Міласэрнасьці. Абраз Божай Міласэрнасьці быў намаляваны ў Вільні і выстаўлены для публічнага

агляду менавіта ў Вострай Браме (26 — 28 красавіка 1935 г.). Тут таксама Сьв. Фаўстына мела абʼяўленьне трыюмфу абраза Божай Міласэрнасьці. Гэтае абʼяўленьне зьдзейсьнілася. Вуснамі тысяч пілігрымаў з усяго сьвету можна сказаць: «Я схіляю галаву, аглядаючы Цябе, Каралеву ўсяго Сусьвету, і прашу Твайго благаслаўленьня».

Цудатворны абраз Маці Божай Чэнстахоўскай ведаюць і шануюць не толькі ў Польшчы. Абразы Маці Божай Чэнстахоўскай ёсьць таксама ў касьцёлах і цэрквах Беларусі і Летувы і большасьць зь іх шануюцца як цудатворныя.



У 1992 г. пошта Польшчы выдалала блёк з выявай Маці Божай Чэнстахоўскай

Чэнстахоўскі абраз Божай Маці адносіцца да ліку 70-ці абразоў, якія напісаў сьвяты «Эвангеліст Лукаш у Ерусаліме ў Сіёнскім храме, у якім Ісус Хрыстос зьдзейсьніў Астатнюю Вячэру. У 66—67 гадах, у час нашэсьця рымскіх войск на Ерусалім, хрысьціяне адышлі ў мястэчка Пеллу і разам з іншымі сьвятынямі яны захоўвалі ў пячорах абраз Божай Маці. Яго ў 326 годзе падаравалі царыцы Алене ў падзяку за адшуканы Жыватворны Крыж Гасподні, і яна прывезла яго ў Канстантынопаль. На землі ВКЛ цудатворны абраз быў прынесены заснавальнікам горада Львова (Лемберга — 1267—1270 гг.) ГаліцкаВалынскім князем Львом Данілавічам і разьмешчаны ў Бельзскім замку. У час татараман-гольскага нашэсьця захопнікі асадзілі замак Бельз. Зьвярнуўшыся за дапамогай да Маці Божай, князь Уладзіслаў вынес ушаноўваемы вякамі абраз з царквы і паставіў на гарадзкой сьцяне. Абраз быў прабіты стралой і зь яго пацякла кроў, сьляды якой назаўсёды захаваліся на палотнішчы, а на варожае войска апусьцілася шкодная імгла, і татары зьнялі асаду і адышлі. Заступніца Нябесная прысьнілася князю і прасіла даставіць цудатворны абраз на Ясную гару Чэнстахоўскую. У 1352 годзе там быў заснаваны манастыр і манахам Паўлінскага ордэна князь Уладзіслаў перадаў каштоўную сьвятыню.




У 2000 г. адбылося сумеснае выданьне маркі з выявай Маці Божай Чэнстахоўскай поштамі Ватыкана і Польшчы. На твары Маці божай выразна відаць раны ад удару мяча разбойніка

Праз некалькі гадоў абіцель была абрабавана, укралі ўсе каштоўнасьці. Пагрузілі на падводу і абраз Маці Божай Чэнстахоўскай, але нябачная сіла ўтрымлівала коней і вазок, на якім яна ляжала, не змог зрушыцца з месца. Тут жа рабаўнікі атрымалі і справядлівую кару: аднаго разарвала на кавалкі, у другога адсохла рука, некаторыя раптоўна памерлі, іншыя асьлеплі.

Ў 1430 г. царква зноў была захоплена і ўдарыў рабаўнік карціну два разы мячом і хацеў ударыць яшчэ, але ўдарыць у трэці раз не пасьпеў, упаў на зямлю і ў агоніі і болю і памёр. Меч разрэзаў на абразе шчаку Маці Божай. Раны ад мяча бачныя на абразе да гэтага часу. У сярэдзіне 17 стагодзьдзя швэдскі кароль Карл X Густаў захапіў

Варшаву, Кракаў і пацярпеў паражэньне пад Чэнстаховам, і гэта ўспрынялі як заступніцтва Маці Божай. Кароль Ян Казімір, вярнуўшыся ў Львоў, абнародаваў маніфэст, у адпаведнасьці зь якім аддаваў сваю дзяржаву пад заступніцтва Божай Маці, называючы Чэнстахоўскі Яе абраз «Польскай Каралевай». Вайна са швэдамі ў 1656 годзе завяршылася пасьпяхова для Польшчы. У спэцыяльнай кнізе Чэнстахоўскага манастыра засьведчана мноства цудаў, якія адбываліся пад «дзеяньнем» абраза Маці Божай, зь якога былі зроблены многія копіі для каталіцкіх і праваслаўных храмаў.




Першай выяву Маці Божай Чэнстахоўскай на сваёй марцы ў 1966 годзе зьмясьціла пошта Ватыкана

Надзейную падтрымку для зьдзяйсьненьня Промысла аб нацыі Гасподзь даслаў праз старажытную ікону Багародзіцы «Непарушная сьцяна». Аранта адна з самых першапачатковых выяваў Царыцы Нябеснай, якая ўпрыгожвае цэнтральную крыпту Менскага кафэдральнага Сьвята-Духава сабора. Арыгінал сьвятыні знаходзіцца ў алтары Кіеўскага Сафійскага сабора. На працягу дзевяці стагодзьдзяў ікона заставалася непашкоджанаю, таму атрымала назву «Непарушная сьцяна». У самыя цяжкія часы яна дапамагала беларуска-ўкраінскім землям. На вялікім паўкружжы ідзе вакол іконы грэчаскі надпіс чорнай мазаікай: «Бог пасярод Яе і нішто не пераменіцца: дапаможа ёй Бог раніцай і пасьля таго». Называюць гэты абраз яшчэ як «Вратарніца» і як «Оранта-абаронца», які на працягу велізарнай колькасьці часу не могуць разбурыць стыхійныя бедзтвы і войны.




Пошта Рэспублікі Беларусь у 2000 годзе сумесна з поштамі Украіны і Расіі выпусьціла блёк 2000-годзьдзе Хрысьціянства. На адной з трох марак блёка (першая зьлева) знаходзіцца рэпрадукцыя іконы Багародзіцы «Непарушная сьцяна» Аранта

У зборы Нацыянальнага мастацкага му-зэя Рэспублікі Беларусь знаходзіцца адзін з нешматлікіх беларускіх абразоў XVI ст., якія захаваліся да нашых дзён — Маці Божая Адзігітрыя Смаленская з Дубянца.




Рэпрадукцыю гэтай іконы можна ўбачыць на марцы, выдадзенай поштай Беларусі ў 1996 годзе

Гэты абраз прадстаўлены ў пастаяннай экспазыцыі старажытнабеларускага мастацтва, бо зьяўляецца ўнікальным помнікам выяўленчага мастацтва і духоўнай культуры беларускага народа.

Гісторыя іканаграфічнага тыпу «Адзігітрыя» узыходзіць да часоў Вялікай Бізантыі, якая зацьвердзіла хрысьціянства дзяржаўнай рэлігіяй і ўзяла на сябе місіянэрскую ношу асьветніцтва хрысьціянскім вучэньнем славянскіх земляў.

Ікона Маці Божая Баркалабаўская зьявілася ў Баркалабаўскім жаночым манастыры непадалёк ад Быхава ў 50-я гады XVII стагодзьдзя. Згодна з гістарычнымі зьвесткамі, яна была захоплена войскамі цара Аляксея Міхайлавіча падчас вайны з Рэччу Паспалітай у адным з храмаў Беларусі. Абраз везьлі на ўсход як каштоўны трафэй. Але калі абоз у 1659 годзе праяжджаў паўз Баркалабаўскі манастыр, коні сталі як укапаныя. Захопнікам нічога не засталося, як пакінуць Адзігітрыю ў ігуменьні манастыра. З таго часу Баркалабаўская ікона стала адной з самых шануемых ва Усходняй Беларусі.

Абраз, якому пакланяліся не толькі праваслаўныя, праславіўся цудамі падчас Паўночнай вайны і вайны 1812 года. Сяляне куплялі ў храмавыя сьвяты васковыя фігуркі свойскай жывёлы і, прыклаўшы іх да іконы, несьлі іх дамоў як найлепшы абярэг для сваёй гаспадаркі.




Ікона Маці Божая Баркалабаўская. Яе адлюстраваньне зьмешчана на марцы Беларусі, выдадзенай у 2009 годзе

У 1920 годзе Баркалабаўскі манастыр закрылі, але ікону сьвятары і прыхаджане зьберaглі. Ікона знаходзіцца ў Царкве Сьвятой Тройцы ў горадзе Быхаве Магілёўскай вобласьці.

У 1658 годзе манах Грыгорый Дубенскі піша копію з Ялецка-Чарнігаўскай іконы — Ільліна-Чарнігаўскую ікону, якая цяпер знаходзіцца ў калекцыі Нацыянальнага Кіева-Пячэрскага гісторыка-культурнага запаведніка. У сваю чаргу Ільліна-Чарнігаўская ікона гэта сьпіс з Замкавай (Навагрудскай) іконы Божай маці, якая прыбыла ў Навагрудак па меркаваньню Васіля Тацішчава і Міколы Ермаловіча ў 1044 годзе з Яраславам Мудрым. 12 лютага 1799 года перад гэтай іконай быў ахрышчаны Адам Міцкевіч і потым, калі ён у трохгадовым узросьце ўпаў з вакна і забіўся, то быў ажыўлены ля Замкавай іконы.




25 кастрычніка 2008 году Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь уводзіць у паштовы зварот блёк з 3-х марак «1020-годзьдзе вадохрышча Русі». На першай марцы выява іконы Маці Божая Ільлінская Чарнігаўская. Ікона паходзіць з Грэцкага Екацярынінскага манастыра ў Кіеве. Цяпер знаходзіцца ў калекцыі Нацыянальнага Кіева-Пячэрскага гісторыка-культурнага запаведніка

Іканапісец Протаіерэй Фёдар Повный зрабіў сьпіс з абраза Уладзімірскай Божай Маці — галоўнай сьвятыні Расіі. Абраз па паданьні быў напісаны яшчэ пры жыцьці Найсьвяцейшай Дзевы Эвангелістам Лукашам на дошцы таго стала, за якім трап-

эзьнічалі Ісус Хрыстос, Марыя і Язэп Заручнік.



22 сакавіка 2005 г. Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь уводзіць у паштовы зварот блёк «Іканапіс Беларусі XXI стагодзьдзя» выдавецтва «Марка» РУП «Белпошта». Адна з марак — Абраз Божай Маці «Уладзімірская» (першая зьлева)

Калі Апостал прынёс гэты абраз, каб паказаць Найсьвяцейшай Багародзіцы, яна сказала: «Мілата Народжанага ад Мяне і Мая з абразам гэтым ды будзе!»

Выява гэтага абраза знаходзіцца і на трэцяй марцы блёку «2000-годзьдзе Хрысьціянства», дзе і раней апісаная рэпрадукцыя іконы Багародзіцы «Непарушная сьцяна» Аранта.

Гэты абраз належыць да іканаграфічнага тыпу Еляўса — Замілаваньне. Іконы гэтага тыпу перадаюць любоў, якая яднае Маці з Сынам. У іх больш падкрэсьліваецца чалавечая натура Хрыста ў адрозьненьне ад Адзігітрыі, дзе акцэнт падае на Боскасьць Ісуса.

Марыя, прадстаўленая да паловы постаці, трымае на правай руцэ Дзіцятка, Якое ласкава туліцца да Яе. Дзіцятка туліцца шчакою да шчакі Маці, абдымаючы Яе за шыю сваёю леваю рукою, а праваю дакранаецца да Яе ключыцы. Марыя схіляе сваю галаву да Сына, паказваючы леваю рукою на Ісуса, як на прадказанага Збаўцу сьвету, адзіную Дарогу, Праўду і Жыцьцё. Твар Марыі засяроджаны, сумны, з вялікімі аліўкавымі вачыма, зьвернутымі на поўны задуменьня тварык Ісуса, які туліцца да Яе. На залаціста-вохрысты, у белай аблямоўцы, акруглы німб Маці Божай заходзіць меншы — крыжовы німб Дзіцятка, таксама залацiста-вохрыстага колеру з дзьвюма грэцкімі літарамі «І» («ёта») — азначае імя Ісус, а «Н» («эта») можа азначаць слова hegemon — правадыр, кароль. Верагодна, гэтыя літары зьяўляюцца скарачэньнем IXEH — Iesus Chrystos eleison hymas і азначаюць наступнае: Ісус Хрыстос, зьмілуйся над намі.

Абраз Маці Божай Будслаўскай намаляваны алеем на палатне памерам 72×65 см, іканаграфічна належыць да заходне-эўрапейскага тыпу Адзігітрыі. На зваротным баку дошкі знаходзіцца надпіс з каштоўнымі зьвесткамі аб гісторыі абраза і зьвесткамі аб аўтары.



6 ліпеня 2013 г. Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь выпусьціла ў зварот блёк «400-годзьдзе прыбыцьця цудатворнага абраза Божай Маці ў Будслаў»

Іканаграфія тыпу Адзігітрыі, трактаваная вольна, у духу італьянскага Рэнесанса. Маці Божая намаляваная да пояса, у чырвонай адзежы, белым галаўным уборы і цёмназялёным мафорыі з карункавай аблямоўкай. Дзіцятка на левай руцэ ў вольнай паставе, у сьветлым хітоне і цёмна-жоўтым плашчы. Пухлыя ручкі працягнутыя да Маці: правая дабраслаўляе, а левай Ісус Хрыстос як бы

дае Маці гранат, шматзначны знак вечнага жыцьця, а таксама Хрысьціянства, шматлікіх вернікаў якога адлюстроўваюць зерні.

На абразе — срэбны аклад, арнамэнтаваны вольна раскінутымі колерамі, і карона з каштоўнымі камянямі. Абраз складзены ў срэбную раму з арабескавым арнамэнтам у стылі позьняга Рэнесансу, у арнамэнт упісаная постаць Сьвятога Казіміра і, магчыма, Сьвятой Ядвігі. Усе гэтыя ўпрыгожваньні належаць да найлепшых узораў ювэлірнага мастацтва ў Беларусі. На абароце дошкі знаходзіцца надпіс з каштоўнымі зьвесткамі пра гісторыю абраза і алтара.

У 1591 г. у Слаўнай Будзе быў узьведзены драўляны касьцёл. Верагодней за ўсё, у гэты час тут зьявіўся абраз Маці Божай, які пазьней быў названы абразом Маці Божай Будслаўскай. У 1598 г. яго атрымаў мінскі ваявода Ян Пац з рук папы Клімэнта VIII. Пасьля сьмерці Яна Паца капэлян Ісаак Салакай у 1613 г. перадаў абраз у кляштар айцоў бернардынаў. Хутка выява Маці Божай Будслаўскай стала адной з самых папулярных на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Зьмешчаны ў касьцёле, гэты абраз з самага пачатку быў шанаваны простымі людзьмі і ў хуткім часе праславіўся шматлікімі цудамі і ласкамі. У 1635 г. ён быў перанесены ў галоўны алтар. Першы цуд апісаны ў 1617 годзе, калі сьляпы пяцігадовы хлопчык Ёзафат Тышкевіч (пазьней вядомы айцец кармэліт), молячыся перад абразом, раптам атрымаў зрок.

Ад пачатку 1990-х аднаўляецца культ абразу. Штогод пачалі адбывацца паломніцтвы пілігрымаў, прымеркаваныя да 2 ліпеня. У 1991–1992 абраз быў рэстаўраваны Віктарам Лукашэвічам. 2 ліпеня 1996 папскі нунцый арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі абвясьціў папскае пасланьне, у якім Маці Божая Будслаўская названая патронкай МенскаМагілёўскае архідыяцэзыі, у народзе лічыцца Апякункай Беларусі. У 1998 кардыналам Казімерам Сьвёнткам цудадзейны абраз Маці Божай Будслаўскай быў каранаваны папскімі каронамі.

Акном, якое зьвязвае сьвет нябесны і зямны, стала, па словах сьвяціцеля Грыгорыя Паламы, Божая Маці: «Вечна дзева Марыя — мяжа створанай і нястворанай прыроды, і Яе, як умясьцілішча Незьмясьцімага, будуць ведаць тыя, хто ведае Бога, і ўхваляць Яе пасьля Бога тыя, хто ведае Бога. Яна грунт тым — хто да Яе ідзе, Яна — Хадайніца за тых, хто пасьля Яе, і Заступніца спрадвечная. Яна — прадмет прароцтваў, пачатак апостальства, сьцьверджаньне мучанікам, падстава настаўнікам. Яна — слава зямных, весялосьць нябесных, упрыгожаньне ўсяго створанага. Яна — па чатак, крыніца нашага спадзяваньня на Нябёсах, якое і дасягнём толькі яе малітвамі за нас, у Славу найперш ад Бога Айца народжанага і ў апошнія часы ад Яе ўцелясьнёнага Ісуса Хрыста Госпада нашага, Яму належыць уся слава, гонар і пакланеньне цяпер, заўсёды і ў векі вечныя».

Маці Божая, просім цябе, маліся за нас грэшных цяпер, назаўжды, і навекі вякоў. Амінь.

## Ян Хрысьціцель у пустынях

Эвангельле згадвае пра дзяцінства Яна сьцісла: «А дзіця расло і мацавалася духам, і заставалася ў пустынях да дня зьяўленьня свайго Ізраілю» (Паводле Лукаша 1:80).

Ян нарадзіўся на паўгода раней за Хрыста. У маладым узросьце адасобіўся ў пустыні Юдэйскай, дзе вёў вельмі строгае аскетычнае жыцьцё. Там ён адчуў паклíканьне абвяшчаць набліжэньне Божага валадарства і пачаў удзяляць хрост пака-

яньня ў Ярдане. Вакол яго сабралася супольнасьць вучняў, да якой спачатку належалі і некаторыя з Апосталаў (Андрэй, Ян).



«Сьв. Ян у пустэльні», фрэска Пінтурыккіо (Pinturicchio. Perugia, 1455- 1513). Музэй Лазаро Гальдыана, Мадрыд. З сэрыі марак (1984 г.) Сувэрэннага Ваеннага Мальтыйскага Ордэна

Па выразу адной царкоўнай малітвы, прарок Ян быў сьветлай ранішняй зоркай, якая сваім цудоўным бляскам перабольшвала зьзяньне ўсіх іншых зорак і прадказвала раніцу добрага дня, які асьвятляўся духоўным Сонцам Хрыстом.



Блёк пошты Сувэрэннага Ваеннага Мальтыйскага Ордэна (2014 г.) «Пропаведзь Яна Хрысьціцеля». Бачыччо (Baciccio, Giovanni Battista Gaulli, 1639. Генуя — 1709. Рым)

«Пачатак Дабравесьця Ісуса Хрыста, Сына Божага, як напісана ў пракракаў: „вось, Я пасылаю анёла Майго перад Табою. […] Голас таго, хто кліча ў пустыні: падрыхтуйце шлях Госпаду, простымі зрабіце сьцежкі Яму". Зьявіўся Ян, хрысьцячы ў пустыні і прапаведуючы хрышчэньне пакаяньня на дараваньне грахоў. І выходзілі да яго ўся краіна Юдэйская і Ерусалімляне; і хрысьціліся ў яго ўсе ў рацэ Ярдане, спавядаючыся ў грахах сваіх. А ў Яна была вопратка зь вярблюджага воласу і скураны пояс на паясьніцы ягонай, і еў акрыды і дзікі мёд. І прапаведаваў, кажучы: ідзе за мною Мацнейшы за мяне, у Якога я ня варты, нахіліўшыся, разьвязаць рэмень абутку Ягонага; я хрысьціў вас вадою, а Ён будзе хрысьціць вас Духам Сьвятым» (Марка 1:1—8).

Асноўнай тэмай пропаведзяў Яна быў заклік да пакаяньня.




На на блёку пошты Сувэрэннага Ваеннага Мальтыйскага Ордэна (2011 г.) выява карціны Джорджа Вазары «Пропаведзь Яна Хрысьціцеля»

Ян Хрысьціцель стаіць у кароткай туніцы на скале, перад ім вялікая група мужчын і дзіця, зьмешчанае на пярэднім пляне. Ян ня быў звычайным прапаведнікам — ён перадаваў людзям волю Бога, як старажытныя старазапаветныя прарокі, і нават больш гэ-

тага, бо на яго сышоў Дух Сьвяты яшчэ ва ўлоньні маці (Паводле Лукаша 1:15). Ісус паказаў на Яна як на прыход прарока Ільлі, якога чакалі (Паводле Мацьвея 11:14; 17:12). «Ян люду, што прыходзіў хрысьціцца ў яго, казаў: выродзьдзе яхідніна? хто намовіў вас уцякаць ад будучага гневу? Прынясеце ж плады годныя пакаяньня, і ня думайце гаварыць самі сабе: „бацька ў нас Абрагам“; бо кажу вам, што Бог можа з камянёў гэтых узьвесьці дзяцей Абрагаму; ужо і сякера пры корані дрэваў ляжыць: бо ўсякае дрэва, якое ня родзіць добрага плоду, сьсякаюць і кідаюць у вагонь. І пыталіся ў яго людзі: што ж нам рабіць? Ён сказаў ім у адказ: у каго дзьве адзежыны, той дай таму, хто ня мае; і ў каго ёсьць ежа, рабі тое самае» (Лукаша 3:7—11).




Пошта Грэнады на блёку (2016 г.) разьмясьціла рэпрадукцыі карцін Ераніма Босха (Hieronymus Bosch). Сярод іншых «Сьв. Ян Хрысьціцель у разважаньні»

У карцінах Босха могуць зьбянтэжыць ці уразіць дробная дэталь, невялікі фрагмэнт і сам па сабе і ў сувязі з цэлай карцінай. Сьв. Ян Хрысьціцель фантастычным пэйзажам, мала падобным на Палестыну 1-га стагодзьдзя. Сьвяты ляжыць сярод узгоркаў, на сакавітай траве. Мэсія яго (як Папярэднiка) ясная па яго поглядзе на ягня — знак Хрыста.

«Пыталіся ў яго таксама і воі: а нам што рабіць? І сказаў ім: нікога ня крыўдзіце, не паклёпнічайце, і задавольвайцеся сваёй платай» (Паводле Лукаша 3:14).




«Пропаведзь Яна» — фрэска Пінтурыккіо. Марка з сэрыі пошты Сувэрэннага Ваеннага Мальтыйскага Ордэна «Ян Хрысьціцель заступнік Ордэна», выдадзенай у1984 г.

Прыняць ад Яна хрост прыйшоў Ісус, і Ян, паказваючы на Яго, сказаў: «Вось Баранак Божы, які бярэ на сябе грахі сьвету».




«Сьвяты Ян Хрысьціцель». Фрэска Карэджа ў купале сабора Пармы на блёку пошты Антігуа і Барбуда (1984)

З пачаткам грамадзкага служэньня Ісуса Хрыста Сьвяты Ян засьведчыў, што яго місія, як Папярэдніка, завяршылася: «Ён мае расьці, а я — малець» (Яна 3:30).

## Хрышчэньне Ісуса Хрыста

*Гэта ёсьць Сын Мой Любасны,*
*Якога Я ўпадабаў.*
*(Паводле Мацьвея 3:17)*

Ісус Хрыстос хрысьціўся ад Яна. Эвангеліст Лукаш расказвае ў Эвангельлі пра нараджэньне Яна Хрысьціцеля, жыцьцё ў пустыні, прапаведаваньне і хрышчэньне. Сам Ісус сказаў, што «сярод народжаных (...) не было большага за Яна Хрысьціцеля».

Гасподзь падрыхтоўваў Яна да вялікага служэньня. Ён павінен быў абʼявіць народу пра хуткі прыход Мэсіі, Ісуса Хрыста, і заклікаць народ да пакаяньня. Так адбывалася тое, пра што прарокі пісалі за сотні гадоў да нараджэньня Яна: «Бо ён той, пра якога напісана: „вось, Я пасылаю анёла Майго перад аблічча Тваім, які падрыхтуе шлях Твой перад Табою“ (Мацьвея 11:10)». «Голас таго, хто кліча: у пустыні падрыхтуйце шлях Госпаду, простымі зрабеце ў стэпе сьцежкі Богу нашаму...» (Ісая 40:3).

Многія пыталіся: «Няўжо Ян той абяцаны мэсія, Збавіцель?». Ян на гэта адказваў: «Ідзе Мацнейшы за мяне».



У 2003 годзе пошта Армэніі выпусьціла блёк з ілюстрацыяй з Бібліі 989 г.

Адлюстроўваючы падзею Хрышчэньня, мастак сумяшчае Хрышчэньне і сашэсьце Сьвятога Духа, што ўвайшло ў традыцыю.

Ва ўзросьце трыццаці гадоў Ісус пакінуў Назарэт і прыйшоў на раку Ярдан каб хрысьціцца ад Яна. Ісус не меў патрэбы хрысьціцца ў пакаяньні, як хрысьціўся народ. Але Ён прыйшоў, каб прыняць хрост і асьвяціць яго Сваім прыкладам, і зрабіць першай і галоўнай Тайнай, дзякуючы якой мы становімся хрысьціянамі, дзецьмі Божымі і сябрамі Ягонай Царквы. Прыйшоў, каб абвясьціць сьвету аб прыходзе Мэсіі, які быў засьведчаны Богам Айцом і Сашэсьцем Сьвятога Духа. Ян жа сказаў Яму: «Мне трэба ў Цябе хрысьціцца, а Ты прыходзіш да мяне?» Але Ён сказаў у адказ яму: «дапусьці цяпер, бо так належыць нам зьдзейсьніць усякую праведнасьць». Тады Ян дапускае Яго. Ахрысьціўшыся, Ісус адразу выйшаў з вады і, вось адчыніліся раптам нябёсы, і ўбачыў Ян Духа Божага, які сыходзіў, як голуб, на Ісуса Хрыста. І голас з неба Бога Айца гучна прамовіў: «Гэта ёсьць Сын Мой Любасны, Якога Я ўпадабаў».



У 2004 годзе пошта Армэніі выпусьціла блёк, які зьмяшчае фрэскі з царквы ў Віфлееме — «Вадохрышча Хрыста Янам на рацэ Ярдан»



«Хрышчэньне Хрыста». Выява карціны Анібале Карраччы (1584г. Царква Сьв. Грыгорыя. Балоньня). Блёк Грэнады (2013 г.)

У знакамітай галерэі Уффіці ў Флярэнцыі захоўваецца карціна флярэнтыйскага майстра другой паловы 15 в. Андрэа Верок'ё «Хрышчэньне Хрыста». Але ў каталёгу яна ідзе яшчэ як твор Леанарда да Вінчы. Бо анёл на пярэднім пляне зьлева намаляваны юным вучнем Верок'ё Леанардам да Вінчы. Гэты анёл парушае гледача, як вобраз новага сьвету, які нясе Хрыстос.




Андрэа Верок'ё, «Хрышчэнне Хрыста» на блёку пошты Сувэрэннага Ваеннага Мальтыйскага Ордэна (1985 г.)

«Хрышчэньне Хрыста» — адзіная карціна, пра якую пэўна вядома, што яна прыналежала алтарнаму цыклу, напісанаму для школы «абутых» аўгустынаў у Мадрыдзе.




Эль Грэка «Хрышчэньне Хрыста» (1596—1600, Мадрыд, Прада) на марцы Экватарыяльнай Гвінэі, выпушчанай у 1976 годзе

Ян Хрысьціцель лье на галаву Хрыста Сьвятую ваду, якая нібы выходзіць з зіхатлівага Сьвятла, падараванага Богам Бацькам і Сьвятым Духам, знакам якога зьяўляецца голуб. Уся карціна напоўненая адчуваньнем духоўнасці.




«Хрышчэньне Хрыста». Выява карціны Анібале Карраччы, (1584г. Царква Сьв. Грыгорыя. Балоньня). Блёк Сувэрэннага Ваеннага Мальтыйскага Ордэна (2017 г.)

«Тады Ісус быў паведзены Духам у пустыню, на спакушэньне ад д'ябла.



На марцы пошты Швэйцарыі (картмаксімум 1965 г.) росьпіс столі 12 ст. царквы Сьв. Марціна ў Зіліс (Zillis): д'ябал угаворвае Хрыста, ператварыць камяні ў хлеб

І, пасьціўшы сорак дзён і сорак начэй, напасьледак згаладаўся. І падступіўся да Яго спакусьнік і сказаў: калі Ты Сын Божы, скажы, каб камяні гэтыя сталі хлябамі. А Ён

сказаў яму ў адказ: напісана: «ня хлебам адным будзе жыць чалавек, а ўсякім словам, якое зыходзіць з вуснаў Божых»» (Мацьвея 4:1—4).

Дэталь карціны Тыцыяна, на якой Хрыстос спакушаецца маладым д'яблам у абліччы прыгожага нявіннага юнака, які намаўляе Хрыстаператварыць камень ў хлеб, даказваючы, што ён сапраўды Сын Божы.




«Спакуса Хрыста». Дэталь карціны Тыцыяна (Тыцыяна Vecelli) на марцы пошты краіны Сэнт-Вінсэнт (1989 г.)




На лісьце пошты Мазамбіку (2011 г.) адна з марак адлюстроўвае карціну Дуча ды Буанінсенья «Спакуса на гары»

«Тады бярэ Яго д'ябал у сьвяты горад і ставіць Яго на крыле храма, і кажа Яму: калі Ты Сын Божы, кінься ўніз; бо напісана: „Анёлам Сваім накажа пра Цябе, і на руках панясуць Цябе, каб не спатыкнуўся Ты аб камень нагою Тваёю". Сказаў яму Ісус: напісана яшчэ: „не спакушай Госпада Бога твайго". Зноў бярэ Яго д'ябал на вельмі высокую гару, і паказвае Яму ўсе царствы сьвету і славу іх, і кажа Яму: усё гэта Табе дам, калі ўпаўшы паклонішся мне. Тады кажа яму Ісус: адыдзі ад мяне, сатана; бо напісана: „Госпаду Богу твайму пакланяйся, і Яму аднаму служы". Тады пакідае Яго д'ябал, — і вось, анёлы прыступілі і слугавалі Яму» (Паводле Мацьвея 4:5—11).



Пошта Ватыкану (1996 г.) на марцы адлюстравала старонку манускрыпту з ілюстрацыяй «Спакуса ў пустыні»

Усе тры спакусы Хрыста намаляваў Сандра Бацічэлі на фрэсцы ў Сыкстынскай капэле.




Выява фрэскі Сандра Бацічэлі (1455—1510) «Тры спакусы Хрыста» (Сыкстынская капэла, Ватыкан) на марцы пошты Ватыкана (2002 г.)

Зьлева ўгары — д'ябал угаворвае Хрыста, ператварыць камяні ў хлеб. У цэнтры ўгары — д'ябал, замаскіраваны, як пустэльнік спрабуе пераканаць Хрыста кінуцца ўніз. Справа ўгары — д'ябал паказвае Сыну Бога бляск сусьветнага багацьця, якое ён яму прапануе. Аднак, Хрыстос адганяе д'ябла, і той паўстае ў праўдзівым, д'ябальскім выглядзе. Побач, тры анёла падрыхтавалі

стол да імпрэзы эўхарыстыі і сталі служыць Хрысту.

Спакушэньне Збавіцеля ў пустыні зьяўляецца сымбалям для кожнага чалавека. Нават самыя моцныя людзі баяцца і пакутуюць, хочуць улады і багацьця, спрабуюць адмовіцца ад заганаў сумленьня і Дэкалёгу. Як аказаць супраціўленьне такім праяўленьнем зла, як расьсеяць цемру чалавечага сэрца? Як знайсьці Бога сярод розных праблемаў і стварыць у сабе такі стан духа, які дазволіў бы адрозьніць Сьвятло ад цемры, праўду ад маны, свабоду ад рабства?




У 2000 годзе пошта Расіі выпусьціла марку з рэпрадукцыяй карціны Івана Крамскога «Хрыстос у пустыні»

У гэтым творы няма дзеяньня, але бачна паказана жыцьцё духу, праца думкі. Ногі Хрыста зраненыя вострымі камянямі, постаць паніклая, рукі пакутліва сьціснутыя, над пахіленай галавой незаўважаемы Ім цячэ і цячэ час. А тым часам змардаваны твар Хрыста перадае ня толькі пакуту, але, насуперак усяму, выяўляе неверагодную сілу волі і гатовасьць зрабіць першы крок па камяністым шляху, які вядзе да Галгофы. Спакуса, што зьдзейсьнілася з Хрыстом у пустэльні, здараецца з кожным з нас.

Мы ня можам праводзіць час у кельлях пустэльнікаў, каб задумацца над уласнай верай і глыбінёй сваёй сувязі з Богам. Аднак… Калі хто хоча выратаваць сябе, то павінен умець стварыць сабе такія ўмовы, каб увайсьці ў найбліжэйшы кантакт з Богам. Таму «пустыняй» можа быць кожнае месца цішыні і роздуму, дзе кожны робіць рахунак сумленьня для сябе і падрыхтоўваецца для далейшай дзейнасьці.

Пасьля спакушэньня д’яблам Ісус вяртаецца з пустыні. Гэту падзею адлюстраваў у сваім творы мастак Аляксандр Іваноў. Яго адправілі ў Італію вучыцца мастацтву, а ён застаўся там аж на 28 гадоў. У Італіі пачаў працу над манумэнтальным палатном «Яўленьне Хрыста народу». Час ішоў, а канца працы не было відаць. Дваццаць гадоў патраціў мастак, каб стварыць гэты цуд. У цэнтры карціны Ян у акружэньні народу “ у вопратцы з вярблюджага воласу і скураны пояс на паясьніцы ягонай». «На другі дзень бачыць Ян Хрыста, Які ідзе да яго, і кажа: вось Ягня Божае, Якое бярэ на Сябе грэх сьвету…» (Паводле Яна 1:29).




Аляксандр Іваноў «Яўленьне Хрыста народу». У 2000 г. пошта Расіі выпусьціла блёк з рэпрадукцыяй гэтага цудоўнага твору

Сярод тых хто сабраўся на беразе Ярдану багатыя і бедныя, знатныя і прыніжаныя, моцныя і ўбогія, юнакі і старцы, мудрыя і прастадушныя, добрыя і злыя…

Адныя вераць словам Яна, другія не, іншыя задумаліся. Не ўсе хочуць, каб сьвет зьмяніўся і дабро перамагло зло. Багатым шкада свайго багацьця, уладары баяцца згубіць уладу… Сымэтрычна Яну разьмешчана постаць раба. Раб прысеў ля свайго ўладальніка, твар якога невідочны, але ўся фігура раскрывае яго статус. Раб у момант

пачатку адзяваньня пана пачуў словы Яна. На яго твары з прывычным выразам пакуты ўпершыню засьвяцілася надзея. Але не толькі. Тут і радасьць, недавер, насьмешка і добрая ўсьмешка, якая ўпершыню зьявілася на гэтым змучаным твары.

Працуючы над карцінай мастак зрабіў вельмі многа эскізаў, шукаючы адпаведныя варыянты. Гэтыя эскізы набылі самастойнае жыцьцё пад назвай «Біблейскія эскізы».

Калі пасьля амаль 30-гадовага камуністычнага выхаваньня мне давялося з забітай беларускай вёсачкі трапіць у Трацякоўскую галерэю і ўбачыць гэту карціну, да мяне ўпершыню прыйшоў Бог. Яна адна з мноства іншых карцін засталася ў памяці назаўсёды і стала першым штуршком на пошук дарогі да ісьціны. Так як народ на карціне Іванова я ўпершыню ўбачыў Хрыста, які як бы зьявіўся і мне так сама, як тым людзям на беразе Ярдана...

## Пакліканьне першых вучняў

«А праходзячы каля мора Галілейскага, угледзеў Ён двух братоў: Сымона, якога завуць Пятром, і Андрэя, брата ягонага, якія закідвалі мярэжы ў мора, бо яны былі рыбакі. І кажа ім: ідзеце за Мною, і Я зраблю вас лаўцамі людзей. І яны адразу, пакінуўшы мярэжы, пайшлі за Ім. Адтуль прайшоўшы далей, угледзеў Ён іншых двух братоў, Якава Завядзеевага і Яна, брата ягонага, у лодцы з Завядзеем, бацькам іхнім, якія ладзілі мярэжы свае, і заклікаў іх. І яны адразу, пакінуўшы лодку і бацьку свайго, пайшлі за Ім» (Мацьвея 4:18—22).

Найболей поўна аповяд Мацьвея ілюструе ватыканская фрэска Даменіка Гірландая. Яна вядомая пад назвай «Пакліканьне Апосталаў Пятра і Андрэя», але ўважлівы погляд глядача можа выявіць, што мастак намаляваў таксама пакліканьне Якава і Яна. На фрэсцы тры моманты гэтай падзеі.




Фрэска Даменіка Гірландая, адлюстраваная на блёку пошты Маўрытаніі (2003 г.)

Хрыстос ідзе па беразе возера зьлева направа — «Адтуль, ідучы далей...» (Паводле Мацьвея 4:21); у левай частцы фрэскі на заднім пляне Хрыстос зьвяртаецца да Пятра і Андрэя, якія знаходзяцца ў лодцы; у цэнтры на пярэднім пляне Хрыстос, відавочна, прамаўляе свае галоўныя словы: «Ідзіце за Мною, і Я зраблю вас лаўцамі чалавекаў». Апосталы стаяць перад Ім укленчаныя; нарэшце, у правай частцы фрэскі на заднім пляне Хрыстос ужо ў суправаджэньні Пятра і Андрэя зьвяртаецца да Якава і Яна, якія сядзяць разам зь іх бацькам у лодцы.

Марк пакліканьне вучняў апісвае так: А праходзячы каля мора Галілейскага, убачыў Сымона і Андрэя, брата ягонага, якія закідвалі мярэжы ў мора, бо яны былі рыбакі. І сказаў ім Ісус: ідзеце за Мною, і Я зраблю вас лаўцамі людзей. І яны адразу, пакінуўшы мярэжы свае, пайшлі за Ім. І прайшоўшы адтуль далей, Ён угледзеў Якава Зевядзеевага і Яна, брата ягонага, таксама ў лодцы; яны ладзілі мярэжы, і адразу заклікаў іх. І яны, пакінуўшы бацьку свайго

Зевядзея ў лодцы з работнікамі, пайшлі за Ім» (Марка 1:16—20).

«...Яны злавілі вялікае мноства рыбы, і нават мярэжа ў іх рвалася. І далі знак супольнікам, якія былі ў другой лодцы, каб прыйшлі пасобіць ім, і прыйшлі, і напоўнілі абедзьве лодкі, так што яны пачалі тануць. Убачыўшы гэта, Сымон Пётр прыпаў да каленяў Ісуса і сказаў: выйдзі ад мяне, Госпадзе! бо я чалавек грэшны. Бо жах агарнуў яго і ўсіх, хто быў зь Ім, ад гэтага ўлову рыбы, імі злоўленае; таксама і Якава і Яна; сыноў Зевядзеевых, якія былі супольнікамі Сымону. І сказаў Сымону Ісус: ня бойся; ад сёньня будзеш лавіць людзей. І выцягнуўшы абедзьве лодкі на бераг, пакінулі ўсё і пайшлі сьледам за Ім» (Лукаша 5:1—11).




Адной з самых значных прац Рафаэля стала папская замова на дзесяць габэленаў для Сыкстынскай Капэлы, якія ілюструюць Эвангельскія сцэны з жыцьця Апосталаў Пятра і Паўла. Габэлен «Цудоўная лоўля рыбы» на марцы Рэспублікі Малаві (1983 г.), малюе сюжэт аднаго з цудаў Ісуса

Што да вучняў Ісуса, то першым зь іх Лукаш згадвае ў гэтым эпізодзе Пятра. Ён і ў Рафаэля намаляваны бліжэй усіх да Хрыста. Перад Выратавальнікам Пётр стаіць на каленях. За ім Андрэй — жэст яго рук выяўляе зьдзіўленьне. Двое рыбакоў у другой лодцы, якія цягнуць сеткі, — Якаў і Ян. Трэці ў іх лодцы — іх бацька Зэбэдэй. Рафаэль малюе, як яны насілу цягнуць сець, поўную рыбы.

Цудоўная лоўля рыбы ёсць правобразам Божага пакліканьня для Апосталаў. З гэтага часу яны перасталі займацца рыбнай лоўляй, але сталі на шлях служэньня Богу — «лаўцамі чалавекаў» для Царства Божага.




Гэтая думка перададзена на блёку пошты Летувы (2000 г.). Пётр і Андрэй яшчэ трымаюць у руках сеці, але ў наступны момант стануць «лаўцамі чалавекаў»

Хоць сюжэт пакліканьня Пятра і Андрэя сустракаецца ў заходнім жывапісе найболей часта, вядомыя прыклады ілюстраваньня пакліканьня другой пары вучняў — Якава і Яна, сыноў Зэбэдэя. Аб гэтым карціна (1510г.) Марка Базаіці.




Гэты эпізод зьмясціла на сваёй марцы пошта Емену ў 1969 годзе

Хрыстос стаіць на беразе возера; Яго суправаджаюць ужо Пётр і Андрэй; з лодкі, што прычаліла да берага, выходзяць Якаў і Ян, першы ўжо схіліў калені перад Хры-

стом, які благаслаўляе яго. Не гледзячы на тое што і Мацьвей і Марк, чые аповяды мог мець на ўвазе мастак, аднадушныя ў сьцвярджэньні, што Якаў і Ян пакінулі «лодку і бацьку свайго», Базаіці малюе, што іх бацька, таксама робіць крок з лодкі.

Аб пакліканьні часта думаем у кантэксьце пакліканьняў Сьвятарскіх і манаскіх. Але, ці не датычыць пакліканьне кожнага з нас? Бо ў рэшце рэшт, Бог заклікае кожнага з нас да выкананьня нашай ролі.



Пошта Бэльгіі выпусьціла ў абарачэньне ў 1992 г. блёк, на якім старонка з Служэбніка 1487 года. Пётр і Анрэй суправаджаюць Хрыста, Які бласлаўляе Якава і Яна, што схілілі перад Ім калені

Хтосьці могуць быць добрымі бацькамі, хтосьці адчувае пакліканьне быць добрым урачом або настаўнікам, або звычайным добрым работнікам. Як знайсьці гэта ў сабе? Як пачуць голас пакліканьня? Часам гэта проста, бо мы «ад пачатку» ведаем, кім мусім быць. І, часам гэта нам удаецца, а часам не. Я з раньняга ўзросту быў упэўнены, што буду лётчыкам. Не адбылося. Ці азначае гэта, што жыву не па прызначэньню? Не думаю, пэўна маё жыцьцё было скарэктавана. Ці я ад пачатку памыляўся і не зразумеў сваё пакліканьне? Толькі як яго зразумець? Як пачуць і не сысьці з правільнага шляху?




Продкі Ісуса Хрыста: «Элеазар», «Матан», «Якаў», Язэп», «Ёсія», «Еханія», «Аса», «Ёсафат», «Зарававель», «Эліякім», «Азор», «Садок». Ватыкан, 1991 г. Сэрыя «Аднаўленьне Сыкстынскай капэлы». Фрэскі ў люнэтах, Мікеланджэла Буанароці (1475—1564)

# Грамадзкае служэньне Ісуса Хрыста ратаваньню людзей

## Цуд у Кане Галілейскай

*Так заклаў Ісус пачатак цудаў у Кане Галілейскай і зьявіў славу Сваю; і ўверавалі ў Яго вучні Ягоныя. (Паводле Яна 2:11)*

«На трэці дзень было вясельле ў Кане Галілейскай, і Маці Ісусава была там. Быў таксама запрошаны Ісус і вучні Ягоныя на вясельле. І як не хапала віна, дык Маці Ісусава кажа Яму: віна няма ў іх. Ісус кажа Ёй: што Мне і Табе, жанчына? яшчэ ня прыйшла гадзіна Мая. Маці Ягоная сказала слугам: што скажа Ён вам, тое і зрабіце. А было там шэсьць каменных посудаў на ваду, якія стаялі паводле звычаю ачышчэньня Юдэйскага, умяшчаючы ў сябе па дзьве ці па тры меры. Ісус кажа ім: напоўніце посуды вадою. І напоўнілі іх па бераг. І кажа ім: цяпер чэрпайце і нясіце да распарадчыка вясельля. І панесьлі. А калі распарадчык скаштаваў вады, якая зрабілася віном, — а ён ня ведаў, адкуль гэтае віно, ведалі толькі слугі, якія чэрпалі ваду, — тады распарадчык кліча маладога і кажа яму: кожны чалавек падае спачатку добрае віно, а калі паўпіваюцца, тады горшае; а ты добрае віно зьберог дагэуль» (Паводле Яна 2:1—10).

Повадам да цуду стала прысутнасьць на вясельлі Маці Ісуса і Яе поўная даверу просьба. Ісус, здаецца, не зьбіраўся зьдзяйсьняць гэты першы цуд на вясельлі. Але, бачачы вялікую веру і даверлівасьць Яго Маці, убачыўшы Яе спагаду да вясельных гасьцей, выканаў Яе просьбу.

Вера Маці ў Сына застаецца ўзнагароджанаю. Ісус, якому Яна цалкам аддае ініцыятыву, зьдзяйсьняе цуд, прызнаючы адвагу і пакору Маці.

Просьба Марыі: «...што скажа Ён вам, тое і зрабіце» (Паводле Яна 2: 5), застаецца заўсёды актуальнай для хрысьціян кожнай эпохі, а яе мэта — аднавіць цудоўныя вынікі ў жыцьці кожнага чалавека.




Пошта Рэспублікі Емэн у 1969 г. адлюстравала на марцы карціну (1499—1518) Франчэска Хаэндрыкса (Francesco Haendricks) «Вясельле ў Кане», дзе занатаваны момант, калі слугі выконваюць загад Ісуса: «Напоўніце посуды вадою»

У Кане Галілейскай першы цуд Ісуса вельмі незвычайны ў параўнаньні з іншымі вядомымі з кніг Эвангельля. Няма тут простых адносінаў — уверуваў, таму стаў вылечаным. Ёсьць затое просьба Маці, упэўненай, што яе Сын можа дапамагчы. Ці Маці адмаўляюць?

Ці з-за гэтага цуду вучні ўверавалі ў Ісуса? Ці абавязкова патрэбен цуд, каб паверыць? А калі б цудаў не было? Ці вучэньне

Ісуса само па сабе здольнае людзей веруючымі зрабіць, калі яны хочуць жыць паводле Эвангельля?




Хуан дэ Фландэс, «Вясельле ў Кане», 1500 г., (Мэтрапалітэн-музэй, Нью-Ёрк). Пошта Гамбіі (1996 г.)

Пэрспэктыва 2000 гадоў паказвае, што гэта так. Апісаныя апосталамі цуды прымаем «на веру» не ўнікаючы ў сутнасьць зьявы. Ператварэньне вады ў віно? Ну, калі так напісана, то можа быць. Нарэшце, ці гэта важна? Але вера ў Бога гэта не вера ў больш ці менш уражлівыя цуды. І гэта не значыць, што ў нашых малітвах не просім часам цуду. І здараецца, што Бог нас чуе...




У 1972 годзе пошта Арабскага Эмірату Аджман выпусьціла сэрыю марак, на якіх адлюстраваны рэпрадукцыі фрэсак Джота ў Капэле Скравены (Падуя). Адна з фрэсак — «Вясельле ў Кане Галілейскай» (1304—1306). Цуд ужо адбыўся: кіраўнік вясельля, даволі камічнага выгляду, каштуе ваду, што стала віном. Фрагмэнт фрэскі

Эпізод вясельнага сьвяткаваньня ў Кане Галілейскай заахвочвае нас быць адважнымі ў веры і сьведчыць у нашым жыцьці аб праўдзе Эвангельскіх слоў: «Прасеце, і дасца вам; шукайце, і знойдзеце; стукайцеся, і адчыняць вам...» (Паводле Мацьвея 7:7).




У стылі сярэднявечнага вітражу «Вясельле ў Кане» паказана на марцы пошты Польшчы (2000 г.)

Дзьве тэмы выразна падкрэсьліваюцца мастаком вылучэньнем дзьвюх пар: Хрыстос і Марыя, жаніх і маладая. І гучыць агульная тэма сям'і.



«Шлюб у Кане Галілейскай». Картмаксімум з рэпрадукцыяй карціны Вэранэзэ (Paolo Veronese) і спэцгашэньнем з партрэтам мастака. Ватыкан, (1988 г.)

Не пазбаўлена значэньня, што Ісус зрабіў першы цуд, пасьля таго, як Ён разьвітаўся з жыцьцём у сям'і і распачаў грамадзкае жыцьцё, і што Ён зрабіў цуд у час стварэньня сямейнага жыцьця маладой пары на радасьць прысутным. Тым самым важнасьць утварэньня сямы і сямейнага жыцьця ўхвалена асаблівым чынам.

## Хрыстос і самаранка

У Швэйцарыі ў маленькай вёсцы Zillis стаіць Царква Сьв. Марціна, якую завуць «Сыкстынскай капэлай Альп». Царква славіцца сваёй размаляванай стольлю 12 стагодзьдзя. Размалёўка столі, якая складаецца з 153 панэляў, зьяўляецца адзінай у Сьвеце, якая амаль цалкам захавалася.




Выяву аднаго з малюнкаў размясьціла на марцы (1967 г.) пошта Швейцарыі

Выява маркі ілюструе наступную пазею з Бібліі: «А меўся Ён праходзіць праз Самарыю. І вось прыходзіць Ён да горада Самарыйскага, называнага Сіхар, паблізу дзялянкі зямлі, дадзенай Якавам сыну свайму Язэпу, там быў калодзеж Якаваў. Ісус, стаміўшыся з дарогі, сеў каля калодзежа; было каля шостай гадзіны. Прыходзіць жанчына з Самарыі зачарпнуць вады. Ісус кажа ёй: дай Мне напіцца. Бо вучні Ягоныя адлучыліся ў горад купіць ежы. Жанчына Самаранская кажа Яму: як Ты, Юдэй, просіш піць у мяне, Самаранкі? бо Юдэі з Самаранамі ня зносяцца. Ісус сказаў ёй у адказ: калі б ты ведала дар Божы, і Хто кажа табе: дай Мне напіцца, — дык ты сама прасіла б у Яго, і Ён даў бы табе вады жывое.

Жанчына кажа Яму: Спадару! Табе і зачарпнуць няма чым, а калодзеж глыбокі: адкуль жа ў Цябе вада жывая? Няўжо Ты большы за бацьку нашага, Якава, які даў нам гэты калодзеж, і сам зь яго піў, і дзеці ягоныя, і быдла ягонае? Ісус сказаў ёй у адказ: кожны, хто п'е ваду гэтую, спрагнецца зноў; а хто будзе піць ваду, якую Я дам яму, той не спрагнецца вавек; а вада, якую Я дам яму, зробіцца ў ім крыніцай вады, якая пацячэ ў жыцьцё вечнае. Жанчына кажа Яму: Спадару! дай мне гэтай вады, каб ня мецць мне смагі і ня прыходзіць сюды чэрпаць. Ісус кажа ёй: ідзі, клікні мужа твайго і прыйдзі сюды. Жанчына сказала ў адказ: няма ў мяне мужа. Ісус кажа ёй: праўду ты сказала, што ў цябе няма мужа; бо ў цябе было пяць мужоў, і той, якога сёньня маеш, ня муж табе; гэта слушна ты сказала.




«Хрыстос і самаранка». Ілюстрацыя з малітоўніка 1403—1404 г. Марка Харваты (2003 г.). Выдадзена з нагоды 600-ай гадавіны напісаньня малітоўніка. На марцы Шаржы (1971 г.) самаранка — стройная маладая жанчына ў туніцы з прыгожай прычоскай, у руках у яе збан з вадою. Перад самаранкай Выратавальнік у выяве маладога чалавека, прыгожага, у туніцы і плашчы, накінутым на левае плячо

Жанчына кажа Яму: Госпадзе! бачу, што Ты прарок; бацькі нашыя пакланяліся на гэтай гары; а вы кажаце, што месца, дзе трэба пакланяцца, у Ерусаліме. Ісус кажа ёй: павер Мне, што настане час, калі і не на гары гэтай, і не ў Ерусаліме будзеце

пакланяцца Айцу. Вы ня ведаеце, чаму кланяецеся; а мы ведаем, чаму кланяемся, бо збаўленьне ад Юдэяў; але настане час, і настаў ужо, калі сапраўдныя паклоньнікі будуць пакланяцца Айцу ў духу і праўдзе, бо такіх паклоньнікаў Айцец шукае Сабе: Бог ёсьць дух, і тыя, што пакланяюцца Яму, павінны пакланяцца ў Духу і праўдзе. Жанчына кажа Яму: ведаю, што прыйдзе Мэсія, гэта значыць, Хрыстос; калі Ён прыйдзе, дык абвесьціць нам усё. Ісус кажа ёй: гэта Я, Які гавару з табою. У гэты час прыйшлі вучні Ягоныя і зьдзівіліся, што Ён гутарыў з жанчынаю; аднак жа ніводзін не сказаў: чаго Ты патрабуеш? альбо: пра што Ты гутарыш зь ёю? Тады жанчына пакінула посуд свой і пайшла ў горад, і кажа людзям: ідзеце, паглядзеце Чалавека, Які сказаў мне ўсё, што я зрабіла: ці ня Ён Хрыстос? Яны выйшлі з горада і пайшлі да Яго» (Яна 4:4—30).




Пошта Емену ў 1969 г. размясьціла на марцы рэпрадукцыю карціны Марэтта ды Брэшыа Алессандро Бонвічына «Хрыстос і самаранка»

На першы погляд, звычайная сустрэча пры калодзежы. Але тут, каля студні ў мляві поўдзень беднай і грэшнай самаранцы было зроблена першае поўнае тлумачэньне Хрыстом свайго мэсіянства, вымаўленыя словы былі несмяротныя шматзнамянальныя, якія ўсе наступныя стагодзьдзі павінны былі слухаць, так бы мовіць, з затоеным дыханьнем і на каленях. У гутарцы Хрыста з самаранкай закрануты прынамсі дзьве тэмы: 1) пра ваду жывую і 2) пра выратаваньне праз глыбокую пашану БогуБацьку.

У розныя пэрыяды гісторыі хрысьціянскага мастацтва гэты біблейскі аповяд узбуджаў то большую, то меншую цікавасьць у мастакоў.

Ці не гэты момант размовы тут адлюстраваны: «Жанчына кажа Яму: ведаю, што прыйдзе Мэсія, гэта значыць, Хрыстос; калі Ён прыйдзе, дык абвесьціць нам усё. Ісус кажа ёй: гэта Я, Які ґавару з табою» (Яна 4:25,26).




На жаль пошта Гішпаніі (1969 г.) не перадала колераў карціны Алонса Кано, якога называюць «Мікеланджэла гішпанскага Залатога стагодзьдзя», а надрукавалі яе ў адным нябескім колеры, магчыма, намякаючы гэтым на тэму «жывой вады»




Карціну Рэмбрандта «Хрыстос і самаранка» (1655 г., Нью-Ёрк, Мэтрапалітэн-музэй) надрукавала пошта Гранады-Грэнадынас у 1993 годзе

Жэст Ісуса накіраваны ўдалячынь, да вучняў зьвернуты, якія вярнуліся: «А Я кажу вам: узьвядзіце вочы вашыя і паглядзіце на нівы, як яны папалавелі і высьпелі да жніва...» (Паводле Яна 4:35)

«Жанчына кажа Яму: Спадару! Табе і зачарпнуць няма чым, а калодзеж глыбокі: адкуль жа ў Цябе вада жывая? Няўжо Ты большы за бацьку нашага, Якава, які даў нам гэты калодзеж, і сам зь яго піў, і дзеці ягоныя, і быдла ягонае? Ісус сказаў ёй у адказ: кожны, хто п'е ваду гэтую, спрагнецца зноў; а хто будзе піць ваду, якую Я дам яму, той не спрагнецца вавек; а вада, якую Я дам яму, зробіцца ў ім крыніцай вады, якая пацячэ ў жыцьцё вечнае» (Паводле Яна 4:11—14).

У Эвангельлі ад Яна Ісус і тыя, дакаго Ён зьвяртаецца, заўсёды кажуцьна розных мовах: Ён ім пра нябеснае, яны ў адказ — пра зямное. Ён ніколі не пераходзіць на іх мову, і толькі парой зьдзіўляецца. Зьдзіўляецца і цяпер: «...колькі часу Я з вамі, і ты не знаеш Мяне...?»

Што можна сказаць у адказ?

## Цудоўны лоў рыбы

«Аднойчы, калі люд ціснуўся да Яго, каб чуць слова Божае, а Ён стаяў каля возера Генісарэцкага, убачыў Ён дзьве лодкі, якія стаялі на возеры; а рыбакі, выйшаўшы зь іх, вымывалі мярэжы. Увайшоўшы ў адну лодку, якая была Сымонава, Ён прасіў яго адплыць крыху ад берагу, і сеўшы, вучыў людзей з лодкі. А калі перастаў вучыць, сказаў Сымону: адплыві на глыбокае, і закіньце мярэжы свае для лову. Сымон сказаў Яму ў адказ: Настаўнік! мы працавалі ўсю ноч і нічога не злавілі; але па слове Тваім закінем мярэжу. Зрабіўшы гэта, яны злавілі вялікае мноства рыбы, і нават мярэжа ў іх рвалася. І далі знак супольнікам, якія былі ў другой лодцы, каб прыйшлі пасобіць ім, і прыйшлі, і напоўнілі абедзьве лодкі, так што яны пачалі тануць. Убачыўшы гэта, Сымон Пётр прыпаў да каленяў Ісуса і сказаў: выйдзі ад мяне, Госпадзе! я чалавек грэшны. Бо жах агарнуў яго і ўсіх, хто быў зь Ім, ад гэтага ўлову рыбы, імі злоўленае; таксама і Якава і Яна; сыноў Зевядзеевых, якія былі супольнікамі Сымону. І сказаў Сымону Ісус: ня бойся; ад сёньня будзеш лавіць людзей. І выцягнуўшы абедзьве лодкі на бераг, пакінулі ўсё і пайшлі сьледам за ім» (Паводле Лукаша5:1—11).

Дакладна гэтай падзеі адпавядае карціна Рафаэля «Цудоўная лоўля рыбы». Гэта адна з самых значных прац Рафаэля выкананая па папскай замове на дзесяць габэленаў, якія ілюструюць эвангельскія сцэны з жыцьця апосталаў Пятра і Паўла і прызначаных для Сыкстынскай Капэлы. Яны сталі ўзорамі манумэнтальнага апавяданьня пра біблейскія падзеі ў выяўленчым мастацтве як Станцы Ватыкана.



Пошта Ватыкана ў 1963 г. выдала сэрыю з чатырох марак, дзьве зь якіх адлюстроўваюць фрагмэнт габэлена «Цудоўная лоўля рыбы» Рафаэля. Каб больш поўна паказаць знакаміты твор, выпушчаны адпаведны картмаксімум

Той факт, што Ісус намаляваны Рафаэлем у лодцы, даказвае, што мастак меў на ўвазе аповед менавіта Лукаша, паколькі толькі ў ім гаворыцца, што Ісус знаходзіўся

ў лодцы. Што да вучняў Ісуса, то першым зь іх Лукаш згадвае ў гэтым эпізодзе Пятра. Ён і ў Рафаэля намаляваны бліжэй усіх да Хрыста. Перад Збаўцам Пётр стаіць на каленях: «Выйдзі ад мяне, Госпадзе! бо я чалавек грэшны». За ім Андрэй (Лукаш не называе яго імя) — жэст яго рук выяўляе зьдзіўленьне. У другой лодцы двое рыбакоў, якія цягнуць сеткі, Якаў і Ян. Трэці — іх бацька Зевядзей. Рафаэль малюе, як яны насілу цягнуць сеткі, поўныя рыбы.

Вялікае зьдзіўленьне ахапіла Пятра і ўсіх, хто быў зь Ім. Са зьдзіўленьня пачалося пакліканьне вучняў, але толькі адзін з усіх бачыўшых той цудоўны лоў рыбы Сымон Пётр «прыпаў да каленяў Ісуса і сказаў: выйдзі ад мяне, Госпадзе.» У той час Пётр яшчэ не ведаў, што Ісус менавіта да грэшнікаў і прыйшоў, каб заклікаць іх да пакаяньня. Напэўна так было патрэбна Богу, каб навука Хрыстова распачалася з прызнаньня грахоўнасьці чалавечага я.

А што з астатнімі, як і калі зразумелі грахоўнасьць жыцьця свайго? Ісус сказаў Сымону: «Не бойся, адгэтуль будзеш лавіць людзей». А пайшлі за Ім усе. Напэўна гэта пакліканьне кожны асабіста пачуў як сваё.




Гэтаму эпізоду адпавядае і карціна Рубенса «Цудоўная лоўля рыбы» (1618—1619) (Лёндан, Нацыянальная галерэя). Блёк пошты Сэнт-Вінсэнт (1990 г.)

Дасьведчаныя рыбакі добра ведалі, што рыбу можна злавіць толькі ноччу і днём закідваць сетку няма ніякага сэнсу, але паверылі Настаўніку. А магчыма выканалі Яго паляцаньне толькі з павагі? І зразумелі, што здарыўся цуд, адбылося немажлівае.

Чалавек, не зьяўляецца аўтарам уласнага пакліканьня, але адказвае на прапанову Бога; і чалавечая слабасьць не павінна палохаць, калі Бог кліча. Неабходна давяраць Яго моцы і Яго любові, якая дзейнічае менавіта ў нашай слабасьці; неабходна заўсёды давяраць моцы Яго міласэрнасьці, якая перамяняе і аднаўляе.

Вучні пачыналі лавіць рыбу па загадзе Ісуса двойчы: першы раз, яшчэ да Яго мукі, а другі — пасьля ўваскрэсеньня. Гэты другі лоў апісвае ў сваім Эвангельлі Ян:

«Пасьля таго зноў зьявіўся Ісус вучням Сваім пры моры Тыверыядскім. А зьявіўся так: былі разам Сымон Пётр, і Тамаш,называны Блізьнюк, і Натанаіл з Каны Галілейскай, і сыны Зевядзеевыя, і двое іншых з вучняў Ягоных. Сымон Пётр кажа ім: іду лавіць рыбу. Кажуць яму: ідзём і мы з табою. Пайшлі, і адразу ўвайшлі ў лодку, і не злавілі ў тую ноч нічога. А як ужо разьвіднела, Ісус стаяў на беразе; але вучні не пазналі, што гэта Ісус. Ісус кажа ім: дзеці! ці ёсьць у вас ежа якая? Яны адказалі Яму: няма. А Ён сказаў ім: закіньце нерат па правы бок лодкі, і зловіце. Яны закінулі, і ўжо не маглі выцягнуць нерат ад мноства рыбы. Тады вучань, якога любіў Ісус, кажа Пётру: гэта Гасподзь. А Сымон Пётр, пачуўшы, што гэта Гасподзь, апаясаўся шатай, — бо ён быў голы, — і кінуўся ў мора; а іншыя вучні прыплылі ў лодцы, — бо недалёка былі ад зямлі, локцяў каля дзьвюхсот, — цягнучы нерат з рыбаю» (Паводле Яна 21:1—8).

У 1444 годзе нямецкі мастак Конрад Вітц стварыў адзін з самых знакамітых сваіх твораў карціну «Цудоўны лоў» (створка «Алтара Сьв. Пятра». 1444. Музэй мастацтва і гісторыі, Жэнева). Гэты твор мае

яшчэ і другую назву: «Хада па водах» і, нават, трэцюю: «Малавер'е Пятра». Але, памойму, яна адпавядае дакладна першай назьве і апісаньню ў Эвангельлі Яна.




Рэпрадукцыя твору на марцы пошты Экватарыяльнай Гвінэі (1973 г.)

Тут пасьля другога лову рыбы Ісус абʼяўляе ўмовы, пры якіх можна выканаць пакліканьне і атрымаць узнагароду: любоў да Яго і бясконцая адданасьць Богу. І няма іншага спосабу заслужыць царства нябеснае.

## Вылячэньне паралізаванага ў Капэрнаўме

Тры Эвангеліста — Мацьвей, Марк і Лукаш — апавядаюць нам пра гэты цуд (Мац. 9:1—8; Марк. 2:1—12; Лук. 5:17—26), прычым Марк месцам яго зьдзяйсненьня назваў Капэрнаўм, а Мацьвей кажа, што Бог зьдзейсьніў гэты цуд, прыйдучы ў «Свой горад», які́м імем ганараваўся Капэрнаўм. Пра гэта сьведчыць Сьв. Залатавуст: «Нарадзіўся Ён у Віфлееме, выгадаваны ў Назарэце, а жыў у Капэрнаўме».

Паралізаваны быў прынесены да Бога на ложы, бо не мог рухацца самастойна. Сьвятыя Марк і Лукаш дадаюць, што за мноствам народа, які атачаў Ісуса ў хаце, што прынесьлі паралізаванага, не змаглі ўнесьці яго ў хату, і спусьцілі прама на ложы скрозь часовы дах. Толькі ў выніку моцнай веры сябры паралізаванага маглі адважыцца на такі ўчынак.




Апусканьне паралізаванага праз дах
на марцы фірмы ZAZZLE

Бачачы гэту веру, а таксама і веру самага хворага, які дазволіў спусьціць сябе такім чынам да ног Ісуса, Бог кажа паралізаванаму: «Мацуйся, сыне! даруюцца табе грахі», паказваючы тым самым на цесную сувязь паміж яго хваробай і грахом. Па вучэньні Слова Божага, хваробы зьяўляюцца сьледствам грахоў (Паводле Яна 9:2).




Капэрнаўму, дзе зьдзейсьніўся цуд, ў 2000 годзе прысьвяціла марку пошта Ізраілю. На марцы выява Грэцкай праваслаўнай царквы Усіх Апосталаў

Прысутныя пры гэтым кніжнікі і фарысэі сталі ўяўна асуджаць Ісуса за блюзьнерства, бачачы ў Яго словах незаконнае прысваеньне Сабе ўлады, якая належыць толькі Адзінаму Богу. Хрыстос жа, ведаючы думкі іх, даў зразумець ім, што Яму вядомыя іх думкі, сказаўшы: «...што лягчэй сказаць: «даруюцца табе грахі», альбо сказаць: «устань і хадзі?» Мабыць, як для аднаго, так і для іншага патрэбна аднолькавая Чароўная ўлада. «Але каб вы ведалі, што Сын Ча-

лавечы мае ўладу на зямлі дараваць грахі, — тады кажа паралізаванаму: устань, вазьмі пасьцель тваю і ідзі дахаты». Вядома, што Бог зьдзейсьніў цуд не з жаданьня пераканаць фарысэяў у Сваёй чароўнай усёмагутнасьці. Гэты цуд, як і ўсе астатнія, былі справай Яго Боскай дабрыні і літасьці.

Вынікам цуду было, што «А людзі, убачыўшы гэта, дзіву даліся і праславілі Бога, Які даў такую ўладу людзям» (Мацьвея 9:8). І гэта значыць, што не толькі фарысэі, але і простыя людзі не паверылі ў Ісуса, як у Сына Божага, лічачы Яго толькі чалавекам.

Кожны Божы дзень зноў нагадвае нам аб надзвычайнай таямніцы Божага каханьня, якую Бог явіў у Ісусе Хрысьце, самай высокай праявай якой ёсьць Яго ўсе пакуты, сьмерць і ўваскрэсеньне.



У 1999 годзе пошта Ватыкану выпусьціла малы ліст з выявай Сьвятых дзьвярэй з Базылікі Сьвятога Пятра ў Рыме: «Адкрыцьцё Сьвятых дзьвярэй» (Apertura Della Porta Santo). Адзін з барэльефаў Сьвятых дзьвярэй прысьвечаны цуду вылячэньня паралізаванага. Адпаведная марка разьмешчана ў другім зьверху радзе крайняя справа

«Я — дзьверы: хто ўвойдзе Мною, той уратуецца, і ўвойдзе і выйдзе, і пашу знойдзе» (Паводле Яна 10:9).

Адкрыцьцё Айцом Сьвятым Сьвятых Дзьвярэй у Базыліцы Сьв. Пятра на Каляды азначае не толькі ўваходжаньне ў новы Год Божай Міласэрнасьці, але таксама і доступ да агню каханьня Божага Сэрца.

## Нагорная Пропаведзь

*Нагорная Пропаведзь Хрыста, зьяўляецца асновай для аднаўленьня маральнай філясофіі, якую павінны прыняць дэмакратыі, калі хочуць выжыць. Франклін Дэлана Рузьвельт*

### Частка1

Галоўныя маральнаэтычныя нормы вучэньня Хрыстова, маральныя законы жыцьця, якім павінны прытрымлівацца людзі, падрабязна выкладзены Ісусам Хрыстом у Яго знакамітай Нагорнай Пропаведзі адной з гутарак Збавіцеля з людзьмі, прамоўленай Ім непасрэдна ўсьлед завыбраньнем апосталаў на гары, Курней-Хацім, якая знаходзіцца на палове дарогі паміж гарадамі Табха і Капэрнаўм.




«Хрыстос, абвяшчаючы Эвангельле». Марка пошты Італіі (1923 г.), выдадзеная з нагоды 300-годзьдзя прапаганды веры

Аб сваім вучэньні казаў наступным чынам: «Маё вучэньне — не Маё, а Таго, Хто паслаў Мяне...» (Паводле Яна 7:16), гэта значыць Бога — Айца.

Зьмест Нагорнай Пропаведзі выкладаецца ў двух Эвангельлях: у Эвангельлі ад Лукаша (6: 17—49) і падрабязна перадаецца ў Эвангельлі ад Мацьвея (5—7).

Акружаны апосталамі Збаўца ўзышоў на гару; да Яго хлынуў натоўп народа. Хворыя, бедныя, людзі, якія пакутуюць... Адны жадалі паслухаць Яго Боскае Вучэньне, іншыя — шукалі лячэньня ад хваробы... Спраўджваліся словы прарока Ісаі: «Ён узяў на Сябе нашы немачы, і хваробы панёс» (Паводле Мацьвея 8:17). Але, вылечваючы хваробы цела, Гасподзь бачыў у душах людзей, якія атачалі Яго больш страшную хваробу — невуцтва і забабоны.



Нагорная Пропаведзь і ачышчэньне пракажонага — так называецца фрэска Казіма Расэлі (Cosimo Rosselli), якая зьяўляецца часткай сярэдняга рэгістра Сыкстынскай капэлы ў Ватыкане. Пошта Ватыкана ў 2001 г. ў сэрыі, прысьвечанай фрэскам Сыкстынскай капэлы, на адной з марак адлюстравала гэту фрэску. На фрэсцы ў правым ніжнім куце яшчэ намалявана сцэна ачышчэньня пракажонага

Усе гэтыя людзі з натоўпу больш-менш верылі ў Яго, як Мэсію, але бачылі ў гэтым Мэсіі — цара зямнога, які створыць Сваё царства на зямлі Божай, у якое войдуць толькі нашчадкі праведніка Абрагама, благаславёнага Богам, — габрэі, якія выконваюць Закон Майсееў. Ён — цудатворац і скарыць увесь сьвет Яму нічога ня варта. Такім чынам, вось-вось надыдзе Царства Яго — Царства, якое нясе габрэям багацьце, і задаволенасьць, і сілу, і славу...

Трэба было разбурыць забабоны людзей, растлумачыць, што Валадарства Яго далёка не падобна на царства зямное, што ў яго, у гэта Валадарства, маюць права ўваходу не адны толькі нашчадкі Абрагама па плоці, але ўсе тыя, хто па сваім душэўным якасьцям падобны на Абрагама. Хрыстос сказаў усяму народу аб тым, што павінен рабіць і чаго можа чакаць кожны, хто хоча ўвайсьці ў Яго Царства, хто жадае ісьці за Хрыстом, і казаў Ён ня толькі для тых, хто Яго атачалі; словы Яго зьвернутыя да людзей усіх стагодзьдзяў, нацыянальнасьцяў і ўзростаў.

Першая частка Нагорнай Пропаведзі патрабаваньні ўтрымлівае, якія даюцца людзям ад імя Бога і за выкананьне якіх абяцаецца ўзнагарода ад Бога. Кожнае з гэтых патрабаваньняў пачынаецца словам «Дабрашчасныя». Інакш гэтыя патрабаваньні называюцца «Запаведзі Асалоды».

«Убачыўшы люд, Ён узышоў на гару; і калі сеў, прыступілі да Яго вучні Ягоныя. І, адкрыўшы вусны Свае, Ён вучыў іх, кажучы:

Дабрашчасныя ўбогія духам, бо іх ёсьць Царства Нябеснае.

Дабрашчасныя тыя, што плачуць, бо яны суцешацца.

Дабрашчасныя лагодныя, бо яны ўспадкуюць зямлю.

Дабрашчасныя тыя, хто жадае і прагне праўды, бо яны спатоляцца.

Дабрашчасныя міласэрныя, бо яны памілаваны будуць.

Дабрашчасныя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць.

Дабрашчасныя міратворцы, бо яны сынамі Божымі назавуцца.

Дабрашчасныя гнаныя за праўду, бо іх ёсьць Царства Нябеснае.

Дабрашчасныя вы, калі будуць вас ганьбіць і гнаць і ўсякім словам ліхім несправядліва зьняважаць за Мяне.

Радуйцеся і весялецеся, бо ўзнагарода ваша вялікая на нябёсах: так гналі праро-

каў, што былі перад вамі» (Паводле Мацьвея 5:1—12).

Прачытаўшы «Запаведзі Асалоды» прыходзіш ў роспач: «Мне гэта не пад сілу ня толькі зрабіць, але, нават, зразумець!»

Усё ж прыслухаемся ўдумённа... І тады мы чуем голас Ісуса. «Дабрашчасныя...". Гэта і ёсьць нябесная брама. Толькі спазнаньне гэтага падводзіць нас да той маральнай рысы, дзе Ісус Хрыстос пачынае Сваё дзеяньне ў чалавечым серцы.

«Дабрашчасныя ўбогія духам...» — гэта першы прынцып Царства. Калі чалавек песьціць пыхлівыя намеры пра тое, што на ўсё здольны сам, Бог дазволіць яму на ўласным досьведзе пераканацца ў безгрунтоўнасьці гэтай думкі. Але Нагорная Пропаведзь недаступная разуменьню чалавека, падобныя веды адкрываюцца яму толькі пасьля прыняцьця Сьвятога Духа.

Трэба цьвёрда спадзявацца, што Дух Сьвяты цябе не міне, але не за так: «Дык вось, калі вы, ліхія, умееце даньні добрыя даваць дзецям вашым, тым болей Айцец Нябесны дасьць Духа Сьвятога тым, хто просіць у Яго» (Паводле Лукаша 11:13).

Самы надзейны і выпрабаваны мэтад зразуменьня вучэньня Ісуса — адкрыцьцё сэрца верніка для Сьвятога Духа. Толькі тады мы зьміраемся і прыходзім да Выратавальніка. І зразумеем, што Царства Божае пабудавана на міласэрнасьці, а не на багацьці.

«Калі Ён сышоў з гары, за Ім сьледам пайшло мноства людзей. І вось, падышоў пракажоны і, кланяючыся Яму, сказаў: Госпадзе! калі хочаш, можаш мяне ачысьціць. Ісус, працягнуўшы руку, дакрануўся да яго і сказаў: хачу, ачысьціся. І адразу ачысьціўся той ад праказы. І кажа яму Ісус: глядзі, не кажы нікому; але ідзі, пакажыся сьвятару, і прынясі дар, аб якім загадаў Майсей, на сьведчаньне ім» (Паводле Мацьвея 8:1—4).

Кожны з нас мае шанс на такое ачышчэньне. Хрыстос прыйшоў у сьвет, каб увасобіць у нас Сваё вучэньне і ацаніць нас па нашых справах. Нагорная Пропаведзь адлюстроўвае лад жыцьця чалавека, у чыё сэрца ўвайшоў Сьвяты Дух.

## Частка2

*«Таму, хто просіць у цябе, дай і ад таго, хто хоча пазычыць у цябе, не адварочвайся». (Паводле Мацьвея 5:42)*

Зноў натыкаемся на невыканальнае: «Таму, хто просіць у цябе, дай і ад таго, хто хоча пазычыць у цябе, не адварочвайся».

Адзінае, што можна тут сказаць, што не зусім разумеем, дакладней — зусім не разумеем, што Ісус мае на ўвазе. Нельга на гэтым нашым стане спыніцца. Але тады прыйдзем у поўную роспач...

Вось як разважае аб гэтым Освальд Чэмберс:

«Гэтыя словы Ісуса цалкам зьмяняюць усё наша разуменьне любові. Вялікая частка сучаснай філянтропіі засноўваецца на канцэпцыі дарунка беднаму толькі па тым простым чыньніку, што ёе таго заслугоўвае, ці таму, што нам балюча глядзець на яго жаласнае становішча. Аднак Ісус у Сваім вучэньні пра міласьціну называе зусім ішыя матывы. Ён кажа: «Таму хто просіць у цябе, дай не таму, што ён гэтага заслугоўвае, а таму, што Я так сказаў». Матывам нашага дарунка павінна быць Запаведзь Ісуса Хрыста. Заўсёды можна знайсьці тысячу і адзін чыньнік для таго, каб не падпарадкоўвацца Богу. Мы схільныя

больш давяраць свайму розуму, чым Богу, а розум не прымае Бога ў разьлік. Што кажа цывілізацыя? «Ці заслугоўвае гэты чалавек таго, што я даю яму?». Але Дух Божы пытае ў адказ: «Хто ты такі, каб судзіць яго? Ты сам заслугоўваеш таго, што маеш?».




Нагорная пропаведзь (Sermon on the mount). Марка пошты Арабскага Эмірату ЭльФуджайра (1970 г.)

«Таму, хто просіць у цябе, дай». Чаму мы ўвесь час думаем, што гаворка ідзе пра грошы? Бог пра грошы яшчэ і слова не сказаў. Складаецца ўражаньне, што ў большасьці людзей у венах цячэ золата. У нашым розуме дарунак асацыюецца з грашыма, таму што так наладжана наша сэрца. «Але Пётр сказаў: срэбра і золата няма ў мяне, а што маю, тое даю табе...» (Дзеі 3:6). Дык дапаможа нам Бог зразумець, што праўдзівым матывам дарунка павінна быць не імгненнае падахвочваньне і не патрэба чалавека, а натхненьне Сьвятога Духу. Я даю, таму што так наказваў Ісус.

Няхай мяне не палохае, што раздам усё, што маю, што чэргі выстраяцца да мяне, калі даведаюцца многія, што ўсім даю... Але калі мы дазволім Сьвятому Духу паказаць нам практычнае прыкладаньне слоў Ісуса да пэўных жыцьцёвых сытуацый і засяродзімся на правільных узаемаадносінах з Богам, то станем сьведкамі дзеяньня магутнай рукі Божай. Бог усё Адрэгулюе.

Чым далей я чытаю Нагорную Пропаведзь, тым ва ўсё большы прыходжу адчай!

«Вы чулі, што сказана: „Любі блізкага твайго і ненавідзь ворага твайго“. А Я кажу вам: любеце ворагаў вашых, дабраслаўляйце кляцьбітоў вашых, рабеце дабро ненавісьнікам вашым і за крыўдзіцеляў вашых малецеся і за ганіцеляў вашых; каб сталіся вы сынамі Айца вашага, Які ёсьць у нябёсах; бо Ён загадвае сонцу Свайму ўзыходзіць над ліхімі і добрымі і пасылае дождж на праведных і няправедных. Бо, калі вы будзеце любіць тых, што любяць вас, якая вам узнагарода? Ці ж ня тое самае робяць і мытнікі? І калі вы вітаеце братоў вашых толькі, што асаблівага робіце? Ці ж ня гэтак тое самае робяць і язычнікі? Дык вось, будзьце дасканалыя, як дасканалы Айцец ваш Нябесны» (Паводле Мацьвея 5:43—48).

Чытаць гэта можна, калі ты ня маеш перад сабой асабістага ворага, які зьнішчыць хоча цябе і тваіх блізкіх... А калі такі вораг перад табой? Ты прыходзіш у поўны адчай! Але можа гэтага і хоча Ісус, каб я зразумеў, што без Бога, без Сьвятога Духа я не ў стане любіць ворагаў сваіх.

Нагорную Пропаведзь і чытаць вельмі ня проста. «А Я кажу вам: Любеце ворагаў вашых». Ісус не сказаў: «Любеце ўсіх». Біблія аб усім кажа вельмі пэўна. Ісус сказаў: «Любеце ворагаў». Ён не сказаў: «Дабраслаўляйце ворагаў». Не «Любеце кляцьбітоў вашых», а «Дабраслаўляйце кляцьбітоў вашых». Не «Дабраслаўляйце крыўдзіцеляў вашых», а «Малецеся за крыўдзіцеляў вашых». «Каб сталіся вы сынамі Айца вашага».

Чы дастатковыя нашыя намаганьні?

## Частка3

Здавалася б самае простае і лёгкае да выкананьня ў Нагорнай Пропаведзі Ісуса – гэта вучэньне аб Малітве. Але ці гэта так?

«І калі молішся, ня будзь, як крывадушнікі, што любяць у сынагогах і на рагах вуліц, стоячы, маліцца, каб выставіцца перад людзьмі. Праўду кажу вам, што яны атрымліваюць узнагароду сваю.

Ты ж, калі молішся, зайдзі ў пакой твой і, зачыніўшы дзьверы твае, памаліся Айцу твайму, Які ў тайнасьці; і Айцец твой, Які бачыць у тайнасьці, аддасьць табе на яве.

А молячыся, не гаварэце лішняга, бы язычнікі; бо яны думаюць, што ў мнагаслоўі сваім пачутыя будуць; дык ня будзьце ж падобныя да іх; бо ведае Айцец ваш, у чым вы маеце патрэбу, раней, чым вы ў Яго папросіце. Дык вось, малецеся так: Войча наш, Які ёсьць на нябёсах! Хай сьвяціцца імя Тваё; хай прыйдзе Царства Тваё; хай будзе воля Твая як на небе, так на зямлі; хлеб наш надзённы дай нам сёньня; і даруй нам правіны нашыя, як і мы даруем вінаватым перад намі; і не дапусьці нас да спакусы, але ратуй нас ад ліхога; бо Тваё ёсьць Царства і сіла і слава навекі. Амін.

Бо калі вы будзеце дараваць людзям правіны іх, дык даруе і вам Айцец ваш Нябесны; а як ня будзеце дараваць людзям іх правінаў, дык і Айцец ваш не даруе вам правінаў вашых» (Мацьвея 6:5—15).

Калі не механічна прагаворваць словы малітвы, а ўдумліва і з засяроджаньнем, то ўзьнікае шэраг пытаньняў. Навошта мне маліцца, калі «ведае Айцец ваш, у чым вы маеце патрэбу, раней, чым вы ў Яго папросіце»? Якія матывы рухаюць мною? Што я хачу? Што разумею?

Освальд Чэмберс кажа, што «адзіным матывам малітвы павінна быць пазнаньне Бога. Словы Ісуса аб малітве, якія сталі такімі знаёмымі, могуць зрабіць сапраўдную рэвалюцыю ў сэрцы чалавека. [...] Малітвай мы даем Богу магчымасьць працаваць у падсьвядомасьці тых, за каго молімся. У таемным месцы малітвы Сьвяты Дух распальвае ў нашых сэрцах Свой запал да душаў людзей і пачынае тварыць праз нас тое, што хоча».

Адам Міцкевіч напісаў так: «Бог Сам можа сьвет зьнішчыць і другі паставіць, а без нашай дапамогі ня можа нас збавіць».

Значыць, выканаць тое, што мы просім, часта для Бога цяжэй, чым стварыць новы сьвет, а, нават, немагчыма без нашага ўдзелу. Бо Бог даў нам усім вольную волю. Колькі яе нам даў, столькі ў Сябе адняў.



Пошта Ватыкана ў 2001 г. ў сэрыі, прысьвечаныай фрэскам Сыкстынскай капэлы, адлюстравала фрэску «Хрышчэньне Хрыста» Перуджына (1450 -1523) і Пінтурыкьё (1454 -1513)

У цэнтры — Хрышчэньне Хрыста. Побач, справа — юнак рыхтуецца да Хрышчэньня. Акрамя асноўнай сцэны Хрышчэньня, ёсьць яшчэ дзьве сцэны (так прынята было пісаць вялікія фрэскі у той час). Зьлева — Ян Хрысьціцель заклікае народ хрысьціцца. Справа — Хрыстос зьвяртаецца да народа.

Ісус сказаў: «Маліцеся таму, што ў вас ёсьць Айцец, а не таму, што малітва прыносіць вам пачуцьцё задавальненьня. І дайце Яму час для таго, каб адказаць». Гэты час, бывае цягнецца доўга, але Бог тады ўладжвае дзьве справы пры адным агні, бо ня толькі ратуе чалавека, за якога нехта

моліцца, але асьвячае таксама таго, хто моліцца. Калі жыцьцё Хрыста адлюстроўваецца ўва мне з дапамогай перараджэньня і кожны мой удых напоўнены глыбокай павагай перад Ім, то Сын Божы ўва мне перададолее здаровы сэнс і зьменіць разуменьне таго, што адбываецца.




«Зьвяртаньня Хрыста да народа», Perugino. Марка пошты Экватарыяльнай Гвінэі (1973 г.)

Здольнасці выконваць патрабаваньні Нагорнай пропаведзі папярэднічае цуд перараджэньня. Толькі Сын Божы можа выканаць усе гэтыя патрабаваньні, і калі мы дазволім Богу адлюстраваць у нас Свайго Сына, то Ён дасьць нам сілы. Але ўсё пачынаецца са слоў Ісуса Хрыста: «Трэба вам нарадзіцца згары» (Паводле Яна 3:7).

## Хто больш палюбіць, таму больш даравана

*Праўду кажу вам: дзе ні будзе абвешчана Дабравесьце гэтае ў цэлым сьвеце, сказана будзе ў памяць пра яе, і пра тое, што зрабіла яна. (Паводле Марка 14:9).*

Падзея памазаньня мірам апісана ў 4-ох Эвангельлях (Мацьвея 26:6—13; Марка 14:3—9; Яна 12:1—11; Лукаша 7: 36—50), што кажа пра яе важнасьць. Нездарма адной з самых знакамітых алтарных прац Рубенса зьяўляецца карціна «Баль у Сымона фарысэя». Яна напісана ў 1618 г. Карціна Рубенса адпавядае апісаньню ў Эвангельлі ад Лукаша.




Цудоўны паштовы блёк, выпушчаны ў 2012 годзе ва Ўгандзе, прысьвечаны 435 — годзьдзю з дня нараджэньня жывапісца Пітэра Рубенса (1577—1640)

На марцы блёку намалявана выява карціны Рубенса «Баль у Сымона фарысэя» (1618—1620). На блёку яшчэ адлюстраваныя: «Аўтапартрэт» (1623 г.), дэталі з карціны «Зьвеставаньне» (1628) і вытанчаны порцік у стылі італьянскага барока, спраектаваны самім мастаком, які злучаў жылую хату мастака з майстэрняй

Мноства эмоцый адлюстроўвае карціна. І спачуваньне, спагаду, давер (у Ісуса і прысутных побач зь Ім Яго вучняў), і злосьць, нянавісьць, абыякавасьць, прагнасьць (у натоўпе насупраць Ісуса). Кожная дэталь карціны толькі падкрэсьлівае закладзены сэнс. Так, стравы на стале і падносячая ежу прыслуга паказваюць, што хата фарысэя багатая. Сабака з косткай у ніжнім куце карціны ўвасабляе сквапнасьць і злосьць. Хрыстос, Яго вучні процістаяць «фарысэйцам». Канфліктнасьць узмацняецца кантрастамі сьвятла і цені, супакою і руху.

«Марыя Магдаліна абмывае ногі Хрыста» — гэты момант намаляваны на карціне Фромана. Хрыстос са сваімі вучнямі сядзіць

за сталом, фарысэй і іншыя насупраць яго, у левай частцы карціны грэшніца ж абдымае, намашчвае, і цалуе нагу Хрыста.



Правая створка алтара «Ажыўленьне Лазара» францускага жывапісца Нікола Фромана (Froment), (1461 г., Флярэнцыя, Галерэя Уфіці) «Марыя Магдаліна абмывае ногі Хрыста», блёк Экватарыяльнай Гвінэі (1973 г.)

«Нехта з фарысэяў прасіў Яго паесьці зь ім ежы; і Ён, увайшоўшы ў дом фарысэя, узьлёг. І вось, жанчына з таго горада, якая была грэшніца, даведаўшыся, што Ён узьляжыць у доме ў фарысэя, прынесла алавастравы посуд зь мірам; і, стаўшы ззаду каля ног Ягоных і плачучы, пачала абліваць ногі Ягоныя сьлязьмі і абціраць валасамі галавы сваёй, і цалавала ногі Яму, і мазала мірам. Бачачы гэта, фарысэй, які запрасіў Яго, сказаў сам сабе: калі б Ён быў прарок, дык ведаў бы, хто і якая жанчына дакранаецца да Яго, бо яна грэшніца. Зьвярнуўшыся да яго, Ісус сказаў: Сымоне! Я маю нешта сказаць табе. Ён кажа: скажы, Настаўнік. Ісус сказаў: у аднаго пазыкоўца было два даўжнікі: адзін вінен быў пяцьсот дынараў, а другі пяцьдзесят; але як што яны ня мелі чым заплаціць, ён дараваў абодвум. Дык скажы, каторы зь іх болей палюбіць яго? Сымон адказаў: думаю, той, каму больш даравана. Ён сказаў яму: правільна ты разважыў. І абярнуўшыся да жанчыны, сказаў Сымону: ці бачыш ты гэтую жанчыну? Я прыйшоў у дом твой, і ты вады Мне на ногі ня даў: а яна сьлязьмі абліла Мне ногі і валасамі галавы свае абцерла. Ты цалаваньня Мне ня даў; а яна, з той хвіліны, як Я прыйшоў, не перастае цалаваць Мне ногі. Ты галавы Мне алеем не памазаў; а яна мірам намасьціла Мне ногі. А таму кажу табе: даруюцца грахі ёй многія за тое, што яна палюбіла многа: а каму мала даруецца, той мала любіць. А ёй сказаў: даруюцца табе грахі. І тыя, што ўзьляжалі зь Ім, пачалі гаварыць самі сабе: хто гэта, што і грахі даруе? А Ён сказаў жанчыне: вера твая ўратавала цябе; ідзі зь мірам» (Паводле Лукаша 7:36—50).



У 1999 г. пошта Ватыкана выпусьціла малы ліст з выявай Сьвятых дзьвярэй з Базылікі Сьвятога Пятра ў Рыме: «Адкрыцьцё Сьвятых дзьвярэй» (Apertura Della Porta Santo). Адзін з барэльефаў Сьвятых дзьвярэй прысьвечаны памазаньню Марыяй ног Ісуса мірам

Porta Santa, ці Сьвятыя дзьверы адкрываюцца толькі ў Сьвяты год. У старажытнасьці пачатак юбілейнага Сьвятога года азначаўся гукам трубы з казьлінага рогу, званага «yobel», адкуль і адбылося слова «юбілей». Сьвятыя дзьверы замуравана бэтонам. Праз кожныя 25 гадоў напярэдадні Каляд (25 сьнежня) бэтон разьбіваецца. Пасьля трохразовага кленчаньня і трох удараў молата Сьвятыя дзьверы расчыняюцца і Папа, узяўшы ў рукі крыж, уваходзіць пер-

шым у Базыліку Сьвятога Пятра. У канцы юбілейнага года дзьверы зноў зачыняюцца і замуроўваюцца на наступныя 25 гадоў. Наступны раз дзьверы адчыняцца ў 2025 годзе.



Мастак Ёхан ван Некэрк (Johan van Niekerk) распрацаваў многасэрыйны выпуск марак, прысьвечаных жыцьцю Хрыста, і ў 1986 годзе пошта Бапутатсваны выпусьціла сэрыю з чатырох марак, прысьвечаных памазаньню Марыяй ног Ісуса мірам

Мастак на кожнай марцы дае канкрэтны указальнік на тое, які эпізод Эвангельля ён адлюстраваў.

Першая марка (1986г.) з сэрыі «Памазаньне Марыяй ног Ісуса мірам» Бапутатсваны адсылае да Эвангельля паводле Яна 12:2 (John 12:2).

«За шэсьць дзён да Пасхі прыйшоў Ісус у Віфанію, дзе быў Лазар памерлы, якога Ён уваскрэсіў зь мёртвых. Там прыгатавалі Яму вячэру, і Марфа служыла, а Лазар быў адзін з тых, хто ўзьляжаў зь Ім» (Паводле Яна 12:1,2).

На другой і трэйцяй марках: «А Марыя, узяўшы фунт каштоўнага чысьцюткага нардавага міра, памазала ногі Ісусу і абцерла валасамі сваімі ногі Яму; і дом напоўніўся пахошчамі міра» (Паводле Яна 12:3).

На чацьвёртай марцы — «...прыступіла да Яго жанчына з алавастравай пасудзінай міра шматкаштоўнага і ліла яму на галаву, калі Ён узьляжаў за сталом» (Паводле Мацьвея 26:7).

## Ісус сунімае буру на моры

*Ён ператварае буру ў цішыню, і хвалі сунімаюцца.*
*(Псалтыр 106:29)*

Аднойчы Ісус і яго вучні пераплывалі Генісарэцкае возера, якое ў тыя часы называлі яшчэ і морам. З Галілеяй і ваколіцамі Генісарэцкага возера, адным з найпрыгажэйшых куткоў зямлі, быў зьвязаны пачатак місіі Хрыста ў сьвеце. Апавяданьне аб тым, што здарылася ў час пераправы праз возера, знаходзіцца ў трох Эвангельлях: Мацьвея, Марка і Лукаша.



Поштай Ізраілю ў 1999 г. выдадзены сувэнірны лісток у гонар Сусьветнай філятэлістычнай выставы «Аўстралія 99», на якім разьмешчаны відарыс «Лодкі Ісуса» і мадэль гэтай лодкі

У 1986 годзе падчас вялікай засухі, калі воды возера адступілі далёка ад звычайнага берага, археолягамі была знойдзена лодка даўжынёй 8,20м і шырынёй 2,30м. На аснове найноўшых дасягненьняў навукі быў устаноўлены час, калі гэта лодка выкарыстоўвалася мясцовымі рыбакамі — 2000 гадоў таму, што адпавядае прысутнасьці Хрыста. ў гэтых мясьцінах.

«Увечары таго самага дня сказаў ім: пераправімся на той бок. І яны, адпусьціўшы людзей, узялі Яго з сабою, як Ён быў, у лодку; зь Ім былі і іншыя лодкі. І паднялася вя-

лікая бура; хвалі білі ў лодку, так што яна ўжо напаўнялася вадою. А Ён спаў на карме на ўзгалоўі. Яго будзяць і кажуць Яму: Настаўнік! няўжо Табе ня рупіць, што мы гінем? І ўстаўшы, Ён загразіў ветру і сказаў мору: суйміся, перастань. І вецер аціх, і зрабілася вялікая ціша» (Марка 4:35—39).




У 1633 годзе Рэмбрант Харменсзан ван Рэйн малюе сваю адзіную марскую карціну «Утаймаваньне буры на шляху праз Генісарэцкае возера». Разгледзець твор вялікага майстра можна на блёку Уганды (1980 г.)

На карціне цемрадзь і хвалі, быццам гэта Паўночнае мора ў дзясятку міль ад галандскіх берагоў. Чатырнаццаць чалавек у лядачай лодцы. Пяцёра спрабуюць справіцца з двума, якія выйшлі зпад кантролю, ветразямі, але відавочна праграюць ветру. Шосты на ўсе жылы ўчапіўся ў руль, але што толку, калі баркас восьвось паравернецца? Сёмага рве, і, здаецца, ён зараз вываліцца за борт. Будзяць настаўніка аж двое, таму што на яго зараз уся надзея. Астатнія проста да сьмерці напалоханыя ці страцілі надзею і рыхтуюцца да сьмерці — акрамя аднаго: трымаючыся за нацягнутую ліну, ён глядзіць на нас і твар яго мастацтвазнаўцам знаёмы. Гэта Рэмбрант, уласнай пэрсонай. Ён ня проста малюе падзеі, ён прысутнічае на месцы падзей.

«І ўстаўшы, Ён загразіў ветру і сказаў мору: суйміся, перастань. І вецер аціх, і зрабілася вялікая ціша. І сказаў ім: чаго вы такія палахлівыя? чаму ў вас няма веры? І ўбаяліся страхам вялікім і гаварылі і паміж сабою: хто ж гэта, што і вецер і мора слухаюцца Яго? (Паводле Марка 4:39—41).

Гэта было першым іспытам веры Апосталаў. Адрэагавалі парознаму. Але агульная ацэнка была такая: «І кажа ім: чаго вы такія баязьлівыя? як гэта не маеце веры?»




«Утаймаваньне буры». Малюнак з манускрыпту. Ватыкан, (1997 г.)

«Ты пераплываеш мора гэтага жыцьця (кажа Аўгустын), і вецер падымаецца, насьцігаюць цябе буры і спакусы. З-за чаго гэта, калі не ад таго, што Ісус засынае ў табе? Калі б Ён у табе не спаў, ты б атрымліваў асалоду ад унутранай цішыні. Што значыць, што Ісус у табе засынае, калі не тое, што ў сэрцы тваім вера Ісусава дрэмле? Што ж ты павінен зрабіць для свайго збаўленьня? Абудзі Яго і скажы: Настаўнік! я гіну!

Ён абудзіцца, гэта значыць да цябе вернецца вера і застанецца ў табе. Калі Хрыстос абуджаецца, тады і сярод бурных турбот вада не залье твайго карабля, твая вера будзе загадваць вятрамі і хвалямі, і небясьпека абміне».

Сапраўднае значэньне гэтага вандраваньня складаецца ў наступным: дзе Ісус, там цішэе бура.

«Я сплю, але сэрца маё ня сьпіць». Як не хапае нам гэтых слоў у нашай памяці. Як не хапае нам разуменьня гэтых слоў! Са-

праўды, якія іншыя словы могуць даць нам у хвілі небясьпекі, спакус і цяжкіх выпрабаваньняў больш пэўную і моцную падтрымку? «Гэта Я, — гаворыць да кожнага з нас, — Я, чыё сэрца ўздыхае за цябе, гэта Я — ня бойцеся!».

## Ўваскрашэньне дачкі Яіра

*...ня бойся, толькі веруй. (Паводле Марка 5:36)*

«І вось, прыходзіць адзін з начальнікаў сынагогі, якога звалі Яір, і, убачыўшы Яго, падае ў ногі Яму і ўмольна просіць Яго, кажучы: дачка мая пры сьмерці; прыйдзі і ўскладзі на яе рукі, каб яна ачуняла і засталася жывая. Ісус пайшоў зь ім. За Ім сьледам ішло мноства людзей, і націскалі на Яго» (Паводле Марка 5:22—24).

«Калі Ён яшчэ гаварыў гэта, прыходзяць ад начальніка сынагогі і кажуць: дачка твая памерла; чаго яшчэ дакучаеш Настаўніку? Але Ісус, пачуўшы гэтыя словы, адразу кажа начальніку сынагогі; ня бойся, толькі веруй. І не дазволіў нікому ісьці сьледам за Ім, акрамя як Пятру, Якаву і Яну, брату Якава. Прыходзяць у дом начальніка сынагогі і бачаць перапалох, і плачуць, галосяць галасам. І ўвайшоўшы, кажа ім: чаго сумеліся і плачаце? дзяўчына не памерла, а сьпіць. І сьмяяліся зь Яго. Але Ён, выслаўшы ўсіх, бярэ з Сабою бацьку і маці дзяўчыны і тых, што былі зь Ім, і ўваходзіць туды, дзе дзяўчына ляжала. І ўзяўшы дзяўчыну за руку, кажа ёй: таліфа-кумі, што азначае: „Дзяўчына, табе кажу, устань". І дзяўчына адразу ўстала і пачала хадзіць, бо была гадоў дванаццаці. І вялікаму дзіву даліся. І Ён строга загадаў ім, каб ніхто пра гэта ня ведаў, і сказаў, каб ёй далі есьці» (Паводле Марка 5:35—43).




«Ўваскрашэньне дачкі Яіра». Вітраж на марцы пошты Гернсі (1993 г.)

Ў 1871 годзе Пецярбургская Акадэмія майстэрстваў абвясьціла конкурс для выпускнікоў: яны павінны былі намаляваць карціну на Эвангельскі сюжэт «Уваскрашэньне дачкі Яіра». Пераможцу чакала ўзнагарода — паездка на шэсьць гадоў за мяжу за кошт казны для вывучэньня дасягненьняў заходне-эўрапейскага жывапісу. Пераможцаў аказалася два — Васіль Паленаў і Ільля Рэпін. Яны абодва напісалі выдатныя карціны на адзін і той жа сюжэт.




На жаль пошта Расіі ў сэрыі «2000-годзьдзе Раства Хрыстова» на адной з марак разьмясьціла выяву толькі карціны Паленава

Карціна адпавядае зьместу ў Эвангельлі. Хрыстос бярэ з Сабой толькі трох вучняў, якія па аповядах і жыцьцям уяўляюць сабою выяву веры — у асобе Пятра, каханьня — у асобе Яна і праведнасьці — у асобе Якава. Яшчэ бярэ Ён і маці і бацьку дзяўчынкі, якія ўяўляюць сабою чыстае гора. І ў кантэксьце веры гэтым, надзеі і чысьціні, і сапраўднага маленьня пра праўдзівую, рэальную патрэбу, Хрыстос аднаўляе памерлую да жыцьця.

На карціне зафіксавана імгненьне, калі цуд ужо адбыўся. Дзяўчынка ажыла. Лукаш і Марк сьведчаць, што дух вярнуўся ў дзяўчынку. Гэта вельмі важныя для нас словы. Значыць, душа — жывая. Нягледзячы на тое, што цела ўжо было мёртвым, душа была жывая, душа не ўваскрасала, як уваскрасала цела. Яна толькі вярнулася ў гэта ўжо, здавалася, мёртвае цела.

Гэтыя словы вучыць нас таму, што і нашыя душы сапраўды гэтак жа не паміраюць. Яны вечна жывуць. І наша ўваскрасеньне адбудзецца так, як уваскрэсла гэта дзяўчынка. І гэта ўваскрасеньне кожнага чалавека зьдзейсьніцца, калі адбудзецца Другое, слаўнае і, разам з тым, вядома, страшнае прышэсьце Госпада і Збавіцеля нашага Ісуса Хрыста...

## Сьмерць Яна Хрысьціцеля

29 жніўня Касьцёл узгадвае мучаніцтва Сьвятога Яна Хрысьціцеля. Аб сьмерці і ахвяры апошняга прарока Старога Запавету і першага прарока Новага Запавету распавядаецца ў трох Эвангельлях: Мацьвея 14:1—12, Марка 6:14—29, Лукаша 9:7—9.




«Зьняволеньне Яна Хрысьціцеля» на марцы пошты Суверэннага Ваеннага Мальтыйскага Ордэна (1979 г.)

Ірад Антыпа зьняволіў Яна Хрысьціцеля за тое, што той публічна крытыкаваў недазволенае сужыцьцё гэтага цара з Ірадыядай, жонкай роднага брата Ірадаю Аднак зьняволеньне не задаволіла Ірадыяду: «А Ірадыяда, угневаўшыся на яго, хацела забіць яго; ды не магла. Бо Ірад баяўся Яна, ведаючы, што ён муж праведны і сьвяты і пільнаваў яго; многае рабіў, слухаючыся яго, і з прыемнасьцю слухаў яго» (Марка 6:19,20).

Падчас урачыстага банкету цару спадабаўся танец дачкі Ірадыяды Саламеі і ён паабяцаў даць ёй за гэта любую ўзнагароду.




Марка, надрукаваная ў Германіі (1999 г.) у гонар кампазытара Рыхарда Штраўса. Марыя Віціх (Wittich) ў ролі Саламеі

Помсьлівая жанчына скарысталася неасьцярожнасьцю цара і падбухторыла дачку прасіць у яго галаву Яна Хрысьціцеля.

«І запрысягнуўся ёй: чаго ні папросіш у мяне, дам табе, нават да палавіны майго царства. Яна выйшла і спыталася ў маці сваёй: чаго прасіць? Тая адказала: галавы Яна Хрысьціцеля. І яна адразу пайшла да цара сьпешна і прасіла, кажучы: хачу, каб ты даў мне цяпер жа ў місе галаву Яна Хрысьціцеля. Цар замаркоціўся; але, дзеля прысягі і тых, што ўзьляжалі зь ім, не захацеў адмовіць ёй. І адразу паслаўшы збраяносца, цар загадаў прынесьці галаву ягоную. Той пайшоў, адцяў яму галаву ў цямніцы, і прынёс галаву ягоную ў місе і аддаў яе дзяўчыне, а дзяўчына аддала яе маці сваёй» (Паводле Марка 6:21—28).




Блёк пошты С’ера Леонэ (1992 г.) з выявай карціны «Пакутніцтва Сьвятога Яна» Франсіска дэ Сурбарана (Francisco de Zurbarán)

Ірад выканаў абяцаньне, і Сьвяты быў забіты. Гэта адбылося каля 30 года ад Н.Х.




На адной з марак з сэрыі пошты Суверэннага Ваеннага Мальтыйскага Ордэна з выявамі васьмі панэляў, якімі дэкаравана купель у Баптыстэрыі Яна Хрысьціцеля ў Сіене паказана выява твору Данатэла «Баль Ірада» (Donatello 1427)

У сваім знакамітым бронзавым пазалочаным «Баляваньні Ірада», які ўпрыгожвае хрысьцільню Баптыстэрыя ў Сіене, намаляваныя на пярэднім пляне постаці розныя выяўляюць эмоцыі: цар Ірад у жаху адхіснуўся ад падаваемага яму ваяром блюда з акрываўленай галавой Яна Хрысьціцеля, адзін з сатрапэзьнікаў зьвяртаецца да яго са словамі дакору, іншы закрыў твар рукой, два хлопчыка ў ніжнім левым куце таксама адхінуліся ад страшнага гледзішча, усім сваім выглядам выяўляючы ахапіўшы іх жах. У адрозьненьне ад іх, група постацяў справа, з танцуючай Саламеяй на чале, застала ся спакойнай, нават зацікаўленай.

Мабыць, самай знакамітай карцінай, прысьвечанай сьмерці Яна, зьяўляецца карціна Мікеланджэла Караваджа «Адсячэньне галавы Сьвятога Яна Хрысьціцеля».

Наўрад знойдзецца чалавек, здольны застацца абыякавым да намляванага на ёй. Пакараньне сьмерцю ўжо адбылася, Ян Папярэднік мёртвы. Але яго зьвернуты да гледача твар літаральна «дыхае» жывой пакутай.




Блёк Рэспублікі Мальта (2007г.) з выявай карціны Мікеланджэла Караваджа «Адсячэньне галавы Яна Хрысьціцеля» (1608 г., Музэй сабора Сьвятога Яна Хрысьціцеля, Ла Валетта)

Паводзіны ж астатніх пэрсанажаў дзівяць жахлівай штодзённасьцю (нібы пакараньне сьмерцю для іх — радавое гаспадарчае даручэньне). Маладая жанчына дзелавіта падстаўляе талерку, мужчына побач з катам паказвае яму на гэту талерку. Пажылая жанчына схапілася рукамі за галаву (быццам спалохалася), але твар яе пры гэтым абсалютна спакойны. У акне скрозь рашотку бачныя яшчэ двое — ці то вязьні, ці то цікаўныя — назіральнікі за «працэсам». Гэтай штодзённасьці трывожна супрацьстаіць галосны чырвоны колер тканіны, якая атуляе цела Яна.




«Пакутніцтва Сьвятога Яна» (Bonidazi, 1615 —1682). Марка пошты Суверэннага Ваеннага Мальтыйскага Ордэна (2000г.)




«Саламея з галавой Яна Хрысьціцеля» — марка Брытанскіх Віргінскіх выспаў (1987 г.), карціна Тыцыяна




У 1979 годзе пошта Манака прысьвяціла марку юбілею кампазытара Рыхарда Штраўса і яго опэры Саламея, прэм'ера адбылася 5 сьнежня 1905 г., а дзеі адбываюцца ў палацы цара Ірада ў 30 г. ад Н.Х.

Сярод галоўных рысаў Сьвятога Яна Хрысьціцеля зьяўляліся сьціпласьць і ўменьне заставацца ў ценю Ісуса, Якога адразу прызнаў за Мэсію.




Паштовая марка Андоры (1989г.) прысьвечана гісторыі Саламеі і Сьвятога Яна Хрысьціцеля

Хіба ў кожны хрысьціянскім храме знойдуцца іконы, прысьвечаныя Сьвятому Яну Хрысьціцелю.




Ікона Яна Хрысьціцеля 16 ст. з с. Бяла Паляна. Марка Баўгарыі (1988 г.) Пошта Украіны ў 2001 годзе выпусьціла блёк з сэрыі «Скарбы музэяў Украіны» з трыма маркамі. На адной зь іх Сьв. Ян Папярэднік. Энкаўстычны абраз VI стагодзьдзя са збору Музэя мастацтваў ім. Багдана і Варвары Ханенка ў Кіеве. Гэты абраз знаходзіўся ў манастыры Сьв. Кацярыны на Сінаі

У іканапісных арыгіналах Яна Хрысьціцеля характарызуюць наступным чынам: «тыпам габрэй, сярэдніх гадоў, целам і тварам вельмі худы, менш чым сярэдняй велічыні, колер цела бледнасмуглявы, барада чорная, падзеленая на пасмы або космачкі, валасы чорныя, густыя, кучаравыя, таксама падзеленыя на пасмы; адзеньне

яго, звалянае з грубай вярблюджай воўны, накшталт мяшка, пры гэтым сьвяты падпяразаны скураным поясам». Гэтым апісаньнем кіруюцца творцы ікон.

Акрамя Найсьвяцейшай Дзевы Марыі Ян Хрысьціцель зьяўляецца адзіным Сьвятым, чыё наракаджэньне адзначаецца як літурічная ўачыстасьць ва ўсіх хрысьціянскіх храмах.

## Памнажэньне хлябоў і рыб

Цуд Памнажэньне хлябоў і рыб, насычэньне імі шматлікага народа мае ў старажытнай хрысьціянскай традыцыі адмысловую важнасьць.

Яго апісаньне захавалася ў чатырох Эвангелістаў шэсьць разоў, а менавіта: двойчы ў Марка і Мацьвея (Мк. 6:30—44; 8:10; Мц. 14:13—21; 15:32—39), а таксама ў Лукаша (9:10—17) і Яна (6:1—14). Гэты сюжэт папулярны ў раньнехрысьціянскім мастацтве ўжо з трэцяга стагодзьдзя не як цудоўнае здарэньне, а як сымбаль Эўхарыстыі, таму што абрад ламаньня хлеба стаў знакавым у кульце першых хрысьціянскіх супольнасьцяў. На Апошняй Вячэры Ісус дае паламаны хлеб вучням, і на вячэры ў Эмаўсе яны пазнаюць уваскрэслага Ісуса толькі пасьля таго, як Ён благаславіў хлеб, разламаў яго і падаў ім. Благаслаўляе і ламае хлеб апостал Пётр пасьля свайго першага казаньня.

У 1674 годзе Барталамеа Эстэбан Мурыльё вядучы гішпанскі жывапісец «залатога стагодзьдзя» скончыў восем вялікіх карцін, замоўленых яму для царквы шпіталя «дэ ла-Карыдад», якія паказваюць подзьвігі хрысьціянскай міласэрнасьці — творы, цудоўныя гэтулькі ж па малюнку, пэрспэктыве і каларыту, колькі і па кампазыцыі і выразнасьці постацяў і твараў. Адна зь іх «Памнажэньне хлябоў і рыб».



У 1963 г. пошта Ватыкана ў выпушчанай сэрыі з чатырох марак дзьве прысьвяціла твору Мурыльё. На марках адлюстраваны толькі фрагмэнт карціны. Таму дарэчы быў выпуск картмаксімума, на паштоўцы якога адлюстравана карціна поўнасьцю і каляровая, адпавядаючая апісаньню ў Эвангельлі ад Яна.

«Пасьля гэтага Ісус пайшоў на той бок мора Галілейскага, у навакольлі Тыверыяды; За Ім сьледам пайшло мноства людзей, таму што бачылі цуды, якія Ён тварыў над хворымі. Ісус узыйшоў на гару і там сядзеў з вучнямі Сваімі. А набліжалася Пасха, сьвята Юдэйскае. Ісус, узьвёўшы вочы, угледзеўшы, што мноства людзей ідзе да Яго, кажа Піліпу: дзе нам купіць хлябоў, каб іх накарміць? А казаў гэта, выпрабоўваючы яго; бо Сам ведаў, што хацеў зрабіць. Піліп адказваў Яму: ім на дзьвесьце дынараў ня хопіць хлеба, каб кожнаму дасталося хоць трошкі. Адзін вучань Ягоны Андрэй, брат Сымона Пётры, кажа Яму: Тут ёсьць у аднаго хлопчыка пяць хлябоў ячных і дзьве рыбкі, але што гэта на такое мноства, Ісус сказаў: скажэце ім узьлегчы. А было на тым месцы многа травы. І вось узьлегла людзей лікам каля пяці тысяч. Ісус, узяўшы хлябы і ўзьнёсшы падзяку, раздаў вучням, а вучні тым, што ўзьляжалі, гэтак сама і рыбы, колькі хто хацеў. І калі насыціліся, дык сказаў вучням Сваім: зьбярэце кавалкі, што засталіся, каб нічога не прапала. І сабралі, і

напоўнілі дванаццаць кашоў кавалкамі ад пяці ячных хлябоў, што засталіся ў тых, якія елі» (Паводле Яна 6:1—13).

Прысутнасьць хлопчыка не выпадковая. Цуд не адбываецца зь нічога; патрэбны першы сьціплы ўклад, які мае просты хлопчык. Ісус не пытацца ў нас, чаго мы не маем, але дае нам зразумець, як тое невялікае, што ў нас ёсьць, можа зрабіць цуд. Бог здольны памножыць нават наш самы сьціплы жэст любові і зрабіць нас сваім падарункам. Натоўп быў зьдзіўлены цудам: ён бачыць у Ісусе новага Майсея, годнага ўлады, і новую манну, бясьпечную будучыню. Але людзі спыняюцца на матэрыяльным элемэнце, ежы. «А Ісус, даведаўшыся, што хочуць прыйсьці, неспадзявана ўзяць Яго і зрабіць сваім царом, зноў адыйшоў на гару адзін» (Паводле Яна 6:15).




У 1971 г. пошта Арабскага Эмірату Шарджа ў сэрыі «Жыцьцё Ісуса Хрыста» зьмясьціла вельмі каляровую марку, на якой адлюстраваны момант, калі хлопчык прапаноўвае свае пяць хлябоў і дзьве рыбы

Ісус не зямны цар, які ажыцьцяўляе ўладу, а кароль, які служыць, каб чалавек наталіў не толькі фізычны голад, але і самы глыбокі голад, голад пошуку сябе, што значыць праўды, — голад Бога.

Ісус Хрыстос праз цуд памнажэньня хлябоў падрыхтаваў да прыняцьця найцудоўнейшай праўды аб тым, што Ён сам зьяўляецца праўдзівым хлебам, які сышоў з неба: «Хто будзе спажываць Маё Цела, той будзе жыць вечна».

Але гэтая праўда сталася для многіх не да прыняцьця, яны адышлі і ўжо не хадзілі зь Ісусам. Шмат хто казаў: «Цяжкая гэта мова. Хто можа яе слухаць». Менавіта тады, калі чалавек ня можа зразумець пераўзыходзячай яго рэчаіснасьці, ён вельмі часта адыходзіць ад Бога. Таму што няспынна задае пытаньні і не можа замаўчаць, таму і не чуе Божага адказу. Гэтыя няспынныя пытаньні, страхі, нежаданьне маюць пачатак у тым, што Бог не зьяўляецца ў чалавечым сэрцы Богам сапраўдным. Чалавек ужо ўфармаваў у сабе Бога паводле свайго вобразу і ўпарта трывае ў гэтым уяўленьні, таму няма нічога дзіўнага, што ён часта расчароўваецца.




У Царкве Множаньня ў Табзе знаходзіцца мазаіка, якую пошта Ізраілю паказала на марцы ў 1996 годзе

Распаўсюджана меркаваньне, што месца цуду Ісуса, дзе было накормлена пяць тысяч, дзе Ісус распавёў Нагорную пропаведзь, дзе ён зьвярнуўся да Апосталаў у рыбацкай лодцы пасьля Яго Ўваскрэсеньня, і дзе ён загадаў Пятру, «Пасі авечак Маіх, называецца Табга (паходзіць ад грэцкай назвы Heptapegon, што азначае «Сем крыніц». На іўрыце Эйн-Шэва).

«Тады Ісус сказаў дванаццацём: ці ня хочаце і вы адыйсьці? Сымон Пётр адказаў Яму: Госпадзе! да каго нам ісьці? Ты маеш словы вечнага жыцьця. і мы паверылі і спазналі, што Ты — Хрыстос, Сын Бога жывога» (Паводле Яна 6:67—69).

Пераможам сваю ўпартасьць, каб змаглі паўтарыць сьледам за Пятром: «Ты маеш

словы вечнага жыцьця. І мы паверылі і спазналі, што Ты — Хрыстос, Сын Бога жывога».




У 1983 годзе пошта Рэспублікі Бопутатсвана выпусьціла чатыры маркі з цытатамі з Эвангельля ад Яна. На адной зь іх фота двух хлябоў. Ад аднаго адламаныя кавалкі. Уверсе на ангельскай мове надпіс «Я ёсьць хлеб жыцьця...» (Паводле Яна 6:48)

Варожыя сілы нямоглыя ў прысутнасьці Бога і не ўладныя над тым, хто да яго імкнецца. Твар Хрыста гледачу не відаць, толькі ледзь адрозны са сьпіны профіль. Пётр, які не адрывае погляду ад Хрыста, вырашаецца на скачок у бушуючае мора, перапоўніўшыся веры.



Марка пошты Арабскага Эмірату Шарджа (1971 г.) «Малавер'е Пятра» з сэрыі «Жыцьцё Ісуса Хрыста»

## Хаджэньне па водах

У старажытных эгіпцян, у якіх не было літар, для кожнага паняцьця былі свае значкі, герогліфы. І для паняцьця немагчымага, цудоўнага быў значок: чалавечак, які пеша ідзе па вадзе.

Заўсёды людзі разумелі, што немагчыма ісьці па вадзе. А апостал Павел нам кажа: «Усё магу ва ўмацоўваючым мяне Ісусе!» Бог Сам нам сказаў: «І больш створыце чым Я».

Чаму ж з намі не зьдзяйсьняецца цудаў? Толькі па нашым малавер'і. Вочы нашы зачынены...

Тэма «Хаджэньне па водах» натхняла шматлікіх мастакоў. Адну са сваіх карцін «Хрыстос на моры Галілейскім» прысьвяціў гэтай тэме і Якопа Тынтарэта. Хрыстос ідзе па бурных марскіх водах. Заклічна высіцца Яго самотная велічная постаць. Апосталы — купка спалоханых рыбакоў, бездапаможных пад навальнічным небам. Голас Ісуса вызваляе іх ад безаблічнага страху. Страшныя рваныя хвалі адлучаюць вучняў ад Настаўніка, але няма сумневу ў іх сустрэчы.

Вось як гэта падзея апісваецца ў Эвангельлі ад Мацьвея: «І адразу прымусіў Ісус вучняў Сваіх увайсьці ў лодку і выправіцца раней за Яго на той бок, пакуль Ён адпусьціць людзей. І адпусьціўшы людзей, Ён узышоў на гару самнасам памаліцца; і зьвечарэла калі, застаўся там адзін. А лодка была ўжо на сярэдзіне мора, і яе біла хвалямі, бо вецер быў супраціўны. А ў чацьвёртую варту ночы пайшоў да іх Ісус, ідучы па моры. І вучні, убачыўшы Яго, што ішоў Ён па моры, сумеліся і казалі: гэта прывід; і ад страху закрычалі. Але Ісус адразу загаварыў зь імі і сказаў: падбадзёрцеся; гэта Я, ня бойцеся. Пётр сказаў Яму ў адказ: Госпадзе! калі гэта Ты, загадай мне прыйсьці да Цябе па вадзе. А Ён сказаў: ідзі. І выйшаўшы з лодкі, Пётр пайшоў па вадзе, каб падысьці да Ісуса. Але, бачачы моцны вецер, спалохаўся і, пачаўшы тануць, закрычаў: Госпадзе! уратуй мяне. Ісус адразу, працягнуўшы руку, падтрымаў яго і кажа яму: малаверны! навошта ты засумняваўся? І калі ўвайшлі яны ў лодку, вецер аціх. А тыя, што ў лодцы былі, падышлі, пакланіліся Яму і сказалі: сапраўды,

Ты Сын Божы» (Паводле Мацьвея 14:22—33).




Відарыс карціны Якопа Тынтарэта (Jacopo Robusti, Jacopo Comin, Tintoretto) «Хрыстос на моры Галілейскім» (не скончана, Вашынгтон, Нацыянальная галерэя) можам убачыць на марцы пошты краіны Рас-эль-Хайма (1970)

Марк сваёй заўвагай пралівае сьвятло на мэты Хрыста, які прадэманстраваў цуд хадні па вадзе. Ён стварыў яго ў навучаньне малаверным, «бо не дайшлі розумам да цуду з хлябамі, таму Што сэрца ў іх было скамянелае» (Паводле Марка 6:52).




На карціне мастака Джавані Дамініка Т'еполa (Венэцыя 1727—1804) «Хрыстос супакойвае буру» адлюстраваны той момант, калі Сьвяты Пётр пакідае лодку каб пайсьці па вадзе. Марка пошты Емену (1970 г.)

«Пераймайце мяне, як я Хрыста», — кажа апостал Павал. Вучыцеся жыць, як напісана ў Эвангельлі. Гледзіце на Хрыста, які як бы раскрыжаваны перад нашымі вачамі. Калі мы не будзем у Яго вучыцца, навошта ж тады гэта сьвятое Чароўнае Жыцьцё праходзіць перад намі? «Пераймайце мяне, як я Хрыста».




Вакно царквы Конша Сэнт-Фуа (Эр), вітраж з сярэдзіны шаснаццатага стагодзьдзя «Сьвяты Пётр ідзе па вадзе» на марцы пошты Францыі (1963 г.)

Пётр захацеў пераймаць Хрыста, захацеў ісьці, і Бог ухваліў яго. «Ідзі!» — сказаў Ён, і мы, калі жадаем жыць па-эвангельску, абавязкова пачуем голас Хрыстоў. Ідзі! Ідзі ты таксама, ідзі, але не бойся, ведаючы, што вакол бушуюць хвалі, ведаючы, што цябе, можа быць, чакае і адзінота. Бо Пётр пайшоў адзін, астатнія вучні не пайшлі за ім. Яны засталіся ў лодцы разгубленыя і спалоханыя. І яшчэ яму трэба было пайсьці на рызыку, таму што ўявіце сабе: ступіць у бездань, якая знаходзіцца ў сталым руху. Пырскі пены, цёмна і страшна... Кінуцца як быццам бы ў пустэчу. Але ён ведаў, што наперадзе Бог і ступіў туды.

У гэтым рызыка нашай веры. Мы заўсёды павінны ісьці на гэту рызыку, таму што інакш сэрца наша ніколі не зьвернецца да Бога пасутнасьці.

Толькі наперад, толькі наперад да Яго. Кожны з нас, калі б сапраўды асэнсавана глядзеў на жыцьцё сваё, то ўвесь час бачыў бы гэты цуд прысутнасьці Бога. У тое самае імгненьне, калі Пётр паглядзеў на гэтыя жудасныя хвалі, а не на Хрыста, ён страціў цудоўную здольнасьць ісьці па ва-

дзе, стаў тануць і закрычаў: «Госпадзе! уратуй мяне». Вядома, Пётр плаваць умеў, ён быў рыбак, але ў гэты момант у яго сэрца зваліласе, сілы яго пакінулі, і ён у цямрэчы пайшоў да дна. І ўсёткі адна думка, што побач дзесьці Бог, у яго засталася, і ён заклікаў: «Госпадзе! уратуй мяне». Ён тут жа адчуў цьвёрдасьць працягнутай да яго рукі і пачуў словы: «Малаверны, навошта ты ўсамніўся?»

Вось так і мы з вамі, атрымліваючы падтрымку і дапамогу Божую, тут жа пачынаем вагацца. А калі мы пачынаем вагацца, калі думкі нашы двояцца, тады ўсё, як у Пятра, сыходзіць у нас з-пад ног, і мы тонем. І дай вось Бог, каб тады, калі мы ўсамніліся і адчуем сваю блізкую згубу, каб мы выклікнулі: «Госпадзе! уратуй мяне. Духоўна гіну, духоўна паміраю, чарсьцьвею, пазбаўляюся веры і Тваёй прысутнасьці!» І тады няхай будзе для нас рука Яго цьвёрдая, няхай яна нас падтрымае і Ён скажа: «Малаверны, навошта ты ўсамніўся?

## Ключы Царства Нябеснага

У 1929 годзе пасьля ўтварэньня дзяржавы Ватыкан была выпушчана першая марка пошты Ватыкана. На марцы намаляваны атрыбуты папскай улады — тыяра і ключы Сьвятога Пятра.

Каб зразумець, што сымбалізуюць гэтыя ключы і чаму яны зьяўляюцца атрыбутамі папскай улады, зьвернемся да Бібліі. «І Я кажу табе: ты Пётр, і на камені гэтым Я збудую Царкву Маю, і брамы пякельныя не адолеюць яе. І дам табе ключы Царства Нябеснага: і што зьвяжаш на зямлі, тое будзе зьвязана ў нябёсах; і што разьвяжаш на зямлі, тое будзе разьвязана ў нябёсах» (Паводле Мацьвея 16:18,19).




Атрыбуты папскай улады. Марка пошты Ватыкану (1929 г.)

На паўночнай сьцяне ў пятым адсеку Сыкстынскай капэлы П'етра Пэруджы — італьянскі жывапісец эпохі Рэнесансу — намаляваў сваю знакамітую фрэску (1481—82) «Хрыстос уручае ключы Сьвятому Пятру».




У 2000 годзе пошта Ватыкану выпусьціла марку з выявай фрэскі П'етра Пэруджы «Хрыстос уручае ключы Сьвятому Пятру».

Ісус уручае Сьвятому Пятру ключы ад нябёсаў, якія сымбалізуюць уладу грахі адпускаць і ўпускаць у рай. Постаці на пярэднім пляне ўтвараюць дзьве групы. Галоўная група складаецца з Апосталаў (уключаючы Юду — пяты зьлева ад Ісуса). Трэцім справа стаіць Ян Багаслоў. Хрыстос уручае ключы ўкленчанаму Пятру: залаты — ад брамы Рая, і срэбны — ад брамы Пекла. Другая група складаецца з сучасьнікаў аўтара (уключаючы самога мастака — пяты ад правага краю ў чорнай шапцы, з доўгімі валасамі). Храм Саламона, намаляваны ў выглядзе васьміграннай ратонды з порцікамі дамінуе ў цэнтры фрэскі і служыць фонам. Побач трыюмфальная арка Канстанціна, першага хрысьціянскага імпэратара Рымскай імпэрыі. На заднім пляне намаляваны яшчэ дзьве сцэны з жыцьця Ісуса: зьлева «Кесару кесарава» (Паводле Мацьвея 17:24

—27) і «Пабіцьцё Хрыста камянямі» (Паводле Яна 8:31—59) справа. Дэталі гэтай фрэскі разьмешчаны яшчэ на іншых марках.



Пошта Ватыкана выпусьціла такую марку ў 1993 годзе, а пошта Емэну на марачным лісьце, выдадзеным з нагоды візыту ў Емэн Папы ў 1969 годзе

Адной з самых значных прац Рафаэля стала папская замова на дзесяць габэленаў, якія ілюструюць Эвангельскія сцэны з жыцьця апосталаў Пятра і Паўла і прызначаных для Сыкстынскай Капэлы. Рафаэль зрабіў малюнкі для гэтых габэленаў у іх поўную велічыню (так званыя кардоны) у 1515—1516 гадах, пасьля чаго яны былі дасланы ў Брусэль, у ткацкую майстэрню вядомага майстра Піцера ван Эльста. Першыя тры габэлены вярнуліся ў Рым у 1519 годзе. Відавочна, Рафаэль мог іх бачыць да сваёй сьмерці выстаўленымі ў Сыкстынскай Капэле. У наш час габэлены знаходзяцца ў Ватыканскім музэі. Ацалела сем арыгінальных кардонаў Рафаэля, і ўсе яны захоўваюцца ў калекцыі Музэя Вікторыі і Альберта ў Лёндане.

У габэлене «Пакліканьне апостала Пятра» Рафаэль спалучае дзьве падзеі з Новага Запавету: Уручэньне ключоў (Паводле Мацьвея 16:18,19) і «пасьві авечкі Мае» (Паводле Яна 21:15—17). Зьлева намаляваны Хрыстос. Правай рукой ён паказвае Пятру, які схіліў перад ім калена, на статак, нібы кажучы: «Пасі авечак маіх». Апосталы, якія стоўпіліся ззаду Пятра, ахоплены хвалявальнем і выяўляюць самыя розныя пачуцьці. Адны пытальна глядзяць адзін на аднаго, зьдзіўляючыся, чаму Настаўнік заклікаў і ўручыў ключы Пятру, які тройчы зрокся Яго. Іншыя з замілаваньнем глядзяць на Ісуса, паслухмяна прымаючы любыя яго дзеяньні, а трэція спакойна прымаюць гэта рашэньне.



Пошта краіны Трыстан-да-Кунья ў 1983 г. выпусьціла ў зварот прыгожы блёк з выявай габэлена Рафаэля «Пакліканьне апостала Пятра» або «Уручэньне ключоў»

Эвангельле ад Мацьвея заканчваецца словамі: «Дык ідзеце, навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца і Сына і Сьвятога Духа, вучачы іх выконваць усё, што Я запаведаў вам; і вось, Я з вамі ва ўсе дні да сканчэньня веку. Амін» (Паводле Мацьвея 28:19,20).

Гэта зварот да ўсіх, хто верыць у Хрыста. А ў нас ёсьць мільён апраўданьняў адносна таго, чаму мы не робім гэтага. Нават Майсей скардзіўся Богу: «Хто я, каб мне ісьці да фараона і вывесьці зь Егіпта сыноў Ізраілевых?» (Выхад 3:11).

Але Хрыстос пытае: «ці любіш Мяне?» І, калі твой адказ: «Госпадзе! Ты ўсё ведаеш; Ты ведаеш, што я люблю Цябе», то Ісус кажа: «Пасьві авечкі Мае...» (Паводле Яна 21:16—17). Тады падтрымка табе забясьпечана, бо сказана: «Я з вамі ва ўсе дні да сканчэньня веку» (Паводле Мацьвея 28:20).

## Пераўтварэньне Ісуса

Пра гэту падзею апавядаюць усе тры Эвангеліста, прычым годна нататкі, што ўсе злучаюць яго з меўшай месца за шэсьць (па рахунку Сьвятога Лукаша, за восем) дзён гаворкай Ісуса пра надыходзячыя для Яго пакуты і пра нясеньне крыжа Яго пасьлядоўнікамі.

Адно з самых першых маляўнічых увасабленьняў ідэі Пераўтварэньня і Эвангельскага аповеду пра гэта — мазаіка апсіды царквы Сант Апалінарэ ін Класе ў Равеньне (VI — VII стагодзьдзі).



Мазаіка апсіды царквы Сант Апалінарэ ін Класе (VI — VII стагодзьдзі).Равена. Паштовая марка фірмы ZAZZLE

Выява Ісуса Хрыста тут сымбалічная ў выглядзе крыжа. Гэты ўпрыгожаны каштоўнымі камянямі крыж плавае ў Зорным небе з тварам Хрыста, ледзь прыкметным у жамчужнай рамцы ў цэнтры. Па абодва бакі крыжа намаляваны грэцкія літары α (альфа) і Ω (амэга) — таксама сымбалічная выява Выратавальніка, — якія азначаюць пачатак і канец. Пад крыжам надпіс salus mundi (выратаваньне сьвету) і сымбалічнае ўказаньне на Ісуса Хрыста ў выглядзе подпісу ΙΧΘΥΣ, якое азначае Ιησυs Χριστόs Θεον Υἱός Σωτήρ (Ісус Хрыстос, Божы Сын, Выратавальнік). Па левы бок круга намаляваны Майсей (Moses), па правы — Ільля (Helias). Угары намалявана рука — эмблема Бога-Бацькі. Яшчэ вышэй намаляваны Хрыстос, які дае дабраславеньне. З кожнага боку на сінім фоне з аблокамі чатыры знака Эвангелістаў, крылатыя фігуры — арол (Ян), Анёл (Мацьвей), леў (Марк) і бык (Лукаш). Да Хрыста ідуць дванаццаць белых авечак, якія сымбалізуюць Апосталаў, выходзячых з дзьвярэй двух сьвятых гарадоў — Ерусаліма і Віфлеема. Ля падножжа гары райскі пэйзаж на лузе, поўным дрэў, кустоў, кветак, камянёў і птушак. Пасярод стаіць Сьв. Апалінарый у фелоні з узьнятымі рукамі, якому прысьвячаецца храм. Дванаццаць ягнят каля яго сымбалізуюць агульнасьць вернікаў. Гэтая лічба таксама сымбалічна нагадвае Хрыста як Добрага Пастыра дванаццаці авечак — вучняў Хрыста.

Вось як апісваецца Пераўтварэньне Хрыста ў Эвангельлі: «І праз шэсьць дзён узяў Ісус Пятра, Якава і Яна, брата ягонага, і ўзьвёў іх на гару высокую адных, і перамяніўся перад імі, і зазьзяла аблічча Ягонае, як сонца, а ўбраньне Ягонае стала белае, як сьвятло. І вось, явіліся ім Майсей і Ільля, і зь Ім гутарылі. Азваўшыся, Пётр сказаў Ісусу: Госпадзе! добра тут быць; калі хочаш, зробім тут тры намёты: Табе адзін, і Майсею адзін, і адзін Ільлю. І калі ён яшчэ гаварыў, вось, воблака сьветлае асланіла іх; і вось, голас з воблака мовіў: Гэты ёсьць Сын Мой Любасны, Якога Я ўпадабаў; Яго слухайце. І пачуўшы, вучні ўпалі ніцма і вельмі перапалохаліся. І прыступіўшы, Ісус дакрануўся да іх і сказаў: устаньце і ня бойцеся. А ўзьвёўшы вочы свае, яны нікога ня ўбачылі, акрамя аднаго Ісуса. І калі сыходзілі яны з гары, Ісус загадаў ім, кажучы: нікому не кажэце пра бачанае, пакуль Сын Чалавечы

не ўваскрэсьне зь мёртвых» (Паводле Мацьвея 17:1—9).



На марцы Манголіі (1972 г.) выява карціны Карла Бэльліні «Пераўтварэньне Ісуса»



«Пераўтварэньне Ісуса», Фра Анджэліка, марка Экватэрыяльнай Гвінэі (1974 г.)



«Пераўтварэньне Ісуса» на марцы пошты Фінляндыі (2000 г.), выява карціны швэдзкага мастака Фрэдрыка Весьціна, якая разьмешчана ў алтары катэдральнага сабора Найсьвяцейшай Дзевы Марыі і Сьвятога Генры ў Турку

Сьвята Пераўтварэньня як агульнапрынятае і ўрачыстае на Захадзе было ўведзена параўнальна позна — Папам Калістам III (1457). Хоць вядомыя прыклады малюнка Пераўтварэньня, якія адносяцца да больш раньняга часу — у Дуча (1308—1311; Лёндан, Нацыянальная галерэя), Гібэрці (1425 — 1452; Флярэнцыя, дзьверы баптыстэрыя; Мікеланджэла лічыў іх падобнымі да брамы Рая і адгэтуль пайшла іх назва — «Порта дэль Парадзіза»).

Быць можа, самае ўражлівае мастацкае ўвасабленьне Перартварэньня ў заходнім мастацтве даў Рафаэль у перадсьмяротнай карціне (няскончаная, яна стаяла ля яго труны): Выратавальнік з узьнятымі рукамі, у разьдзімаючых адзеньнях лунае ў тонкіх аблоках, асьветленых бляскам Яго ўласнага зьзяньня. Абапал ад Яго таксама лунаюць у паветры Майсей і Ільля — сымбалі Старога Запавету, якія ўвасабляюць Закон і прароцтвы. Першы са скрыжалямі ў руках. Ніжэй у розных паставах ляжаць асьлепленыя Апосталы: яны рукамі затуляюць свае твары, не ў сілах пераносіць сьвятло, якое выпраменьваецца ад Хрыста. Зьлева на гары два староньніх сьведкі цуду Пераўтварэньня, у аднаго зь іх пацеркі.



Рафаэль. «Пераўтварэньне Хрыста» (1517—1520. Рым. Ватыкан. Пінакатэка). Фрагмэнт карціны на блёку пошты краіны Сан-Томе і Прынсэп (1983 г.)

Ля падножжа гары Рафаэль намаляваў дзьве жвавыя групы людзей: зьлева –дзевяць Апосталаў, справа — натоўп юдэяў,

у якім на першым пляне бачныя ўкленчаная жанчына і габрэй, які падтрымлівае шалёнага хлопчыка, моцныя курчы якога, пакаламучаны погляд і адкрыты рот выяўляюць яго цяжкія душэўныя і фізычныя пакуты. Натоўп моліць Апосталаў выгаіць ашалелага. Апосталы ж са зьдзіўленьнем глядзяць на яго, не ў сілах палегчыць яго долю; некаторыя зь іх паказваюць на Хрыста, як бы гаворачы, што толькі Ён здольны выгаіць.

Падставай для гэтага эпізоду зьяўляецца аповяд Мацьвея.



«Пераўтварэньне Хрыста» Рафаэль. (1517—1520. Рым. Ватыкан. Пінакатэка.). Рэпрадукцыі на марцы пошты Нігеру (1983 г.) і фрагмэнт, які можа лічыцца ілюстрацыяй слоў бацькі хлопчыка: «Я прыводзіў яго да вучняў Тваіх, і яны не маглі ацаліць яго» на марцы пошты Малаві (1990 г.)

«І калі прыйшлі яны да люду, падышоў да Яго чалавек і, укленчыўшы перад Ім, сказаў: Госпадзе! памілуй сына майго; ён лунатык і цяжка пакутуе, бо часта падае ў вагонь і часта ў ваду; я прыводзіў яго да вучняў Тваіх, і яны не маглі ацаліць яго. А Ісус сказаў у адказ: о, род няверны і разбэшчаны! Дакуль буду з вамі? Дакуль буду трываць вас? прывядзеце яго да Мяне сюды. І забараніў яму Ісус; і выйшаў зь яго дэман; і выздаравеў хлопец у тую ж хвіліну. Тады вучні, прыступіўшы да Ісуса асобна, сказалі: чаму мы не маглі выгнаць яго? А Ісус сказаў ім: ад няверства вашага; бо праўду кажу вам: калі вы будзеце мець веру з гарчычнае зерне і скажаце гары гэтай: „перайдзі адсюль туды“, і яна пяройдзе; і нічога ня будзе немагчымага вам. Гэты ж род выганяецца толькі малітваю і постам» (Мацьвея 17:14—21).

Пераўтварэньне — знак, які фарысэі прасілі ў Ісуса, каб пацьвердзіць, што ён — абраны Богам Цар, але ім ён яго не даў. Аднак вучням, асабліва блізкім Ісусу, было дазволена ўбачыць Яго Пераўтварэньне, якое пацвярджае праўдзівасць прароцтваў аб Царстве.



«Пераўтварэньне Ісуса» адлюстравана і на іконах розных краін сьвету. Выявы іконаў «Пераўтварэньне Ісуса» бачым на марках Баўгарыі, 1981 г. і 1869 г.)

У гары — асьляпляльны бляск, слава, зьява жыхароў неба і гутарка пра вышэйшыя таямніцы, у нізе — скруха і пакуты, клопаты пра зямное і чалавечае бясьсільле ў барацьбе зь ім. Пачуцьцё, устрывожанае карцінаю чалавечай бездапаможнасьці, знаходзіць поўнае заспакаеньне ў сузіраньні славы Таго, Хто здольны ня толькі вылечыць хваробы цела і душы, але і перамагчы зло. Нам таксама патрэбна пераўтварэньне.

Пазьней Пётр пісаў: «Бо мы абвясьцілі вам сілу і прышэсьце Госпада нашага Ісуса Хрыста, не за хітра сплеценымі байкамі йдучы, а быўшы навочнымі сьведкамі Ягонай велічы. Бо Ён прыняў ад Бога Айца гонар і славу, калі ад гожай славы даляцеў да Яго такі голас: „Гэты ёсьць Сын Мой Любасны, Якога Я ўпадабаў“. І гэты голас, які зь

нябёсаў зышоў, мы чулі, калі былі зь Ім на сьвятой гары. І пры тым мы маем самае пэўнае прарочае слова; і вы добра робіце, што зьвяртаецеся да яго, як да сьветача, які зьзяе ў цёмным месцы, пакуль не пачынае брацца на дзень і ня ўзыдзе ранішняя зорка ў сэрцах вашых...» (Другое Пятра 1:16—19).

## Дынарый кесара

«І пасылаюць да Яго некаторых фарысэяў і ірадыян, каб падлавіць Яго на слове. А яны, прыйшоўшы, кажуць Яму: Настаўнік! мы ведаем, што Ты справядлівы і не стараешся дагадзіць камунебудзь, бо не глядзіш ні на якія аблічча, а шчыра шляху Божаму вучыш; ці дазваляецца даваць падатак кесару, ці не? ці даваць нам, ці не даваць? Але Ён, ведаючы іхнюю крывадушнасьць, сказаў ім: што спакушаеце Мяне? прынясеце Мне дынар, каб Мне бачыць яго. Яны прынесьлі. Тады кажа ім: чыя гэта выява і надпіс? яны сказалі Яму: кесаравыя. Ісус сказаў ім у адказ: аддавайце кесаравае кесару, а Божае Богу. І зьдзіўляліся зь Яго» (Паводле Марка 12:13—17).

«Дынарый кесара» — адна з лепшых карцін Тыцыяна. Ў сваёй карціне мастак супаставіў дзьве постаці. Фарысэй, зьяўляючыся з-за рамы карціны, працягвае манэту. Постаць Хрыста выпраменьвае спакой, унутраную сілу і ў той жа час яго погляд сумны і праніклівы. Хрыстос не ганарue поглядам фарысэя, а глядзіць міма. Яго твар напісаны асабліва сьветла і празрыста. Твар фарысэя грубы і карычняватага колеру. Але найпрыгажэй перададзены кантраст тону рук: белай вытанчанай рукі Хрыста на ярка-чырвоным фоне яго халаміды і рукі фарысэя на сінім фоне мантыі. Так з дапамогай дзіўнай гульні калярыту мастак перадае глыбокі кантраст двух сьветаў — сьвету хлусьні і фальшу і сьвету праўды.




Выява карціны Тыцыяна «Дынарый кесара» (1518 г. Дрэздэн) на марцы пошты Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі (1957 г.)

У гэтым эпізодзе Ісусу была падрыхтаваная пастка. Калі б Хрыстос адказаў «даваць», Яго можна было б абвінаваціць у «дапамозе акупантам».




«Дынарый кесара» (Strozzi Bernardo, 17 стагодзьдзе. Музэй выяўленчых мастацтваў, Будапешт, Вугоршчына) на марцы (2013 г.) фірмы ZAZZLE ЗША

Палестына была заваявана язычнікамі, якія не паважалі Бога, а дынарый стаў знакам іх абразьлівага стаўленьня да юдэйскіх традыцый. Малюнак людзей у Старым Запавеце забаронены, а на манэце адчаканены быў імпэратар і надпіс: «Тыберый Кесар, Аўгуст, Сын Чароўнага Аўгуста, Вялікі Панцыфекс» (Панцыфекс — жрэц), якога рымляне шанавалі, як бажаство. Таму спатрэбілася фарысэям дапамога ірадыян — прыхільнікаў улады цара Ірада, і, такім чы-

нам, Рыма. Імі фарысэі пагарджалі, але тут не пагрэбавалі паслугамі здраднікаў, бо ніводны фарысэй не мог дакрануцца да такой манэты, не апаганіўшыся. Але калі б Ісус адказаў «не» — гэта азначала б бунт супраць Рыму, і тыя ж ірадыяне неадкладна данесьлі б на Яго. А гэта азначала сьмерць. Гэта быў другі чыньнік, чаму іх паклікалі.

Тыцыян пазьней у 1568 г. стварыў яшчэ адну карціну «Дынарый кесара». На ёй жэст рук Хрыста без слоў сьцьвярджае, што Царства Божае якасна адрозьніваецца ад зямнога царства.




«Дынарый кесара» (1568. Тыцыян, Нацыянальная галерэя, Лёндан) на марцы пошты Лесота (1988 г.)

Што ж незвычайнага сказаў фарысэям Ісус? Чаму яны так зьдзівіліся Яго адказу?

Хрыстос нездарма папытаў паказаць Яму дынарый. Па тагачасных уяўленьнях, той, хто быў намаляваны на манэце, зьяўляўся яе ўладальнікам. Кесару і трэба было аддаваць тое, што яму прыналежыць. Невырашальнае, па меркаваньні юдэяў, пытаньне пра падатак імпэратару, выяўляецца, вырашалася простым поглядам на манэту.

У сутнасьці, Хрыстос адказаў на пытаньне пра падатак кесару сьцьвярджальна, аднак Яго адказ знаходзіцца зусім у іншай плоскасьці, чым думалі сабе ворагі Выратавальніка. Іх пытаньне было заснавана на немагчымасьці даць трэці адказ: калі ты кажаш «плаці», ты вораг Богу, калі «не плаці» — вораг кесару. Гэту схему Хрыстос руйнуе сьцьвярджэньнем, што Царства Божае якасна адрозьніваецца ад зямнога царства і падае людзям — грамадзянам і сынам Нябеснага Царства — падпарадкоўвацца зямной дзяржаве ў той меры, наколькі гэта сумяшчальна са служэньнем Богу.

Праз некалькі дзён Понцію Пілату Хрыстос скажа тое ж самае: «Царства Маё не ад сьвету гэтага».

## «Хто без граху?»

*Я сказаў: «вызнаю Госпаду злачынствы мае»; і Ты зьняў зь мяне віну грэху майго. (Псалтыр 32:5)*

«Хто без граху?» — такую назву надаў сваёй карціне Васіль Паленаў, якую скончыў у 1887 г. і выяву якой разьмясьціла пошта Расіі на марцы (1994 г.).




Васіль Паленаў, «Хрыстос і грэшніца», 1887 г., пошта Расіі (1994 г.)

Але на марцы напісана іншая назва. Справа ў тым, што цэнзар, які курыраваў выставу, на якой павінна было выстаўляцца палатно, першапачаткова нават не жадаў даваць згоду на ўключэньне карціны ў экспазыцыю. Да шчасьця, карціна спадабалася імпэратару і ён набыў яе для сябе. Цэнзура пераназвала карціну на звыклае «Хрыстос і грэшніца». У імпэратарскім ж музэі палатно

атрымала яшчэ іншую назву: «Блудная жонка».




Карціна Паленава на полі блёку пошты краіны Кот — д'Івуар

Паленаў быў вельмі абураны гэтым фактам: «Як вы не разумееце, гэта Эвангельскаму аповеду зусім супярэчыць. Бо там ясна сказана, што гэта зграшыўшая, а не блудная жанчына. І не яна гераіня маёй карціны. Яе сэнс — у сьцьвярджэньні годнасьці чалавека, хрысьціянскай міласэрнасьці, прабачэньня і любові». Але, ці ня стаў Хрыстос парушальнікам Закону? Ня стаў, бо жанчына шчыра раскаялася.

Вось словы з Эвангельля, якія натхнілі Паленава і іншых мастакоў на стварэньне знакамітых твораў:

«А Ісус пайшоў на гару Аліўную, а раніцай зноў прыйшоў у храм, і ўвесь люд ішоў да Яго; Ён сеў і вучыў іх. Тут кніжнікі і фарысэі прывялі да Яго жанчыну, засьпетую на блудзе, і, паставіўшы яе пасярэдзіне, сказалі Яму: Настаўнік! гэтую жанчыну засьпелі на блудзе; а Майсей у законе наказваў нам пабіваць такіх камянямі: Ты што скажаш? Казалі ж гэта, выпрабоўваючы Яго, каб знайсьці што-небудзь і зьвінавацiць Яго, але Ісус, нахіліўшыся нізка, пісаў пальцам на зямлі, не зважаючы на іх. Калі ж папыталіся ў Яго далей, Ён, схіліўшыся, сказаў ім: хто з вас бяз грэху, першы кінь у яе каменем. І зноў, нахіліўшыся нізка, пісаў на зямлі. А яны, пачуўшы гэта і адчуўшы дакоры сумленьня, пачалі выходзіць адзін за адным, пачынаючы са старэйшых да апошніх; і застаўся адзін Ісус і жанчына, якая стаяла пасярэдзіне. Ісус, схіліўшыся і ня бачачы нічога апрача жанчыны, сказаў ёй: жанчына! дзе твае скаржнікі? ніхто не асудзіў цябе? Яна адказвала: ніхто, Госпадзе! Ісус сказаў ёй: і Я не асуджаю цябе; ідзі і больш не грашы» (Паводле Яна 8:1—11).




«Хрыстос і грэшніца». Рубенс. Марка пошты Сьера — Леонэ (1991 г.). Выява карціны Якопа Тынтарэта (Tintoretto (1518—1594) «Хрыстос і грэшніца». Марка пошты Емэну, выдадзеная ў 1969 годзе

Паводле юдэйскіх уяўленьняў, у суботу — сьвяты дзень супакою — было забаронена рабіць любыя запісы. Юдэй не мог напісаць і дзьвюх літар ні на паперы, ні на каменю, ні нават выдрапаць іголкай на сваім целе. Але ў гэты дзень дазвалялася рабіць запісы на пяску пальцам.

Дзеяньне Ісуса, калі ён не адказваючы пачаў штосьці пісаць пальцам на зямлі, зьяўляецца жэстам, які робяць калі не жадаюць адказваць тым, што пытаюцца пра што-небудзь вельмі недарэчнае або непрыстойнае, ня вартае адказу.

Ведаючы хітрасьць фарысэяў, Ісус Хрыстос працягваў пісаць на зямлі і рабіў выгляд, што Ён не зважае на тое, што яны казалі. Пісаньне на пяску Ісусам удадзены момант зьяўляецца як бы сымбалічным ука-

заньнем на тое, што насамрэч уяўляюць нашы грахі ў вачах Божых.




«Хрыстос і жанчына, узятая ў блудзе», Тыцыян. Блёк пошты Лесота (1988)

Пошта Лесота ў 1988 г. выпусьціла сэрыю марак, прысьвечаных творчасьці Тыцыяна.




На дзьвюх зь іх разьмешчаны дэталі карціны «Хрыстос і грэшніца». (Titian, Christ and the adultress, 1488. Мастацка-гістарычны музэй, Вена, Аўстрыя)

Васіль Паленаў пісаў: «Кніга, зь якой я чэрпаў зьмест маіх прац, вучыць нас літасьці і прабачэньню, а не асуджэньню і нязерпнасьці, яна вучыць ставіцца строга да сябе і паблажліва да іншых. Праўда, задача вельмі цяжкая, гэта подзьвіг». Васіль Паленаў мае на ўвазе Біблію. З Бібліі «чэрпаў зьмест».

«Дабрашчасны, каму дараваны злачынствы, і чые грахі адшкадаваныя, дабрашчасны той, каму Гасподзь яго грахоў не залічыць, і ў чым духу хітрыны няма!» (Псалтыр 32:1,2).

## Вылячэньне сьляпога

«І праходзячы, угледзеў чалавека, сьляпога ад роду. Вучні Ягоныя спыталіся ў Яго: Равьві! хто зграшыў, ён ці бацькі ягоныя, што ўрадзіўся сьляпы? Ісус адказваў: не зграшыў ні ён, ні бацькі ягоныя, але гэта на тое, каб на ім выявіліся дзеі Божыя; Мне належыць чыніць дзеі Таго, Хто паслаў Мяне, пакуль ёсьць дзень; прыйдзе ноч, калі ніхто ня можа чыніць; пакуль Я ў сьвеце, Я — сьвятло сьвету. сказаўшы гэта, Ён плюнуў на зямлю, зрабіў гразь са сьліны і памазаў гразёю вочы сьляпому, і сказаў яму: ідзі, умыйся ў купальні Сілоам, што азначае: пасланы.




У 2004-м годзе, у горадзе Давіда, Ерусаліме, ізраільскія археолягі знайшлі купальню Сілоам. І ў 2005 годзе пошта Ізраіля разьмясьціла на сваёй марцы малюнак купальні Сілоам

Той пайшоў і ўмыўся, і вярнуўся відушчы. Тут суседзі і тыя, што раней бачылі яго сьляпога, казалі: ці ня той гэта, які сядзеў і прасіў міласьціны? Некаторыя казалі: гэта ён. А некаторыя: падобны на яго. Ён казаў: гэта я. Тады пыталіся ў яго: як адкрыліся ў цябе вочы? Ён сказаў у адказ: чалавек, Якога завуць Ісус, зрабіў гразь, памазаў вочы мае і сказаў мне: «ідзі ў купальню Сілоам і ўмыйся». Я пайшоў, умыўся і зрабіўся відушчы» (Паводле Яна 9:1—11).

Эвангельлі распавядаюць шэсьць гісторый сьляпых мужчын, якіх вылечыў Ісус: Вылячэньне сьлепанароджанага (Ян, 9:1—7); Вылячэньне сьляпога; Вылячэньне двух сьляпых; (Мацьвей, 9:27—31, 22:29—34; Марк, 8:22—26, 10:46—52; Лукаш, 18:35—43).



На марцы Рэспублікі Конга, выпушчанай у 2007 г. на блёку“Мастацтва ў вяках» (Art du moyen AGE) выява карціны Буанінсенья «Вылячэньне сьляпога ў Ерусаліме ў купальні Сілоам»

Дуча дзі Буанінсенья (іт. Duccio di Buoninsegna; каля 1255, г. Сіена, Італія — 3 жніўня 1319) — італьянскі жывапісец у галоўным творы — алтарным абразе сіенскага сабора «Маэста» з выявай Мадонны ў акружэньні сьвятых і анёлаў на пярэднім баку і сцэн пакут Хрыста на тыльным баку — разьмясьціў у прыдзеле сярод іншых карціну «Вылячэньне сьляпога ў Ерусаліме ў купальні Сілоам» (1308—1311; Лёндан. Нацыянальная галерэя), што адпавядае тэксту з Эвангельля Паводле Яна.

Значэньне цуду вылячэньня сьляпога так тлумачыць ксёндз Яраслаў Грынашкевіч: «Каля гэтай падзеі сутыкнуліся сьлепата са здольнасьцю бачыць, цемра са сьвятлом, фальш з праўдай. Фарысэі, нягледзячы на бясспрэчны знак з неба („Спакон вякоў не чулі, каб хто расплюшчыў вочы чалавеку, сьляпому ад нараджэньня“), засталіся сьляпымі на прысутнасьць Хрыста, зза чаго страцілі шанс вылечыцца з уласных грахоў. Адсюль вынікае, што калецтвам горшым за фізычную сьлепату зьяўляецца заплюшчваньне вачэй на Хрыста-Збаўцу — наш Шлях, Праўду і Жыцьцё».




На марцы пошты Рэспублікі Кіпр (2014), прысьвечанай мастаку Эль Грэка зьлева ад партрэта дэталь карціны «Вылячэньне сьляпога»



У 1971 годзе пошта Арабскага Эмірату Шарджа ў сэрыі «Жыцьцё Ісуса Хрыста» адну з марак прысьвяціла цуду «Вылячэньне сьляпога»

Якая ж карысьць з гэтага цуду вылечваньня? Для акружэньня, можа, невялікая, можа, поўная супярэчнасьці. Гэты цуд падзяліў людзей. Аднак для вылечанага чалавека вартасьць таго, што ўчыніў яму Ісус, застаецца бясцэннай: ён убачыў прыгажосьць навакольнага сьвету. Больш за тое: асабіста пазнаў Збавіцеля гэтага сьвету і вызнаў веру ў Яго. З гэтага моманту ён сьведкам Хрыста застанецца, дзейсным знакам Яго моцы, якая вылечвае хваробы чалавека і цэлы сьвет». Адна гісторыя распавядае пра тое, як аднойчы чалавек прыйшоў у школу для дзяцей са слабым зрокам. Вельмі ўзрушаны ўбачаным, ён сказаў: «Гэта павінна быць жудасна — без вачэй ісьці праз жыць-

цё, ня бачыць прыгажосьці сьвету.». На гэта адна маленькая дзяўчынка адказала: «Яшчэ горш мець два вока і заставацца сьляпым».

## Добры Пастыр

«Праўду, праўду кажу вам: хто не дзьвярыма ўваходзіць у кашару авечую, а пералазіць дзе небудзь, той злодзей і грабежнік, а хто ўваходзіць дзьвярыма, той пастух авечкам: яму брамнік адчыняе, і авечкі слухаюцца голасу ягонага, і ён кліча авечкі свае па імёнах і выводзіць іх; і калі авечкі свае выведзе, ідзе перад імі, а авечкі за ім ідуць, бо ведаюць голас ягоны; а за чужым ня ідуць, а ўцякаюць ад яго, бо ня ведаюць чужога голасу».

Гэтую прытчу сказаў ім Ісус. Але яны не зразумелі, што такое Ён казаў ім. І вось, зноў Ісус сказаў ім:

«Праўду, праўду кажу вам, што Я дзьверы авечкам. Усе, хто колькі іх ні прыходзіла перада Мною, — зладзеі і грабежнікі; але авечкі не паслухаліся іх; Я — дзьверы: хто ўвойдзе Мною, той уратуецца, і ўвойдзе і выйдзе, пашу знойдзе. Злодзей прыходзіць толькі дзеля таго, каб украсьці, забіць і загубіць; Я прыйшоў дзеля таго, каб мелі жыцьцё і мелі ўдосталь. Я — Пастыр Добры: Пастыр Добры аддае жыцьцё сваё за авечкі; а найміт, ня пастыр, якому авечкі не свае, бачыць, як воўк падыходзіць, і пакідае авечкі і ўцякае, і воўк рабуе авечкі і разганяе іх; а найміт уцякае, бо найміт і ня дбае пра авечкі. Я — Пастыр Добры, і ведаю Маіх, і Мае ведаюць Мяне: як Айцец ведае Мяне, так і Я ведаю Айца, і жыцьцё Маё кладу за авечкі. Ёсьць у Мяне і іншыя авечкі, якія ня з гэтай кашары, і тых трэба мне прывесьці: і яны пачуюць голас Мой, і будзе адзін статак і адзін Пастыр. За тое любіць Мяне Айцец, што Я аддаю жыцьцё Маё, каб зноў прыняць яго; ніхто не адбірае яго ў Мяне, а Я Сам аддаю яго: маю ўладу аддаць яго і ўладу маю зноў прыняць яго; такі наказ атрымаў Я ад Айца Майго» (Паводле Яна 10:1—18).




На марцы краіны Бапутатсвана з 1981 г. надрукаваная цытата з Эвангельля «Я — Пастыр Добры: Пастыр Добры аддае жыцьцё сваё за авечкі» (Паводле Яна 10:11)

Гэта гутарка зьяўляецца працягам выкрывальных слоў Бога, зьвернутых да фарысэяў у сувязі з вылячэньнем сьляпога.




На марцы Парагваю (1968 г.) разьмешчана рэпрадукцыя карціны Бернарда Плакхорста «Добры Пастыр» (Bernhard Plockhorst (1825 −1907)

Ісус у іншасказальнай форме тлумачыць ім, што яны не праўдзівыя, кіраўнікі рэлігійнага жыцьця народа, не «добрыя пастыры», бо думаюць больш пра свае асабістыя выгоды, чым пра выгоду народа, і вядуць таму народ не да выратаваньня, а да пагібелі. Гэта іншасказальная прамова заснавана на спосабе жыцьця ў Палестыне. Бог параўноўвае народ са статкам авечак, а кіраўнікоў народа з пас-

тырамі гэтага статка. Статкі авечак заганялі на ноч, для захаваньня ад зладзеяў і ваўкоў, у пячоры ці знарок уладкаваныя для таго двары. У адзін двор нярэдка заганялі статкі, якія належалі розным гаспадарам. Раніцай брамнікі адкрывалі пастухам дзьверы, ўваходзілі пастухі ў іх, і кожны адлучаў свой статак, завучы сваіх авечак па імёнах: авечкі пазнавалі сваіх пастухоў па голасе, слухаліся іх і выходзілі за імі на пашу. Злодзеі ж і разбойнікі, вядома, не сьмелі ўвайсьці ў ахоўваныя ўзброеным брамнікам дзьверы, а пералазілі таемна цераз агароджу.

Беручы гэты добра вядомы з жыцьця прыклад, Бог мае на ўвазе пад «пастырам» — усякага праўдзівага кіраўніка рэлігійна-маральнага жыцьця; пад «зладзеямі» і «разбойнікамі» — усіх ілжывых, самазваных прарокаў, уяўных кіраўнікоў рэлігійнага жыцьця народа, якія думаюць толькі пра сябе і свае інтарэсы, якімі былі фарысэі.




Выява карціны Барталамэ Эстэбана Мурыльо (Bartolomé Esteban Murillo) «Хрыстос Добры Пастыр» (Музэй Прада, Мадрыд) на марцы Емэну (1968 г.)

Сябе Бог заве і «дзьвярамі», і «Пастырам Добрым», які «аддае жыцьцё сваё за авечкі», абараняючы іх ад ваўкоў. Бог заве Сябе «дзьвярамі» у тым сэнсе, што Ён — адзіны праўдзівы пасрэднік паміж Богам і народам. Пад «ваўком» разумеецца «д'ябал», а таксама яго služкі, якія губяць «авечак». Пад «іншымі авечкамі» Бог разумее іншыя народы, якія таксама заклікаюцца ў Царства Хрыстова.




«Добры пастыр» на марцы Ватыкану (2010 г.)

Гэтую тэму пра авечак і Добрага пастыра Хрыстос лічыць на столькі важнай, што зьвяртакцца да яе яшчэ раз у прыпавесьці пра прапалую авечку (Паводле Лукаша 15:1—7).




Мазаіка «Хрыстос — Добры Пастыр» з маўзалею Галы Плачыды на марцы пошты Аджману (1972 г.)

У маўзалеі Галы Плачыда (італ. Mausoleo di Galla Placidia) знаходзяцца найстаражытнейшыя мазаікі Равены. У паўночным ніжнім люнэце знаходзіцца мазаіка «Хрыстос у выяве Добрага Пастыра». Апрануты Пастыр у залатыя адзеньні і сядзіць на пагорку, як імпэратар на троне, цьвёрда абапіраючыся на крыж. Вакол Яго па зялёнай траве шпацыруюць авечкі. Ён ласкава датыкаецца да адной зь іх. Крыж тут выступае атрыбутам улады, Хрыстос сьцьвярджае яго над сьветам у знак трыюмфу свайго вучэньня — хрысьціянства.

## Хрыстос у доме Марфы і Марыі

Як часта, занятыя жыцьцёвымі пытаньнямі, школьнымі справамі, працай, сустрэчамі з сябрамі, парой, проста ўцехамі, мы мітусімся і ўпускаем важнае і самае для нас у жыцьці галоўнае. Але на ўсе пытаньні чалавека, злучаныя з акалічнасьцямі яго жыцьця, есьць адказ у Бібліі.

Калі Ісус падыходзіць да вёскі, дзе жывуць Марфа і Марыя, Марфа выходзіць і запрашае Яго ў сваю хату. Гэты акт шчырай гасьціннасьці Ісус жадае прыняць. Лукаш распавядае пра іншыя выпадкі, калі людзі запрашалі Ісуса ў свае хаты. Левій запрасіў Ісуса ў сваю хату на бяседу (Лк. 5:27—29); фарысэі (Лк. 7:36; 11:37) і нават знакаміты фарысэй (Лк. 14:1) запрашалі Ісуса да сябе дахаты. У выпадку з Закхеем, Ісус прыйшоў без запрашэньня; але мытар быў шчасьлівы прыняць Яго. (Лк. 19:5, 6).

Выпадак з Марфай — адзіны прыклад таго, як Ісус прыняў запрашэньне на абед ад жанчыны.



«Хрыстос у доме Марты і Марыі», Вермеер.
(Vermeer Johannes Dutch, 1632 — 1675).
Картмасімум пошты Нідэрляндаў (1996 г.)

«У часе дарогі іхняй, прыйшоў Ён у адно селішча; тут жанчына, імем Марфа, прыняла Яго ў дом свой; у яе была сястра, імем Марыя, якая села да ног Ісуса і слухала слова Ягонае. А Марфа клапатала пра вялікае частаваньне, падышоўшы, сказала: Гаспадзе! ці Табе клопату няма, што сястра мая адну мяне пакінула служыць? скажы ёй, каб пасобіла мне. А Ісус сказаў ёй у адказ: Марфа! Марфа! рупішся і завіхаешся ты занадта, а адно толькі трэба, Марыя ж выбрала добрую долю, якая не адымецца ў яе» (Лукаша 10:38—42).

Ісус прымаў такія запрашэньні, каб разбурыць усе бар'еры, паказаць, што Яго служэньне прызначалася для ўсіх (Паводле Лукаша 7:33—35) і навучыць і паказаць уласнымі паводзінамі, што з сябе ўяўляе Царства Божае. Знаходзячыся за сталом, Ён мог не проста есьці, а выкарыстоўваць гэту ўнікальную магчымасьць для таго, каб навучыць тых, хто Яго запрасіў.

Марфа запрасіла Ісуса, ведаючы, што яна адказная за ежу, і, што Настаўнік выкарыстае яе хату для навучаньня. Марфа была перагружана працай, якую трэба было зрабіць для паважанага госьця. Марыя ж, ведаючы, што падчас зносін за сталом Настаўнік будзе вучыць, вырашыла застацца побач зь Ім, у Яго ног, што зьяўляецца паставай вучня, які вельмі жадае навучыцца ў настаўніка.

Ісус дасягнуў асноўнай мэты знаходжаньня за сталом, навучаць тых, хто Яго запрасіў.

Просьба, зь якой Марфа зьвярнулася да Ісуса, цалкам зразумелая. Ёй патрэбна была дапамога, каб належным чынам зладзіцца са сваімі абавязкамі гаспадыні. Кантраст вельмі цікавы: Марыя слухае навучаньні моўчкі; Марфа выказвае просьбу настаўніку. Адказ Ісуса добры, але ясны. Падвойны зварот «Марфа, Марфа» выяўляе

сымпатыю і эмацыйную прыхільнасьць. Яму не абыякавая яна і тое, што яна робіць, але яна павінна зразумець, што ёсьць штосьці важней. Нежаданьне Ісуса дазволіць Марыі дапамагчы Марфе прыгатаваць ежу стварае ўражаньне, што падрыхтоўка ежы несумяшчальнае са слуханьнем Ісуса. Здаецца, што Ісус абясцэньвае хатнюю працу жанчын. Але гэта не так. У хаце Лазара Ісус Хрыстос даў навучаньне пра тое, што клопат пра выратаваньне душы вышэй усіх іншых клопатаў. Нагодай да гэтага паслужыў прыём, зроблены сёстрамі Лазара.

У 1886 г. мастак Семірадскі Хэнрык стварае палатно «Хрыстос у Марфы і Марыі», на якім адлюстраваў у дэталях гэтае сьцьвярджэньне Ісуса: на першым пляне Марыя, якая думае пра вечнае, пра выратаваньне душы і толькі дзесьці ўдалечыні, прапісаная горш, чым пэйзаж, Марфа.

хатніх абавязкаў. Улічваючы гэта, падзея, якая адбывалася ў хаце Марфы, зьяўляецца асаблівай. Ісус вучыць Марыю і запрашае Марфу прыйсьці і навучыцца ў Яго. У той жа час Ён палягчае яе цяжар і вызваляе яе, каб яна магла лепш выявіць сябе ў Яго служэньні. Яна таксама можа быць Яго вучаніцай.

На карціне Тынтарэта «Хрыстос у доме Марфы і Марыі» тварам, які аб'ядноўвае дзеяньне, зьяўляецца Марыя. І Хрыстос, і Марфа зьвяртаюцца да яе. Выратавальнік, схіліўшыся да Марыі, гутарыць зь ёю. А Марфа, перабіваючы іх гутарку, дакарае Марыю. Прысутная ў ног Хрыста Марыя цалкам паглынутая гутаркай, яна з захапленьнем слухае Выратавальніка. Колеры адзеньня Марыі і Хрыста перагукваюцца паміж сабой. Гэта сымбалізуе, што Марыя ўсім сэрцам прыняла вучэньне Хрыста.




Выява карціны Хэнрыка Семірадзкага «Хрыстос у Марфы і Марыі» на марцы пошты Расіі, выдадзенай у 2000 г.




Выява карціны Тынтарэта «Хрыстос у доме Марфы і Марыі» на марцы Экватарыяльнай Гвінэі (1973 г.)

Тое, што зрабіў Ісус у хаце Марфы, было незвычайным з пункту гледжаньня юдэйскіх традыцый таго часу. Наогул, для жанчын была недаступна фармальная адукацыя. Іх вучылі маці, выкладаючы ім законы чысьціні і іх абавязкі як гаспадыні хаты. Для юдаізму першага стагодзьдзя н.э. было амаль неймаверным, каб рабін асабіста навучаў жанчыну. Жанчыны маглі вучыцца ў сынагозе, але іх наведваньне сынагогі не магло быць рэгулярным з прычыны іх

Праведныя Марфа і Марыя сабой ўвасабляюць два шляхі хрысьціянскага выратаваньня: шлях дзейнага служэньня Богу і блізкім, і шлях сузіральнага, малітоўнага жыцьця. І на тым і на іншым шляху можна выратавацца. Але і для Марфы, і для Марыі ёсьць адна небясьпека — лічыць менавіта свой шлях адзіна заўгодным Богу. Неабходна ведаць: каб ступіць на другі шлях, трэба спачатку ачысьціць душу добрымі справамі.

Дзейснае, глыбокае, сапраўднае каханьне заўсёды знаходзіць спосаб выявіць сябе. Вось Марфа — рыхтуе пачастунак, сьпяшаецца накарміць тых, хто да яе прыйшоў. У першую чаргу — Бога. Гэта жаночае, матчына жаданьне, каб людзі былі сытыя, адчулі радасьць, хатняе цяпло. Калі Бог сказаў, што Марыя абрала добрую частку, Ён не зьняважыў працы Марфы, але паказаў, што ў Марыі таксама толькі частка. Ад цэлага. А цэлае — гэта калі душа і спазнае, і аддае сябе, і служыць.

Марфа і Марыя жылі ў Віфаніі і не хадзілі за Выратавальнікам, але душою яны былі зь Ім. Калі наступілі журботныя для Бога гадзіны і нават найблізкія вучні Яго пакінулі, Марфа і Марыя апынуліся побач. Сёстры знаходзіліся сярод жонак — міраносіц. Яны не маглі нічому перашкодзіць, але стаялі на Галгофе да канца разам з Найсьвяцейшай Багародзіцай. А потым паслужылі Богу зьняважанаму, калі Ён прыняў сьмерць.

Праведныя Марфа і Марыя былі рознымі па характары, але родныя па духу. Яны сталі добрымі памочніцамі свайго брата Лазара ў прапаведвані Божага вучуньня у розных месцах.

Ісус яшчэ раз важнасьць Божага вучэньня падкрэсьліў у выпадку эмацыйнай рэакцыі жанчыны на Яго пропаведзь. «Калі ж Ён казаў гэта, адна жанчына, узвысіўшы голас зь людзей, сказала Яму: дабрашчаснае ўлоньне, якое насіла Цябе, і саскі, якія Цябе кармілі!
А Ён сказаў: дабрашчасныя тыя, што слухаюць слова Божае і трымаюцца яго» (Паводле Лукаша 11:27,28).

Чаго чакае Хрыстос чытаем у Яна 4:23: «але настане час, і настаў ужо, калі сапраўдныя паклоньнікі будуць пакланяцца Айцу ў духу і праўдзе, бо такіх паклоньнікаў Айцец шукае Сабе...».



«Фрэскі Мікелонскай царквы», Івет Дэтшэвэры (d'Yvette Detcheverry). Марачны лісток пошты Сен-Пер і Міквэлон, які быў надрукаваны ў 2013 годзе і заняў другое месца ў міжнародным конкурсе паштовых выданьняў. Фрэскі ілюструюць падзеі Старога і Новага Запаветаў. Сцэны, прадстаўленыя на лісьце: Ахвярапрынашэньне Абрагама; суд Саламона; атрыманьне Скрыжаляў Закона; Маісей падымаецца на гару Сінай; Раство; Хрышчэньне Хрыста; цудоўны ўлоў

# Прыпавесьці

## Прыпавесьць пра міласэрнага Самараніна

«І вось, адзін законьнік устаў і, спакушаючы Яго, сказаў: Настаўнік, што мне рабіць, каб успадкаваць жыцьцё вечнае? А Ён сказаў яму: у Законе што напісана? як чытаеш? Той сказаў у адказ: „палюбі Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсёю душою тваёю, і ўсёю моцай тваёю, і ўсім разуменьнем тваім, і блізкага твайго, як самога сябе“. Ісус сказаў яму: слушна ты адказваў; так рабі і будзеш жыць. Але той, хочучы апраўдацца, сказаў Ісусу: а хто мой блізкі? На гэта сказаў Ісус: нейкі чалавек ішоў зь Ерусаліма ў Ерыхон і нарваўся на разбойнікаў, якія зь яго зьнялі вопратку, паранілі яго і пайшлі, пакнуўшы яго ледзь жывога. З нагоды нейкі сьвятар ішоў тою дарогаю і, убачыўшы яго, прайшоў міма. Гэтак сама і лявіт, быўшы на тым месцы, падышоў, паглядзеў і прайшоў міма. А нейкі Самаранін, праяжджаючы, знайшоў яго і, убачыўшы яго, пашкадаваў, і падышоўшы, перавязаў яму раны, паліваючы алеем і віном; і, пасадзіўшы яго на свайго асла, прывёз яго ў гасьцініцу і паклапаціўся пра яго; а на другі дзень, ад'яжджаючы, дастаў два дынары, даў гаспадару гасьцініцы і сказаў яму: паклапаціся пра яго; і калі патраціш больш, я, калі вярнуся, аддам табе. Хто з гэтых трох, думаеш ты, блізкі таму, што нарваўся на разбойнікаў? Ён сказаў: той, які зрабіў яму міласьць. Тады Ісус сказаў яму: ідзі, і ты рабі гэтак сама» (Лукаша 10:25—37).

Прыпавесьць пра міласэрнага Самараніна перадае ў сваім Эвангкльлі толькі адзін Сьвяты Лукаш.

Законьнік задае Ісусу як бы простае пытаньне, алеатрымлівае зусім не традыцыйны і нечаканы адказ. Гасподзь прымушае законьніка самага даць адказ словамі Закона. Гэта не задаволіла законьніка. Ён шукае сабе апраўданьне ў тым, што ў Законе не прапісанае дакладна, хто зьяўляецца блізкім і пытаецца зноў: «А хто мой блізкі?» У адказ Гасподзь распавёў цудоўную прыпавесьць пра чалавека, які «нарваўся на разбойнікаў», міма якога прайшлі і сьвятар і лявіт, і якога пашкадаваў толькі Самаранін — чалавек, ненавісны для юдэяў і пагарджаны імі.




Першая марка, прысьвечаная Добраму Самараніну, але прыватнай фірмы Seabury & Johnson у ЗША была надрукаваная дзесьці ў 1884 г. На марцы ў далечыні відаць постаці сьвятара і лявіта, якія не аказалі дапамогі свайму суайчыньніку




Напад разбойнікаў на чалавека, якога пабітага і абрабаванага вязе Самаранін на сваім асьле ў гасьцініцу, адлюстравала на марках у 1983 г. пошта Люксэмбургу

Самаранін лепш сьвятара і лявіта разумеў, што для выкананьня запаведзі аб літасьці няма розьніцы паміж людзьмі: усе людзі ў гэтых адносінах для нас роўныя, усе — блізкія нам і нашы адносіны павінны быць адпаведнымі.

Як бачым, прыпавесьць не зусім адпавядае пытаньню законьніка. Законьнік пытаўся: «А хто мой блізкі?», а прыпавесьць вучыць не таму, каго трэба лічыць блізкім, а як самому рабіцца блізкім для кожнага чалавека, які жыве ў нястачы і патрабуе літасьці.

Вобраз Добрага Самараніна стаў нярэдкім на марках, прысьвечаных Чырвонаму Крыжу.




«Добры Самаранін». Пошта Ватыкану ў 1964 г. выпусьціла сэрыю паштовых юбілейных марак да 100-годзьдзя Чырвонага Крыжа з выявай дэталі карціны Эміліо Грэка (1913—96 Сыцылія). Пошта Аўстрыі ў 1977 г. выпусьціла марку з выявай рэпрадукцыі карціны Франчэска Басана (Francesco Bassano 1549—1592)

Адрозьненьне паміж пытаньнем кніжніка і адказам Госпада мае вялікае значэньне таму, што ў Старым Запавеце, дзеля агароджы абранага народа Божага ад благіх уплываў, усталёўваліся адрозьненьні паміж навакольнымі людзьмі, і «блізкімі» для габрэя былі толькі яго суайчыньнікі і аднаверцы.

Новазапаветны маральны закон адмяняе ўсе гэтыя адрозьненьні паміж навакольнымі людзьм і вучыць ужо ўсёабдымнай эвангельскай любові да ўсіх людзей.




«Прыпавесьць пра Міласэрнага Самараніна» на марцы Бэльгіі (1944 г.) для Чырвонага Крыжа з выявай рэпрадукцыі карціны Ван Дыска. На марцы пошты Емэну (1969 г.) выява рэпрадукцыі карціны Феці Даменіка «Прыпавесьць пра Міласэрнага Самараніна». Зьлева відаць постаці сьвятара і лявіта, якія абыякава мінулі пацярпелага

Гасподзь павучае, што кожны можа і павінен сам зрабіць блізкім таго, хто ў ім мае патрэбу, а не пытаць, блізкі ён яму ці не: не на людзей павінна глядзець, а на сваё ўласнае сэрца, каб не было ў ім халоднасьці жраца і лявіта, а была міласэрнасьць Самараніна.

Выснова такая, што ўмова атрыманьня ў спадчыну жыцьця вечнага — гэта Міласэрнасьць.

## Прыпавесьць пра прапалую авечку

«Наблізіліся да Яго ўсе мытнікі і грэшнікі слухаць Яго. А фарысэі і кніжнікі наракалі, кажучы: Ён прымае грэшнікаў і есьць зь імі. Але Ён сказаў ім наступную прытчу: хто з вас, маючы сто авечак і згубіўшы адну зь іх, не пакіне дзевяноста дзевяцёх ў пустыні і ня пойдзе па прапалую, пакуль ня знойдзе яе? А знайшоўшы, возьме яе на плечы свае з радасьцю; і прыйшоўшы дамоў, пакліча сяброў і суседзяў і скажа ім; парадуйцеся са мною, я знайшоў маю прапалую авечку. Маўляю

вам, што так на нябёсах болей радасьці будзе за аднаго грэшніка, які каецца, чым за дзевяноста дзевяцёх праведнікаў, якія ня маюць па-трэбы ў каяньні» (Паводле Лукаша 15:1—7).




«Добры Пастыр» на марцы фірмы ZAZZLE (2014г. Злучаныя Штаты Амэрыкі)

«Так, няма волі Айца вашага Нябеснага, каб загінуў адзін з малых гэтых». Бог хоча выратаваць усіх людзей і не хоча, каб загінуў нават адзін грэшнік. «Дзевяноста дзевяць авечак» — гэта колькасьць праведнікаў і анёлаў, а «прапалая авечка» — кожны грэшнік. Кожны грэшнік мае патрэбу выратаваньня. У каго «было сто авечак»? У Хрыста, бо Ён ёсьць «Добры Пастыр» (Паводле Яна 10:11,14).




Хрысьціянская скульптура Добрага Пастыра III стагодзьдзя н. э. на марцы Ватыкана (1983 г.) і Добры Пастыр на марцы Грэцыі (2000г.)

Адзінародны Сын Божы, які прыйшоў у сьвет, каб знайсьці і выратаваць Сваю заблудзіўшуюся авечку — загразнуўшага ў грахах чалавека. Гасподзь, знайшоўшы гэтую загінулую авечку, паклаў яе на Свае плечы, бо «Ён узяў на Сябе нашыя немачы і забраў нашыя хваробы» (Ісая 53:4), узяў на Сябе ўсе грахі сьвету (Паводле Яна 1:29).

Ён не пагарджае і адзінай, якая ўхілілася ад яго свавольлем, успалошанай у нетрах зямных беднай авечкай. Ён Сам бярэ яе на плечы свае, з радасьцю і клапатліва нясе дадому. Ён радуецца выратаваньню грэшніка і заклікае да гэтае радасьці ўсіх анёлаў Сваіх, бо наша жыцьцё — Яго радасьць, а наша пагібель — Яго смутак.




«Добры Пастыр» на марках пошты Аўстраліі (1973) і Гішпаніі (1988)

«Кажу вам, што так на нябёсах больш радасьці будзе за аднаго грэшніка, які каецца, чым за дзевяноста дзевяць праведнікаў, якія не маюць патрэбы ў пакаяньні» (Паводле Лукаша 15:7).

У гэтай прыпавесьці спачуваньне пастыра да аблуднай авечкі выявілася, асабліва ў тым, што ён не пакараў яе, як вінаватую, але ўзяў яе на Свае плечы і прынёс яе назад. Гэта сымбалізуе выратаваньне чалавецтва, калі Хрыстос ўзяў на Сябе нашы грахі.

З тых часоў адкупленчая сіла хросных пакут Хрыста робіць магчымым маральнае адраджэньне чалавека, вяртае яму згубленую праведнасьць і шчасьлівыя зносіны з Богам. Бог ёсьць Добры Пастыр, які жадае выратаваць кожнага грэшніка.

Божая любоў заключаецца ў тым, што аднойчы Ісус Хрыстос пацярпеў за нас — бо

так палюбіў Бог сьвет, што аддаў Сына Свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыцьцё вечнае.

## Прыпавесьць пра марнатраўнага сына

Гэта ўсё казаў Ісус прытчамі люду, і бяз прытчы нічога не казаў ім, каб збылося сказанае праз прарока, які кажа: «Разамкну ў прытчах вусны Мае; выкажу ўтоенае ад стварэньня сьвету (Паводле Мацьвея 13:34,35).

Прыпавесьці, як лягічна завершаныя часткі, знаходзяцца ва ўсіх Эвангельлях, але ў розных колькасьці. У Эвангельлі паводле Яна — толькі адна, паводле Марка — восем, паводле Мацьвея — дваццаць, і найбольш у Эвангельлі паводле Лукаша — дваццаць шэсьць.

Прыпавесьці Эвангелічныя, падобна як уся навука Хрыста, ёсьць цяжкія ня толькі для зразуменьня (ёсьць ужо многаразова вытлумачаныя), а нада ўсім у нашых паводзінах згодна зь іх указаньнямі.

«Вяртаньне марнатраўнага сына». Мабыць, ніводнае іншае палатно Рэмбрандта не выклікае гэтак узьнёслых пачуцьцяў, як гэта карціна, намаляваная на сюжэт прыпавесьці з Эвангельля паводле Лукаша: «Яшчэ сказаў: у аднаго чалавека было два сыны; і сказаў малодшы бацьку: тата! дай мне належную мне долю маёмасьці. І падзяліў ім бацька маёмасьць. Праз колькі дзён малодшы сын, сабраўшы ўсё, пайшоў у далёкі край і там распусьціў маёмасьць сваю, жывучы распусна. А калі ён пражыў усё, настаў вялікі голад у той краіне, і ён апынуўся ў нястачы; і пайшоў, прыстаў да аднаго жыхара той краіны, а той і ён напоўніць быў рады чэрава сваё струкамі, якія елі сьвіньні, але ніхто не даваў яму. Апамятаўшыся, сказаў: колькі парабкаў у бацькі майго маюць лішкі хлеба, а я паміраю з голаду! Устану, пайду да бацькі майго і скажу яму: тата! я зграшыў супроць неба і перад табою, і ўжо ня варты называцца сынам тваім; прымі мяне ў лік парабкаў тваіх.




«Вяртаньне марнатраўнага сына» — выява карціны Рэмбрандта на блёку пошты Баўгарыі (2006 г.)

Устаў і пайшоў да бацькі свайго. І калі ён быў яшчэ далёка, убачыў яго бацька ягоны і ўмілажаліўся; і пабегшы, упаў яму на шыю і пацалаваў яго. А сын сказаў яму: тата! я зграшыў супроць неба і перад табою, і ўжо ня варты называцца сынам тваім. А бацька сказаў рабам сваім: прынясеце найлепшую вопратку і апранеце яго, і дайце пярсьцёнак на руку яму і абутак на ногі; і прывядзеце ўкормленае цяля і закалеце: будзем есьці і весяліцца, бо гэты сын мой быў мёртвы і ажыў, прападаў і знайшоўся. І пачалі весяліцца.

А старэйшы сын ягоны быў на полі; і вяртаючыся, калі наблізіўся да дома, пачуў сьпевы і весялосьць; і паклікаўшы аднаго слугу, спытаўся: што гэта такое? Той сказаў яму: брат твой прыйшоў, і бацька твой закалоў укормленае цяля, бо прыняў яго здаровага. Ён угневаўся і не хацеў увайсьці. А ба-

цька, выйшаўшы, клікаў яго. Але ён сказаў у адказ бацьку: вось, я столькі гадоў служу табе і ніколі не пераступаў загаду твайго, але ты ніколі ня даў мне і казьляняці, каб мне павесяліцца зь сябрамі маімі; а калі сын твой, вось гэты, распусьціўшы маёмасьць сваю з блудніцамі, прыйшоў, ты закалоў яму ўкормленае цяля. А ён сказаў яму: сыне мой! ты заўсёды са мною, і ўсё маё ёсьць тваё; а з таго трэба было радавацца і весяліцца, што брат твой гэты быў мёртвы і ажыў, прападаў і знайшоўся» (Паводле Лукаша 15:11—32).

Вялікая чалавечая трагедыя. Пасьля доўгіх туляньняў у варожым, няўтульным сьвеце з мальбою пра прабачэньне прыходзіць да пакінутага бацькі блудны сын. Поўны сораму і раскаяньня, ён стаіць на каленях, абарваны, з голенай галавой катаржніка, у стаптаных сандалях, дэманструючы гледачу агрубелыя пяткі. Упершыню за шмат гадоў адчуўшы цяпло чалавечай ласкі, ён прытуліўся да бацькі, схаваў твар у яго на грудзях, імкнучыся забыцца ў бацькаўскіх абдымках. Ні зьдзіўленьня, ні абурэньня не выяўляе стары; ён даўно прабачыў сына і даўно чакаў гэтай сустрэчы. У погля-дзе яго апушчаных вачэй можна прачытаць і нямы дакор, і гаротную пакорлівасьць. Ён далікатна схіліўся над сынам, апусьціўшы яму на сьпіну слабыя, старэчыя рукі.

Ізноў Рэмбрант увасабляе сваю думку пра тое, што суровыя выпрабаваньні лёсу збліжаюць людзей. Вышэй памылак, крыўдаў, ганарыстасьці апынаюцца каханьне, давер, паразуменьне, міласэрнасьць. Але ўсё ж у гэтай сустрэчы больш гора, чым радасьці: трагічная памылка сына пакінула занадта глыбокі сьлед у жыцьці і таго, і гэтага. Зламаны не толькі сын, але і бацька. Досыць зьвярнуць увагу на выраз твару, гаротна нахіленую галаву і згорбленую постаць, паніклыя плечы.

Як заўсёды ў Рэмбрандта, велічны супакой напоўнены ўтоенай адухоўленасьцю. З глыбіні цёмнага фону выступаюць маўклівыя чалавечыя постаці. Чырвоныя і залацістыя тоны адзеньня нібы вырастаюць з цемры, але зноў пачынаюць згасаць. Глыбокая скруха авалодала прысутнымі. Гаротны лёс двух людзей прымушае іх шмат аб чым задумацца...

Гэта не адзіная праца Рэмбрандта, прысьвечаная гэтай прыпавесьці.




Карціна Рэмбрандта «Блудны сын у карчме» (Аўтапартрэт з Саскіяй на каленях) на марцы пошты Манголіі, выпушчанай у 1981годзе

Гэту карціну «Блудны сын у карчме» (Аўтапартрэт з Саскіяй на каленях) ён намаляваў у 1635 годзе. Рэмбрандт адлюстроўвае эпізод прыпавесьці пра марнатраўнага сына, дзе ён прамотвае бацькаўскую спадчыну, што адпавядае наступнаму тэксту з Эвангельля: «Праз колькі дзён малодшы сын, сабраўшы ўсё, пайшоў у далёкі край і там распусьціў маёмасьць сваю, жывучы распусна» (Паводле Лукаша 15:13).

Не абышлі стараною «Прыпавесьць пра марнатраўнага сына» іншыя мастакі. Кожны ў сваёй манэры рознымі мастацкімі прыёмамі і сюжэтамі і ў розных эпізодах з жыцьця «марнатраўнага сына» выражае

сваё разуменьне сэнсу прыпавесьці і на свой спосаб узьдзейнічае на гледача.

Вось некалькі прыкладаў такіх прац, адлюстраваных на паштовых марках розных краін сьвету.




Выява карціны італьянскага мастака Бернардына Лічыніа (1489–1565) «Вяртаньне блуднага сына» (Бухарэст. Музэй выяўленчых мастацтваў) на блёку Румыніі (1969 г.)




Карціна Джавані Франчэска Гверчына (Guercino — касавокі) «Вяртаньне блуднага сына» (1619г.). Марка Емэну (1969 г.)

Сэнс гэтых мастацкіх твораў зразумелы.




«Марнатраўны сын» — выява карціны Рубенса на блёку Гранады (1991 г.)

Як часта чалавек, жадаючы вызваліцца ад усіх абавязкаў перад Богам, адыходзіць ад свайго Бацькі Нябеснага і пачынае марна мантачыць увесь здабытак, якім шчодра надарыў яго Бог — маладосьць, здароўе, розум... І ўрэшце губляе чалавечае аблічча і апынаецца ля сьвінога карыта.




«Марнатраўны сын». Блёк Лібэрыі з сэрыі «Жывёлы ў Бібліі» (2006 г.)

Але калі чалавек своечасова апамятаецца і, нягледзячы на ўсе цяжкасьці, вернецца да Бацькі, той заўсёды прыме яго з вялікай радасьцю і зробіць спадчыньнікам Свайго Царства. Божая міласэрнасьць атуляе ўсіх людзей, бо гэта форма Божай любові.

Міласэрнасьць — як дождж, які падае на людзей добрых і злых. Больш за тое, міласэрнасьць праяўляецца тады, калі чалавек слабы. Як у прыпавесьці пра марнатраўнага сына.

Традыцыйна прыпавесьць мае назву «Марнатраўны сын». Але ці марнатраўны сын галоўны ў гэтай гісторыі? Прыпавесьць гэта пра бязьмежную бацькоўскую любоў, здольную зразумець і дараваць усё, чаго ня мог зразумець «харошы» сын. Таму прыпавесьць вата назвы «Бацькоўская любоў».

## Цуд са статырам

У Эвангельлі Мацьвея апісаны цуд, сэнс якога здаецца незразумелым. Гэты цуд бадай з самых незвычайных і, як падаецца,

нават іранічных у адносінах да зьбіральнікаў храмавай мыты, цудаў: у Капэрнаўме падышлі да Пятра зборшчыкі падатку на храм і спыталі: «Настаўнік ваш ці ня дасьць дыдрахмы?»

Па Закону Майсееву (Выхад 30, 11—16.) кожны Ізраільцянін дасягнуты дваццацігадовага ўзросту, павінен быў плаціць штогод на храм Божы полдыдрахмы сьвятой, ці «палавіну сікля, сікля сьвяшчэннага; у сіклі дваццаць гераў: паўсікля дар Госпаду...».

«Ён кажа: так. І калі ўвайшоў ён у дом, дык Ісус, папярэдзіўшы яго, сказаў: як табе здаецца, Сымоне? цары зямныя з каго бяруць мыта ці падатак? ці з сыноў сваіх, ці з чужых? Кажа Яму Пётр: з чужых. Сказаў яму Ісус: значыцца, сыны свабодныя;" (Паводле Мацьвея 17:25—26).

На першы погляд, Хрыстос паўстае супраць храмавага падатку. Але насамрэч яго думка іншая. Акцэнт у гаворцы Хрыстовай на сцьвярджэньні, што Яму, Сыну Божаму, дзіўна плаціць гэты падатак... Аднак, каб не спакусіць нікога, гэта значыць не ўвесьці ў зьбянтэжанасьць, не накіраваць на ілжывы шлях, Ён знаходзіць кампраміс. Хрыстос загадвае Пятру заплаціць падатак. І, уласна, для гэтага кампрамісу і запатрабаваўся цуд, прычым цуд быў патрэбны нават у большай ступені, чым у шматлікіх іншых выпадках.

Падпарадкоўваючыся неабходнасьці выплаціць, Хрыстос уяўляе сваю пакору такім спосабам, што ставіць сябе высока над усёй сытуацыяй.

«Але каб нам не спакусіць іх, ідзі на мора, закінь вуду, і першую рыбіну, якая злавіцца, вазьмі; і, адкрыўшы рот ёй, знойдзеш статыр; вазьмі яго і дай за Мяне і за сябе» (Мацьвея 17:27).

Статыргрэцкая срэбная манэта, якая ўраўноўвалася 2 дзідрахмам, таксама сіклю габрэйскаму — плаце за дваіх, Ісуса і Пятра. І хоць Мацьвей не запісаў канца гэтай гісторыі, можна не сумнявацца, што ўсё атрымалася так, як сказаў Ісус.

Цуд са статырам намаляваў на сваёй фрэсцы Італьянскі мастак Раньняга Рэнесансу Тамаза ды сэр Джавані ды Гвідзі (Мазача) (1401—1428). На фрэсцы намаляваныя адразу тры эпізоды. У цэнтры — Хрыстос у асяродзьдзі апосталаў загадвае Пятру тое, што трэба зрабіць; зьлева — Пётр, які злавіў рыбу і дастае манэту зь яе ўлоньня; справа — Пётр аддае манэту зборшчыку падаткаў. На марцы Емэну адлюстравана тая частка карціны, дзе Пётр атрымлівае загад Хрыста. І Пётр без ніякіх ваганьняў пайшоў яго выконваць.




«Цуд са статырам.» Фрэска Бранкачы (1427 г.). Царква Санта-Марыя дель Карміне (Флярэнцыя). Марка Емэну (1969 г.)

Як успрынялі гэта прысутныя? Калі Ісус ведаў, што ў роце рыбы, якая першая трапіцца Пятру, ёсьць манэта — Ён усё ведае. Калі ж Ён стварыў яе ў роце статыр — Ён усё можа.




«Рыба Сьвятога Пятра» — сонечнік на марках Сан Марына (1966 г.) і Рэспублікі Тога (1964 г.)

З тых часоў рыбу, якую злавіў апостал Пётр называюць «Рыба Сьвятога Пятра».

У Эўропе такую назву атрымала рыба сонечнік (лат. Zeus faber), бо яна мае знак адбыўшагася цуду: на кожным баку сонечніка застаўся адбітак пальца Сьвятога Пятра ў выглядзе вялікай круглай чорнай плямы.

Але на беразе Галілейскага мора, там дзе адбыўся цуд, мясцовыя жыхары «Рыбай Сьвятога Пятра» называюць іншую рыбу — Тэляпію (лат. Tilapia), бо рыба сонечнік у Галілейскім моры ня водзіцца.



«Рыба Сьвятога Пятра» — Тэляпія на марцы пошты Рэспублікі Чад (1969 г.)

## Ісус бласлаўляе дзяцей

*...і сказаў: праўду кажу вам, калі не навернецеся і ня будзеце, як дзеці, ня ўвойдзеце ў Царства Нябеснае...*
*(Паводле Мацьвея 18:3)*
*Вось спадчына ад Госпада: дзеці;*
*(Псалтыр 127:3)*

Эвангельле распавядае некалькі выпадкаў пра адносіны Ісуса Хрыста да дзяцей: «Вылячэньне сына царадворца» (Паводле Яна 4:49—54), «Ўваскрашэньне сына наінскай удавы» (Паводле Лукаша 7:11—17), «Ўваскрашэньне дачкі Яіра» (Паводле Лукаша 8:40—55). Але, акрамя гэтага, Лукаш, Мацьвей і Марк апісваюць адзін і той жа выпадак, які вызначыў раз і назаўжды стаўленьне Хрыста да дзяцей.

Вось гэтыя словы ўзятыя з Сьвятога Эвангельля: «Прыносілі да Яго дзяцей, каб Ён дакрануўся да іх; а вучні не дапускалі тых, што прыносілі. Убачыўшы гэта, Ісус разгневаўся і сказаў ім: «Пусьцеце дзяцей прыходзіць да Мяне і не перашкаджайце ім, бо такім належыць Царства Божае; праўду кажу вам: хто ня прыме Царства Божага, як дзіця, той ня ўвойдзе ў яго. І абняўшы іх, усклаў рукі на іх і дабраслаўляў іх» (Паводле Марка 10:13—16).



Пошта краіны Рас-эль-Хайма ў 1970 г. разьмясьціла на марцы з сэрыі «Жыцьцё Хрыста» выяву карціны швэйцарскага мастака Людвіга Фогеля з надпісам на лацінскай мове: «Sinite Parvulos» –«Пусьціце дзяцей»




Пошта Нікарагуа ў 1959 г. выпусьціла марку з надпісам «Хрыстос і дзеці». У 1950 г. пошта Дамініканскай Рэспублікі выпусьціла марку «Хрыстос і дзеці» з цытатай з Эвангельля на гішпанскай мове «Пусьцеце дзяцей прыходзіць да Мяне» і ніжэй — «Абарона дзяцей»

Малюнак на марцы ілюструе наступную падзею з Сьвятога Эвангельля: «І абняўшы іх, усклаў рукі на іх і дабраслаўляў іх» (Паводле Марка 10:16). Але яго можна аднесьці і да наступнай падзеі: «У той час прысту-

пілі вучні да Ісуса, кажучы: хто ж большы ў Царстве Нябесным? І паклікаўшы дзіця, Ісус паставіў яго сярод іх і сказаў: праўду кажу вам, калі не навернецеся і ня будзеце, як дзеці, ня ўвойдзеце ў Царства Нябеснае; дык вось, хто ўпакорыцца, як гэтае дзіця, той большы ў Царстве Нябесным; і хто пры- ме адно такое дзіця ў імя Маё, той Мяне прымае; а хто спакусіць аднаго з малых гэтых, што веруюць у Мяне, таму лепей бы- ло б, каб павесілі жарон млынскі на шыю яго і ўтапілі яго ў глыбіні марской» (Мацьвея 18:1—6)



«Пусціце дзяцей прыходзіць да Мяне». Мастак Антоніс ван Дэйк. Паштовы блёк Грэнады Грэнадынас (1996)

Не заўсёды лёгка зразумець словы Сьвятога Эвангельля. Што значыць «будзьце як дзеці»? Я гэта разумею так: Будзьце як дзеці, дзеці Бога!



Хрыстос разам з дзецьмі на марцы пошты Бапутатсваны (1985 г.)

На марцы спасылка: «А першасьвятары і кніжнікі, убачыўшы цуды, якія Ён учыніў, і дзяцей, якія ўсклікалі ў храме і казалі: «асанна Сыну Давідаваму», абурыліся і сказалі Яму: ці чуеш, што яны кажуць? А Ісус кажа ім: так! хіба вы ніколі ня чыталі: «з вуснаў дзетак і немаўлят Ты ўчыніў хвалу?» (Паводле Мацьвея 21:15,16).



Блёк пошты Науру (1991 г.). Пад маркаю на полі блёку надпіс: “ Пусьціце дзяцей прыходзіць да Мяне»

Слова Божае заклікае нас выкарыстоўваць разнастайныя сродкі для ўкараненьня ў сэрцы дзяцей Божага слова: «і любі Госпада, Бога твайго, усім сэрцам тваім і ўсёю душою тваёю і ўсімі сіламі тваімі. І хай будуць словы гэтыя, якія Я наказваю табе сёньня, у сэрцы тваім; і перадавай іх дзецям тваім і кажы пра іх, седзячы ў доме тваім і йдучы дарогаю, і кладучыся і ўстаючы; і завяжы іх у знак на руку тваю, і хай будуць яны павязкаю над вачыма тваіміі напішы іх на вушаках дома твайго і на брамах тваіх» (Другі закон 6:5—9).



Маркі па малюнуам дзяцей пошты Шры Ланкі (2001 г.) і пошты Ватыкану (2010 г.),

Маліцеся пра дзяцей! Маліцеся з дзецьмі!

## Прыпавесьць пра сьляпых

Геніяльны дарунак абагульненьня і ўменьне выказаць драматычную калізію ці іншасказаньне праз рытміку жэстаў і рухаў дасягнулі сваёй вяршыні ў карціне Пітэра Брэйгеля «Прыпавесьць пра сьляпых». У розных стадыях падзеньня постаці сьляпых, якія ідуць за сьляпым жа і спатыкнуўшымся павадыром, у няўмольнай лёгіцы гэтага падзеньня, у тварахмасках з пустымі вачніцамі, што глядзяць на яснае дзённае сьвятло, увасобілася выява чалавецтва, якое спатыкаецца ў цемры.

«Прыпавесьць пра сьляпых» — карціна, што мае іншыя назвы: «Парабала сьляпых», «Сляпыя», «Сьляпы вядзе невідучага»...



Блёк Манамы (1972 г.). На блёку выява карціны Пітэра Брэйгеля Старэйшага «Прыпавесьць пра сьляпых»

Крыніца сюжэту Эвангельле паводле Мацьвея 15:10—20. «І паклікаўшы люд, сказаў яму слухайце і разумейце ня тое, што ўваходзіць у вусны, апаганьвае чалавека; а што выходзіць з вуснаў, тое апаганьвае чалавека. Тады вучні Ягоныя, прыступіўшы, сказалі Яму ці ведаеш, што фарысэі, пачуўшы слова гэтае, запаняверыліся А Ён сказаў у адказ усякая расьліна, якую не Айцец Мой Нябесны пасадзіў, выкараніцца, пакіньце іх яны — сьляпыя павадыры сьляпых; а калі сьляпы сьляпога вядзе, дык абодва ў яму ўпадуць. А Пётр сказаў Яму ў адказ, растлумач нам прытчу гэтую. Ісус сказаў няўжо і вы яшчэ ня маеце разуменьня ці яшчэ не разумееце, што ўсё, што ўваходзіць у вусны, праходзіць у чэрава праз кішку выходзіць, а што выходзіць з вуснаў — з сэрца выходзіць; і гэта апаганьвае чалавека; бо з сэрца выходзяць ліхія намыслы, забойствы, пералюбы, распуста, крадзяжы, ілжывыя сьведчаньні, зьнявагі — гэта апаганьвае чалавека; а есьці няўмытымі рукамі — не апаганьвае чалавека» (Паводле Мацьвея 15:10—20).

Прыпавесць была расказаная з нагоды патаньня фарысэяў, чаму вучні Ісуса ня мыюць рукі перад ядой?

На карціне Брэйгель намаляваў шасьцёра сьляпых, якія ланцужком рухаюцца наперад, трымаючыся сябар за сябра. Ідучы першым сьляпы павадыр спатыкаецца і разам з кіем валіцца ў яму. Валіцца на яго наступны за ім сьляпы,. Трэці, злучаны з другім кіям, таксама рушыць усьлед за сваімі папярэднікамі. Пяты і шосты яшчэ ні пра што не здагадваюцца, але ім немінуча быць у яме сьледам за іх спадарожнікамі. Твары, накасяк перасякаючыя палатно сьляпых жабракоў, нечалавеча выродлівыя і пры гэтым рэальныя.

Толькі адзін сьляпы, які падае, зьвяртае да нас твар — ашчэр рота і зласьлівы погляд пустых вільготных вачніц... Гэты погляд завяршае шлях сьляпых — жыцьцёвы шлях людзей. Але тым чысьцейшы — бязьлюдны і чысты — пэйзаж. Вясковая царква, пакатыя ўзгоркі, далікатная зеляніна дрэў у Пітэра Брэйгеля поўныя цішыні і сьвежасьці. Толькі сухі зьнежывелы ствол дрэва паўтарае сваім выгінам рух падаючага. Сьвет спакойны і вечны. Людзкая прырода, а не людзі. І Брэйгель стварае не філязофскую выяву сьвету, а трагедыю чалавецтва.

Іншыя мастакі таксама надавалі ўвагу гэтай прыпавесьці ўсяго з аднаго невялікага сказу. Прыкладамі могуць служыць па-

латно Себасьцяна Вранкса (нідэрл. Sebastian Vrancx) і адна зь літаграфій Жоржа Руо (Georges Rouault).



Выява палатна Себасьцяна Вранкса «Сьляпы вядзе сьляпых» на марцы фірмы ZAZZLE Злучаных Штатаў Амэрыкі (2012 г.)

Жорж Руо стварыў сэрыю з 58 афартоў, зь якіх затым друкаваліся гравюры для кнігі «Miserere». Матывам для малюнкаў паслужылі вершы 50-га пакутнага псальма каталіцкай літургіі Miserere mie Deus (Памілуй мяне, Божа). Карпатлівая праца доўжылася больш 10 гадоў і завяршыўся толькі ў 1927 годзе.




Выява гравюры Жоржа Руо «Сьляпы вядзе сьляпога». Марка пошты Францыі, выдадзенай у 1959 годзе

## Прыпавесьць пра працаўнікоў на вінаградніку

У прыпавесьці Хрыстос тлумачыць аб тым, што мера праведнасьці ў Царстве Нябесным якасна іншая, чым у звычайным жыцьці. «Бо Царства Нябеснае падобнае на гаспадара дома, які выйшаў на досьвітку наняць работнікаў у вінаграднік свой. І, згадзіўшы работніка па дынары ў дзень, паслаў іх у вінаграднік свой. І выйшаўшы каля трэйцяй гадзіны, ён убачыў іншых, якія стаялі на рынку бяз працы, і ім сказаў: ідзеце і вы ў вінаграднік мой, і што справядліва будзе, дам вам. Яны пайшлі. Зноў выйшаўшы каля шостай і дзявятай гадзіны, зрабіў тое самае. А, выйшаўшы каля адзінаццатай гадзіны, ён знайшоў іншых, якія стаялі бяз працы, і кажа ім: што вы тут стаіце цэлы дзень бяз працы? Яны кажуць яму: ніхто не наняў нас. Ён кажа ім: ідзеце і вы ў вінаграднік мой, і што справядліва будзе, атрымаеце. А калі зьвечарэла, кажа гаспадар вінаградніка наглядчыку свайму: пакліч работнікаў і аддай ім плату, пачаўшы з апошніх да першых. І тыя, што прыйшлі каля адзінаццатай гадзіны, атрымалі па дынары. Тыя, што прыйшлі першыя, думалі, што болей атрымаюць; але атрымалі і яны па дынары.

І атрымаўшы, пачалі наракаць на гаспадара дома і казалі: гэтыя апошнія працавалі адну гадзіну і ты зраўняў іх з намі, а мы ж перанесьлі цяготу дня і сьпёку.

А ён у адказ сказаў аднаму зь іх: дружа! я ня крыўджу цябе; ці ж не за дынар ты дамовіўся са мною? вазьмі сваё ды ідзі; я ж хачу гэтаму апошняму даць што і табе; хіба я ня маю ўлады рабіць што хачу ў сваім? ці вока тваё зайздросьлівае ад таго, што я добры? Так будуць апошнія першымі, і першыя апошнімі; бо шмат пакліканых, ды мала выбраных» (Паводле Мацьвея 20:1—16).

Іншасказальная мова Эвангельскай прыпавесьці апавядае пра справядлівасьць учынку гаспадара, які заплаціў аднолькава за няроўную працу. Чаго не разумеюць работнікі, якія працавалі даўжэй. У энэргічных жэстах іх рук і ў выглядзе з непадробным абурэньнем твараў захавана

не просьба, не маленьне, а патрабаваньне справядлівасьці.

Эвангельскую прыпавесьць ілюструе карціна Рэмбрандта «Прыпавесьць пра працаўнікоў на вінаградніку».



Выява карціны Рэмбрандта «Прыпавесьць пра працаўнікоў на вінаградніку» (1637 г. Дзяржаўны Эрмітаж. СанктПецярбург.) на марцы пошты СССР (1976 г.)

Але гэтай прыпавесьцю Бог вучыць нас таму, што мілата Божая, як і вечнае жыцьцё, даецца чалавеку не ў выніку арыфмэтычнага падліку колькасьці яго справаў, але з ласкі Божай. Юдэі думалі, што ім, як першым чальцам Царства Мэсіі, належыць большая ўзнагарода ў параўнаньні з хрысьціянамі не габрэйскага паходжаньня, якія далучыліся да гэтага Царства пазьней. У Бога ж зусім іншая мера праведнасьці. На яго шалях шчырасьць, стараннасьць, чыстае каханьне, пакора больш каштоўныя, чым вонкавы і фармальны бок чалавечых справаў. Практычна гэта Хрыстос пацьвердзіў, калі Сам ужо быў на крыжы. Разбойнік, які павініўся так позна, на крыжы, але шчыра і ўсім сэрцам паверыў у адвергнутага і скатаванага Выратавальніка, ганараваўся Царствам Нябесным нароўні зь іншымі праведнікамі, якія служылі Богу з раньняга дзяцінства. Сьцьвярджаецца, што ўсе і заўсёды маюць шанец, нават тыя, якія паверылі апошнімі будуць выратаваны, калі заслужаць выратаваньне.

«Так будуць апошнія першымі і першыя апошнімі».

## Ажыўленьне Лазара

*Ісус сказаў ёй: Я — уваскрэсеньне і жыцьцё; хто верыць у Мяне, калі і памрэ, — ажыве; і кожны, хто жыве і верыць у Мяне, не памрэ вавекі. Ці верыш у гэта? (Паводле Яна 11:25,26)*

Аповед Эвангеліста Яна аб ажыўленьні Лазара з памерлых, інакш кажучы, аб яго «вяртаньні да жыцьця», зьмешчаны ў 11 главе, вельмі доўгі. У гэты аповед уплецена шмат жывых і цікавых падрабязнасьцяў.

«А Ісус, зноў смуткуючы ўнутрана, прыходзіць да магілы. Гэта была пячора, і камень ляжаў на ёй. Ісус кажа: адымеце камень. Сястра памерлага, Марфа, кажа Яму: Госпадзе! ужо сьмярдзіць; бо чатыры дні, як ён у магіле. Ісус кажа ёй: ці не сказаў Я табе, што, калі будзеш верыць, убачыш славу Божую?

І вось аднялі камень ад пячоры, дзе ляжаў памерлы. А Ісус узьвёў вочы да неба і сказаў: Войча! дзякую Табе, што Ты пачуў Мяне; Я і ведаў, што Ты заўсёды пачуеш Мяне; але сказаў гэта людзям, што стаяць тут, каб паверылі, што Ты паслаў Мяне. Сказаўшы гэта, Ён усклікнуў моцным голасам: Лазар! выходзь. І выйшаў памерлы, абвіты па руках і нагах пахавальным палатном, і твар у яго абвязаны быў хусткай. Ісус кажа ім: разьвяжэце яго, хай ідзе.

Тады многія Юдэі, што прыйшлі да Марыі і бачылі, што ўтварыў Ісус, уверавалі ў Яго; а некаторыя зь іх пайшлі да фарысэяў і сказалі ім, што ўчыніў Ісус. Тады пер-

шасьвятары і фарысэі сабралі нараду і казалі: што нам рабіць? Гэты Чалавек многа цудаў творыць: калі пакінем Яго так, дык усе ўверуюць у Яго, — і прыйдуць Рымляне і забяруць і месца наша і народ. А адзін зь іх, нехта Каяфа, які быў на той год першасьвятаром, сказаў ім: вы нічога ня ведаеце; падумайце, што лепей нам: каб адзін чалавек памёр за людзей, ці каб увесь народ загінуў. Сказаў жа ён гэта не ад сябе, а як што быў на той год першасьвятаром, прадказаў, што Ісус памрэ за народ, і ня толькі за народ, а каб і расьсеяных дзяцей Божых сабраць усіх разам.

З гэтага дня пастанавілі забіць Яго» (Паводле Яна 11:38—53).

Ажыўленьне Лазара намаляваў на цэнтральнай частцы алтара французскі жывапісец Ніколя Фроман (Froment) у 1461годзе. Алтар захоўваецца ў Галерэя Уфіці, Флярэнцыя.



Выява алтара французскага жывапісца Ніколя Фромана (1461). Галерэя Уфіці, Флярэнцыя) «Ажыўленьне Лазара» на блёку пошты Экватарыяльнай Гвінэі (1973 г.)

На створках алтара намаляваныя сцэны «Марта паведамляе Хрыста пра сьмерць Лазара» і «Марыя Магдаліна абмывае ногі Хрысту».

Фроман укладвае ў сцэну ўваскрашэньня Лазара вялікі драматызм, чаго яна па праве заслугоўвае.

Ісус стаіць спакойна, жэстам рук суправаджаючы Свае словы, а мёртвы — з выгляду гэта труп — паднімаецца і садзіцца ў труне. Паабапал стаяць яго сёстры, Апосталы і аднавяскоўцы, якія зьяўляюцца сьведкамі цуда. Лазар ужо пачаў раскладацца, пра што ў Эвангельлі проста сказана: «Госпадзе! ужо сьмярдзіць». Цела Лазара выклікае адштурхваючае ўражаньне, але Ісус і апостал Пётр зьвяртаюцца зь ім далікатна і з клопатам.

Тут намаляваны не цуд па-за часам і прасторай, а цалкам рэальная карціна ў рэальным становішчы.

Адну з сваіх карцін ажыўленьню Лазара прысьвяціў Пітэр Паўль Рубенс.




«Ажыўленьне Лазара» — выява карціны Пітэра Паўля Рубенса. Блёк пошты Емэна, выдадзены у 1969 годзе

Фромэн і Рубенс на карцінах, прысьвечаных ажыўленьню Лазара, некалькі адыходзяць ад апісаньня падзеі ў Эвангельлі. Больш адпавядае гэтаму апісаньню выява на фрэсцы Джота.

Вяршыня творчасьці Джота — гэта фрэскі капэлы дель Арэна ў Падуі (1304—1306). Капэла перакрытая корабавым скляпеньнем; на тарцовай сьцяне зьмешчаны малюнак Страшнага суда, а на бакавых — сцэны з жыцьця Хрыста і Багамаці, разьмешчаныя тры рэгістра. У другім ярусе зьлева фрска «Ажыўленьне Лазара».

Намаляваная сцэна адпавядае запісу ў Эвангельлі: «І выйшаў памерлы, абвіты па руках і нагах пахавальным палатном, і твар

у яго абвязаны быў хусткай. Ісус кажа ім: разьвяжэце яго, хай ідзе» (Паводле Яна 11:44).



Відарыс фрэскі Джота «Ажыўленьне Лазара» на марцы пошты Арабскага Эмірату Аджман, выпушчанай у 1972 годзе



Ажыўленьню Лазара прысьвяцілі маркі пошты Арабскіх Эміратаў: Шарджы (1971 г.) ў сэрыі «Жыцьцё Ісуса Хрыста» і Умм аль Квайну (1973 г.)

Чытаючы Эвангельле паводле Яна аб ажыўленьні Лазара і вучоныятэолагі і звычайныя людзі часта задаюцца многімі пытаньнямі. Чаму, напрыклад, Ісус чакаў чатыры дні, а не адразу пайшоў ратаваць Лазара? Чаму казаў адваліць камень ад гроба Лазара? Хіба Ён ня мог гэта зрабіць Сам?

Усё рабілася для таго, каб уверавалі ў сапраўднасьць цуда і каб падрыхтаваць да прыняцьця веры ў Хрыста як Сына Божага. Хрыстос, як вядома, зьдзяйсьняў свае цуды толькі тады, калі людзі хоць трохі былі гатовыя да таго, каб убачыць іх і паверыць... «Ісус сказаў ёй: Я — уваскрэсеньне і жыцьцё; хто верыць у Мяне, калі і памрэ, — ажыве; і кожны, хто жыве і верыць у Мяне, не памрэ вавекі. Ці верыш у гэта?» (Паводле Яна 11:25,26).

Гэтыя словы, зьвернутыя ня толькі да Марыі, зьвернутыя да ўсіх. Тады і цяпер.

І што, усе юдэі паверылі ў Хрыста? — Зусім не. Некаторыя пайшлі да начальнікаў і «з гэтага дня вырашылі забіць Ісуса» (Паводле Яна 11: 53).

Так пацьвердзілася правата Бога, Які вымавіў у прыпавесьці пра багача і жабрака Лазара: «Калі Майсея і прарокаў не слухаюць, то калі б хто і з мёртвых уваскрэс, не павераць» (Паводле Лукаша 16: 31). Так і мы...

## Лекар целаў і душаў

У Эвангельлях апісана 28 выпадкаў вылячэньня хворых 10 выпадкаў ажыўленьня людзей.

На адной з карцін вялікага італьянца Паолё Вэранэзэ, намаляваны сотнік, які стаіць на каленях перад Хрыстом. Уражвае пранізьлівая шчырасьць гэтай сцэны: рымскі вайсковы начальнік не пасаромеўся ні сваіх ваяроў, ні прысутных людзей, увесь зьвернуты да Хрыста. У сваім парыве ён не заўважае разгубленасьці салдатаў, якія спрабуюць яго падняць, не бачыць асуджаючых і зьдзіўленых поглядаў сваіх спадарожнікаў. Гэты язычнік праяўляе прыклад гарачай веры, сапраўднай міласэрнасьці і дабра: ён просіць не за сябе, не за сваіх родных і роўных па сацыяльным статуце людзей, але за слугу. І Хрыстос ушанаваў яго па веры.

«Калі ж увайшоў Ісус у Капэрнаум, падышоў да Яго сотнік і папрасіў у Яго: Госпадзе! слуга мой ляжыць дома ў паралічы і

моцна пакутуе, Ісус кажа яму: Я прыйду і ацалю яго. А сотнік сказаў Яму ў адказ: Госпадзе! я ня варты, каб Ты ўвайшоў пад мой дах; але скажы толькі слова, і выздаравее слуга мой; бо і я чалавек падуладны; і, маючы ў сябе ў падначаленьні вояў, кажу аднаму: «ідзі», і прыходзіць; і слузе майму: «зрабі тое», і робіць.

Пачуўшы гэта, Ісус зьдзівіўся і сказаў тым, што ішлі за Ім: праўду кажу вам: і ў Ізраілі не знайшоў Я такое веры. Кажу ж вам, што многія з усходу прыйдуць і з заходу і ўзьлягуць з Абрагамам, Ісаакам і Якавам у Царстве Нябесным; а сыны царства будуць выкінуты ў цемру вонкавую, там будзе плач і скрыгат зубоў.

І сказаў Ісус сотніку: ідзі, і, як ты вераваў, хай будзе табе. І выздаравеў слуга ягоны ў тую ж гадзіну» (Паводле Мацьвея 8:5—13).



Выява карціны Паола Веранезе «Хрыстос і Капернаўмскі сотнік». Марка пошты Емэну (1969 г.)

На карціне Мурыльё намалявана падзея, апісана ў Эвангельлі Апосталам Янам: «Тут быў чалавек, які хварэў трыццаць восем гадоў. Ісус, угледзеўшы, як ён ляжыць, і даведаўшыся, што ён ляжыць ужо доўгі час, кажа яму: ці хочаш быць здаровым? Хворы адказваў Яму: так, Госпадзе; але ня маю чалавека, які апусьціў бы мяне ў купальню, калі парушыцца вада; калі ж я прыходжу, нехта іншы ўжо ўваходзіць раней за мяне. Ісус кажа яму: устань, вазьмі пасьцель тваю і хадзі. І той адразу выздаравеў, і ўзяў пасьцель сваю, і пайшоў. Было ж гэта ў дзень суботні» (Паводле Яна 5:5—9).




Марка Саар (1949). Бартоломе Эстэбан Мурыльё — «Хрыстос ацаляе расслабленага ў купальні Віфезда». У 1944 г. бэльгійская пошта выпусьціла сэрыю з шасьці марак, на адной зь якіх адлюстраваны фрагмэнт карціны Ван Дэйка «Хрыстос ацаляе расслабленага»




5 Чэрвеня 1990 года пошта Аўстрыі выпусьціла ў абарот марку, прысьвечаную Міжнароднаму кангрэсу Хрыстос Мэдыкус. На марцы адлюстраваны афорт Рэмбрандта «Хрыстос, вылечваючы хворых», зроблены ім у 1649 годзе.

Ісус паказаны, як Выратавальнік і Вяшчальнік слова Божага. На афорце намалявана больш за 40 пэрсанажаў. Ён ілюструе 19-ю частку Эвангельля ад Мацьвея. Рэмбрандт злучыў у адной кампазыцыі некалькі апісаных там эпізодаў. У цэнтры афорта — Ісус Хрыстос. Фарысэі, спакушаючыя Яго «ці з усякай прычыны дазволена чалавеку разводзіцца з жонкай сваёю?», знаходзяцца з левага краю. Таксама ў левай

частцы кампазыцыі намаляваны маці, якія нясуць дзяцей, і апостал Пётр, не пускае іх да Ісуса: «Тады прыведзены былі да Яго дзеці, каб Ён усклаў на іх рукі і памаліўся; а вучні забаранялі ім. Але Ісус сказаў: пусьціце дзяцей і не заважайце ім прыходзіць да Мяне, бо такім належыць Царства Нябеснае».

Паміж мацярамі сядзіць багаты юнак «замаркочаны», якому Ісус Хрыстос патлумачыў, як мець жыцьцё вечнае: «калі хочаш дасканалым быць, ідзі, прадай маёмасьць тваю і раздай убогім; і мець будзеш скарб на нябёсах; і прыходзь, і ідзі сьледам за Мною».

У правай частцы афорта знаходзяцца хворыя, якія прагнуць вылячэньня: «За Ім сьледам пайшло шмат людзей, і Ён ацаліў іх там». У праём уваходзіць вярблюд, насустрач якому выходзіць чалавек у багатай адзежы — намёк на словы Ісуса «і яшчэ кажу вам: лягчэй вярблюду прайсьці праз ігольныя вушкі, чым багатаму ўвайсьці ў Царства Божае».




У 2006 родзе прыгожы марачны ліст для паштовага карыстаньня выпусьціла пошта Нідэрляндаў з выявай афорта Рэмбрандта «Хрыстос, вылечваючы хворых».

«Бог, Які хоча, каб усе людзі ўратаваліся і дасягнулі спазнаньня ісьціны» (Першае да Цімафея 2:4), «Бог, Які шмат разоў і ўсякімі спосабамі ґаварыў зьвеку да бацькоў нашых праз прарокаў...» (Да Габрэяў 1:1), а калі настала паўната часу, паслаў як «лекара целаў і душ» Пасрэдніка паміж Богам і людзьмі свайго Сына, уцелаўлёнае Слова, намашчанага Духам Сьвятым, абвяшчаць Эвангельле ўбогім і аздараўляць скрушаных сэрцам» — так гаворыць нам Павал, Біскуп каталіцкага Касьцёла.

## «Хто мае вушы, каб чуць, няхай чуе!»

«Выйшаўшы таго ж дня з дома, Ісус сеў каля мора. І сабралася да Яго мноства людзей, так што Ён увайшоў у лодку і сеў; а ўвесь люд стаяў на беразе. І гаварыў ім шмат прытчамі, кажучы: вось, выйшаў сейбіт сеяць. І калі сеяў ён, адно ўпала пры дарозе, і наляцелі птушкі і падзяўблі тое; іншае ўпала на мясьціны камяністыя, дзе няшмат было зямлі, і неўзабаве ўзышло, таму што зямля была ня глыбокая. А калі ўзышло сонца, завяла і, як ня мела карэньня, засохла; іншае ўпала ў церне, і вырасла церне і заглушыла яго; іншае ўпала на добрую зямлю і ўрадзіла плод: адно ў сто разоў, а другое ў шэсьцьдзясят, а тое ў трыццаць» (Паводле Мацьвея 13:1—8).

Вобраз сейбіта можна ўбачыць на паштовых марках Францыі, Гішпаніі, Антыгуа і Барбуды...




Марка з выявай «Сейбіта» выдадзена поштай Італіі ў 1963 годзе з нагоды Кампаніі па барацьбе з голадам і Міжнародным кангрэсам па харчаваньні

Але зьмястоўна яны ня зьвязаныя з Бібліяй. Так стандартны выпуск Францыі з алегарычнай выявай «Сейбіткі», якую французы яшчэ называюць «Мар'янай», выходзіў з 1903 года дзясяткі гадоў. Сьцьвярджаюць Французы, што Мар'яна сее не зерне — гэта мэтафара, якую нельга разумець літаральна, пад збожжам маюцца на ўвазе ідэі Францускай буржуазнай рэвалюцыі, а такія ідэі і трэба сеяць супраць ветру. (Крытыкі зважалі сеяньне супраць ветру памылкай выданьня).




І толькі пошта Польшчы ў 2016 родзе выпусьціла марку, на якой выява сейбіта намаляваная на вокладцы Бібліі, тым самым падкрэсьліўшы значэньне Прыпавесьці пра сейбіта

Выпуск маркі прымеркаваны да 200 — годзьдзя Біблейскага таварыства ў Рэспубліцы Польшча.

Ісус заклікае пачуць сапраўдны сэнс Прыпавесьці пра сейбіта: «Хто мае вушы, каб чуць, няхай чуе!» (Паводле Мацьвея 13:9).

Заклікае яшчэ раз і тлумачыць гэты сапраўдны сэнс Прыпавесьці:

«Але ж вы пачуйце прытчу пра сейбіта: да кожнага, хто слухае слова пра Царства і не разумее, прыходзіць ліхадзей і крадзе пасеянае ў сэрцы ягоным: вось каго азначае пасеянае пры дарозе. А пасеянае на камяністых мясьцінах азначае таго, хто чуе слова і адразу з радасьцю прымае яго; але ня мае кораня ў сабе і нясталы: калі настане ўціск альбо ганеньне за слова, адразу спакушаецца. А пасеянае ў церне азначае таго, хто чуе слова, але клопат веку гэтага і панада багацьця заглушае слова, і яно стаецца бясплодным. А пасеянае на добрай зямлі азначае таго, хто чуе слова і разумее, які і плод прыносіць і дае адзін сто, другі шэсьцьдзесят, а той трыццаць» (Мацьвея 13:18—23).

«Прыпавесьць пра сейбіта — гэта прыпавесьць-ключ, якая расплюшчвае нам вочы, адкрывае вушы і сэрца на тое, як трэба каб мы ўспрымалі Божае слова. Аднак найбольш істотна тое, што гэтае слова скіраванае асабіста да мяне. Гэта я стаю сярод тых, хто слухае. Слухае, але ці чуе? Ці чую я?

«Каб пачуць скіраванае да мяне слова Ісуса, трэба адкрыць сэрца, даць слову пранікнуць у самую глыбіню маёй сутнасьці. Як гэта зрабіць? Даверыцца Сейбіту. Ён ведае, як паклапаціцца пра тое, каб зернеслова дало свой плён «адно ў сто разоў, другое ў шэсьцьдзесят, а іншае ў трыццаць» (Паводле Мацьвея 13:8) — піша нам Айцец Павал Мажэйка.

## Прыпавесьць пра куколь

«Другую прытчу прапанаваў Ён ім, кажучы: Царства Нябеснае падобнае на чалавека, які пасеяў добрае насеньне на полі сваім; калі ж людзі спалі, прыйшоў вораг яго і пасеяў куколь сярод пшаніцы, і пайшоў; калі ўзышла рунь і завязала плод, тады зьявіўся і куколь. Прыйшоўшы, рабы гаспадара дома сказалі яму: гаспадар! ці ж ня добрае насеньне пасеяў ты на полі тваім? адкуль жа на ім куколь? А ён сказаў ім: варожы чалавек гэта зрабіў. А рабы сказалі

яму: хочаш, мы пойдзем, выпалем яго? А ён сказаў: не, каб, выбіраючы куколь, вы не павырывалі разам зь ім і пшаніцы; пакіньце расьці разам тое і другое да жніва; а ў час жніва я скажу жняцам: зьбярэце перш куколь і зьвяжэце яго ў снапы, каб спаліць яго; а пшаніцу зьбярэце ў засекі мае» (Паводле Мацьвея 13:24—30).

На адной з карцін Абрахама Блумарта (1564—1651) — нідэрляндзкі мастак, гравёр, друкар — «Пэйзаж з пустазельлямі сярод пшаніцы» (Walters Museum of Art, Мэрыленд, ЗША) адлюстравана разуменьне мастаком Прыпавесьці пра куколь.




Пошта Грэнады 15 студзеня 2001 года выпусьціла малы ліст, прысьвечаны 200-годзьдзю Дзяржаўнага музэя ў Амстэрдаме. На адной з марак выява карціны Абрахама Блумарта (Нідэрляндзкі мастак Abraham Bloemaert, 1564—1651) «Пэйзаж з пустазельлямі сярод пшаніцы»

У камэнтары музэя да гэтай карціны сказана: «Блумарт дасканала адлюстроўваў прыроду, але ён ніколі не пісаў пэйзажы як такія, аддаючы першынство ўкладаньню ў іх павучаньняў.

У гэтай прыпавесьці з Эвангельля ад Мацьвея, д'ябал, якога можна пазнаць па яго рагах і хвасьце, сее пустазельле (куколь) там, дзе была пасеяная пшаніца, у той час як гультаяватыя сяляне сьпяць. Хрысьціянства лічыць ляноту адным з сямі сьмяротных грахоў, якія чалавецтва атрымала як вынік першароднага граху Адама і Евы, на што як бы намякаюць два голых цела. Галубятня (шпакоўня для прыцягненьня галубоў, якія могуць быць выкарыстаны ў ежу, не прыкладаючы намаганьняў для іх вырошчваньня) зьвязана з мараллю гультая, які выбірае лёгкі шлях. Казёл, вядомы сваім пахацінствам — намёк на патураньне сваім жаданьням, а паўлін сымбалізуе самалюбаваньне».

Прыпавесьці не зьяўляюцца лёгкімі для зразуменьня, патрабуюць высілкаў працы розуму. І вучні Хрыста не зразумелі сэнсу прыпавесьці.

«І прыступіўшы да Яго, вучні Яго сказалі: растлумач нам прытчу пра куколь на полі. А Ён ім сказаў у адказ: сейбіт добрага насеньня ёсьць Сын Чалавечы; поле і ёсьць сьвет; добрае насеньне гэта — сыны Царства, а куколь — сыны ліхога; вораг, які пасеяў яго, ёсьць д'ябал; жніво ёсьць сканчэньне веку, а жняцы — анёлы. А таму як зьбіраюць куколь і агнём паляць, гэтак сама будзе пры сканчэньні веку гэтага: пашле Сын Чалавечы анёлаў Сваіх, і з Царства Яго зьбяруць ўсе спакусы і тых, што чыняць беззаконьне, і ўкінуць іх у печ вогненную; там будзе плач і скрыгат зубоў; тады праведныя зазьзяюць, як сонца, у Царстве Айца іх.




Д«ябал на марцы пошты Бэльгіі (2013 г.)

Хто мае вушы, каб чуць, няхай чуе!» (Паводле Мацьвея 13:36—43).

Ці маем вушы, каб чуць?

# Апошнія дні зямнога жыцьця Ісуса Хрыста

## Уезд Ісуса ў Ерусалім

Ісус ішоў у Ерусалім. Пра гэту вялікую падзею, якая служыла як бы перад пачаткам пакут Хрыстовых, панесеных Ім дзеля нашага выратаваньня, распавядаюць грунтоўна і падрабязнаўсе чатыры Эвангеліста.




Першая сэрыя марак пошты Бапутатсваны з 1982 г. «І калі наблізіліся да Ерусаліма і прыйшлі ў Віфагію да гары Аліўнай, тады Ісус паслаў двух вучняў, сказаўшы ім: ідзеце ў селішча, што проста перад вамі; і адразу знойдзеце асьліцу прывязаную і маладога асла зь ёю; адвязаўшы, прывядзеце да Мяне» (Паводле Мацьвея 21:1,2)

Мастак Ёхан ван Некэрк (Johan van Niekerk) распрацаваў многасэрыйны выпуск марак, прысьвечаных жыцьцю Хрыста для пошты Бапутатсваны і пошта Бапутатсваны на працягу некалькіх гадоў выпускала такія сэрыі па чатыры маркі. Мастак на кожнай марцы дае ўказальнік на тое, які эпізод Эвангельля ён адлюстраваў.

Бог Ісус Хрыстос ішоў зараз у Ерусалім для таго, каб выканалася ўсё напісанае пра Яго, як пра Мэсію, прарокамі: Ён ішоў для таго, каб выпіць чару збавіцельных пакут. Таму ў поўную супрацьлегласьць таму, як трымаў Сябе Ісус раней, гэты Свой апошні ўваход у Ерусалім адбываўся адмыслова вельмі ўрачыста.

Шлях праходзіў па гары. Гара Элеонская, ці Алейная, звалася так па мностве рослых на ёй алейных дрэў («елеа» — масьліна). З гары Элеонскай быў прыгожы выгляд на ўвесь Ерусалім.

«Яны пайшлі, і знайшлі маладога асла, прывязанага каля варот пры дарозе, і адвязалі яго. І некаторыя, што стаялі там, казалі ім: што робіце? навошта адвязваеце асьляня? Яны адказвалі ім, як наказаў Ісус; і тыя адпусьцілі іх» (Паводле Марка 11:4—6)




Маркі пошты Бапутатсваны, 1982 г.

Наступныя сэрыі ілюструюць пасьлядоўна хаду далейшых падзей.

«І прывялі да Ісуса асьляня, і ўсклалі на яго адзеньне сваё; Ісус сеў на яго» (Паводле Марка 11:7).

«...мноства людзей, што прыйшлі на сьвята, пачуўшы, што Ісус ідзе ў Ерусалім, узялі пальмавыя галінкі, выйшлі насустрач Яму і ўсклікалі: асанна! Дабрасла-

вёны Той, Хто ідзе ў імя Гасподняе, Цар Ізраілеў!» (Яна 12:12,13)

«Мноства людзей пасьцілалі вопратку сваю на дарозе, а іншыя рэзалі вецьце з дрэў і пасьцілалі на дарозе...» (Паводле Мацьвея 21:8).



Уезд у Ерусалім. Маркі пошты Бапутатсваны (1982 г.) і Ватыкану (1998 г., малюнак з манускрыпту)

У Палестыне было мала коней, і яны ўжываліся амаль вылучна для вайны. Для хатняга ўжытку і вандраваньняў ужываліся аслы, мулы і вярблюды. Сесьці на каня было тады эмблемай вайны, сесьці на мула ці на асла — эмблемай міру.



Трыюмфальны ўезд у Ерусалім.
Блёк Армэніі (2006 г.). Мініяцюра з Ахпатскага Эвангельля. Майстар Маркарэ. 1211 г.

У мірны час і цары і правадыры народныя езьдзілі на гэтых жывёлах. Такім чынам, уваход Бога Ісуса Хрыста ў Ерусалім на асьле быў знакам міру: Цар сьвету едзе ў сваю сталіцу на асьле — эмблеме міру.

«І калі ўвайшоў Ён у Ерусалім, увесь горад узрушыўся і пыталіся і казалі: хто гэта? А люд казаў: Гэта Ісус, Прарок з Назарэта Галілейскага» (Паводле Мацьвея 21:10,11).



«Ісус, увайшоўшы ў храм, пачаў выганяць прадаўцоў і пакупцоў у храме...». Маркі пошты Бапутатсваны (1984 г.)

«Ісус, увайшоўшы ў храм, пачаў выганяць прадаўцоў і пакупцоў у храме; і сталы мяняйлаў і ўслоны прадаўцоў галубоў абярнуў; і не дазваляў, каб хто пранёс праз храм якую-небудзь рэч. І вучыў іх, кажучы: ці ж не напісана: ё дом Мой домам малітвы назавецца для ўсіх народаў ё? — а вы зрабілі зь яго логва разбойнікаў» (Паводле Марка 11:15—17).



«І прыступілі да Яго ў храме сьляпыя і кульгавыя, і Ён ацаліў іх». Маркі пошты Бапутатсваны (1985 г.)

А першасьвятары і кніжнікі, убаччыўшы цуды, яуія Ён учыніў, і дзяцей, якія ўсклікалі ў храме і казалі: «асанна Сыну Давідаваму», абурыліся і сказалі Яму: ці чуеш, што яны кажуць?



А Ісус кажа ім: так! хіба вы ніколі ня чыталі: «з вуснаў дзетак і немаўлят Ты ўчыніў хвалу?». Маркі пошты Бапутатсваны (1985 г.)

«І пакінуўшы іх, выйшаў з горада ў Віфанію і правёў там ноч (Паводле Мацьвея 21:17).

«Прыйшоў час праславіцца Сыну Чалавечаму: Праўду, праўду кажу вам: калі пшанічнае зерне, упаўшы ў зямлю, не памрэ, дык застанецца адно; а калі памрэ, дык уродзіць багата плоду» (Паводле Яна 12:23,24).

## Праклён бясплоднай смакоўніцы

Два Эвангеліста Сьвяты Мацьвей і Сьв. Марк распавядаюць, што пасьля ўрачыстага ўваходу ў Ерусалім, Бог правёў са сваімі вучнямі ноч у Віфаніі, а раніцай на іншы дзень, ідучы зноў у Ерусалім «угледзеўшы пры дарозе адну смакоўніцу, падышоў да яе і, нічога на ёй не знайшоўшы, акрамя толькі лісьця, кажа ёй: хай ня будзе больш ад цябе плоду вавек. І адразу ўсохла смакоўніца» (Паводле Мацьвея 21:19).



Хрыстос-прапаведнік — выява старонкі манускрыпту на марцы пошты Ватыкану (1996 г.)

Завошта смакоўніца падверглася праклёну? За тое, што яна выглядам сваім ашуквала, уводзіла ў зман. На смакоўніцы лісьце зьяўляецца звычайна пасьля пладоў, а гэта смакоўніца сваім зазелянелым выглядам абяцала плады падарожнікам, у той час як у рэчаіснасьці на ёй нічога, акрамя аднаго лісьця, не было. Смакоўніца гэта была сымбалям прадстаўнікоў і кіраўнікоў юдэйскай старазапаветнай царквы — першасьвятароў, кніжнікаў і фарысэяў, якія мелі толькі вонкавы выгляд выканаўцаў Закона Божага, а сапраўдных пладоў веры не прыносілі. Бог вырак іх на ўсушэньне ў пакараньне за іх крывадушнасьць, і прадрок, як мы ўбачым далей.




Праклён смакоўніцы на марках Батутатсваны (1994 г.)

«Таму кажу вам, што адымецца ад вас Царства Божае, і дадзена будзе народу, які прыносіць плады ягоныя» (Паводле Мацьвея 21:43).




Вітраж 12 ст. «Прыпавесьць аб смакоўніцы» на марцы фірмы ZAZZLE ЗША. На марцы пошты Ізраілю (1952 г.) лапка з пладамі смакоўніцы. На прывесцы надпіс «налівае смакоўніца пупышкі» (Песьня 2:13)

Калі вучні зьвярнулі ўвагу на тое, што смакоўніца засохла, у адказ на выяўленае ўсімі вучнямі па гэтай нагодзе зьдзіўленьне, Бог павучае іх пра сілу веры, кажучы, што, калі яны будуць мець веру Божую, пераадольваючы ўсе сумневы, то

змогуць дзеяць яшчэ большыя цуды: «Бо праўду кажу вам: калі хто скажа гары гэтай: падыміся і кінься ў мора, і не засумняваецца ў сэрцы сваім, а паверыць, што збудзецца паводле словаў ягоных, — будзе яму, што ні скажа».

У прыкладзе гары, вядома, толькі ўяўляецца, што для веры, вольнай ад сумневу, няма нічога немагчымага. Таму і ў малітве трэба аб усім прасіць з вераю і атрымаць. Сьвяты Марк дадае да гэтага ў 25—26 вершах, што ўмовай дзейснасьці малітвы зьяўляецца прабачэньне блізкім. «І калі стаіце на малітве, даруйце, калі што маеце на каго, каб і Айцец ваш нябесны дараваў вам грахі вашыя; калі ж не даруеце, дык і Айцец ваш нябесны не даруе вам грахоў вашых» (Паводле Марка 11:25,26).

## Апошняя вячэра

«Апошняя Вячэра» (Ultima Cena) — адна з найболей драматычных і значных падзей, якая адбылася ў час зямнога жыцьця Хрыста і якую апісалі ўсе Эвангелісты.




На марцы пошты Экватэрыяльнай Гвінэі (1975 г.) зьлева горніца «Апошняй вячэры» — Сэнакулум.

Пад горніцай знаходзіцца «Заля мыцьця ног», дзе Ісус мыў ногі сваім вучням. Справа — укрыжаваны Хрыстос Хрыстос (“...час мой блізкі...”).

«Калі надышло Пасхальнае Сьвята, у першы ж дзень праснакоў прыступілі вучні да Ісуса і сказалі яму: дзе хочаш, каб мы прыгатавалі Табе есьці пасху? Ён жа сказаў: ідзеце ў горад да такога і такога і скажэце яму: „Настаўнік кажа: час мой блізкі, у цябе ўчыню пасху з вучнямі Маімі“. І зрабілі вучні, як загадаў ім Ісус, і прыгатавалі пасху» (Паводле Мацьвея 26:17—19).

А д'ябал ужо схіліў сэрца Юды Сымонавага Іскарыёта здрадзіць Ісусу.




Юда перад сьвятарамі на марцы пошты Бапутатсваны з 1988 г.

«І пайшоў Юда Іскарыёт, адзін з дванаццацёх, да першасьвятароў, каб выдаць Яго ім. А яны, пачуўшы, узрадаваліся і абяцаліся даць яму срэбранікі. І ён намышляў, як бы ў зручны час выдаць Яго» (Паводле Марка 14:10—11).




«Хрыстос мые ногі Пятру». Марка пошты Панамы (1967 г. Форд Мэдокс Браўн, 1852—56. Палатно, алей. Галерэя Тейт, Лёндан.) «Хрыстос мые ногі Пятру», марка Бапутатсваны (1988 г.)

Па звычаю перад вячэраю трэба было памыць ногі. Але не было прыслужніка. І тады Хрыстос устаў зь вячэры, распрануўся і, узяўшы ручнік, аперазаўся; потым уліў ва-

ды ва ўмывальніцу і пачаў абмываць ногі вучням і абціраць ручніком, якім быў аперазаны. Падыходзіць да Сымона Пятра, і той кажа Яму: Госпадзе! ці Табе абмываць мае ногі? Ісус сказаў яму ў адказ: што Я раблю, цяпер ты ня ведаеш, а ўразумееш пасьля» (Яна 13:4—7).

«Вы называеце Мяне Настаўнікам і Госпадам, і слушна кажаце, бо Я сапраўды гэта. Дык вось, калі Я, Гасподзь і Настаўнік, абмыў ногі вам, дык і вы павінны абмываць ногі адзін аднаму: бо Я даў вам прыклад, каб і вы рабілі тое самае, што Я зрабіў вам» (Паводле Яна 13:13—15).



«Хрыстос мые ногі Пятру» на марцы Ватыкана (1998 г., ілюстрацыя з манускрыпту)

Вякамі Апошняя вячэра прыцягвала ўвагу хрысьціянскіх мастакоў. Для карціны звычайна выбіраўся адзін з двух яе драматычных момантаў, або зьдзяйсьненьне Ісусам Хрыстом Сьвятога Прычасьця, або Яго сьцьвярджэньне пра тое, што адзін з апосталаў Яго здрадзіць.




На марцы пошты Бапутатсваны (1988 г.) адлюстраваны момант, калі Ісус “ умачыўшы кавалак, падаў Юду Сымонаву Іскарыёту»

«Ісус узрушыўся духам, і засьведчыў, і сказаў: праўду, праўду кажу вам, што адзін з вас выдасьць Мяне. Тады вучні азіраліся адзін на аднаго, не разу меючы, пра каго Ён кажа. А адзін вучань Ягоны, якога любіў Ісус, узьляжаў каля грудзей Ісуса; яму Сымон Пётр зрабіў знак, каб спытаўся, хто той, пра якога кажа. Ён, прыпаўшы да грудзей Ісуса, сказаў Яму: Госпадзе, хто гэта? Ісус адказваў: той, каму Я, умачыўшы кавалак хлеба, падам. І ўмачыўшы кавалак, падаў Юду Сымонаву Іскарыёту» (Яна 13:21—26).

Найбольш старажытных выяваў «Апошняй Вячэры» захавалася ў Эвангельлях і Псалтырах. Іх кампазыцыя традыцыйная, але ў бізантыйскіх помніках апосталы сядзяць за сталом, а не ляжаць. Могуць быць адрозьненьні ў разьмяшчэньні апосталаў.

Сусьветна вядомай стала фрэска Леанарда да Вінчы ў рэфекторыі кляштара Санта Марыя дэла Грацэ ў Мілане. На ёй паказаны драматычны момант прадказаньня Юдавай здрады.



«Апошняя Вячэра» (The Last Supper 1494 -1498) Леанарда да Вінчы. Марка Сан — Тамэ і Прынсіпі (2003 г.)

Хрыстос знаходзіцца ў цэнтры за прамавугольным сталом, абапал Яго па шэсьць Апосталаў: зьлева — Барталамей, Якуб Малодшы, Андрэй, Юда Іскарыёт, Сымон (Пётр) за Юдам, Ян, справа — Тамаш (ззаду), Якуб Завядзеяў, Піліп, Мацьвей, Юда (Тадэвуш), Сымон Зілот. Фрэска проста і шматзначна ўпісана ў прастору рэфекторыя: на другім канцы насупраць стаяў стол прыёра, уздоўж бакавых сьценаў сядзелі

манахі, і выглядала так, што пры іх трапэзе прысутнічаюць Апосталы і Хрыстос.

«Напэўна, моцнае было ўражаньне, калі ў час трапэзы тыя, хто сядзеў за сталом прыёра, і тыя, хто сядзеў за сталом Хрыста, глядзелі адны на другіх нібы ў люстэрка, а манахам за іх сталамі здавалася, што яны знаходзяцца паміж гэтымі двума судружжамі».

Юду можна распазнаць сярод вучняў па яго традыцыйным атрыбуце — кашальку, які ён сьціскае ў руцэ.



Мазаіка сабора Сьв. Марка «Апошняя вячэра» на марцы пошты Аджману (1972 г.)




Фрэска Сыкстынскай капэлы Раселі на марцы Ватыкану (2002 г.)

На пярэднім пляне ў чорным адзеньні Юда Іскарыёт, на плячах якога сядзіць д’ябал.

Потым Ісус, блаславіўшы, даў Апосталам хлеб і віно, устанавіўшы тым самым Эўхарыстыю.

«А калі яны елі: Ісус, узяўшы хлеб і дабраславіўшы, паламаў і, раздаючы вучням, сказаў: прымеце, ежце: гэта Цела Маё. І ўзяўшы чару, і падзякаваўшы, падаў ім і сказаў: пеце зь яе ўсе; бо гэта Кроў Мая Новага Запавету, за многіх праліваная дзеля дараваньня грахоў. Кажу ж вам, што ад сёньня ня буду піць ад плоду гэтага вінаграднага да таго дня, калі буду піць з вамі новае віно ў Царстве Айца Майго» (Паводле Мацьвея 26:26—29).




На счэпцы пошты Сэнт Вінсэнту вітраж з выявай «Апошняй вячэры»

Вячэра, якую спажываў Ісус з вучнямі ў пярэдадзень Яго сьмерці і зьмёртвыхпаўстаньня, становіцца па Яго волі напамінкам пра тое абсалютнае, канчатковае вызваленьне чалавека Богам. Становіцца, як калісьці жыдоўская пасхальная вячэра — вячэраю падзякі. Ушанаваньнем Бога за вялікія Яго справы, падзякаю Богу, што вызваліў нас праз сьмерць і зьмёртвыхпаўстаньне свайго Сына, Ісуса.

Першыя малюнкі ўсталяваньня таямніцы Прычасьця, якое мела месца на Апошняй вячэры Хрыста, — літургічная Апошняя вячэра — узыходзяць да VI стагодзьдзя.




«А калі яны елі: Ісус, узяўшы хлеб і дабраславіўшы, паламаў і, раздаючы вучням, сказаў: прымеце, ежце: гэта Цела Маё» на марцы пошты Бапутатсваны (1989 г.)

Эўхарыстычная чара (пацір) і госція — віно (Кроў Хрыстова) і хлеб (Цела Хрысто-

ва) — сталі маляваецца з VII стагодзьдзя; першы такі малюнак маецца ў Эвангельлі, якое захоўваецца ў Каледжы Цела Хрыстова ў Кэмбрыджы. Вядома мініяцюра «Апошняя Вячэра» з Кіеўскга Псалтыра 1397 года (Захоўваецца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу).

Але звычайнымі ў творах мастацтва ўсе пералічаныя атрыбуты Апошняй вячэры становяцца толькі з XV стагодзьдзя.




На блёку пошты краіны Антыгуа і Барбуда (1992г., выява карціны Вісэнта Хуана Масіпа (Vicente Juan Masip))

Так была ўсталяваная Эўхарыстыя — Сьвятое Таемства прычашчэньня Ісусам Хрыстом падчас Апошняй Вячэры.

Прычашчэньне неабходна кожнаму хрысьціяніну для выратаваньня:

«А Ісус сказаў ім: праўду, праўду кажу вам: калі ня будзеце есьці Плоці Сына Чалавечага і піць Крыві Ягонай, ня мецьмеце ў сабе жыцьця: Хто есьць Маю Плоць і п'е Маю Кроў, мае жыцьцё вечнае, і Я ўваскрэшу яго ў апошні дзень; бо Плоць мая сапраўды ёсьць ежа, Кроў мая сапраўды пітво ёсьць; хто есьць Маю Плоць і п'е Маю Кроў, застаецца ўва Мне, і Я ў ім; як паслаў Мяне жывы Айцец, і Я жыву Айцом, так і той, хто есьць Мяне, жыць будзе Мною...» (Паводле Яна 6:53—57).




Выява карціны Пітэра Рубенса на марцы пошты Італіі (2011 г.)




«Таемная вячэра». Кардучы Барталамэ (1554—1608). Блёк Гранады




«Апошняя вячэра». Рубенс. Блёк Гамбіі

«Годна гэта і справядліва, слушна і збавенна, — так пачынаецца Эўхарыстычная малітва, — каб мы заўсёды і ўсюды Табе падзяку складалі, Пане, Ойча Сьвяты, Усе-

магутны Вечны Божа... праз Хрыста, Пана нашага...»

## Маленьне ў Гефсіманскім садзе

Усе тры першыя Эвангелісты малююць трагічную карціну самоты Вялікага Чалавека, які прыйшоў, каб быць зразуметым і зразуменьня не знайшоў. Кульмінацыя гэтай трагічнай самоты, бязьмежнай адзіноты — маленьне ў Гефсіманскім садзе, калі Ісус просіць Айца Свайго Нябеснага пранесьці міма чашу пакутаў («маленьне пра чашу»), сьмяротны страх да «крывавага поту» і страшны ўскрык паміраючага з крыжа — радок псальма, які зафіксавалі Мацьвей і Лука: «Элі, Элі, лама савахвані!» — «Божа мой, Божа мой, чаму Ты Мяне пакінуў!».




«Маленьне ў Гефсіманскім садзе» на марцы Андоры (1967 г.), фрэска XVI веку ў La Maison des Vallées

«Прыйшлі ў селішча, якое называлася Гефсіманія: і Ён сказаў вучням Сваім: пасядзеце тут, пакуль Я памалюся. І ўзяў з Сабою Пятра, Якава і Яна; і пачаў смуткаваць і журыцца. І сказаў ім: душа Мая смуткуе да сьмерці; пабудзьце тут, і чувайце. І, адышоўшы крыху, упаў на зямлю і маліўся, каб, калі можна, мінула Яго гадзіна гэтая; і казаў: Авва Войча! усё магчыма Табе; пранясі чару гэтую міма Мяне; але не чаго Я хачу, а чаго Ты. Вяртаецца і знаходзіць, што яны сьпяць; кажа Пятру: Сымоне! ты сьпіш? ня мог ты чуваць аднае гадзіны? чувайце і малецеся, каб не паддацца спакусе: дух бадзёры, а плоць нядужая. І зноў адышоўшы маліўся, сказаўшы тое самае слова. І вярнуўшыся, зноў знайшоў, што яны сьпяць: бо ў іх вочы ацяжэлі; і яны ня ведалі, што яму адказаць. І прыходзіць трэйці раз і кажа ім: вы ўсё яшчэ сьпіце і спачываеце? годзе; настала гадзіна; вось, аддаецца Сын Чалавечы ў рукі грэшнікам; устаньце, хадзем: вось наблізіўся той, хто выдае Мяне» (Паводле Марка 14:32—42).




«Маленьне ў Гефсіманскім садзе» на марцы Гішпаніі (1962 г. Жакуінта Карада (Corrado Giaquinto,1703—1765))

Біблейскі сюжэт «Маленьне пра чашу» ў Гефсіманскім садзе — адзін з самых значных у хрысьціянстве. Ісус са сваімі вучнямі правёў тут сваю апошнюю ноч перад арыштам, молячыся пра чашу, якая яго не абміне. Менавіта ў гэтым эпізодзе выявілася дваістая сутнасьць Хрыста, бо як Бог, падобны Богу-Бацьку, ён ведаў пра сваю будучую ахвяру і чакаў яе, лічачы неабходнай і непазьбежнай, а як чалавек баяўся хуткіх пакут і сьмерці на крыжы.

Урэшце, у рашэньні гэтага пытаньня Ісус паклаўся на волю Творцы.

Гефсіманскі сад, ля падножжа гары Аліўнай, у даліне Кедрон. Гэта месца, дзе Ісус маліўся са сваімі вучнямі ў ноч перад расьпяцьцем. На прывесцы маркі Ізраіля Царква Усіх Нацый.




Марка сумеснага выпуску пошты Ізраіля і пошты Ватыкана (2010 г.)

Але пакуль Настаўнік маліўся, яго вучні, замест таго, каб чакаць свайго настаўніка, папросту заснулі. Яны ніколькі не турбаваліся за лёс Прапаведніка. Не было ў Яго гаворках нічога такога, завошта Яго можна было б падвергнуць пакараньню.




«Маленьне ў Гефсіманскім садзе» на марцы Аману, выдадзеная ў 1972 годзе, рэпрадукцыя карціны Майстра з Гогенфурс (Hohenfurth)

У 1969 г., у Ніцы, у Францыі, адбылася закладка музэя «Біблейскае Пасланьне», дзе павінны былі экспанавацца толькі творы Марка Шагала, прысьвечаныя біблейскім паданьням. Біблейскія сюжэты займаюць адмысловае месца ў творчасьці Марка Шагала. Ён пісаў іх на працягу ўсяго жыцьця. Гэты музэй быў адчынены ў 1973 г.



Габэлен, відарыс якога зьмешчаны на блёку, выпушчаным у Беларусі ў 1993 годзе, «Маленьне пра чашу», вісіць пры ўваходзе ў музэй




На блёку краіны Палаў (2010 г.) выява часткі карціны Сандра Бацічэлі. Захоўваецца ў Каралеўскай капэле, Гранада (Capilla Real, Granada)

Праўды, прапаведуемыя Ісусам, былі настолькі зразумелыя і натуральныя, што не выклікалі ніякіх асьцярог за Яго лёс. Ды і аўтарытэт Настаўніка быў абсалютны. Людзі проста не маглі ўявіць сабе, што хтосьці можа паквапіцца на Сьвятое, што Яго трэба абараняць, турбавацца за Яго лёс. Яны выявілі банальны інфантылізм, абыякавасьць... і праспалі. Ці не паўтараем і мы ўсьлед за імі гэты ўчынак?

## Арышт Ісуса Хрыста

*Тады кажа ім Ісус: усе вы запаняверыцеся ўва Мне ў гэтую ноч, бо напісана: «пакараю пастыра, і расьсеюцца авечкі». (Паводле Мацьвея 26:31).*

Дзейнасьць Ісуса Хрыста страшэнна напалохала «першасьвятароў і кніжнікаў і старэйшын народу», што яны канчаткова згубяць уплыў на людзей.

«Тады сабраліся першасьвятары і кніжнікі і старэйшыны народу ў двор першасьвятара, якога звалі Каяфа, і дамовіліся ўзяць Ісуса хітрасьцю і забіць; але казалі: толькі ня ў сьвята, каб ня сталася абурэньня ў народзе» (Паводле Мацьвея 26:3—5).




«Арышт Хрыста», Фра Анджэліка (1450; Музэй дзі Сан-Марка, Флярэнцыя). Блёк пошты Грэнады Грэнадынас (1977 г.)

Адзін з дванаццаці апосталаў Хрыстовых, Юда Іскарыёт, быў вельмі прагны да грошай; і вучэньне Хрыстова не выправіла душы яго. «Тады адзін з дванаццацёх, якога звалі Юда Іскарыёт, пайшоў да першасьвятароў і сказаў: што вы дасьце мне, і я вам выдам Яго? Яны прапанавалі яму трыццаць срэбранікаў...» (Паводле Мацьвея 26:14,15).

Арышт адбываецца ў начны час або на досьвітку каля Алейнай гары; на адлегласьці можна ўбачыць горад Ерусалім. Да Хрыста наблізіўся натоўп з салдатамі, узброены мячамі і каламі. Сабакі, якія прысутнічаюць абапал, адпавядаюць Псальму 22:16: «Бо сабакі мяне атачылі, хэўра злыдняў мяне абступіла». Апостал Пётр з мячом кідаецца на абарону Хрыста, якога ўжо цалуе Юда. «І адразу, як Ён яшчэ ґаварыў, прыходзіць Юда, адзін з дванаццацёх, і зь ім мноства людзей зь мечамі і каламі, ад першасьвятароў і кніжнікаў і старэйшын. А хто выдаваў Яго, даў ім знак, кажучы: каго я пацалую, Той і ёсьць; вазьмеце Яго, і вядзеце пільна. І прыйшоўшы, адразу падышоў да Яго і кажа: Равьві, Равьві! І пацалаваў Яго» (Паводле Марка 14:43—45).




«Пацалунак Юды» — фрэска Джота дзі Бандонэ (Капэла Скравены, 1304—06) на марцы пошты Рас Аль Хаймы (1970 г.)




«Пацалунак Юды» — фрэска 16 ст., марка Андоры (1967 г.). «Здрада Хрыста», Альфрэд Дзюрэр (1508 г., Музэй мастацтваў Мэтрапалітэн) марка Ганы (1978 г.)

Дзюрэр стварыў трыццаць сем ксілаграфій на сьмерць і ўваскрэсеньне

Ісуса Хрыста, вядомых як «Мукі Ісуса Хрыста», упершыню апублікаваных у 1511 годзе, і пятнаццаць малых гравюр на тую ж тэму, апублікаваных у 1512 годзе. Ён зьвяртаўся да гэтай тэмы ў сваёй кар'еры не менш за шэсьць разоў.




Пацалунак у цэнтры карціны «Узяцьце Хрыста» Мікеланджэла да Мэрізі Караваджа (каля 1598; Нацыянальная галерэя Ірляндыі, Дублін). Блёк пошты Гамбіі (2001г.)

Пацалунак Юды — акт здрады. Гвалт арышту прадстаўлены буйным плянам. Юда і Ісус дзіўным чынам зьвязаныя паміж сабой іх рукамі, накірункам іх поглядаў. Зьлева адзін з вучняў, ахоплены жахам, уцякае ў цемру. У правай частцы карціны з навакольнай цемры ліхтаром высьвятляецца галава — аўтапартрэт мастака.

«А тыя, што ўзялі Ісуса, завялі Яго да Каяфы першасьвятара, куды сабраліся кніжнікі і старэйшыны. А Пётр ішоў сьледам за Ім зводдаль, да двара першасьвятаровага і ўвайшоўшы ў сярэдзіну, сеў са слугамі, каб бачыць канец. Першасьвятары і старэйшыны і ўвесь сынедрыён шукалі ілжывага сьведчаньня супроць Ісуса, каб аддаць Яго на сьмерць; і не знаходзілі; і хоць шмат ілжывых сьведкаў прыходзіла, не знайшлі. Але нарэшце прыйшлі два лжывыя сьведкі...» (Паводле Мацьвея 26:57—60).

На марцы Экватэрыяльнай Гвінэі дэталь карціны «Арышт Хрыста» аднаго з самых важных твораў мастацтва сярэднявечча — Арагонскага трыпціха рэлікварыя з манастыра Пьедра, які быў зроблены ў 1390 годзе і захоўваецца з 1851 года ў Акадэміі гісторыі ў Мадрыдзе.



«Арышт Хрыста». Марка Экватэрыяльнай Гвінэі (1972 г.) і марка пошты Ум Аль Квайна (1972 г.) — дэталь карціны Ганса Мэмлінга «Пакуты Хрыстовы» (the Passion of Christ, Hans Memling)

«І ўстаўшы, першасьвятар сказаў Яму: чаму нічога не адказваеш, што яны супроць Цябе сьведчаць? А Ісус маўчаў. І першасьвятар сказаў Яму: заклінаю Цябе Богам жывым, скажы нам, ці Ты Хрыстос, Сын Божы? Кажа яму Ісус: ты сказаў; нават маўляю вам: ад сёньня ўгледзіце Сына Чалавечага, што сядзіць праваруч сілы і ідзе на аблоках нябесных. Тады першасьвятар разадраў сваё адзеньне і сказаў: Ён блюзьнерыць. Навошта яшчэ нам сьведкі? Вось, вы чулі блюзьнерства Ягонае! Як вам здаецца? А яны сказалі ў адказ: варты сьмерці» (Паводле Мацьвея 26:62—66).




«І некаторыя пачалі пляваць на Яго і, закрываючы твар Яму, біць Яго і казаць Яму: прароч. І слугі білі Яго па шчоках» (Марка 14:64), марка Бапутатсваны (1991 г.)

«Калі Пётр быў на дварэ ўнізе, прыйшла адна служанка першасьвятаровая і, убачыў-

шы Пятра, што ён грэецца, і ўгледзеўшы яго, сказала: і ты быў зь Ісусам Назаранінам. Але ён адрокся, сказаўшы: ня ведаю і не разумею, што ты кажаш. І выйшаў на пярэдні двор; і засьпяваў певень. Служанка, убачыўшы яго зноў, пачала казаць тым, што стаялі тут: гэты зь іх. Ён зноў адрокся. Крыху пазьней тыя, што стаялі тут, зноў пачалі гаварыць Пятру: і праўда, ты зь іх; бо ты Галілеянін, і гаворка твая падобная. А ён пачаў прысягаць і бажыцца: ня ведаю Чалавека гэтага, пра Якога кажаце. Тады певень засьпяваў другі раз. І ўспомніў Пётр слова, сказанае яму Ісусам: „перш чым певень засьпявае двойчы, тройчы адрачэшся ад Мяне“. І заплакаў» (Паводле Марка 14:65—71).




Блёк пошты Грэнады (2001 г.) Рэмбрандт Харменс ван Рэйн «Апостал Пётр, які зракаецца ад Хрыста» 1660г.

Дзяўчына і салдаты чакаюць адказу ад Пятра. Разам зь імі мы таксама чакаем і мы бачым страх і сумнеў Пятра: затрыманае імгненьне да гэтага часу і назаўжды.

«Тады Юда, які выдаў Яго, убачыўшы, што засудзілі Яго, і раскаяўшыся, аддаў трыццаць срэбранікаў першасьвятарам і старэйшынам, кажучы: зграшыў я, прадаўшы кроў нявінную. Яны ж сказалі: што нам да таго? глядзі сам. І кінуўшы срэбранікі ў храме, ён адышоў; і пайшоўшы, павесіўся» (Паводле Мацьвея 27:3—5).

Пра твор Рэмбрандта «Юда вяртае трыццаць срэбранікаў» Канстантэйн Хёйгенс (нід. Constantijn Huygens) нідэрляндзкі паэт, навуковец і кампазытар Залатога стагодзьдзя сказаў так: «Ніякае італьянскае мастацтва, ні нават самыя цудоўныя фрагмэнты тварэньняў лепшых майстроў антычнасьці, якія дайшлі да нас, не могуць засцямніць гэтага твора. Пастава абуральнага Юды, які моліць пра прабачэньне (хоць ён ужо не спадзяецца і толькі робіць выгляд, што спадзяецца), яго страшны твар з ускалмачанымі валасамі, разадраныя адзеньні, ашалеласьць, зь якой ён ломіць рукі, сьціскаючы далоні так, што пальцы ледзь не дробняцца, выстаўляючы наперад адно калена, не заўважаючы гэтага, уся яго сутаргавая постаць, — гледзячы на карціну, я параўноўваю ўсё гэта з мастацтвам мінулых стагодзьдзяў і ў параўнаньні гэтым аддаю належнае вытанчанасьці яго працы».




Выява карціны Рэмбрандта «Юда вяртае трыццаць срэбранікаў» на блёку пошты Сэнт-Кітс (2003г.)

«Пётр і Юда... Пагледзіце як падобна пайшлі за Хрыстом, які аднолькавы пачатак іх апостальства, але які розны канец! Абодва — і Пётр, і Юда — былі абраны Хрыстом, набліжаны да Яго, ушанаваныя Яго даверам, адзначаны Яго каханьнем, ганараваныя Яго дарамі, навучаны Ім таямніцам Царства Нябеснага, закліканы ў сьведкі Яго

цудаў і паспавядалі Яго Мэсіяй, Хрыстом, Сынам Бога Жывога. Як розна іх пакаяньне! Юдава раскаяньне — гэта не раскаяньне апостала Пятра, дзе Пётр плачучы і праклінаючы сябе за слабахарактарнасьць, ідзе да апосталаў, а ўсьведамленьне таго, што зараз здраднік застаўся абсалютна адзін. Ён не патрэбен нікому. Ён пагарджаны ўсімі. Яму больш няма ў што і верыць няма каму і, па істоце, няма куды ісьці. Ускосным пацьверджаньнем гэтай высновы зьяўляюцца і чыньнікі самагубстваў сёньня. Гэта адзінота і расчараваньне пры адсутнасьці веры. Юда забіў Бога ў сваім сэрцы. Бо яно, адрачэньне Пятра, па істоце жыве ў кожным чалавеку, у кожным з нас. Гэта грэх чалавечай немачы і слабасьці. Кожны раз, калі мы зьдзяйсьняем грэх, мы здраджваем Бога.

Грахі падобныя, але яны вядуць да процілеглых вынікаў».



«Пацалунак Юды» — фрэска Джота дзі Бандонэ (Капэла Скравены, 1304—06). Блёк пошты Аджману, выдадзены ў 1972 годзе



«Крыжовая дарога». Марачны ліст пошты Лесота (1985 г.)

Калі надыходзіць дзень Вялікай пятніцы, бадай самае важнае для нас у гэтым дні, магчымасьць «азірнуцца на сваё жыцьцё і задумацца, як Бог аднаўляе кожнага з нас, пакалечанага, пабітага, грахоўнага. Аднаўляе штодня. Каб з занесеных павуціньнем і брудам вокнаў душы можна было ўбачыць сьвятло». Адрачэньне і здрада. Пропаведзь на 2-ую Пасію.

Перад Ісусам Хрыстом пачынаўся жудасны «Крыжовая шлях».

# Via Dolorosa

*Найперш нагадаем сабе на гэтай Крыжовай Дарозе словы Ісуса Хрыста, які першы прайшоў па Крыжовай Дарозе: «Калі хто хоча ісьці за Мною, няхай возьме крыж свой, і ідзе Маім сьледам. Кардынал Стэфан Вышынскі*

«Вія Даларозa» — гэта шлях, пройдзены Ісусам у сваёй апошняй зямной вандроўцы, несучы свой крыж з месца асуджэньня да месца расьпяцьця на Галгофе. Галгофа, па лаціне Кальварыя.

Вія Даларозa пачынаецца ў двары школы мусульманскай, дзе дзьве тысячы гадоў таму была рымская крэпасьць, вядомая як «Антонія», пабудаваная ў 36 годзе да нашай эры Ірадам Вялікім у гонар свайго сябра Марка Антонія, рымскага палітычнага дзеяча.




У 2012 годзе ізраільская пошта на блёку паказала Ерусалім у часы Другога Храма, які быў пабудаваны царом Ірадам

На марцы фігура першасьвятара. Малюнак Ерусаліма зроблены на аснове мадэлі, распрацаванай прафэсарам Майклам Автёнах (Michael AviYonah) у 1960 годзе. Чырвоныя дахі — габрэйскі квартал Старога горада на дадзены момант. За Храмам знаходзіцца крэпасьць Антонія, ад якой пачынаўся Крыжовы Шлях. На адным з двароў крэпасьці, званым Літастратас (Lithostrotos — «Месца брукаванае»), адбыўся суд над Ісусам (Паводле Яна 19:13).



Крыжовы Шлях Ісуса Хрыста па Ерусаліму каля 2000 гадоў таму

Паводле біблейскай традыцыі, канчатковы ўчастак дарогі на Галгофу (пагорак, які нагадвае чалавечы чэрап) быў разьмешчаны па-за гарадзкімі сьценамі. Выхад быў праз браму Яфрэмаву. У некаторых богаслужбовых кнігах з апісаньнем сцэн Дарогі Крыжовай гэтыя вароты называюць Брамай Судовай. Працягласьцю каля 1300 крокаў Via Dolorosa — за выключэньнем пятніцы запоўненая кіёскамі і поўная мітусьні — у значнай ступені праходзіць праз мусульманскі квартал. Гэта ўжо зусім не той выгляд і асяродзьдзе, што было амаль дзьве тысячы гадоў назад, не тая архітэктура, бо за мінулыя стагодзьдзі, што прайшлі з тых часоў, адкладаліся тут пласты археалягічныя і многаразова зьмяніліся будынкі і іх архітэктура. Антонія была разбу-

рана Цітам разам з амаль усім Ерусалімам пасьля падаўленьня Габрэйскага Паўстаньня ў 70 годзе. У 135 годзе імпэратар Адрыян загадаў на руінах Ерусаліма пабудаваць рымскай калёнію, названую ў гонар Юпітэра Капіталійскага Элія Капіталіна, забараняючы адначасова габрэям сяліцца ў горадзе. У месцы, дзе раней была крэпасьць і прылягаючая да яе цыстэрна для вады, створаны быў вялікі форум, на якім збудавана брама (East Gate) з трох арак — цэнтральнай вялікай і двух бакавых — меншых. Адна з меншых арак называецца «Ecce Homo» і знаходзіцца цяпер у царкве Сясьцёр Сіёна на Вія Даларозa, а цэнтральная частка аркі, бачная над вуліцай паміж будынкамі з абодвух бакоў. Гэтая частка Вія Даларозa праходзіць па вуліцы Sha'ar Ha-Arayot і вядзе да брамы Львоў. Як найбольш характэрная, яна паказана на марках і паштоўках.




У 2012 годзе ізраільская пошта выпусьціла марку з выглядам на вуліцу, намаляваным Людвігам Блюмам ў 1946 годзе. Арка «Ecce Homo» на марцы пошты Ізраіля

На стыку з вуліцай Эль — Вад, якая ідзе ад брамы Дамаскай, Вія Даларозa паварочвае налева і праз некалькі дзясяткаў мэтраў зноў паварочвае направа ў вулачку El — Khanqa, а затым у Сук Кхан эз-Цэйт (Suq Khan ez-Zeit) і сукам Эд — Даббаг (Ed-Dabbagha) кіруецца ў напрамку галоўнага ўваходу ў базыліку Сьвятога Гроба Гасподняга.

Ні ў Эвангельлях, ні ў гістарычных крыніцах не згадваецца, якім шляхам вялі Ісуса з горада да месца ўкрыжаваньня. У пачатку бізантыйскіх часоў, паломнікі прыбыўшы ў Ерусалім, ішлі працэсіяй з царквы да гары Аліўнай праз Браму Львоў у напрамку Галгофы. У сярэднія вякі, пасьля распаду хрысьціянства на Усходзе і Захадзе, кожныя рэлігійныя групоўкі ўсталёўвалі свае ўласныя маршруты Крыжовага Шляху. Канчатковы прасяг Ерусалімскага Крыжовага Шляху ўсталяваўся ў васемнаццатым стагодзьдзі з лікам васьмі станцый. У дзевятнаццатым стагодзьдзі дадалі і вызначылі месцазнаходжаньне шасьці іншых станцый у згодзе з эўрапейскай традыцыяй. У цяперашні час канкрэтныя эпізоды Крыжовай Дарогі, ад месца прысуду Ісуса на сьмерць, да месца ўкрыжаваньня падзелена на 14 станцый. Дзевяць зь іх разьмешчаныя на Вія Даларозa, а канцавых пяць — у сярэдзіне базылікі Сьвятога Гроба Гасподняга.




Сучасны маршрут Крыжовай Дарогі

Станцыі Крыжовай Дарогі:
I Ісус прысуджаны да сьмерці
II Ісус бярэ крыж на плечы
III Ісус ў першы раз падае пад крыжам

IV Ісус сустракае Маці

V Сымон Кірынеец дапамагае Ісусу несьці крыж

VI Вераніка выцірае твар Ісуса

VII Ісус падае ў другі раз

VIII Ісус суцяшае жанчын Ерусаліма

IX Ісус падае ў трэці раз

X Ісус пазбаўлены адзеньня

XI Ісус прыбіты да крыжа

XII Ісус памірае на крыжы

XIII Ісус зьнімаецца з крыжа

XIV Пахаваньне Ісуса ў грабніцы

Апісаньне і разьмяшчэньне станцый Крыжовага Шляху можна знайсьці ў даведніках і альбмах.

На блёку, выдадзеным поштай Ізраіля ў 1978 годзе з нагоды філятэлістычнай выставы TABIR'98, адлюстраваны найстарэйшы зь вядомых плян Ерусаліма ў адпаведнасьці з фрагмэнтам мазаікі з шостага стагодзьдзя ў горадзе Мадаба (Арабская Ma'daba), у цяперашні час на тэрыторыі Ярданіі, недалёка на паўднёвы захад ад Аману.



Мазаіка «Карта Палестыны», Мадаба, VI ст. Блёк Ізраіля (1978 г.)

Мазаіка, якая паказвае карту Палестыны і суседніх краінаў, была выяўлена ў 1884 годзе падчас будаўніцтва праваслаўнай царквы на руінах больш раньняга храма. На гэтай мазаіцы Ерусалім названы па грэцку «Hagiapolis», або Сьвяты горад. Фрагмэнт, які паказвае Ерусалім, паказвае між іншым галоўныя вуліцы з аркадамі, якія ідуць ад Брамы Дамаскай з поўначы на поўдзень і з усходу на захад, калёны Адрыяна, Вежу Давіда і Базыліку Сьвятога Гроба Гасподняга...

Сцэны мукі Ісуса Хрыста на Крыжовай Дарозе паказаны на многіх паштовых марках. Адзін з апошніх выпускаў уяўляе сэрыю з 14 марак Рэспублікі Харватыі, выдадзенай у 2011 годзе



«Крыжовая дарога». Марачны ліст Рэспублікі Харватыя (2011 г.)

Мастак намаляваў вельмі эмацыянальны і прасторавы вобраз станцый. Кантрастуючыя колеры гэта жоўты, залаты, чорны. Сцэна асуджэньня мае найбольш жоўтага колеру, сцэна расьпяцьця — найменш. Гэта напамін аб біблейным апісаньні цёмнага неба ў момант сьмерці Ісуса, а таксама аб барацьбе паміж дабром і злом. І толькі, як намёк на Ўваскрэшаньне, пробліск блакітнага неба на пахаваньні — сьвятло ў канцы тунэля.




Базыліка Гробу на марцы з блёку Ізраіля, выпушчанаму ў траўні 1985 года з нагоды Сусьветнай філятэлістычнай выставы ISRAPHIL 85 у Тэль — Авіве

Базыліка Гробу зьяўляецца найстарэйшым хрысьціянскім культавым будынкам

у Ерусаліме. Будаўніцтва пачалося па загадзе імпэратара Канстанціна неўзабаве пасьля Нікейскага сабора (325). Першапачаткова яна складалася з трох частак: сад Язэпа Арымафейскага — у форме дворыка з калянадай, дзе была скала Галгофы, Базыліка Anastasis — маўзалей пустой грабніцы ў форме ратонды, месца, дзе Хрыстос Уваскрэс і дзе Марыя Магдаліна была першай, каб выявіць пустую грабніцу, і Martyrionu (Мучанікаў) — Сьвятой часткі Храма. Базыліка Мучанікаў называлася таксама базылікаю Крыжа.




Базыліка Гробу Господняга на блёку Ярданіі (1966 г.)




Базыліка Гробу Господняга на марцы Ватыкану, апублікаванай у 1964 г. з нагоды візыту Папы Рымскага Паўла VI у Сьвятую Зямлю, і на марцы Ярданіі (1963 г.)

Цяперашняя структура базылікі — неаднаразова перабудаваная– паходзіць яшчэ з часоў Крыжакоў і абʼядноўвае пад сваім дахам усе даўнейшыя месцы Крыжовай Дарогі Ісуса Хрыста.



У сакавіку 2000 года з нагоды візыту Яна Паўла II на Сьвятую Зямлю пошта Ерусаліма выкарыстала штэмпэль з рысункам Базылікі



Блёк пошты Азэрбайджану (1996 г.) з агульным выглядам Ерусаліму

На марцы ў цэнтры Грабніца Хрыста ў Базыліцы Гробу Господняга.

Папа Рымскі Францыск выбраў Ізраіль для свайго першага міжнароднага візыту.



Унікальны філятэлістычны сувэнір з нагоды візыту Папы на Сьвятую Зямлю 25—26 мая 2014 года выданы поштай Ізраілю

Базыліка Гробу Господняга у другім шэрагу (зьлева направа) — чацьвёртая і пятая маркі.

У сярэдзіне базылікі Сьвятога Гроба Гасподняга пяць канцавых станцый Крыжовага Шляху.

«Сярод усіх незьлічоных магіл, якія расківданыя па кантынэнтах нашай плянэты, ёсьць адна ў якой Сын Божы. Чалавек Ісус Хрыстос задаў сьмерць чалавечай сьмерці» Папа Ян Павел II.

## Ісус прысуджаны да сьмерці. Via Dolorosa. Станцыя I

Ісус прысуджаны да сьмяротнага пакараньня.

У гісторыі чалавецтва несправядліва на падставе ілжывых доказаў прысуджаны да сьмяротнага пакараньня тысячы нявінных людзей. Але тады ў Ерусаліме быў прысуджаны да сьмяротнага пакараньня Бог — Чалавек, які прынёс добрую вестку на зямлю — пасланьне любові. Ён жа нікога не асуджваў, вылечваў хворых, дараваў грахі. І менавіта гэтага не маглі дараваць Яму сьвятары і кніжнікі, і Пілят — разумны, але цынічны — не выратаваў Яго, таму што яму гэта не аплачвалася. Не хацеў канфлікту з габрэйскімі ізраільскімі элітамі. Супаставіўшы аповеды розных Эвангелістаў, можна ўсталяваць пасьлядоўнасьць падзей Суда над Хрыстом. Усяго было шэсьць допытаў і судоў над Ісусам Хрыстом. Іх пасьлядоўнасьць такая:

Суды сьвятароў:

Анны Паводле Яна (18:12 — 13,19 — 24)

Каяфы Паводле Мацьвея (26:57 — 68)

Сінедрыёна Паводле Мацьвея (27:1 — 2)

Суды грамадзянскіх правіцеляў:

Пілята Паводле Яна (18:28 — 38)

Ірада Паводле Лукаша (23:6 — 12)

Пілята Паводле Яна (18:39 — 19:6)

«Ад Каяфы павялі Ісуса ў прэторыю. Была раніца; і яны не ўвайшлі ў прэторыю, каб не апаганіцца, а каб можна было есьці пасху. Пілят выйшаў да іх і сказаў: у чым вы вінаваціце Чалавека Гэтага? Яны сказалі яму ў адказ: калі б Ён ня быў злачынец, мы не перадалі б Яго табе. Пілят сказаў ім: вазьмеце Яго вы, і паводле закону вашага судзеце Яго. Юдэі сказалі яму: нам не дазволена караць сьмерцю нікога, — хай збудзецца слова Ісусавае, якое сказаў Ён, даючы зразумець, якою сьмерцю Ён памрэ» (Паводле Яна 18:28—32).




«Хрыстос перад Пілятам.» 1. Марка пошты Эмірату Шарджа (1971 г.) з сэрыі Крыжовая Дарога. Невядомы мастак. 2. Гравюра Альбрэхта Дзюрэра (Музэй мастацтваў Мэтрапалітэн, Нью Йорк) на марцы пошты Рэспублікі Малі (1980 г.). 3. Марка пошты Нікарагуа (1975 г.) з сэрыі «Станцыі Крыжовай дарогі», Катэдральны сабор Леона

«Тады Пілят зноў увайшоў у прэторыю, і паклікаў Ісуса, і сказаў Яму: Ты Цар Юдэйскі? Ісус адказваў яму: ці ад сябе ты кажаш гэта, ці іншыя сказалі табе пра Мяне? Пілят адказваў: хіба я Юдэй? Твой народ і першасьвятары перадалі Цябе мне; што Ты зрабіў? Ісус адказваў: Царства Маё не ад сьвету гэтага; калі б ад сьвету гэтага было Царства Маё, дык слугі Мае заступіліся б за Мяне, каб Я ня быў аддадзены Юдэям; але цяпер Маё Царства не адгэтуль. Пілят сказаў Яму: значыцца, Ты Цар? Ісус адказваў: ты кажаш, што Я Цар; Я на тое нарадзіўся і на тое прыйшоў у сьвет, каб зась-

ведчыць ісьціну; кожны, хто ад ісьціны, слухае голасу Майго. Пілят сказаў Яму: што ёсьць ісьціна? І, сказаўшы гэта, зноў выйшаў да Юдэяў і сказаў ім: я ніякай віны не знахо-джу ў Ім...» (Яна 18:33—38).



«Што ёсьць ісьціна?» Выява карціны Мікалая Ге на марцы Расеі (2000 г.)

Але Юдэі патрабавалі сьмерці Ісуса. Пілят вырашыў, што, магчыма, жорсткае пакараньне бічаваньнем задаволіць Юдэяў. «Тады Пілят узяў Ісуса і загадаў біць Яго. І воіны, сплёўшы вянок цярновы, усклалі Яму на галаву, і апранулі Яго ў пурпуру, і казалі: радуйся, Цару Юдэйскі! І білі яго па шчоках.» (Паводле Яна 19:1—3).




Марка пошты Андоры (1968 г.). На марцы фрэска 16 стагодзьдзя

«А воіны завялі Яго ў сярэдзіну двара, гэта значыцца, у прэторыю, і сабралі цэлы полк; і апранулі Яго ў пурпуру і, сплёўшы цярновы вянок, усклалі на Яго; і пачалі вітаць Яго: радуйся, Цару Юдэйскі! І білі яго па галаве кіем, і плявалі на Яго і, кленчачы, кланяліся Яму» (Паводле Марка 15:16—19).




Выява карціны Тыцыяна «Каранаваньне цярновым вянком» (1542 г. Люўр) на марцы Румыніі (1968 г.)




«Бічаваньне Хрыста.» 1. Марка Чэскай Рэспублікі (2012г.). Выява карціны Тынтарэта. 2. Умм-эль-Ківайн (1971 г.), дэталь карціны Ганса Мемлінга «Пакуты Хрыстовы» (Hans Memling)



Картмаксімум пошты Славакіі (2000г.) Галоўны алтар у царкве Сьвятога Якава ў Лявочы. Карціна невядомага мастака

«Пілят зноў выйшаў і сказаў ім: вось я выводжу Яго да вас, каб вы ведалі, што я не знаходжу ў Ім ніякае віны. Тады выйшаў Ісус у цярновым вянку і ў пурпуры. І сказаў ім Пілят: вось, Чалавек!» (Яна 19:4,5).




1. «Вось, Чалавек!» Марка пошты Бурундзі (1970 г.) з сэрыі «Крыжовая дарога». 2. «Пілят выводзіць Хрыста да народу». Выява карціны Квенціна Масейса (1515, Музэй Прада, Мадрыд) на марцы Бурундзі (1972 г.) з сэрыі «Пасхальны жывапіс»




«Вось, чалавек!» — карціна італьянскага мастака пэрыяду Адраджэньня Тыцыяна, напісаная ім у 1543 г., на паштовым блёку краіны Антыгуа і Барбуда (1988г.)

На прыступках сходаў і на пляцы перад Пілятам, які паказвае на скатаванага Хрыста са словамі «Вось, чалавек!», шуміць пярэсты і ўбраны натоўп людзей: ваяры і вытанчаныя юнакі, вершнікі як у рыцарскім уборы, так і ва ўсходнім стылі, і вартаўнікі з алебардамі. Справа ад іх — грузны першасьвятар Каяфа ў чырвонай мантыі. Драма адбываецца ў сьвеце поўным хваляваньня. На заднім пляне, ярка асьветленыя, рухаюцца рукі нябачных гледачу людзей, пераможна паднімаюцца да неба алебарды, дзіды і сьцяг. Юнак ў левым куце карціны на фоне радасных і бестурботных твараў, якія маюць уладу над Хрыстом, з жахам усьведамляе трагедыю.




Пітэр Паўль Рубенс, «Вось, Чалавек!». Пошта Расеі (2002 г.)

«А на сьвята намесьнік меў звычай выпускаць народу аднаго вязьня, якога б хацелі. Быў тады ў іх вядомы вязень, званы Варава. І вось, як сабраліся яны, сказаў ім Пілят: каго хочаце, каб я выпусьціў вам: Вараву ці Ісуса, Якога завуць Хрыстом? Бо ведаў, што з зайздрасьці выдалі Яго. Тым часам, як сядзеў ён на судовым месцы, жонка ягоная паслала яму сказаць: не рабі нічога Праведніку Таму, бо я сёньня ў сьне шмат адцярпела за Яго. Але першасьвятары і старэйшыны падбухторылі люд прасіць Вараву, а Ісуса загубіць. Тады намесьнік сказаў у адказ: каго хочаце з двух, каб я выпусьціў вам? Яны сказалі: Вараву. Кажа ім Пілят: што ж мне зрабіць зь Ісусам, Якога завуць Хрыстом? Кажуць яму ўсе: хай будзе ўкрыжаваны! А намесьнік сказаў: якое ж ліха ўчыніў Ён? Але яны яшчэ мацней крычалі: хай будзе ўкрыжаваны! Пілят, бачачы, што нічога не дапамагае, а неспакой расьце, узяў вады і ўмыў рукі перад людзьмі, кажучы: невінаваты я ў крыві Праведніка

Гэтага; глядзеце самі. І, адказваючы, увесь люд сказаў: Кроў Ягоная на нас і на дзецях нашых. Тады выпусьціў ім Вараву, а Ісуса, біўшы, аддаў на крыжаваньне» (Паводле Мацьвея 27:15—26).



Пілят адпускае Вараву — марка пошты Бапутатсваны (1993 г.)



«Пілят умывае рукі». 1. Марка пошты Ярданіі (1966 г.) з сэрыі «Крыжовая Дарога». 2. Фрагмэнт памосту (predella) алтара з вёскі Пратс у Каталёніі на марцы Андоры (2009 г.). 3. Марка Экватарыяльнай Гвінэі (1972 г.) — дэталь карціны аднаго з самых важных твораў мастацтва сярэднявечча — Арагонскага трыпціха рэлікварыя з манастыра Пьедра, які быў зроблены ў 1390 годзе і захоўваецца з 1851 года ў Акадэміі гісторыі ў Мадрыдзе

«Вось, Чалавек! Чалавек паранены Богам за нас. Вось чалавек, які пад цяжарам нашых грахоў, які стаў ахвярай адкупленьня, прадстаўляе чалавецтва ва ўсёй яго галечы. Вось чалавек, Ахвяра, апісаная прарокам Ісая. Няма ў Ім нічога прыгожага. Яго цела гэта суцэльная рана».

Таямніца Ecce Homo зьяўляецца найбольш мэтазгодным сродкам, каб схіліць нас да пакаяньня, вяртаньня і ўзбуджэньня агіды да граху.

«Вось, Чалавек — Бог, Які так моцна нас любіў, што прыняў пакуты і абразы для аднаўленьня славы Айца і нашага выратаваньня. Ён бясконца каханы дзякуючы Яго пакутам і зьневажаньню за кожнага з нас.

Вось, Чалавек! Так я сузіраю гэтага Чалавека — Бога, дзякую Яму, люблю Яго ўсім сэрцам».

## Ісус бярэ Крыж на плечы. Via Dolorosa. Станцыя II

Другая станцыя знаходзіцца праз дарогу ад першай станцыі. недалёка францысканскага кляштара, Царква Прысуду, Капліца Бічаваньня, арка Ecce Homo — гэтыя назвы гавораць нам самі за сябе.

Пасьля бічаваньня акрываўленага Ісуса Пілят вывеў да тлуму і сказаў: «Вось, Чалавек!» з надзеяй, што бічаваньне — гэта дастатковае пакараньне для Нявіннага.



Станцыя I — II. «Ісус прысуджаны да сьмерці» і «Ісус бярэ Крыж на плечы». Марка пошты Парагваю (1970 г.)

Перад капліцай Бічаваньня знаходзіцца месца, дзе на Ісуса ўсклалі Крыж. Як кажа Апостал Павал Крыж быў знакам ганьбы для габрэяў і глупства для язычнікаў. Рымляне крыж — як сродак катаваньня і спосаб

пакараньня сьмерцю праз мукі — прымянялі часта ў мэтах утрыманьня ў паслухмянасьці падпарадкаваныя народы. Гэта на Крыжы павінен быў Ісус памерці. Але спачатку Ён павінен быў занесьці яго Сам на Галгофу — месца пакараньня — па затлумленых абыякавым ці варожым натоўпам вуліцах.




Станцыя ІІ.» Ісус бярэ Крыж на плечы». Маркі пошты Харватыі (2011 г.), і пошты Бурундзі (1980 г.). Маркі пошты Ярданіі (1966 г.) і пошты Нікарагуа (1975 г.)

З разьвіцьцём набажэнства Крыжовага Шляху стадыі Мукаў Госпадніх, у колькасьці чатырнаццаць, сталі зьмяшчацца ўнутры кожнага каталіцкга храма ў выглядзе фрэсак, малюнкаў ці барэльефаў.

«Ісус бярэ крыж. Ісус бярэ свой Крыж не проста, але з супакоем у сэрцы. Давер да Айца і шчырае жаданьне выканаць Яго Волю, якой яна б не была, дапамагаюць Ісусу, не гледзячы на зраненае, слабае цела, захоўваць супакой у сэрцы. Ісус кажа таксама кожнаму з нас: «Калі хто хоча ісьці за Мной, хай адрачэцца ад самога сябе возьме свой крыж і ідзе за Мной».

«А ці можам мы зрабіць сабе выклік і пранесьці свой крыж так як Ісус? Божа, дапамажы нам у гэтым» а. Андрэй Авен.

## Ісус у першы раз падае пад крыжам. Via Dolorosa. Станцыя ІІІ

*[...] Вось, ляжыць Гэты на ўпадак і на ўзвышэньне многіх...». (Паводле Лукаша 2:33)*

Адразу ля падворка Аўстрыйскага на рагу Віа Дalароза і Эль Вад Трэцяя Станцыя Журботнага Шляху. Гэта месца спалучаюць з першым падзеньнем Ісуса пад цяжарам крыжа. Цяпер на гэтым месцы знаходзіцца капліца Армянскага Патрыярхата. У 1947 — 48 гадах капліца была рэканструявана пры фінансавай падтрымцы польскага войска. У тымпане барэльеф польскага скульптара Тадэвуша Зялінскага, на якім бачым падаючага Хрыста. Дарэчы сказаць, многія гісторыкі мяркуюць, што крыж, які нёс Ісус на пакараньне сьмерцю, важыў каля 150 кг. Нават для здаровага чалавека гэта вельмі цяжкая ноша, але калі зрабіць папраўку, што Хрыста «дапытвалі», трымалі ў вязьніцы, зьбівалі, а па шляху рымскія легіянэры працягвалі наносіць Яму ўдары бічамі, то становіцца больш зразумелым тэрмін «Шлях пакуты».

Карціна на сьцяне паказвае, як Ісус падае пад цяжарам крыжа, а анёлы з малітваю глядзяць на Ісуса.

Ісус не хаваўся, не ўнікаў, не ўцякаў, не наракаў, Ён прыняў Божую волю, і хаця ўпаў без сіл, але адказны за справу збаўленьня, справу даручаную Богам, устаў і панёс крыж далей. Без зайздрасьці, без злосьці, без крыўды, што людзі грашаць, але ім ня трэба несьці гэты цяжэзны крыж, а Ён бязгрэшны і павінен. Павінен, бо Ён Бог, Ён усё можа... Як гэта нелягічна з нашага людзкога пункту гледжаньня.




«Ісус у першы раз падае пад крыжам». Маркі сэрыі «Крыжовая дарога» пошты Харватыі (2011 г.); пошты Бурундзі (1980 г.); пошты Ярданіі (1966 г.); пошты Нікарагуа (1975 г.)




Каб адсьвяткаваць Вялікдзень у сьвеце філятэліі, Вэнгерская пошта ў 2014 г. выпусьціла ў малым лісьце пятнаццаць марак «Крыжовая дарога» з відарысамі карцін мастачкі Эржэбет Удвардзі (Erzsébet Udvardi (1929—2013)). Марка «Ісус у першы раз падае пад крыжам»

«Ісус падае пад цяжарам Крыжа, каб паказаць, што ён разумее нас, калі мы падаем. Часта нам няёмка прызнаваць свае памылкі, недасканаласьці... Мы варожа ставімся да людзей, якія падаюцца нам моцнымі, у той час як мы — зусім слабыя... Але Ісус падказвае, што нічога саромнага няма ў падзеньні, галоўнае — узьняцца і ісьці далей... Так, Бог дапускае падзеньні ў нашым жыцьці, але варта памятаць, што Ён дапусьціў іх у жыцьці Свайго Роднага Сына.

Госпадзе, навучы нас не засяроджвацца на сваіх падзеньнях, але ўглядацца ў Тваю славу» а. Андрэй Авен.

## Ісус сустракае Маці. Via Dolorosa. Станцыя IV

*і Табе Самой зброя пратне душу, каб адкрыліся помыслы многіх сэрцаў. (Паводле Лукаша 2:34)*

Чацьвёртая станцыя знаходзіцца там, дзе Багародзіца стаяла каля дарогі, каб убачыць свайго Сына, і ўбачыла Яго, здратаванага і нясучага крыж да месца пакараньня сьмерцю. У наш час тут знаходзіцца армянская каталіцкая царква «Смуткуючай Маці». У капліцы на мазаічнай падлозе V ст. сьлед сандаляў Багародзіцы.




«Ісус сустракае Сваю Маці». 1. Фрэска 16 стагодзьдзя на марцы пошты Андоры (1968 г.). 2. Выява карціны Барталамэ Мурыльё (Bartolome Esteban Murillo (1618 — 1682)) на марцы пошты Парагваю (1967г.)

«Толькі яна адна ніколі не пакінула Яго. Маці Ісуса заўсёды з сваім Сынам. І калі стаяла на Крыжовай Дарозе, ледзь жывая ад гора, сваім матчыным сэрцам падзяляла Яго муку і была аб'яднаная зь Ім. Нішто ня можа апісаць яе пакуты. Яна, якая нарадзі-

ла Збавіцеля сьвету, глядзела на Яго жудасныя пакуты і не магла Яму дапамагчы. Ці можа быць большы боль, чым боль Маці!




«Ісус сустракае Маці». Маркі сэрыі «Крыжовая дарога» поштаў Харватыі (2011 г.); Бурундзі (1980 г.); Ярданіі (1966 г.) і Нікарагуа (1975 г.)

Ці ёсьць сэрца так зацьвярдзелае, каб не ўзрушыцца гэтай сустрэчай Маці Балеснай з сваім Сынам. Ісус Хрыстос, які даў нам Марыю як маці, навучы нас любіць Яе вечна і быць ёй вернымі» а. Андрэй Авен.

## Сымон Кірынеянін дапамагае Ісусу несьці крыж. Via Dolorosa. Станцыя V

*Я зьняў з плячэй ягоны цяжар, і рукі ягоныя вызваліліся ад кашоў. (Псалтыр 81:7).*

Пятая станцыя адзначана францысканскай капліцай на куце вуліцы Віа Даларозa і Эль Вад, дзе Віа Даларозa паварочвае направа і павольна пачынае паднімацца на Галгофу. Надпіс над дзьвярыма нагадвае пра Сымона Кірынеяніна. Тут рымскія салдаты прымусілі Сымона Кірынеяніна, які прыйшоў у Ерусалім на Вялікдзень, дапамагчы Ісусу несьці крыж. Справа ў сьцяне бачны камень з паглыбленьнем, які лічыцца сьледам ад рукі Ісуса, які абапёрся на сьцяну, часова вызваліўшыся ад крыжа.




Сымон Кірынеянін дапамагае Ісусу несьці крыж. Маркі сэрыі «Крыжовая дарога» Харватыі (2011 г.), Бурундзі (1980 г.), Ярданіі (1966 г.) і Нікарагуа (1975 г.)

«І калі павялі Яго, дык, захапіўшы нейкага Сымона Кірынеяніна, які ішоў з поля, усклалі на яго крыж, каб нёс за Ісусам» (Паводле Лукаша 23:26).

«І прымусілі праходжага нейкага Кірынеяніна Сымона, бацьку Аляксандравага і Руфавага, які ішоў з поля, несьці крыж Ягоны» (Паводле Марка 15:21).

Так выпадковы мінак увайшоў у хрысьціянскую гісторыю. У Велікабрытаніі і Ірландыі існуе рух Сымона і Кірынэйцаў. Ён мае ў якасці кіруючага прынцыпу «падзел цяжару», якім абасноўвае аказаньне дапамогі тым, каму яна патрэбна.



«Нясеньне крыжа». Ганс Мемлінг. «Пакуты Хрыстовы» (1470 г.). Галерэя Сабаўда. Турын. Марка (1971 г.) пошты Ум Эль Квайна




У 1999 г. пошта Польшчы выпусьціла маркі з выявамі Грудзядзкага Паліптыху (Poliptyk Grudziądzki, каля 1400); Пошта Бапутатсваны ў 1993 г. выпусьціла сэрыю марак, адна зь якіх ілюструе Эвангельле паводле Марка

«Пакора Бога выходзіць за ўсялякае разуменьне. Маючы моц падтрымліваць цэлы сьвет, Ён дазваляе свайму стварэньню несьці Крыж. Напэўна, для Сымона гэта была непрыемная сытуацыя, яму прыйшлося дзяліць не толькі крыж, але і ганьбу з Ісусам. Толькі пасьля яго імя ўвайшло ў гісторыю як таго, хто дапамог Ісусу. Таму будзем вучыцца давяраць Божаму Провіду... Тое, што сёньня нам непрыемна, заўтра мы будзем лічыць за шчасьце... Божа, навучы нас давяраць Табе» а. Андрэй Авен.

«Нясеце цяжары адно аднаго, і такім чынам выканаеце закон Хрыстовы» «Кожны няхай правярае сваю дзею, і тады мецьме пахвалу толькі ў сабе, а ня ў іншым...» (Да Галятаў 6:2,4).

## Вераніка выцірае твар Ісуса. Via Dolorosa. Станцыя VI

Шостая станцыя Крыжовага шляху — сустрэча з Веранікай — адзначана капліцай Сьвятой Веранікі, а кавалак калёны, умураваны ў сьцяну, пазначае месца, дзе Сьвятая Вераніка выцерла твар Ісусу. Побач капліца Малодшых Сясьцёр Ісуса (адноўленая Барлуцьці), алтар з сямісьвечнікам якой знаходзіцца на месцы, дзе была хата Сьв. Веранікі.




Вераніка выцірае твар Ісуса. Маркі сэрыі «Крыжовая дарога»: Харватыі (2011 г.), Бурундзі (1980 г.); Ярданіі (1966 г.); Нікарагуа (1975 г.)

Ісус увесь пакрыты ранамі і брудам. Галава, твар, рукі і ногі забруджаны крывёй, потам, пляўкамі, дарожным пылам. Вераніка, поўная спагады, падышла і хусткай абцерла твар Ісуса і са зьдзіўленьнем убачыла, што на хустцы застаўся неру-

катворны «праўдзівы малюнак» твару Ісуса.




Аітутакі, 6 красавіка 1973 г. Сэрыя «Велікодны жывапіс». На адной з марак наміналам 1 цэнт карціна Рогіра ван дэр Вэйдэна «Сьвятая Вераніка». На другой марцы наміналам 10 цэнтаў карціна Якаба Карнеліса ван Остсанена (1470—1533) — галяндзкага дызайнэра ксыляграфіі і жывапісца




Алтар манастыра Хрыста ў Томар. Блёк пошты Сьера Леонэ (1991 г.). Пітэр Паўль Рубенс. «Шэсьце на Галгофу» (1634—1636). Брусэль. Каралеўскі музэй вытанчаных мастацтваў

Хрыстос упаў пад цяжарам крыжа. Яму выцірае пот зь ілба Сьвятая Вераніка, Богамаці распасьцірае да Сына рукі, Ян Эвангеліст падтрымлівае Яе, Сымон Кірынеянін нясе крыж, іншы чалавек дапамагае яму. Па баках ідуць жанчыны з дзецьмі на руках, пасьлядоўніцы Хрыста. Наперадзе скачуць рымскія ваяры, на пярэднім пляне вядуць яшчэ дваіх асуджаных на сьмерць. Людзі паднімаюцца ў гару, нібы пераадольваючы нябачную перашкоду, і гэты магутны высілак, як і складаныя паставы пэрсанажаў, ствараюць у карціне адмысловую напругу, якая падкрэсьлівае і характарызуе надзвычайнасьць падзеі…



Картмаксімум пошты Партугаліі (1995 г.) «Сьвятая Вераніка». Праца Хорхе Афонсу, каралеўскага жывапісца караля Мануэля, вялікага партугальскага мастака XVI стагодзьдзя

«Дзе былі сотні людзей, якіх ацаліў Ісус? Дзе была большасьць Яго вучняў? Няўдзячнасьць людзей рабіла Яго Крыж яшчэ цяжэйшым. Толькі Вераніка не пабаяўшыся меркаваньняў людзей, працягнула Ісусу сваю хусьцінку, у адказ на што Ісус падараваў Ёй адбітак Свайго Твару.

12 ліпеня — дзень шанаваньня Сьвятой Веранікі, якая лічыцца заступніцай фатографаў.

Бог можа выкарыстаць нават самую маленькую праяву нашай любові на карысьць нам, галоўнае адважыцца на яе… Пане, навучы нас быць такімі мужнымі і адкрытымі на патрэбы іншых, як Вераніка» а. Андрэй Авен.

## Ісус падае ў другі раз. Via Dolorosa. Станцыя VII

*Усе ненавідзяць мяне, шэпчуцца паміж сабою супроць мяне, благое супроць мяне намышляюць: «слова Веліяла прыйшло на яго; ён лёг; і болей ня ўстане».* (Псалтыр 41:8,9)

Месца другога падзеньня адзначае францысканская капліца на скрыжаваньні паміж Віа Далароза і Рынкавай вуліцай.

Дзьверы, якія вядуць у капліцу, знаходзяцца, па каталіцкай традыцыі, як раз над парогам Суднай Брамы, аб які, па паданьні, спатыкнуўся Ісус. Гранітная рымская калёна ў капліцы адзначае месца другога падзеньня Ісуса. «Суднай» звалася брама таму, што, пераступіўшы праз яе, асуджаны ўжо ня мог абскардзіць прысуд. Тут канчаўся Старажытны Іерусалім. Далей шлях Выратавальніка праходзіў за межамі горада.




Ісус падае ў другі раз. Маркі сэрыі «Крыжовая дарога»: Харватыі (2011 г.), Бурундзі (1980 г.), Ярданіі (1966 г.), Нікарагуа (1975 г.)

«Гледзячы на Пачынальніка і Спраўцу веры, Ісуса, Які, дзеля радасьці, што была перад Ім, прыняў крыж, пагардзіўшы ганьбаю, і сеў праваруч трона Божага. Падумайце пра Таго, Хто перацерпеў такі над Сабою глум ад грэшнікаў, каб вам не зьнемагчы і не паслабіцца душамі вашымі. Вы яшчэ не да крыві змагаліся, адольваючы грэх...» (Да Габрэяў 12:2—4).

«А калі я спатыкаўся, яны радаваліся і зьбіраліся; зьбіраліся агуднікі супроць мяне, ня ведаю завошта, ганілі мяне, і не пераставалі; з крывадушнымі паклепнікамі скрыгаталі на мяне зубамі сваімі» (Псалтыр 35:15,16).




Блёк пошты Славакіі (2012г.). На марцы карціна Ганса фон Аахена (Hans von Aachen) «Ісус падае пад цяжарам крыжа»

«Ісус зноў падае пад цяжарам крыжа. Здаецца, такі слабы, але колькі ў гэтай слабасьці моцы! Часта мы судзім людзей паводле іх зьнешнасьці, і вельмі часта не маем рацыю. Але калі глядзім на Ісуса, то бачым, што Яго найважнейшы момант быў найслабейшым. Яго найвялікшы трыюмф здаваўся людзкім вачам правалам. Яго найбольшы акт любові быў незразумелым і непрынятым. Пане Божа, навучы нас бачыць іншых так, як бачыш іх Ты»

## Ісус суцяшае жанчын Ерусаліма. Via Dolorosa. Станцыя VIII

Восьмая станцыя адзначана круглым каменем, умацаваным у сьцяну грэцкага праваслаўнага манастыра сьвятога Харлампія. Хутчэй за ўсё гэта кавалак калёны, на тарцы якой намаляваны крыж і па-грэцку напісана «Ісус Хрыстос — Пераможца».




Ісус суцяшае жанчын Ерусаліма. Маркі сэрыі «Крыжовая дарога»: Харватыі (2011 г.), Бурундзі (1980 г.), Ярданіі (1966 г.) і Нікарагуа (1975 г.)

Ісус суцяшае жанчын Ерусаліма. Гэта падзея згадана ў Эвангельлі: «І ішло за Ім вялікае мноства народу і жанчын, якія плакалі і галасілі па Ім. А Ісус, зьвярнуўшыся да іх, сказаў: дочкі Ерусалімскія! ня плачце па Мне, а плачце па сабе і па дзецях вашых; бо надыходзяць дні, калі скажуць: дабрашчасныя няплодныя, і ўлоньні, якія не радзілі, і грудзі, якія не кармілі! Тады скажуць гарам: упадзеце на нас! і пагоркам: накрыйце нас! бо, калі з зазелянелым дрэвам гэта робяць, дык з сухім што будзе?» (Паводле Лукаша 23:27—31).

Суцяшаючы жанчын Ерусаліма, Ісус не засяроджваецца на Сваіх цярпеньнях, але як добры Пастыр думае пра лёс кожнай сваёй авечкі паасобку. Ён, Зялёнае Дрэва, памірае за сухое — за кожнага з нас. Але пакуль мы не прызнаем у Ім свайго Збаўцу, не проста чалавека, які бязьвінна цярпеў, наш стан вельмі плачэўны...




Ісус суцяшае жанчын Ерусаліма. Адна з марак Вэнгерскай пошты (2014г.) з сэрыі «Крыжовая дарога»

Хрыстос прарочыць пра разбурэньне Ерусаліма. І праз 40 гадоў Юдэйскі храм руйнуюць, а Ерусалім раўняюць зь зямлёй.

«Што дрэннага ў тым, каб плакаць з плачучымі? Нічога. Але ёсьць сум, які згубіў надзею і больш не давярае любові. Такі сум руйнуе чалавека знутры. Другі ж выцякае з сутыкненьня чалавека з праўдай аб Божай Любові і самім сабой. Такі сум спрыяе навяртаньню, вучыць супрацьстаяць злу. Таму, жаласьць не прыносіць карысьці і закрывае нас у саміх сабе, а праўдзівае пакаяньне адкрывае нас на іншага чалавека. Божа, дапамажы нам разам з гэтымі жанчынамі праз спачуваньне стаць на бок церпячых і пакутуючых, і праз сваю любоў стаць на Твой бок, бо Ты Сам ёсьць Любоўю» а. Андрэй Авен.

## Ісус падае ў трэці раз. Via Dolorosa. Станцыя IX

Ля ўваходу ў эфіёпскі манастыр адзначана драўлянымі крыжамі IX станцыя Віа Далароза. Трэцяе падзеньне Хрыста, адсюль ён убачыў Галгофу.




Ісус падае ў трэці раз. Маркі сэрыі «Крыжовая дарога»: Харватыі (2011 г.), Бурундзі (1980 г.), Ярданіі (1966 г.), Нікарагуа (1975 г.)




«Ісус падае ў трэці раз» і «Ісус пазбаўлены адзеньня». Марка пошты Парагваю (1970 г.)

«Ісус падае трэці раз, не гледзячы на дапамогу Сымона. Гэтым Ён паказвае, што бываюць моманты, калі нават з дапамогай сябра альбо іншай любячай асобы мы не можам утрымацца ад падзеньня. У такіх сытуацыях здаецца, што ўсе цяжкасьці жыцьця сабраліся ў адзіным моманце і вытрываць ужо немагчыма. І ў малітве мы кажам аб гэтым. «Я не магу больш». Але ці чуем адказ: «Я разумею» Кс. Андрэй Авен.

Незвычайны лёс гэтай карціны. У 1515 годзе манахі сыцылійскай мясьціны Santa Maria della Spasimo набылі яе ў Рафаэля. Неўзабаве яны атрымалі сумную вестку пра тое, што карабель, на якім яе адправілі ў Палерма, пацярпеў крушэньне і ўсё зьмесьціва яго трумаў пайшло на дно... Праз некалькі дзён мора выкінула на ўзьбярэжжы Генуі вялікую драўляную скрыню. Калі яе адчынілі, то знайшлі не сапсаваную салёнай вадой карціну Рафаэля. Карціна захоўваецца ў Прада і паходзіць са збору гішпанскіх каралёў.



На блёку пошты Гранады (1982 г.) алтарная карціна Рафаэля на сюжэт аднаго з моментаў Крыжовага шляху «Падзеньне Ісуса»

Хрыстос упаў пад крыжам пасярод салдат і катаў. Толькі Сымон стаіць у падтрымку Хрыста. Постаць яго, у адрозьненьне ад адлюстраваньняў на іншых карцінах, веліч-

ная і магутная... Як бы ўвасабляе будучыню вучэньня Хрыста. Погляд Хрыста ў бок жанчын зьлева як бы кажа: «ня плачце па Мне; плачце па сабе і па дзецях вашых». Фігура Марыі на каленях з безнадзейна ў зьнямозе выцягнутымі рукамі яшчэ больш яднае яе з Сынам...

Да аднаго старца прыйшоў чалавек, і сказаў «Ойча, я ўпаў...» «Уздымайся». «Узьняўся і зноў упаў». «Зноў уздымайся». «І колькі так разоў?» «Да канца жыцьця».

## Зь Ісуса зьдзіраюць адзеньне. Via Dolorosa. Станцыя X

*дзеляць рызы мае між сабою; і*
*за адзежу маю кідаюць жэрабя.*
*(Псалтыр 22:19)*

Наступныя пяць станцый Крыжовага шляху знаходзяцца ў самым Храме Гроба Господняга. На ўваходзе ў Храм знаходзіцца капліца Пазбаўленьня, дзе з Ісуса перад расьпяцьцем сарвалі адзеньне. Справа ад уваходу ўздым на Галгофу і капліца «Цьвікоў», дзе рымскія салдаты дзялілі і разыгрывалі ў косьці адзеньня Хрыста, а затым прыбілі Збавіцеля да Крыжа.

Натоўп сабраўся паглядзець на Таго, Каго нядаўна хацеў бачыць царом Юдэі, а цяпер Яго рыхтавалі пакараць сьмерцю як злачынца. Кат ужо зачапіў край адзеньня, каб сарваць яго з Хрыста. Рамесьнік-цясьляр рыхтуе крыж для пакараньня сьмерцю і ні на каго не глядзіць. Як загіпнатызаваныя глядзяць на крыж і цесьляра тры Марыі. Пакараньне сьмерцю восьвось пачнецца, але жах ужо пануе ў людскіх сэрцах. Як зачараваная, глядзіць Марыя Магдаліна на мэтадычную працу салдата, нібы закрываючы Маці Божую ад гэтага страшнага відовішча.




Пошта Парагваю на сваёй марцы (1967 г.) адлюстравала адзін з шэдэўраў Эль Грэка «Эсполіо» («Распрананьне Хрыста перад пакараньнем сьмерцю», 1577—1579). Створаны Эль Грэка алтарны вобраз «Эсполіо» у цяжкай пазалочанай раме разьмешчаны на сьцяне насупраць уваходу ў сакрыстыю сабора ў Таледа (Гішпанія)




Зь Ісуса зьдзіраюць адзеньне. Маркі сэрыі «Крыжовая дарога»: Харватыі (2011 г.), Бурундзі (1980 г.), Ярданіі (1966 г.) і Нікарагуа (1975 г.)

Рымскія воіны, якія суправаджалі Ісуса Хрыста намаляваныя зь іх шчытамі і штандарамі, на якіх напісана SPQR — абрэвія-

тура слоў: «Senatus Populusque Romanus» (лац. — Сенат і рымскі народ). На плашчах салдат, якія ўдзельнічалі ў расьпяцьці Хрыста, намаляваны скарпіён — сымбаль здрады.



«Здыманьне вопраткі» (1450. Манастыр Сан Марка, Флярэнцыя), Фра Анджэліка. Марка пошты Грэнады Грэнадынас (1977 г.)

«А воіны, калі ўкрыжавалі Ісуса, пабралі адзежу Ягоную і падзялілі на чатыры долі, кожнаму воіну доля, і хітон; а хітон быў не пашыты, а ўвесь тканы зьверху. І вось сказалі адзін аднаму: разьдзіраць ня будзем яго, а кінем на яго жэрабя, чый будзе; — хай збудзецца сказанае ў Пісаньні: „падзялілі рызы Мае між сабою і за адзежу Маю кідалі жэрабя“. Так учынілі воіны» (Паводле Яна 19:23,24).



«Падзялілі рызы». Марка Аджману (1972 г.)

«Калі сэрца становіцца жорсткім, сумленьне не вычувае граху. Чалавек засяроджваецца на ўласнай выгадзе. Абмовіў — але мне стала псіхалягічна лягчэй. Скраў — але гэта карысьць для маёй сям'і. Забіў — але ж хаця б адзеньне засталося.

Божа, няхай Твае запаведзі ўмацуюцца ў нашых сэрцах, каб мы маглі разьмяжоўваць дабро і зло і ўпэўнена імкнуцца да дабра» а. Андрэй Авен.

## Ісус прыбіты да крыжа. Via Dolorosa. Станцыя XI

*Бо сабакі мяне атачылі, хэўра злыдняў мяне абступіла, прабілі рукі мае і ногі мае; можна было палічыць усе косткі мае, а яны дзівяцца, робяць зь мяне відовішча... (Псалтыр 22:17,18)*

Адзінаццатая станцыя — Ісус прыбіты да крыжа. Адразу справа ад уваходу ў Храм Гроба Гасподняга (Holy Sepulchre) уздым на Галгофу да капліцы «Цьвікоў», дзе рымскія салдаты дзялілі, гуляючы ў косткі, адзежы Хрыста, а затым прыгваздалі Выратавальніка да Крыжа. Гэта месца пазначана алтаром. Над алтаром намаляваны Ісус, прыбіты да крыжа.



«Прыбіцьцё да крыжа». Карціна Дзюрэра з цыклу «Сем пакут Марыі» на марцы (1982 г.) пошты Парагваю (1495. Дрэздэн, Маляўнічая галерэя.)

«Была гадзіна трэйцяя, і ўкрыжавалі Яго» (Паводле Марка 15:25).

Маці, Якая смуткуе (лат. Mater Dolorosa). «Прыбіцьцё да крыжа» — самая складаная і

самая сьмелая карціна Дзюрэра ў цыкле «Сем пакут Марыі».

З глыбіні карціны да яе ніжняга краю распасьціраецца велізарны крыж, зьбіты з тоўстых брусоў. Ён ляжыць, душачы сваім цяжарам зямлю, бязьлітасна зьмінаючы кусты і траву. Крыж напісаны з незвычайнай дбайнасьцю: на струганай паверхні брусоў бачныя валокны, на тарцы — зрэз гадавых кольцаў дрэва. Гэтая падрабязнасьць надае жахлівую дакладнасьць таму, што адбываецца.

На крыжы кінуты дагары Хрыстос. Ён пакутліва закінуў галаву ў цярновым вянку. Твар яго мярцьвяна — бледны. Німб здаецца шапкай, упёртай у зямлю. Худому целу, выцягнутаму ўздоўж крыжа, не хапіла месца на карціне: пальцы адной рукі і абедзьвюх ног сыходзяць за яе край. Ляжачае цела з раскінутымі рукамі займае вялікую частку бачнай прасторы — паўсьвету. Між укрыжаваным і гледачамі — іншая фігура. Сагнутая, яна тым не менш выглядае велізарнай. Гэта цясьляр. Ён спакойна сьвідруе сьвярдзёлам адтуліну ў крыжы, ня гледзячы на асу-джанага, Ён апрануты так, як прыбіраліся багатыя нямецкія рамесьнікі па сьвятах. На ім фарсістая шапка з пэндзьлямі, тонкая кашуля з буфамі, аблягаючае трыко, прыгожыя туфлі. Праца яго разгарачыла, ён зьняў куртку, нядбайна кінуў на зямлю. У яго малады прыгожы твар, засяроджаны на важнай справе, якую яму загадалі зрабіць. Рух сьвідруючых рук перададзены гранічна дакладна. Ногі шырока расстаўленыя. Правая нядбайна перасягнула праз папярочны брус крыжа. На нагах надзьмуліся мускулы. Каля Расьпінаемага стаіць на каленях другі цясьляр, апрануты прасьцей, — гэта чаляднік. Ён толькі што прабіў долатам далонь Хрыста, апусьціў малаток і ўважліва глядзіць на цела катаванага. Страшны погляд! Ён цікавіцца, якой курчай адгукнецца ў безабаронным целе ўдар малатка па долаце, якім прабівае руку. Гэта той самы пэрсанаж, што і на карціне «Нясеньне крыжа». Там ён рупліва хвастае Хрыста вяроўкай. А ў камлі крыжа з долатам чалавек у фарсістым камзоле, у барэце са страусавым пяром, з выпешчанай бародкай і кароткім мячом на поясе. Рамесьнікі так не апраналіся. Гэта дваранін. У «Нясеньні крыжа» ён ірвануў вяроўку, прымушаючы зьнясіленага і ўпаўшага Хрыста ўстаць.

На карціне Дзюрэра каты не прафэсійныя, а добраахвотныя. Ад гэтага яны яшчэ страшней. Угледзеўшыся ў іх сур'ёзныя твары, у апантанасьць і стараньне, зь якім яны робяць сваю злачынную справу, міжволі думаеш: Дзюрэр скрозь стагодзьдзі прадбачыў такіх жа выканаўчых і старанных, такіх жа добраахвотных катаў XX-XXI стагодзьдзяў, якія будуць адказваць на пытаньне — ці разумеюць яны, што тварылі: «Мы выконвалі загад». Дзюрэр апрануў катаў Хрыста ў адзеньне сваіх супляменьнікаў і сучасьнікаў. І тым сказаў: Галгофа — гэта не дзесьці і калісьці. Гэта і тут і цяпер. Галгофа ўсюды, дзе гоняць і мучаць безабаронных людзей, дзе на іх узвальваюць цяжкія крыжы пакут, дзе іх крыжуюць; Галгофа ўсюды, дзе ёсьць людзі, згодныя зьбіваць гэтыя крыжы, узвальваць іх па чужыя плечы, прабіваць цьвікамі чужыя рукі і ногі, мучыць і крыжаваць аддадзеных у іх уладу. У карцінах гэтага цыклу гучаць не толькі спачуваньне, боль, жаль. У іх адчувальны подых гнеўнага часу, якое ідзе і грозна закліча да адказу тых, хто апранаўся па пакараньне, як на сьвята.

Звычайна мастакі малявалі расьпяцьце, якое ўжо адбылося. Рубенс зрабіў гледача сьведкай працэсу пакараньня сьмерцю.

Каты з лютым высілкам паднімаюць крыж з, здавалася б, невыносным цяжарам цела Хрыстова. Твары іх амаль не бачныя,

а напружаныя цягліцы целаў, сталёвыя латы, цьмяна-чырвоныя адзеньні зліваюцца разам. І здаецца, быццам не яны, а жывая хваля падхапіла Хрыста і нясе Яго насустрач тым, якія моляцца. Нават прыбіты да крыжа Хрыстос Рубенса не бязвольны пакутнік, а спадар Свайго лёсу.




«Узьвядзеньне Крыжа Гасподняга» ці «Узьніманьне Крыжа» — дэталь сярэдняй панэлі трыптыха флямандзкага жывапісца Пітэра Паўля Рубенса, напісаны ў 1609—1610 гадах на блёку пошты Гамбіі (1989 г.)

На трыптыху намалявана ў агульнай складанасьці 22 чалавека. На левай панэлі ў невыносным смутку жанчыны разам з Марыяй і Язэпам. Сярэдняя панэль, адлюстраваная на блёку пошты Гамбіі, прысьвечана цалкам Ісусу. Адначасова ў сярэдняй і правай панэлі намалявана падрыхтоўка пакараньня сьмерцю двух злачынцаў, Якіх укрыжавалі разам з Хрыстом, іх так-сама суправаджае некалькіх салдатаў.

Як балюча адчуваць сябе пакінутым тымі, каго моцна любіш, за каго аддаеш жыцьцё. Як балюча, калі любімыя людзі насьміхаюцца, кажуць грубыя словы… Па прыкладзе Ісуса мы павінныя самі не станавіцца такімі. Па прыкладзе Ісуса мы павінныя ўмець прабачаць тым, ад каго церпім, жадаць ім дабра, бо часта яны сапраўды не разумеюць, што робяць. Божа, дапамажы нам паглядзець на людзей вакол сябе па-новаму, з той безумоўнай любоўю, зь якой Ты глядзеў з Крыжа на нас. Божа Ойча, праз дзеяньне Духа Сьвятога, навучы нас любіць Ісуса так, як Ты Яго любіш…




Ісус прыбіты да крыжа. Маркі сэрыі «Крыжовая дарога»: Харватыі (2011 г.), Бурундзі (1980 г.), Ярданіі (1966 г.) і Нікарагуа (1975)

«Вялі зь Ім на сьмерць і двух зладзеяў. І калі прыйшлі на месца, называнае Лобным, там укрыжавалі Яго і зладзеяў, аднаго з правага, а другога зь левага боку» (Паводле Лукаша 23:32,33).




Гэта цытата пазначана на марцы пошты Бапутатсваны (1994 г.)

Ісус церпіць моцны несправядлівы боль. Боль як фізычны, так і сэрца. Цяжка ўявіць, што Бога прыбівае да крыжа ўласнае стварэньне. І яшчэ цяжэй, што менавіта ЛЮБОЎ

дапамагае гэтаму зьдзейсьніцца! Здаецца, што з прыбітымі да Крыжа рукамі і нагамі Сэрца Ісуса ўпрошвае аб вяртаньні любові. Здаецца, у Сваім маўчаньні Ён крычыць з пагорка «Я люблю вас. Прыйдзіце. Не бойцеся».

## Ісус памірае накрыжы. Via Dolorosa. Станцыя XII

*ЗБЫЛОСЯ! (Паводле Яна 19:30)*

Пры ўваходзе ў Храм Труны Гасподняй (на іўрыце: ⊠תקווה, палацінску: Sanctum Sepulchrum), каля каменя намашчэньня дзьве лесьвіцы вядуць уверх — да Галгофы, месца, дзе, паводле паданьня, стаяў крыж, на якім быў укрыжаваны Ісус Хрыстос.




Ісус прыбіты да крыжа. Маркі сэрыі «Крыжовая дарога» Харватыі (2011 г.), Бурундзі (1980 г.), Ярданіі (1966 г.), Нікарагуа (1975 г.)

У глыбіні грэцкага бабінца — укрыжаваньне над адкрытым пасадам. У падлозе пад пасадам зьмяшчаецца срэбны дыск з адтулінай, які пазначае месца, куды быў уторкнуты крыж, яшчэ дзьвюма чорнымі коламі пазначаныя месцы крыжоў, на якіх адначасова з Хрыстом каталі двух злодзеяў. Тутака праз адтуліну можна дакрануцца да вяршыні Галгофы. Праворуч ад каменя намашчэньня пад Галгофай, разьмешчаны ўваход у капліцу праайца Адама, які, паводле паданьня, пасьля выгнаньня з раю жыў у Ерусаліме. Адам, згодна зь легендай, прадказаў, што калі Хрыстос будзе ўкрыжаваны, каменны падмурак Галгофы расколецца. Праз шкляное акенца ў глыбіні капліцы можеа ўбачыць гэту расколіну, якая ўтварылася ад вялікага землятрусу падчас укрыжаваньня Хрыста.

Хрыстос сьмерцю, пакутамі і крывёй сваёй загладзіў першы грэх Адама.

Падзеі на Галгофе адбываліся ў такой пасьлядоўнасьці:

1.Юдэі зласловяць Ісуса і кпяць над Ім (Мц. 27:39—43; Мк. 15:29—32; Лк. 23:35—37).» І быў над Ім надпіс, напісаны словамі грэцкімі, рымскімі і габрэйскімі: Гэты ёсьць Цар Юдэйскі» (Паводле Лукаша 23:38).




Марка з сэрыі 1994 года пошта Бапутатсваны. Мастак Ёхан ван Некэрк

2.Ісус уступае ў гутарку з двума разбойнікамі: «Адзін з павешаных зладзеяў ліхасловіў на Яго і казаў: калі Ты Хрыстос, уратуй Сябе і нас. А другі наадварот сунімаў яго і казаў: ці ты не баішся Бога, калі і сам засуджаны на тое самае? і мы засуджаныя справядліва, бо заслужанае паводле ўчын-

каў нашых прынялі; а Ён нічога благога не зрабіў. І сказаў Ісусу: спамяні мяне, Госпадзе, калі прыйдзеш у Царства Тваё!» (Паводле Лукаша 23:39—42).



Андрэа Мантэнья. «Галгофа» на блёку пошты Мальтыйскага Ордэна (2012 г.). Прыдзела алтара для царквы Сан Дзено ў Вероне. Каля 1457 — 1460

Ерусалім і Алейная гара, Галгофа і постаті пакутуючых людзей, якія выглядаюць сіратліва самотнымі. Асабліва выразныя тры стромых крыжа з раскрыжаванымі на іх Хрыстом і разбойнікамі.

3.Словы Ісуса, зьвернутыя да разбойніка з крыжа (другое «слова»): «І сказаў яму Ісус: праўду кажу табе: сёньня ж будзеш са Мною ў раі» (Паводле Лукаша 23:43).



Любімы вучань — Ян і Маці Божая на марках Ангілы (1975 г.) і Ганы (1978г.)

4.Трэцяя фраза, абвешчаная Выратавальнікам з крыжа (трэцяе «слова»). «Ісус, убачыўшы Маці і вучня, які тут стаяў, якога любіў, кажа Маці Сваёй: «Жанчына! вось, сын Твой. Потым кажа вучню: вось, Маці твая! І з гэтага часу вучань гэты ўзяў Яе да сябе» (Паводле Яна 19:26,27).

5. Цемра апусьцілася на зямлю з трох гадзін па поўдні (Мц. 27:45; Мк., 15:33; Лк. 23:44).




Цемра пакрывае неба. Карціна Веранезе «Галгофа» на марцы Рэспублікі Тога (1995 г.) і карціна Рэмбрандта «Хрыстос на крыжы» на марцы Конга (1980 г.)

6. Лямант Ісуса, зьвернуты да Бацькі (чацьвёртае «слова»): «Божа Мой, Божа Мой! Для чаго Ты Мяне пакінуў?» (Мц. 27:46—47; Мк. 15:34—36).




Дэталь карціны Рубенса на марцы пошты Выспаў Кука (1977 г.)

7. Пятае «слова» Ісуса з крыжа: «Пасьля таго Ісус, ведаючы, што ўжо ўсё сталася, каб збылося Пісаньне, кажа: піць» (Паводле Яна 19:28).




Ён пье «вінны воцат». Марка пошты Бапутатсваны (1994 г.)

8. Ён пье «вінны воцат» (Паводле Мацьвея 27:48; Паводле Яна 19:29).

9. Шостае «слова» Ісуса з крыжа: «І калі Ісус скаштаваў воцату, сказаў: збылося! І нахіліўшы галаву, аддаў дух» (Паводле Яна 19:30).




«Хрыстос Сьвятога Яна Крыжа» (ісп. Cristo De San Juan De La Cruz) — карціна гішпанскага мастака Сальвадора Далі на марцы Гаяны (1968 г.)

Сьвяты Ян карціны Далі — гэта Хуан дэ ла Крус (1542 — 1591), знакаміты паэт — містык. Крыж на гэтым малюнку выступае ў якасьці моста паміж Богам-Бацькам і сьмяротным сьветам, намаляваным унізе карціны. Хросныя пакуты Ісуса Хуан усьведамляе як пакуту Неба, якая сходзіць на зямлю.

Вось Збаўца сьвету, які вісіць на крыжы між Небам і зямлёй. Ён — тая Ахвяра, якую Бог выбраў Сам, каб адкупіць чалавека. І калі раней грахі прабачаліся праз прынясеньне ў ахвяру ягняці ці цяляці, то, напэўна Ён, Бог прыме да сябе душы, абмытыя Найдаражэйшай Крывёй Свайго Сына.

Божа, навучы нас заўсёды памятаць нашага збаўленьня кошт.

10. Апошні лямант Ісуса (сёмае «слова»): «Ісус, усклікнуўшы вялікім голасам, сказаў: Войча! у рукі Твае аддаю дух Мой. І сказаўшы гэта, выпусьціў дух» (Лукаша 23:46).

Сьмерць Ісуса Хрыста на крыжы — цэнтральная выява ўсяго хрысьціянскага мастацтва. Тое было. Сёньня ж Ісус Хрыстос іноў — адзін з цэнтральных пэрсанажаў.




Пакуты Хрыстовы. «Расьпяцьце» на блёку краіны Антыгуа і Барбуда (1992 г.), Альбрэхт Альтдорфэр (Albrecht Altdorfer, каля 1480—1538). Блёк краіны Аджман (1972 г.)

На карціне «Хрыстос на крыжы» — Хрыстос самы маленькі, укрыжаваны.




Карціна Дзюрэра «Хрыстос на крыжы» з цыклу «Сем пакут Марыі» на марцы (1982 г.) пошты Парагваю. (1495. Дрэздэн, Маляўнічая галерэя.)

Яго цела нагадвае разьбяную драўляную скульптуру. Але крыж павернуты так, што сын апынуўся прама насупраць маці. Яе позірк скіраваны ва ўжо закочваючыеся вочы сына. Сустрэча іх поглядаў пранізвае карціну.

11. Сьмерць на крыжы — акт уласнай волі Ісуса (Мц. 27:37; Мк.15:37; Лк. 23:46; Ян. 19:30).

«І вось, прыйшлі воіны, і ў першага перабілі галені, і ў другога, укрыжаванага зь Ім; а, падышоўшы да Ісуса, як убачылі Яго мёртвага, не перабілі ў яго галені, а адзін воін дзідай працяў Яму рэбры, і адразу выцекла кроў і вада. І хто бачыў, засьведчыў, і праўдзівае сьведчаньне ягонае; ён ведае, што кажа ў ісьціне, каб і вы паверылі; бо гэта сталася, таму хай збудзецца Пісаньне: „косьць Ягоная хай ня будзе зламана“. Гэтак сама і ў іншым месцы Пісаньне кажа: „паглядзяць на Таго, Каго працялі“» (Паводле Яна 19:32—37).




«Укрыжаваньне» карціна мастака з рыцараў Йоста Галера на марцы пошты Малі (1974г.). Фрэска 16 стагодзьдзя на марцы пошты Андоры (1968 г.). «Хрыстос на крыжы з трыма анёламі». Дэталь гравюры Дзюрэра на марцы пошты Рэспублікі Малі (1979 г.)

12. Завеса ў храме ў момант сьмерці Хрыста разьдзіраецца напалам (Мц. 27:51; Мк. 15:38; Лк. 23:45).

13. Прызнаньне рымскіх ваяроў: «Сапраўды Ён быў Сын Божы» (Мц. 27:54; Мк., 15:39).

«І вось, завеса храма разадралася напалам, зьверху данізу; і зямля здрыганулася: і каменьне раскалолася; і магілы расчыніліся; і многія целы памерлых паўсталі і выйшаўшы з магілаў пасьля ўваскрэсеньня Ягонага, увайшлі ў сьвяты горад і явіліся многім. А сотнік і тыя, што зь ім вартавалі Ісуса, бачачы землятрус і ўсё, што адбылося, перапалохаліся вельмі і казалі: сапраўды Ён быў Сын Божы» (Паводле Мацьвея 27:49—54).

«Бог памёр! Нядзіўна, што зямля дрыжала, сонца села, мёртвыя паўсталі, а Марыя стаяла ў жаху. Чалавечае цела Ісуса выпусьціла душу, але Боскасьць працягвала праяўляць сваю моц. Усё стварэньне паўставала, з-за таго што Слова, Якое сталася Целам, аддзялілася ад гэтага сьвету. Толькі чалавек быў занадта пыхлівы каб убачыць і ўпарты каб пазнаць гэтую Праўду. Божа, дапамажы нам у сьмерці Ісуса заўсёды бачыць узьнёслую таямніцу і ніколі не забывацца пра Яго любоў» а. Андрэй Авен.

## Зьняцьцё Ісуса з крыжа. Via Dolorosa. Станцыя XIII

Увайшоўшы ў Храм Труны Гасподняй, пападаем у залю, у цэнтры якой знаходзіцца пліта Намашчэньня з лямпадамі над ёй. Зьлева мазаіка з выявамі зьняцьця Хрыста з крыжа і Яго пахаваньня. Гэта станцыя 13.

Аповяд пра здыманьне цела Ісуса з крыжа прыводзіцца ва ўсіх чатырох Эвангелістаў (Яна 19:38—42, Мацьвея 27:57—61, Марка 15:42—47, Лукаша 23:50—56). і кожны зь іх злучае гэтую падзею зь імем Язэпа Арыматэйскага.

У Эвангельлях не апісана як адбывалася само здыманьне цела, распавядаецца толькі пра тое, як Понцій Пілят даў на гэта дазвол. «Пасьля гэтага Язэп з Арыматэі, вучань Ісуса, але тайны — ад страху перад Юдэямі, прасіў у Пілята, каб зьняць Цела Ісусава; і Пілят дазволіў. Той пайшоў і зьняў Цела Ісусава» (Паводле Яна 19:38).

Гэтай дзеі прысьвяціў Пітэр Паўль Рубенс цэнтральную панэль трыптыха «Здымання

маньне з крыжа», напісанага ў пэрыяд з 1610 па 1614 гады.




Пітэр Паўль Рубенс, трыптых «Здыманьне з крыжа» на марцы Выспаў Кука (1973г.).

Пасьлядоўна ў трыптыху малююцца сцэны: «Сустрэча Марыі і Елізаветы», «Здыманьне з крыжа» і «Зьяўленьне Ісуса ў Ерусалімскім храме». У сярэдзіне цэнтральнага палатна паміж васьмю постацямі знахо-дзіцца Хрыстос. Цела Хрыста асьцярожна і ўрачыста здымаюць з крыжа. Над крыжам знаходзяцца два чалавека, адзін зь іх яшчэ падтрымлівае цела Хрыста, у той час як Сьв. Ян, стоячы ўнізе, прымае Хрыста і нясе асноўны яго цяжар. Укленчаныя сьвятыя жанчыны гатовыя дапамагчы Сьв. Яну, Маці Божая (намаляваная зьлева) з тварам, белым як крэйда, набліжаецца да Хрыста, працягваючы далонь, каб прыняць цела сына. Яна глядзіць на яго з гаротнасьцю, пранікаючай у сэрца ўсякага, хто ўважліва ўгледзіцца ў яе твар. Язэп Арыматэйскі, стоячы на сходах, падтрымлівае цела пад руку. З процілеглага боку іншы старац спускаецца па прыстаўных усходах, выпусьціўшы кут савана і перадаўшы сваю ношу стоячаму побач Сьв. Яну. Галава Хрыста, якая апала на плячо, зрушэньне ўсяго цела дае нам такое дакладнае ўяўленьне пра сьмерці цяжар, што ніякае іншае не ў сілах перасягнуць яго. Постаць зьлева зьлёгку падтрымлівае левую руку Хрыста, а справага боку высокашаноўны старац Мікадым, ухапіўшыся за канец савана, іншай рукой утрымлівае яго цела. Адна з ног Выратавальніка датыкаецца пляча Марыі Магдалены, зьлёгку дакранаючыся яе залацістых валасоў. Дзяўчына далікатна падтрымлівае рукамі яго халодныя ступні. Саламея (яна ж Марыя Клеопа) прыпадае на каленах да падножжа крыжа, падбіраючы даўжыню сваёй сукенкі. Але ніхто зь іх пакуль не прыняў на сябе яго цела; гэта момант у дзелі сэкунды перад тым, як мёртвае цела апынецца на працягнутых да яго руках. Справа на пярэднім пляне намалявана адна з старонак Сьвятога пісаньня і медны таз, дзе ляжаць цярновы вянок і цьвікі з Расьпяцьця ў запёклай крыві — знакі Пакут Хрыстовых.

Зьняты з крыжа Хрыстос падтрымліваецца ў міг пастарэўшай Багародзіцай і Сьвятым Янам. Хрыстос як бы ў сьне прытуліў Сваю галаву да шчакі Маці. Здаецца Маці нешта шэпча Сыну… Апостал нібы жаліцца ў роспачы ўсёмагутнаму Богу. Рана, нанесеная дзідай рымскім салдатам Лонгінам, каб спраўдзіць сьмерць Хрыста, прабітыя цьвікамі рукі — карціна «сыходзіць сьлязамі».




Джавані Бельліні.«Мёртвы Хрыстос з Марыяй і Янам» (Пьета). Канец 1460-х гг. Пінакатэка Брэра на блёку пошты Рэспублікі Рванда (1975 г.).

«Прыйшоў таксама і Мікадым, які прыходзіў раней да Ісуса ўначы, і прынёс сумесь з альясу і сьмірны, літраў каля ста» (Паводле Яна 19:39).




«Аплакваньне Мёртвага Хрыста» (Dürer, Munich). Блёк Гаяны (1993г.)

Пад крыжам стаяць Мікадым, які «прынёс сумесь з альясу і сьмірны, літраў каля ста» («літраў каля ста»= 34 кг, тут літра — грэцкая мера вагі, роўная 0,34 кг, аўт.). Марыя Магдалена і Ян.

Мадонна знаходзіцца ў цэнтры карціны ў цёмнай вопратцы. Язэп з Арыматэі падтрымлівае цела Ісуса, бледнае і зьнежывелае, усім сваім выглядам паказвае, якія пакуты Ён перанёс. У ніжніх кутах фігуры фундатара карціны Альбрэхта Гліма і яго сям'і.



«Аплакваньне Хрыста». Ван Дэйк. Алтар царквы бягінак у Антвэрпэне. Блёк Цэнтральна-Афрыканскай рэспублікі (2011 г.)

Адбылося вялікае злачынства і Маці маленьне ўзносіць Творцу прыняць свайго Сына. Ян Хрысьціцель, паказвае рану на яго руцэ двум анёлам.




«Пьета» (італ.: La Pietà) — карціна вэнэцыянскага мастака Тыцыяна, якая была напісаная ў 1575—1576 гадах і стала яго апошняй працай. Выстаўлена ў вэнэцыянскай галерэі. Блёк пошты Сэнт-Вінсэнт (1989 г.)

Дзева Марыя падтрымлівае цела Хрыста з дапамогай укленчанага Мікадыма. Марыя Магдалена стаіць зьлева ад іх. «І вось, узялі яны Цела Ісусавае і ўгарнулі яго ў палатно з пахошчамі, як звычайна хаваюць Юдэі.» (Паводле Яна 19:40).




Сандра Батычэлі «Аплакваньне Хрыста» (Палажэньне ў труну). Каля 1490. Блёк пошты Ніуэ (1980 г.)

Карціна Батычэлі «Палажэньне ў труну» зьяўляецца самай эмацыйнай у яго творчасьці. Твар Выратавальніка нясе на сабе ад пакут сьлед. Постаці навокал у глыбокім суме. Жанчыны і апостал сьхіляюцца над змучаным целам Хрыста. Ахінуты плашчаніцай Ісус зьнежывела ляжыць на каленях Маці.

Сьмерць Хрыста, яго расьпяцьце і яго мукі, як перанесьці і як перажыць? У цэн-

тры Дзева Марыя ў непрытомнасьці. Яе падтрымліваюць Ян і Марыя Клеопа. На левым краі Марыя Магдалена, абапал чэрап ля падножжа крыжа. Справа, Марыя Саламея і яе муж Завядзеяў.



Карціна мастака Петруса Крыстуса «Аплакваньне Мёртвага Хрыста» на блёку пошты Сувэрэннага Мальтыйскага Ордэну (2010 г.)

Цела Хрыста паложана на палатно, край якога ў руках Язэпа з Арыматэі, Мікадым падтрымлівае цела Хрыста. Цярновы вянок, цьвікі і абцугі ля ног. Карціна стварае пачуцьцё трывогі і адчаю. Цела Ісуса, нерухомае, бы галінку міры, здымаюць з крыжа і аддаюць у рукі Маці. Боль разрывае Яе сэрца.




Зьняцьцё Ісуса з крыжа. Маркі сэрыі «Крыжовая дарога» Харватыі (2011 г.), Бурундзі (1980 г.), Ярданіі (1966 г.), Нікарагуа (1975 г.)

Часта і ў нашым жыцьці мы губляем блізкіх людзей, і тады падаецца, што ўсё губляе сэнс. Але толькі праз пакуты мы адчуваем, што такое любоў. Без здольнасьці пакутаваць, мы б не мелі здольнасьці любіць.

Божа, навучы нас не засяроджвацца на цяжкасьцях жыцьця, але выконваць сваю місію і заўсёды ўглядацца ў Тваю любоў да нас.

## Пахаваньне Ісуса ў грабніцы. Via Dolorosa. Станцыя XIV

«Калі ж зьвечарэла, прыйшоў багаты чалавек з Арыматэі, імем Язэп, які таксама вучыўся ў Ісуса; ён, прыйшоўшы да Пілята, прасіў Цела Ісусавага. Тады Пілят загадаў аддаць Цела. І ўзяўшы Цела, Язэп абгарнуў яго чыстым палатном і паклаў яго ў новай сваёй магіле, якую высек у скале; і прываліўшы вялікі камень да дзьвярэй магілы, адышоў. Была ж там Марыя Магдалена і другая Марыя, якія сядзелі насупраць магілы.

На другі дзень, які ідзе за пятніцай, сабраліся першасьвятары і фарысэі да Пілята і казалі: спадару! мы ўспомнілі, што ашуканец той, яшчэ калі быў жывы, сказаў: «праз тры дні ўваскрэсну»; дык вось, загадай вартаваць магілу да трэйцяга дня, каб вучні Ягоныя, прыйшоўшы ўначы, ня ўкралі Яго і не сказалі народу: «уваскрэс зь мёртвых», і будзе апошняе ашуканства горшае за першае. А Пілят сказаў ім: маеце варту; ідзеце, ахоўвайце, як ведаеце.

Яны пайшлі і ахоўвалі магілу, прыклаўшы пячатку да каменя і паставіўшы варту» (Паводле Мацьвея 27:57—66).

Месца, дзе пахавалі Ісуса Хрыста і дзе Ён Уваскрос — Месца Духа, знаходзіцца ў

Храме Труны Господняй пад блакітным купалам каля 32 мэтраў у дыямэтры ў ратондзе, якую атачае калянада з 18 масіўных калён. У цэнтры ратонды ўзвышаецца мармуровая капліца (Кувуклія) над пячорай Труны Господняй.

Сама Кувуклія падзелена на дзьве часткі: Капліца Анёла, дзе знаходзіцца частка каменя, якім была завалена пячора, у якую аднесьлі цела Ісуса пасьля расьпяцьця, і сама Труна Господняя ў выглядзе каменнага саркафагу. Пасярэдзіне капліцы Анёла знаходзіцца невысокі аналой з мармуру, у які ўмайстравана частка каменя, які загароджваў уваход у пячору Труны Господняй. Як распавядае Эвангеліст Мацьвей, «Анёл Господні, які сышоў з нябёсаў, адваліў камень ад дзьвярэй труны і сядзеў на ім».




Пахаваньне Ісуса ў грабніцы. Маркі сэрыі «Крыжовая дарога» Харватыі (2011 г.), Бурундзі (1980 г.), Ярданіі (1966 г.), Нікарагуа (1975 г.)

А ў пячоры Труны Господняй знаходзіцца каменнае ложа, на якім было пакладзена цела Хрыста. З даўніх пор Ложа, на якое было пакладзена Цела Хрыста, моцна пашкоджана паломнікамі, якія імкнуліся адшчапіць і панесьці з сабой часьціцу рэліквіі.



Блёк пошты Рванды (1975 г.) Рафаэль. «Палажэньне ў труну». Галерэя Баргезэ, Рым

Паводле Эвангельля ад Яна, гэты юнак, які падтрымлівае плашчаніцу з целам Хрыста ў Яго ног, — Мікадым, а Язэп Арыматэйскі, больш старэйшы па ўзросьце, чым Мікадым, трымае палатно ў падгалоўі Хрыста. На бледным твары страціўшай сьвядомасьць Богамаці застыў выраз невыносных пакут і амаль фізычнага болю. Марыя Магдалена ў скрусе схіляецца над целам Хрыста, а Язэп з нямым дакорам узіраецца ў нябёсы, нібы жадае спытаць у Бога, чаму Ён дазволіў забіць свайго ўкаханага Сына...



«Пахаваньне ў труну» — Мікеланджэла ды Караваджа (1602—1604). Марка пошты краіны Выспы Кука (1974 г.)

Цямрэча, якая наступіла па ўсёй зямлі, расступаецца перад трагічным дзействам: пяцёра кладуць у каменную магілу Хрыста. Апостал Ян і старац Мікадым насілу ўтрымліваюць на руках цела свайго Настаўніка, зьнятага з крыжа. Ян падставіў сваё калена і рукой абхапіў Ісуса, няўмела ўклаўшы пальцы ў рану ад дзіды. На Мікадыма ж прыйшоўся ўвесь цяжар мёртвага цела Выратавальніка — жылы на нагах успушыліся

ад напругі, старац глядзіць у наш бок і нібы перадае нам сваю ношу. Край магільнага каменя і локаць Мікадыма здаецца вось-вось «прадзяруць» прастору карціны. Піраміда з шасьці постацяў пачынаецца справа зьверху ад ускінутых да неба рук Марыі, міма пахіленай галавы Марыі Магдалены, да постаці Дзевы Марыі і далей да Мікадыма і Яна, і завяршае ўсё рука самага Хрыста. На карціне няма ні крыкаў, ні сьлёз, усе ўдзельнікі жалобнай працэсіі ў глыбокім і ціхім смутку разьвітваюцца з Хрыстом навек...




«Ісус у магіле», Морыс Дэні (1870—1943). Марка пошты краіны Уоліс і Футуна (1980 г.)




Створка трыптыху Хогарта на марцы пошты Сэнт-Люсіі. «Яны пайшлі і ахоўвалі магілу, прыклаўшы пячатку да каменя і паставіўшы варту» (Мацьвея 27:66)

Але ўжо неўзабаве яны ўгледзяць Уваскрэсеньне Настаўніка, убачаць перамогу над сьмерцю і вечнае Жыцьцё. Сьвятло пераможа цемру. Сьмерць будзе патаптана сьмерцю ў імя Выратаваньня чалавека і вернецца радасьць і надзея. Пакідаюць са сьлязамі Ісуса ў магіле. Боль ахінае сэрцы вучняў, але вядома, што хутка гэты сум абернецца ў радасьць. У нашым жыцьці мы павінныя таксама цярпліва прымаць жаль і боль, ведаючы, што Бог дасьць і радасьць.

## Сашэсьце Ісуса Хрыста ў пекла

Сашэсьце Ісуса Хрыста ў пекла (спасланьне ў пекла; лат. Descensus Christi ad inferos) — хрысціяньскі догмат, які сьцьвярджае, што пасьля расьпяцьця Ісус Хрыстос спусьціўся ў пекла і, зьнішчыўшы яго вароты, прынёс у апраметную сваю Эвангельскую пропаведзь, вызваліў складзеныя там душы і вывеў з пекла ўсіх старазапаветных праведнікаў, а таксама першых людзей Адама і Еву.




Іконы «Сашэсьце Ісуса Хрыста ў пекла» на марках Сэрбіі (2004 г.)

Хрыстос намаляваны з зіхоткім арэолам. Цемра Пекла запаўняецца сьвятлом прамянёў. Збаўца топча нагамі два перакрыжаваных палатна дзьвярэй пекла, якія Ён зьнёс. Ніжэй дзьвярэй у чорную бездань бачна зрынутая постаць сатаны. Хрыстос паказаны вызваляючым Адама і Еву. Справа і зьлева сьвятыя Старога Запавету. Бачачы Збаўцу, які спускаецца ў пекла, яны адразу пазналі Яго і паказваюць іншым Таго, пра Каго прарочылі і чый прыход яны прадказвалі.

Спасланьне Хрыста ў пекла ўваходзіць у лік Мук Хрыстовых: Расьпяцьце Хрыстова; Зьняцьце з крыжа; Аплакваньне Хрыста; Пакладаньне ў труну; Сашэсьце Хрыста ў пекла; Тры дні і тры ночы; Уваскрэсеньне; Перамяненьне; Узьнясеньне.

Царква лічыць, што сашэсьце Ісуса Хрыста ў пекла адбылося ў другі дзень знаходжаньня Хрыста ў труне і ўспамінае гэту падзею за набажэнствам Вялікай суботы.




«Сашэсьце Ісуса Хрыста ў пекла» (у цэнтры) на марцы пошты Ватыкана (2008 г.), прысьвечанай мастацтву хрысьціянскіх абразоў

Пра спасланьне Хрыста ў пекла Эвангелісты прама не кажуць. У кананічных кнігах Новага Запавету ёсьць толькі асобныя згадваньні Апосталамі пра знаходжаньне Хрыста ў пекле: «...ён раней сказаў пра ўваскрэсеньне Хрыстовае, што не пакінута душа Ягоная ў пекле, і плоць Ягоная ня бачыла тленьня» (Дзеі 2:31).

«Таму і сказана: „падняўшыся на вышыню, запаланіў паланёных і даў дары людзям“. А „падняўся“ што азначае, як ня тое, што Ён і сыходзіў раней у прадонныя мясьціны зямлі? Хто сыходзіў, Ён жа ёсьць і Той, Хто ўзышоў над усе нябёсы, каб напоўніць усё» (Да Эфэсянаў 4:8—10).

Сам Хрыстос казаў пра сашэсьце: «...бо як Ёна быў у чэраве ў кіта тры дні і тры ночы, так і Сын Чалавечы будзе ў сэрцы зямлі тры дні і тры ночы» (Паводле Мацьвея 12:40).

Тут таксама Хрыстос так злучаецца зь лёсам чалавечым, што ўвесь ягоны жах кладзецца на Яго, і спасланьне ў пекла зьяўляецца апошняй мерай Яго адзінства з намі, стратай усяго — і перамогай над злом.




«Сашэсьце Ісуса Хрыста ў пекла». Ікона (XII — XIV стст. Нацыянальны музэй у Ахрыд), марка Югаславіі (1964 г.). Ікона 19 ст., марка Малдовы (2000 г.). Мазаіка (манастыр Неа Моні, 11 ст.), марка Грэцыі (1970 г.)




«Сашэсьце Ісуса Хрыста ў пекла» на марцы пошты Сербіі (2005 г.) і Румыніі (2013 г.)

«Таму што маючы душу і цела як у нас, якія ад нас дзеля нас Ён прыняў, целам Ён прыняў Пакуты і сьмерць і пахаваньне, і самым Уваскрашэньнем зь мёртвых абвясьціў несьмяротнасьць і самога цела, і ў памяць гэтых падзей перадаў зьдзяйсьняць нам Бяскроўную Ахвяру, і дзякуючы ёй, як плод яе, атрымаць выратаваньне; душой жа Ён сышоў у пекла і ўзышоў адтуль, усім даўшы ўдзел у заўсёды існуючым сьвятле і жыцьці, і для паказаньня гэтага перадаў нам Боскі

хрост зьдзяйсьняць, і дзякуючы гэтаму, як плод гэтага, прыдбаць выратаваньне: — дзякуючы той і іншай таямніцы і дзякуючы абодвум: Душы Яго і Целу Яго, абагаўлёным і ўтрыманым у сабе насеньнем сапраўднага жыцьця. Таму што на гэтых двух Таямніцах засноўваецца ўсё наша выратаваньне; уся справа Боскага домабудаваньні засяроджваецца ў гэтых двух (таямніцах)». Словa Сьвяціцеля Рыгора Паламы ў дзень Богаяўленьня.




Ікона «Сашэсьце Ісуса Хрыста ў пекла» на марцы пошты Рэспубліка Македонія (2001 г.)




Ікона «Сашэсьце Ісуса Хрыста ў пекла» на марцы пошты Румыніі (2010 г.)

Хто хоча Сьвятое Пісьмо зразумець правільна, мусіць не за адно слова брацца, але ўсё, што раней ды пасьля напісана, уважліва паглядзець, дасьледаваць ды разгледзець, што тое мейсца цалкам азначае, а болей за ўсё Духа Божага клікаць на дапамогу. Таму Сам Госпад, адсылаючы юдэяў да Сьвятога Пісьма, не сказаў проста: «Чытайце Пісаньні», але сказаў: «Дасьледуйце Пісаньні, бо праз іх вы думаеце жыцьцё мець вечнае, а яны сьведчаць пра Мяне» (Паводле Яна 5: 39).

Кожны год мы з вялікай надзеяй чакаем Уваскрэсеньня Хрыста, як найбольшай надзеі на наша выратаваньне. І Яно адбываецца!

Тады мы радасна кажам: «Ісус уваскрэс!» — «Ён сапраўды ўваскрэс, як сказаў!»

Старажытнае Сьвята Вялікадня, сьвяткаваньне вызваленьня яўрэйскага народа ад рабства, дасягае свайго завяршэньня з Уваскрэсеньнем Ісуса Хрыста, які вызваліў нас з няволі граху і сьмерці, і адкрыў нам шлях да вечнага жыцьця. Калі мы дазваляем граху дамінаваць у нашым жыцьці, мы губляем наш правільны шлях, і мы ідзем блукаць, як згубленая авечка. Наш Пастыр, Сам Бог, прыйшоў у пошуках нас. Для таго, каб выратаваць нас, ён апусьціўся на прыніжэньне крыжа. Але мы можам абвясьціць: «Добры пастыр устаў, Які аддаў сваё жыцьцё за авечак, і ахвотна памёр за сваю паству, алілуя!».




«Ісус уваскрэс!». Ватыкан выпусьціў сваю марку на Вялікдзень 2018 г. з выявай карціны гішпанскага мастака Рауля Бярзоса.

# Ад Уваскрэсеньня да Ўзьнясеньня

## Хрыстос уваскрэс!

*дабрашчасныя тыя, што ня бачыўшы — паверылі. (Яна 20:29)*

Пасьля Вялікай пятніцы прыходзіць Нядзеля Ўваскрэсеньня: сярод густой цемені паніжэньня, зьнявагі, ганьбаваньня, сумневу, адзіноцтва, пакінутасьці, бясьсільля, хваробы веруючыя знаходзяць уцеху ў сьвятле, якое праменіць з твару Ўваскрэсшага Хрыста.

У чатырох Эвангельлях апісваюцца падзеі, зьвязаныя з Уваскрэсеньнем. Хоць апісаньні гэтыя розьняцца, але яны зьяўляюцца сьведчаньнем Апосталаў, як сьведкаў Уваскрэсеньня, і не зьяўляюцца незалежнымі, але пранікаюць наўзаем, дапаўняюць і ўтвараюць адзіную цэласьць. У поўнай згодзе ўсе асноўныя элемэнты: пусты гроб і сьведчаньне сьвятых жанчын, зьяўленьне Ісуса дванаццаці Апосталам.



Пустая грабніца на марцы пошты Ангілы, выдадзенай у 1990 годзе

«У першы ж дзень тыдня Марыя Магдалена прыходзіць да магілы раніцай, яшчэ прыцемкам, і бачыць, што камень адвалены ад магілы...» (Паводле Яна 20:1).

Сьпяшалася да гробу, каб намазаць пахучым маслам мёртвае цела свайго ўмілаванага Госпада. Ня ведае яшчэ ў гэты момант, што прыходзіць, каб прыняць не знаючае заходу сьвятло Уваскрэсеньня. Бачыць пустую магілу і напаўняе яе страх, што цела можа быць украдзенае.

«і вось бяжыць, і прыходзіць да Сымона Пятра і да другога вучня, якога любіў Ісус, і кажа ім: зьнесьлі Госпада з магілы, і ня ведаем, дзе паклалі Яго» (Паводле Яна 20:2).

Гаворыць «ня ведаем» — у множным ліку, значыць была не адна, што ўдакладняюць другія Эвангелісты.




На марцы, выпушчанай поштай Вэнгрыі ў 1980 г. бачым Сьвятых жанчын, якія з пахучымі масламі прыйшлі, каб памазаць цела Госпада

Выраз іх твару і, нават, становішча фігур цел паказваюць іх зьдзіўленьне і неразуменьне таго, што адбылося.

«Кажа ім: зьнесьлі Госпада з магілы» — яшчэ надзея не пакінула яе сэрца. Але не дапускала думкі, што Хрыстос мог Уваскрэснуць. «Яны пабеглі абодва разам; але другі вучань бег хутчэй за Пятра, і прыйшоў да магілы першы, і нахіліўшыся, убачыў палотны, якія там ляжалі: але не ўвайшоў у магілу» (Паводле Яна 20:4,5).

Маем тут знак, што Ян лічыць Пятра больш заслужаным, маючым большую ўладу, за яго.

«Сьледам за ім прыходзіць Сымон Пётр, і ўваходзіць у магілу, і бачыць адны палотны, якія там ляжалі. і хустку, якая была на галаве Ягонай, не з палотнамі яна ляжала, а асобна, скручаная, на іншым месцы» (Паводле Яна 20:6,7).

Зьвяртае на сябе ўвагу дакладнасьць, зь якой апісаны падрабязнасьці ўбачанага.

«Тады ўвайшоў і другі вучань, што прыбег раней да магілы, і ўбачыў, і ўвераваў…» (Паводле Яна 20:8).

«Убачыў і ўвераваў». Апавяданьне дасягае тут свайго апагею.




На марках Польшчы (2001 г.), СэнтЛюсіі (1971г.), Чэхаславакіі (1971г.) відарыс адпавядае Эвангельскаму тэксту: адвалены камень, анёл у белым, як сьнег, адзеньні і пусты гроб

Ўваскрэсеньня ніхто ня бачыў. Эвангеліст Мацьвей апісвае падзеі так:

«Як прайшла субота, на сьвітаньні першага дня тыдня, прыйшла Марыя Магдаліна і другая Марыя паглядзець магілу. І вось, зрабіўся вялікі землятрус, бо анёл Гасподні, які сышоў зь неба, прыступіўшы, адваліў камень ад уваходу ў магілу і сядзеў на ім; выгляд жа ягоны быў, як маланка, і ўбраньне ягонае белае, як сьнег. І ад страху перад ім затрымцелі вартаўнікі, і сталі як мёртвыя. Анёл жа, прамаўляючы да жанчын, сказаў: ня бойцеся вы; бо ведаю, што вы шукаеце Ісуса ўкрыжаванага; няма Яго тут; Ён уваскрэс, як сказаў; падыдзеце, пабачце месца, дзе ляжаў Гасподзь; ды ідзіце хутчэй, скажыце вучням Ягоным, што Ён уваскрэс зь мёртвых і сустрэне вас у Галілеі: там Яго ўбачыце; вось я сказаў вам. І пайшоўшы сьпешна ад магілы, яны са страхам і радасьцю вялікаю пабеглі паведаміць вучням Ягоным…» (Паводле Мацьвея 28:1—8).




Мініятура з Эвангельля 1319 г. на марцы Армэніі (2011 г.). Вітраж з Катэдральнага сабору Сьвятога Георгія на марцы Сэнт-Вінсэнта (1970г.). Картмаксімум Ватыкану (1969 г.), фрэска Фра Анджэліка (1400—1455)

«Анёл жа, прамаўляючы да жанчын, сказаў: ня бойцеся вы; бо ведаю, што вы шукаеце Ісуса ўкрыжаванага; няма Яго тут; Ён уваскрэс, як сказаў; падыдзеце, пабачце месца, дзе ляжаў Гасподзь…» (Паводле Мацьвея 28:5,6).

Мастакі ў сваім праслаўленьні Ўваскрэсеньня ў поўні дадалі згодна сваім уяўленьням тое, што не апісанае Эвангелістамі. Першая спроба адлюстраваць Уваскрэсеньне Хрыста знаходзіцца на адной з мініятур Аттонаўскага Эвангельля (Мюнхэн, Дзяржаўная Бібліятэка).

Але да сярэдзіны 12 стагодзьдзя не было прынятае дэманстраваць цялеснае Уваскрэсеньне Хрыста. Такая выява зьяўляецца

ў Ратманскім міссале сярэдзіны 12 ст. (Хільдэсхейм, катэдральны сабор). Хрыстос пераступае праз пярэдні край саркафагу, трымаючы ў руцэ крыж з замацаваным на ім бел-чырвона-белым сьцягам. З гэтага часу бел-чырвона-белы сьцяг — сымбаль перамогі Хрыста над сьмерцю — становіцца характэрнай асаблівасьцю ўсіх наступных адлюстраваньняў Уваскрэсеньня.




Маціяс Груневальд, «Ўваскрэсеньне Хрыста», марка Рэспублікі Сэрпскай (2003г.), (Ізенхэймскі алтар. Кальмар. Музэй Унтэрліндэн)

Хрыстос, вызвалены Анёлам ад каменя, сымбалізуючага Стары Запавет, уздымаецца ў паветра ў асьляпляльным сьвятле да нябёсаў.



Картмасімум пошты Ватыкану (2013) з выявай твору Пэрыкла Фаціні «Ўваскрэсеньне»

Манумэнтальны твор у бронзе, зьмешчаны ў Зале Паўла VI, Пэрыкл Фаціні стварыў у 1977 годзе. Скульптура ўражвае памерамі. Яна мае 20 мэтраў у даўжыню, 7 мэтраў у вышыню і 4 мэтры у глыбіню.

Скульптура ўяўляе сам момант Уваскрэсеньня Бога Ісуса, постаць Якога вылучаецца на фоне хаатычнага перапляценьня нейкіх сухіх галін, каранёў, камянёў, чагосьці невыразнага і жудаснага, сымбалізуючага нуду сьмерці. Але дамінуе нябачны вецер, які разьмяркоўвае лініі скульптуры, надаючы ёй лёгкасьць і рухомасьць. Гэта — подых Сьвятога Духу, Які вее і вызваляе Хрыста, а зь Ім і ўвесь сьвет ад хаосу сьмерці.

На картмасімумах і блёках часта адлюстроўваецца не фрагмэнт, а рэпрадукцыя цэлага твору мастака, што дае больш інфармацыі, чым на марках.




Прыкладамі такіх выданьняў могуць быць блёк, выдадзеныя поштай Бразыліі ў 1983 годзе, на якім адлюстравана рэпрадукцыя карціны Рафаэля «Ўваскрэсеньне». Блёк, выдадзеныя поштай Ватыкана (2005 г.) з рэпрадукцыяй карціны Пэруджіна. Блёк, выдадзены поштай краіны Сан-Таме і Прынсіпі (2004 г.) з рэпрадукцыяй карціны П'ера дэла Франчэска

Фрэска П'ера дэла Франчэска «Ўваскрэсеньне Хрыста» выканана ім у 1460 годзе і знаходзіцца ў музэі Борга-Сансепалькра (Таскана) — роднага горада мастака. Ісус Хрыстос у ружовай тозе, не закрываючай рану, стаіць, яшчэ ня вызвалены ад зямной цялеснасьці з сьцягам-сымбалям Уваскрэсеньня. Ён узвышаецца над чатырма салдатамі, якія сьпяць, і іх сон — гэта сон той часткі людзей, якіх не кранула Боскае

сьвятло. Пэйзаж за плячыма Хрыста таксама сымбалічна падзелены на дзьве часткі: зьлева — голыя чорныя дрэвы на пустой зямлі, справа — веснавы росквіт прыроды. Гэта напамін аб наступе новай гісторыі ў жыцьці чалавецтва, напоўненай любоўю, якая пачынаецца з Уваскрэсеньня Хрыста.




Фрэска П'ера дэла Франчэска на картмаксімуме пошты Італіі (2000г.)

П«ера дэла Франчэска перадаў патаемны сэнс падзеі ў канцэнтраваным выглядзе і намаляваў Уваскрэсеньне не як гістарычны факт, а як пазачасовую праўду.

Хрыстос у цэнтры, Яго правая нага паднятая на край саркафага і Ён намерваецца зрабіць крок з труны. У правай руцэ Ён трымае тронак сьцяга трыюмфу — белага сьцяга з чырвоным крыжам. Мантыя так накінутая на Яго постаць, што пакідае правы бок грудзей адкрытым, і мы бачым рану на ёй.

На зямлі напаўсядзяць і напаўляжаць чатыры ваяра. Характэрна сымболіка дрэў: тыя, што зьлева, — голыя, справа — у густой лістоце. Ідэя дрэў зялёных і дрэў высахлых злучаецца з Дрэвам спазнаньня Дабра і Зла і Дрэвам Жыцьця, якія стаялі побач у Эдэмскім садзе. У дадзеным выпадку дрэвы сымбалізуюць сьвет да і пасьля Расьпяцьця і «Уваскрэсеньне».




Карціна Па́олё Вэранэзэ «Ўваскрэсеньне Хрыста» (1570-тые. Маляўнічая галерэя, Дрэздэн) Блёк пошты Аўцітакі, выдадзены ў 2014 годзе

«Напэўна многія з нас зайздросьцяць тым двум вучням. Яны беглі, убачылі і паверылі. Гэта дала ім права на наступныя спатканьні з Уваскрэсшым.




Габэлен «Уваскрэсеньне Хрыста». Блёк пошты Ватыкану (2017 г.)

Але не пазастаўляныя мы сіротамі. Хтосьці ў гэтыя Сьвяточныя дні будзе ісьці з пахучымі рэчывамі да гроба Гасподня, хтосьці будзе бегчы, яшчэ не ўсьведамляючы, што хочуць убачыць і да чаго прыйсьці, хтосьці будзе спаць, заставацца абыякавым, хтосьці за грошы будзе распаўсюджваць зьвесткі, што ніякага Ўваскрэсеньня не было, хтосьці... Але як гэта не дзіўна,

Хрыстос памёр у ганьбе і муках на крыжы для ўсіх і для ўсіх паўстаў зь мёртвых. Калі знойдзецца хоць адзін, каторы не ўбачыўшы паверыць, то ахвяра Хрыста не была дарэмнай і той «дабрашчасны». І Уваскрэсеньне Хрыстова Найвялікшае Сьвята ня толькі таму, што дае шанс кожнаму з нас, але таксама таму, што «апраўданьне грэшніка ёсьць яшчэ большым цудам Божым чым стварэньне сьвету...».

## Плашчаніца

Паводле Эвангелістаў, плашчаніцу купіў Язэп з Арыматэі, які загарнуў у яе цела ўкрыжаванага Хрыста і паклаў у магілу. «І ўзяўшы Цела, Язэп абгарнуў яго чыстым палатном і паклаў яго ў новай сваёй магіле, якую высек у скале; і прываліўшы вялікі камень да дзьвярэй магілы, адышоў» (Паводле Мацьвея 27:59,60).

Калі Ісус уваскрэс гэтыя палотны засталіся ў пустой магіле.




Пахаваньне Хрыста і Турынская Плашчаніца на марцы Італіі (2010 г.)

«Адразу выйшаў Пётр і другі вучань, і пайшлі да магілы; яны пабеглі абодва разам; але другі вучань бег хутчэй за Пятра, і прыйшоў да магілы першы, і нахіліўшыся, убачыў палотны, якія там ляжалі: але не ўвайшоў у магілу. Сьледам за ім прыходзіць Сымон Пётр, і ўваходзіць у магілу, і бачыць адны палотны, якія там ляжалі. і хустку, якая была на галаве Ягонай, не з палотнамі яна ляжала, а асобна, скручаная, на іншым месцы. Тады ўвайшоў і другі вучань, што прыбег раней да магілы, і ўбачыў, і ўвераваў...» (Паводле Яна 20:3—8).

Гэтае палатно атрымала назву Турынская плашчаніца. Турынская плашчаніца — гэта кавалак ільнянога палатна 436 на 112 сантымэтраў з адбітытай на ім фігурай Хрыста.

Паводле традыцыі, Плашчаніца перадавалася з рук у рукі з апостальскіх часоў. Ёсьць зьвесткі, што ў 436 годзе імпэратрыца Пульхерыя памясьціла яе ў храме Багародзіцы ў Улахэрне каля Канстантынопаля. Потым Плашчаніца нібыта апынулася ў Ерусаліме. У апісаньні сваёй пілігрымкі ў Сьвятую Зямлю ў 640 годзе пра палатно згадвае эпіскап гальскі Арнульф.




У гадавіну 400 -годзьдзя захоўваньня Плашчаніцы ў Турыне пошта Італіі выпусьціла марку (1978 г.) і картмаксімум з выявай паказу Плашчаніцы і адпаведным спэцгашэньнем

На картмаксімуме паказана падзея паказу Плашчаніцы ў прысутнасьці саноўнікаў Касьцёла на спэцыяльна збудаваным подыюме па гравюры з 1578 году. Розьніца паміж рысункам на картмаксімуме і адлюстраваным на Плашчаніцы ў тым, што на Плашчаніцы няма павязкі, а на марцы павязцка на бёдрах.

Пасьля гэтага Плашчаніца ізноў трапіла ў Канстантынопаль. Захаваўся летапіс Мікалая Мазарыта, які нібыта ў 1201 годзе выратаваў Плашчаніцу ад агню ў часе бунту імпэратарскай гвардыі. Існуе тэорыя, што вэнэцыяне вывезьлі Плашчаніцу пасьля захопу крыжаносцамі Канстантынопаля ў 1204 годзе. У 1357 годзе Плашчаніца была паказаная публічна ў касьцёле ў Лірэй. Палатно належала рыцару Жафрэю дэ Шарны, удзельніку крыжовых паходаў на Блізкі Ўсход. У 1506 годзе Папа Юлій І афіцыйна прызнаў плашчаніцу аўтэнтычнай. У 1532 годзе палатно, якое захоўвалася ў Шамбэры, моцна пацярпела ў выніку пажару. У 1578 годзе Плашчаніца была ўрачыста перанесеная ў Турын і захоўвалася ў спэцыяльна пабудаванай капліцы.



У 1988 г. пошта Ватыкану з нагоды выстаўленьня Плашчаніцы для публічнага агляду ў катэдры Турынскай выдала дзьве маркі: фатаграфічны нэгатыў твару з Плашчаніцы і выгляд катэдры ў Турыне. У 1966 г. пошта Бразыліі выпусьціла марку з тварам Ісуса з Турынскай плашчаніцы

У 1970-я гады Плашчаніца сталася ўласнасьцю Ватыкану і з таго часу пачаліся яе інтэнсіўныя навуковыя дасьледаваньні.

Спрэчкі вакол Турынскай плашчаніцы спрычыніліся нават да ўзьнікненьня новай галіны навукі — сынданалёгіі, ад грэцкага слова «сындан» — кавалак палатна. Фэномэн плашчаніцы вывучаюць спэцыялісты аж 35 галінаў навукі.

Папа Ян Павал II, які ў траўні 1998 году аглядаў Плашчаніцу ў Турыне, сказаў так: «Плашчаніца мне не патрэбная для веры. Я веру ў Хрыста, Сына Божага і ягоныя Словы, Ягоную прысутнасьць у Царкве, у словах Сьвятога Пісьма, у сакрамантах, у іншым чалавеку. Калі б аказалася, што Плашчаніца несапраўдная, я ўсё роўна верыў бы».



Марка Італіі (1998 г.) з выявай твару на Плашчаніцы і катэдры ў Турыне. Марка пошты Вэнгрыі (1999г.) з выявамі твару Бога Айца з фрэскі Мазача і твару Хрыста з Плашчаніцы

Вэнгерскі мастак Ферэнц Свіндт (Svindt) зрабіў адкрыцьцё, што твар Айца ў фрэсцы Мазача ў манастыры Санта-Марыя-Навэла ў Флярэнцыі і твар чалавека на Турынскай плашчаніцы маюць надзвычайнае падабенства. Ферэнц Свіндт зрабіў «выяву з двух крыніц», якая была выдадзены поштай Вэнгрыі на марцы на Вялікдзень у 1999 годзе. Згодна з навуковымі зьвесткамі, Мазача ня мог бачыць Плашчаніцы.

«Убачыўшы аблічча Хрыста на Плашчаніцы і аблічча Айца ў жывапісе Мазача, таямніца адзінства Айца і Сына стала больш рэальнай і даступнай для мяне. Цяпер я магу дзякаваць Госпада за тое, што змог рэалізаваць гэты вобраз з «двума асобамі на марцы» — напісаў Ферэнц.

Касьцёл пакінуў пытаньне аб сапраўднасьці гэтай рэліквіі навукоўцам, але працягвае ўшаноўваць яе. Паводле Папы Францішка, аблічча з Плашчаніцы падобна да твараў людзей, параненых адсутнасьцю павагі, войнамі і насільлем. 30 сакавіка 2013 года Пантыфік заклікаў вернікаў гля-

дзець на Плашчаніцу не проста назіраючы, але ўшаноўваючы яе — глядзець позіркам малітвы і нават больш, дазволіць ёй на нас глядзець.




У 2015 годзе адзін з самых доўгіх пэрыядаў паказу Плашчаніцы ў гісторыі — 67 дзён у Катэдральным саборы Турына: з 19 красавіка па 24 чэрвень. З гэтай нагоды пошта Ватыкану выпусьціла марку

«Дазволім гэтаму позірку, які глядзіць не ў нашы вочы, а ў сэрца, дасягнуць нас. Паслухаем тое, што ён хоча сказаць нам, у маўчаньні, пераходзячы праз сьмерць», — казаў Сьвяты Айцец.

## Сьцяг у руках Хрыста

Сьцяг у руках Хрыста зьяўляецца вылучна на выявах, злучаных з Уваскрэсеньнем і Спасланьнем у пекла і больш ні на якіх іншых.

Упершыню ў руках Хрыста сьцяг зьяўляецца на малюнках, характэрных для заходнеэўрапейскага хрысьціянства — а менавіта, на выявах «Descensus ad inferos», Спасланьне ў пекла. Яны злучаны з догматам Апостальскага Крэда. Менавіта на ілюстрацыях гэтага догмату, прычым толькі пачынальна з XII ст., у руках Хрыста ўпершыню зьяўляецца сьцяг.

Ён прысутнічае ўжо ў адным з самых раньніх малюнкаў Спасланьня — мініяцюры псалтыра Тыберыя (1054), але тут фляг разьдзімаецца над німбам Хрыста, у той час, як абедзьве Яго рукі апушчаны да людзей, якія ў раскрытай пашчы. Сьцяг прадстаўлены ў выглядзе сэгмэнта круга, акружанага «праменямі» накшталт сонца.

Як адзін з першых малюнкаў Хрыста, які трымае сьцяг, можна назваць мініяцюру з псалтыра Сьв. Альбана (1145 г.), дзе Хрыстос, нахіляючыся да пашчы, правую руку працягвае людзям, а левай трымае крыж з белым сьцягам. Сьцяг прысутнічае таксама на рэльефе капітэлі Нотр-Дам у Хэрэфордзе (Англія, XI — XII ст.) — яго тронак не ўвянчаны крыжам, трохкутнае палатно разьдзімаецца побач з абліччам Хрыста.




Хрыстос спускаецца ў пекла. Мазаіка на марцы пошты Грэцыі (1970 г.). Сьцяг у руках Хрыста на марцы Тога (1972 г.)

Толькі пазьней, пасьля 1300 г., сьцяг стане фактычна абавязковым атрыбутам выяў Descensus ва ўсёй Эўропе. Да XI стагодзьдзя на абразах, якія паказваюць Уваскрэсеньне, у руках Хрыста маглі быць толькі крыж, скрутак ці Эвангельле.

Напрыклад, на мазаіцы ў капліцы архібіскупа ў Равене (470 г.) Хрыстос пераможца топча галовы льва і зьмея; у руках у Яго крыж і Эвангельле, расчыненае на словах «Ego sum via, veritas et vita» (Я ёсьць шлях, праўда і жыцьцё) — для пазначэньня перамогі над увасабленьнямі зла не патрэбныя былі дадатковыя знакі.

Аднак пазьней зьявілася традыцыя маляваць Выратавальніка, які трымае сьцяг.

Сам малюнак Хрыста, уваскрасаючага з Труны, зьявіўся ў мастацтве Заходняй Эўропы не раней XI ст., а распаўсюд атрымлівае толькі ў XIV ст. Да гэтага часу ўжо існавала выява Ўваскрэсеньня — бізантыйскі абраз Анастасіс (іканаграфія якой цалкам склалася да пачатку VI стагодзьдзя); новая выява паказвае Пазею ў яе «гістарычным», зямным асьпэкце. Немагчыма прыёмамі маляўнічага рэалізму паказаць духоўны рэалізм Падзеі. У прыватнасьці, кожны раз мастак апыняецца перад неабходнасьцю паказаць не толькі Самага Ўваскрэслага Бога, але і абраць гледачоў гэтай Падзеі (ваяры, пастаўленыя пільнаваць Труну, ці ж анёлы) і іх рэакцыю (якая розьніцца ад нячуласьці да роспачы і ад спалоху да весялосьці).



Картмаксімум пошты Бурундзі (1969 г.) з выявай карціны Эль Грэка «Уваскрэсеньне». Хрыстос паказаны ў бляску славы, крочыць па паветры з белым сцягам перамогі над сьмерцю

Сьцяг у руках Хрыста на выявах «Спасланьне ў пекла» — а пазьней і на выявах «Паўстаньне ад Труны» можа быць як белага, так і чырвонага колеру (напрыклад, карціны Эль Грэка і Рубенса).

На выявах Англіі і Нямеччыны, на фрэсках Даніі да XV ст. ён часьцей чырвонага колеру (Ханс Рафон. Спасланьне ў пекла.), прысутнічае на выявах Descensus Пахера, на фрэсцы Эструплунда, на гравюры Дзюрэра. Ён можа быць і як разьдзімаемы на тронку сьцяг (напрыклад, у Джота — белы з чырвоным крыжам і Дуча ды Буанісеньня — чырвоны з белым крыжам).




«Уваскрэсеньне Хрыста». Дэталь карціны Рубенса на марцы пошты Рэспублікі Кот Д'івуар (1983 г.). Дэталь фрэскі з Сыкстынскай капэлы, праца флямандзкага жывапісца Хэндрыка ван дэн Брока (1519—1597) на марцы пошты Ватыкану (2011 г.). «Ісус зьяўляецца Марыі»

Асноўнае значэньне гэтага сьвятога знака хутчэй усяго злучана не з перамогай, а з выступам у паход, мабілізацыяй сіл для вайны і натхненьнем у цяжкі момант бітвы.

У малюнку Descensus ad inferos — Спасланьне ў пекла — гэты асьпэкт сымбалічнага значэньня — выступ у паход — выявіўся з найвялікшай сілай: Хрыстос намаляваны ў той момант, калі Ён ідзе вайной супраць ворага ўсяго чалавецтва і ўсяго Царства Нябеснага — супраць сатаны. Гэты не пераможная выява, а пачатак вырашальнай бітвы. Хрыстос паказаны надыходзячым да пякельных умацаваньняў, адкуль паказваюцца дэманы, якія страляюць у Яго, што льюць смалу, пагрожваюць крукамі; супраць усяго войска пекла Хрыстос выступае ў адзіноце, несучы сьцяг. Гэтак жа і на выявах «Паўстаньне ад Труны». У сваёй пасьлядоўнасьці гэтыя дзьве выявы становяцца складовымі часткамі

алегорыі сьвятой вайны з царствам д’ябла і сьмерці: пачаткам галоўнага бою пад сьвятым сьцягам і пасьпяховым зь ім вяртаньнем.




Выява фрэскі Падуанскай Капэлы Скравены — адзін з галоўных шэдэўраў Джота ды Бандонэ на марцы пошты Малаві (1978 г.). «Уваскрэсеньне Хрыстова» (1876) Па марцы Румыеіі (2012 г.). Царква Сьвятога Панцеляймона ў Бухарэсьце.



Картмаксімум Бурундзі (1968 г.)




Бел-чырвона-белы Сьцяг у руках Хрыста на марцы Польшчы (1999 г.)

На марцы Польшчы выява адной з карцін Грудзяцкага (Grudziądzki) паліптыху (пералом чатырнаццатага і пятнаццатага стагодзьдзяў) — позднегатычны алтар з капліцы тэўтонскага замка ў Грудзёндзу. У цяперашні час знаходзіцца ў сярэднявечнай Мастацкай галерэі Нацыянальнага музэя ў Варшаве (Польшча).

Як бачым, на некаторых выявах Сьцяг у руках Хрыста выглядае як бел-чырвона — белы, нагадваючы сваі выглядам Нацыянальны Сьцяг Беларусі.

## Сустрэчы з Уваскрэслым Хрыстом

Ўваскрэсеньньне Эвангельлі не апісваюць, але апавядаюць аб сустрэчах розных людзей з Уваскрэслым Хрыстом. Толькі няма апісаньня зьявы Хрыста яго Маці. Тым не менш лічыцца, што сустрэча гэтая адбылася. Сьвяты Амбросій пісаў у IV веку («Liber de Virginitate»): «Такім чынам Марыя бачыла Ўваскрэсеньне Бога: яна была першай, хто ўбачыў Яго, і яна паверыла».

ПсеўдаБанавентура ў сваіх «Разважаньнях пра жыцьцё Хрыста» дае падрабязны аповед пра іх сустрэчу. Паводле яго, раніцай у дзень Уваскрэсеньня, калі Тры Марыі з іх каштоўнымі мазямі накіроўваліся да труны, Дзева Марыя заставалася дома і ў сьлёзах малілася, каб яе Сын прыйшоў і суцешыў яе. Хрыстос зьявіўся, убраны ў белыя адзеньні, і яна ўпала перад ім на калены. Ён таксама схіліў калены; затым абодва яны ўсталі і віталі адзін аднаго. У жывапісе гэта сцэна малюе Хрыста, Які стаіць перад Дзевай Марыяй, у вольныя адзеньні апранутага. Ён дэманструе свае раны як доказ таго, што гэта Ён і ёсьць. Як на блёку пошты краіны Антыгуа і Барбуда (1995 г.) з выявай

карціны нідэрляндзкага мастака Рагіра ван дэр Вэйдэна «Зьяўленьне Хрыста Марыі»



«Зьяўленьне Хрыста Марыі», Рагіра ван дэр Вэйдэн. Блёк пошты краіны Антыгуа і Барбуда (1995 г.)

На першым пляне намалявана, як Хрыстос зьяўляецца Божай Маці, яны кіруюць адзін да аднаго рукі, на твары Марыі — смутак ад перажытай пакуты пры расьпяцьці Сына, а таксама пакора і радасьць. У далечыні ў вакне намаляваная папярэдняя гэтай сустрэчы цудоўная падзея — сцэна Ўваскрэсеньня Хрыста і жанчыны міраносіцы, якія ідуць да гроба.

Згодна з апісаньнем у Эвангельлі ўваскрэслага Хрыста першай убачыла Марыя Магдалена.



«Noli me Tangere» (Не затрымлівай мяне) на блёку Манамы (1972 г.) карціна Карэджа [Антоніё Алегры] 1525 г.

«А Марыя стаяла каля магілы і плакала; калі плакала, нахілілася да магілы і бачыць двух анёлаў, у белым адзеньн і сядзяць, адзін у галовах, другі каля ног, дзе ляжала Цела Ісусава. І яны кажуць ёй: жанчына! чаго ты плачаш? Кажа ім: зьнесьлі Госпада майго, і ня ведаю, дзе паклалі Яго. Сказаўшы гэта, абярнулася і ўбачыла — стаіць Ісус; ды не пазнала, што гэта Ісус. Ісус кажа ёй: жанчына! чаго ты плачаш? каго шукаеш? Яна, думаючы, што гэта садоўнік, кажа Яму: спадару! калі ты вынес Яго, скажы мне, дзе ты паклаў Яго, і я забяру Яго. Ісус кажа ёй: Марыя! Яна, абярнуўшыся, кажа Яму: Раввуні! — што азначае: Настаўнік! Ісус кажа ёй: не кранайся Мяне, бо Я яшчэ ня ўзыйшоў да Айца Майго; а ідзі да братоў Маіх і скажы ім: узыходжу да Айца Майго і Айца вашага, і да Бога Майго і Бога вашага. Марыя Магдаліна ідзе і абвяшчае вучням, што бачыла Госпада, і што Ён гэта сказаў ёй» (Паводле Яна 20:11—18).




На блёку пошты краіны Антыгуа і Барбуда карціна Тыцыяна «Не затрымлівай мяне», (каля 1512г.)

Наступным быў Сыман Пётр: «І ўстаўшы ў тую самую хвіліну, вярнуліся ў Ерусалім, і знайшлі разам адзінаццаць Апосталаў і тых, што былі зь імі, якія казалі, што Гасподзь сапраўды ўваскрэс і зьявіўся Сымону» (Паводле Лукаша 24:33,34).

Потым два вучні сустрэлі Хрыста па дарозе да Эмаусу: «У той самы дзень двое зь іх ішлі ў селішча, што адлягала стадый на шэсьцьдзесят ад Ерусаліма, называнае Эмаус. і размаўлялі паміж сабою пра ўсе гэтыя падзеі. І калі яны размаўлялі і разважалі паміж сабою, Сам Ісус, наблізіўшыся, пайшоў зь імі; але вочы ў іх былі заслоненыя, так што яны не пазналі Яго» (Паводле Лукаша 24:13—16).




«Па дарозе да Эмаусу», карціна Орсі на марцы пошты Мазамбіку (2011 г.). Карціна Якопа Панторма «Вячэра ў Эмаусе» на марцы пошты Экватарыяльнай Гвінэі (1973 г.). Карціна Караваджа «Вячэра ў Эмаусе» на марцы Парагваю (1968 г.)

Караваджа ў сваёй карціне, напісанай у 1599—1600 гг. робіць падзею максымальна набліжанай да нас. Гэта мы бяжым у страху і роспачы з Ерусаліма. Гэта нам сустракаецца на цёмнай дарозе спадарожнік, які тлумачыць тое, што ўжо выкладзена ў Пісаньні. Ён сядзіць за сталом у беднай харчэўні з вучнямі, дзе яны са шчасьлівым зьдзіўленьнем пазнаюць Яго ў момант пераламленьня хлеба. Мы прысутнічаем пры нямой сцэне пазнаваньня.

Ісус, юны, безбароды, благаслаўляе хлеб. На стале, пакрытым белым абрусам, сьціплая вячэра: хлеб, графін з віном, страва з птушкай і кошык з садавінай. Вучань, які сядзіць зьлева, амаль плячыма да нас, у зьдзіўленьні прыўстаў з крэсла, іншы, справа, радасна раскінуў абедзьве рукі. Гаспадар, не разумее, што адбываецца, але адчувае значнасьць падзеі. Крыніцы сьвятла не відаць, але яна выразна сьпераду ад нас — гэта наша радасьць. Яна злучае нашу прастору з тым сакральным, дзе знаходзіцца Хрыстос і дзе час пераможаны і сьмерці няма.

Здаецца, што падзея гэта адбываецца тут і цяпер, што Хрыстос уваскрэс у гэту хвіліну і мы сьведкі і ўдзельнікі гэтага цуду.




«Вячэра ў Эмаусе» на марцы пошты Румыніі (2014 г.). Карціна Веранезезе «Вячэра ў Эмаусе» на марцы Рэспублікі Малі (1975 г.)

Карціна Веранезе побытавымі дэталямі зводзіць біблейскі сюжэт да маляўнічага жыцьця вэнэцыянцаў. На тэрасе раскошнага патрыцыянскага палаца ў асяродзьдзі яго гаспадароў і двух сваіх вучняў сядзіць Уваскрэслы Хрыстос у момант пазнаваньня Хрыста вучнямі. Карціна напоўненая дзецьмі самых розных узростаў, ад немаўляці на руках у маладой жанчыны ў чырвоным, да хлопчыка, амаль юнака, які стаіць за плячыма ў Хрыста. Шляхам стараннага зьмешваньня боскага і зямнога, Веранезе падкрэсьлівае чалавечнасьць Ісуса.

Нарэшце Хрыстос сустракаецца з усімі вучнямі, акрамя Тамаша.

«У той самы першы дзень тыдня ўвечары, калі дзьверы дома, дзе зьбіраліся вучні Ягоныя, былі замкнутыя з апасеньня перад Юдэямі, прыйшоў Ісус і стаў пасярод, і кажа ім: мір вам! Сказаўшы гэта, Ён паказаў ім рукі! і ногі) і рэбры Свае. Вучні ўзрадаваліся, убачыўшы Госпада. А Ісус сказаў ім другі раз: мір вам! як паслаў Мяне Айцец, так і Я

пасылаю вас. Сказаўшы гэта, дзьмухнуў, і кажа ім: прымеце Духа Сьвятога: каму даруеце грахі, таму даруюцца: на кім пакінеце, на тым застануцца.




«Зьяўленьне Хрыста апосталам». Вітраж і карціна Шымана Чэховіча на марках Польшчы (2009 г. і 2001г.)

А Тамаш, адзін з дванаццацёх, званы Блізьнюк, ня быў тут зь імі, калі прыходзіў Ісус. Другія вучні сказалі яму: мы бачылі Госпада. Але ён сказаў ім: калі ня ўбачу на руках у Яго ранаў ад цьвікоў, і не ўкладу пальца майго ў раны ад цьвікоў, і ня ўкладу рукі маёй у рэбры Ягоныя, не паверу» (Паводле Яна 20:19—23).




На марцы пошты Гернсі (1993 г.) вітраж «Уваход Хрыста праз закрытыя дзьверы»

Тады Хрыстос зьявіўся ўсім вучням і Тамашу ў тым ліку: «Праз восем дзён зноў былі ў доме вучні Ягоныя, і Тамаш зь імі. Прыйшоў Ісус, калі дзьверы былі замкнутыя, стаў пасярод іх і сказаў: мір вам!» (Паводле Яна 20:26).

«Потым кажа Тамашу: падай палец твой сюды і паглядзі рукі Мае; падай руку тваю і ўкладзі ў рэбры Мае; і ня будзь недаверкам, а вернікам. Тамаш сказаў Яму ў адказ: Госпадзе мой і Божа мой! Ісус кажа яму: ты паверыў таму, што ўбачыў Мяне; дабрашчасныя тыя, што ня бачыўшы — паверылі» (Паводле Яна 20:27—29).



Блёк пошты краіны Антыгуа і Барбуда (2000 г.). «Тамаш няверуючы». Хэндрык Тэрбруген, 1621, Амстэрдам




Блёк пошты Гвінэі Экватарыяльнай (1974г.) «Тамаш няверуючы». Майстар алтара Сьвятога Варфаламея (1490—1500, Кёльн, музэй Вальраф Рıхарц)

Хрыстос другі раз сустракаецца з Марыяй Магдаленай і «другой Марыяй» (Паводле Мацьвея 28:1—10).

Пасьля таго зноў зьявіўся Ісус вучням Сваім пры моры Тывэрыядзкім. А зьявіўся так: «Былі разам Сымон Пётр, і Тамаш, званы Блізьнюк, і Натанаіл з Каны Галілейскай, і сыны Зевядзеевыя, і двое іншых з вучняў Ягоных. Сымон Пётр кажа ім:

іду лавіць рыбу. Кажуць яму: ідзём і мы з табою. Пайшлі, і адразу ўвайшлі ў лодку, і не злавілі ў тую ноч нічога. А як ужо разьвіднела, Ісус стаяў на беразе; але вучні не пазналі, што гэта Ісус.



Малюнак Дуча Буанісенья (Duccio di Buoninsegna) «Зьяўленьне Хрыста пры моры Тыверыядскім " на марцы пошты Емэна

Ісус кажа ім: дзеці! ці ёсьць у вас ежа якая? Яны адказалі Яму: няма. А Ён сказаў ім: закіньце нерат па правы бок лодкі, і зловіце. Яны закінулі, і ўжо не маглі выцягнуць нерат ад мноства рыбы. Тады вучань, якога любіў Ісус, кажа Пётру: гэта Гасподзь. А Сымон Пётр, пачуўшы, што гэта Гасподзь, апаясаўся шатай, — бо ён быў голы, — і кінуўся ў мора; а іншыя вучні прыплылі ў лодцы, — бо недалёка былі ад зямлі, локцяў каля дзьвюхсот, — цягнучы нерат з рыбаю. А калі выйшлі на зямлю, бачаць раскладзенае вогнішча і на ім ляжыць рыба і хлеб. Ісус кажа ім: прынясеце рыбы, якое вы цяпер налавілі. Сымон Пётр пайшоў і выцягнуў на зямлю нерат зь вялікімі рыбінамі, якіх было сто пяцьдзясят тры; і пры мностве такім не парвалася сетка. Ісус кажа ім: прыйдзеце, абедайце. З вучняў жа ніхто не адважыўся папытацца ў Яго: хто Ты?, ведаючы, што гэта Гасподзь. Ісус прыходзіць, бярэ хлеб і дае ім, гэтак сама і рыбу. Гэта ўжо трэйці раз зьявіўся Ісус вучням Сваім пасьля ўваскрэсеньня Свайго зь мёртвых» (Паводле Яна 21:1—14).

«Адзінаццаць жа вучняў пайшлі ў Галілею, на гару, куды загадаў ім Ісус; і, убачыўшы Яго, пакланіліся Яму; а другія засумняваліся. І, прыступіўшы, Ісус сказаў ім: дадзена Мне ўсякая ўлада на небе і на зямлі: дык ідзеце, навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца і Сына і Сьвятога Духа, вучачы іх выконваць усё, што Я запаведаў вам; і вось, Я з вамі ва ўсе дні да сканчэньня веку. Амін» (Мацьвея 28:16—20).



«Ісус пасылае апосталаў на пропаведзь Эвангельля». Блёк Ангільы (1976)

«...потым зьявіўся больш чым пяці сотням братоў у адзін час, зь якіх большая частка дагэтуль жывуць, а некаторыя і спачылі;" (Першае да Карынфянаў 15:6).

«...потым зьявіўся Якаву...» (Першае да Карынфянаў 15:7).

«...а пасьля ўсіх зьявіўся і мне, як нейкаму вылюдку. Бо я найменшы з Апосталаў, і ня варты называцца Апосталам, бо гнаў Царкву Божую» (Першае да Карынфянаў 15:8—9).

Апошні раз Хрыстос зьявіўся перад Узьнясеньнем:

«І вывеў іх вонкі з горада да Віфаніі і, падняўшы рукі Свае, дабраславіў іх. І калі дабраславіў іх, пачаў аддаляцца і ад іх узносіцца на неба. Яны пакланіліся яму і вярнуліся ў Ерусалім зь вялікаю радасьцю...» (Паводле Лукаша 24:50—52).

## Апосталы

Спачатку іх было дванаццаць. Тых, каго сярод абранага народа выбраў Хрыстос за сваіх вучняў. Выбраў, каб яны сталі Апосталамі... Паклікаў...

Пакліканьне Апосталаў найбольш яскрава прадстаўляе Эвангеліст Марк: «Потым узышоў на гару і паклікаў да Сябе, каго Сам хацеў; і пайшлі да Яго. І паставіў дванаццацёх, каб зь Ім былі і каб пасылаць іх зьвеставаць, і каб мелі яны ўладу ацаляць ад хваробаў і выганяць дэманаў: паставіў Сымона, даўшы яму імя Пётр; Якава Зевядзеевага і Яна, брата Якаўлевага, даўшы ім імёны Воанергес, гэта азначае, „сыны громавыя“; Андрэя, Піліпа, Барталамея, Мацьвея, Тамаша, Якава Алфеевага, Тадэя, Сымона Кананіта і Юду Іскарыёцкага, які і выдаў Яго» (Паводле Марка 3:13—19).



Марачны ліст (1970 г.) краіны Фуджэйра прысьвечаны Крыжовай дарозе. На марках выявы станцый Крыжовай дарогі і выявы Апосталаў. На лісьце ёсьць выявы бацькоў Ісуса Хрыста — Сьвятой Марыі і Сьвятога Язэпа і Сьвятога Паўла, які не ўваходзіць у лік дванаццаці апосталаў.

Прарокам Старога Запавету Бог даваў заданьні непасрэдна... Як жа цяжка было ўвераваць вучням Хрыста, што чалавек, які фізічна нічым не адрозьніваецца ад іх, ёсьць Сын Божы! Такі ж безабаронны, такі ж нямоглы, вырасшы з звычайнага дзіцяці ў сям'і цесьляра... Вось толькі цуды! Куды падзецца з цудамі? І словы... Словы, якія адкрывалі дарогу да выратаваньня, і ня толькі іх, але ўсяго чалавецтва. Як жа цяжка было гэта ўсё зразумець і ахвяра-ваць усяго сябе гэтаму Чалавека-Богу. Здрадзіў Юда, адракаўся Пётр, не ўвераваў Тамаш, пакуль не ўклаў пальцы ў рану Ўваскрэслага Хрыста... Таму Хрыстос не абмяжоўваецца толькі ўрачыстым пакліканьнем апостальскай групы; Ён заўжды трымае іх пры Сабе, удзяляе ім выключна шмат часу, рыхтуе да выкананьня акрэсьленых заданьняў. Апосталы насьледавалі свайго настаўніка падчас усяго яго жыцьця. Ісус рыхтуе выбраных, каб яны былі сьведкамі ўсіх падзей, і непасрэднымі Ягонымі пасьлядоўнікамі.



Дванаццаць Апосталаў на марачным лісце пошты Рэспублікі Чад (1969 г.)

У праграме Збаўцы прадказаньне будучай місіі не толькі Апосталаў, але і кожнага хрысьціяніна. Задачы Апосталаў былі працягам місіі Хрыста. Менавіта на падмурку Апосталаў Хрыстос ставіць Свой Касьцёл. Ён заснаваны дзеля таго, каб Хрыстова валадарства пашыралася па ўсёй зямлі, каб дзеля хвалы Айца зрабіць усіх людзей удзельнікамі збаўчага адкупленьня. Ісус жа-

дае, каб праз іх увесь сьвет сапраўды скіраваўся да Бога.




У 2011 годзе споўнілася 400 год ад выданьня Бібліі караля Якава. З гэтай нагоды пошта Маршалавых выспаў выпусьціла марачны ліст з дванаццацьцю Апосталамі. У кутах партрэт караля Якава

Апосталам і іх пераемнікам Хрыстос даручыў абавязак навучаньня, асьвячэньня і кіраваньня ад Яго імя і паводле Ягонай моцы. Такая дзейнасьць сапраўды зьяўляецца апостальствам, бо робіцца дзеля таго, каб напоўніць эвангельскім духам, парадак зямных спраў удасканаліць. Таму намаганьні Апосталаў зьяўляюцца выразным сьведчаньнем пра Хрыста і служаць збаўленьню людзей.

Служэньнем Хрысту Апосталы прыводзілі людзей праз пакору і цярплівасьць да Валадарства, служыць якому — значыць панаваць. Сапраўды вялікае абяцаньне і вялікая запаведзь была дадзена вучням: «...ці сьвет, ці жыцьцё, ці сьмерць, ці цяпершчына, а ці наступнае, — усё ваша; а вы — Хрыстовыя, а Хрыстос — Божы» (Першае да Карынфянаў 3:22,23).

Служыць Хрысту — значыць панаваць. Панаваць... Толькі панаваць не ў звычайным пабытовым значэньні гэтага слова. Над сабой пана-ваць. «Панаваньне» Апосталаў складалася з жыцьцёвых нягод, перасьледаў з боку ўладаў, арыштаў, катаваньняў, неразуменьня з боку многіх людзей... У рэшце рэшт усе Апосталы, акрамя Яна, былі замардаваныя. Але ўжо больш ніхто зь іх ня здрадзіў, не адрокся, не пакінуў свайго «панаваньня». Яны ўсе выканалі сваю місію.




Выпуск пошты Тога (1984 г.) Дванаццаць Апосталаў з Равены

Выявы апосталаў вядомыя з III — IV стагодзьдзяў. У ранні перыяд існавала некалькі тыпаў іканаграфіі: юныя і безбародыя, як і характэрны для гэтага часу вобраз юнага Хрыста (катакомбы Даміціллы, кан. III — сярэд. IV ст.). Некаторыя з ярка выяўленымі партрэтнымі рысамі: апостал Пётр — з кароткімі сівымі валасамі і барадой; апостал Павал — з высокім ілбом і доўгай цёмнай барадой (катакомбы Пятра і Марцэліна, 2-я пал. III — 1-я пал. IV ст.; Прэтэкстата, Кама-дзілы, IV ст.; ц. Сан-Ларэнца ў Мілане, IV ст.).

У Арыянскім баптыстэры (італ. Battistero degli Ariani), пабудаваным у Равене на мяжы V і VI стагодзьдзяў па загадзе Тэадорыха Вялікага, захавалася мазаіка купала, якая паказвае ў цэнтральным мэда-

льёне Вадохрышча (з чыста антычным увасабленьнем Ярдана ў выглядзе старца), а ў атачальным яго поясе постаці 12 Апосталаў. Дванаццаць Апосталаў, што ідуць з вянкамі (акрамя Апосталаў Пятра, які з ключамі і Паўла, які са скруткам) і німбамі да пасаду.

## Ушэсьце Гасподняе

Падзея Ўшэсьця Гасподняга зьяўляецца свайго роду мяжой паміж апавяданьнямі Сьвятога Дабравеставаньня і Апостальскіх дзей. Праз 40 дзён пасьля Ўваскрашэньня, забраў Бог Хрыста туды, адкуль Ён прыйшоў, да Сябе, у неба, у вечнасьць.

Эвангельлі ўключаць у сябе два кароткія апісаньні Ўзьнясеньня Хрыста: у Эвангельлі ад Лукаша 24:50—53 і Марка 16:19. Больш падрабязная справаздача пра цялеснае Ўзьнясеньне Ісуса на аблоках прыводзіцца ў кнізе Дзеяньняў Апосталаў (1:9—11).




«Ісус і яго вучні ў Гефсіманскім садзе». Карціна Рэмбрандта (1633) на марцы Дамінікі (2006 г.)

Ісус сабраў сваіх вучняў у Гефсіманскім садзе каб сказаць пра тое, што ён хацеў ад сваіх пасьлядоўнікаў, перш чым Ён пойдзе на неба. Ён сказаў: «дык ідзеце, навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца і Сына і Сьвятога Духа, вучачы іх выконваць усё, што Я запаведаў вам; і вось, Я з вамі ва ўсе дні да сканчэньня веку. Амін» (Паводле Мацьвея 28:19,20).

«А Ён сказаў ім: ня вам ведаць часіны ці поры, якія Айцец назначыў Сваёй уладай; а вы прымеце сілу, як зыйдзе на вас Дух Сьвяты, і будзеце Мне за сьведкаў у Ерусаліме і ва ўсёй Юдэі і Самарыі і нават па край зямлі. Сказаўшы гэта, Ён узьнёсься на вачах у іх, і воблака ўзяло Яго з вачэй іхніх» (Дзеі 1:7—9).




На адной з марак сэрыі «Велікодны жывапіс» пошты Тога (1972 г.) карціна Андрэа Мантэны «Ушэсьце». Малы ліст пошты Экватарыяльнай Гвінэі (1974) паказвае Ўшэсьце Хрыста на фрэсцы Антонія Карэджа (1489—1534). Гэтая фрэска (1520) знаходзіцца на купале сабора Сьвятога Яна Багаслова ў Парме. На марцы пошты Гішпаніі (1962 г.) карціна Францыска Байе (Francisco Bayeu) «Ушэсьце Гасподняе», 1769 г.




«Ушэсьце» на марках Барбудаў (1969 г.), Рэспублікі Польшча (2000 г.) і Кайманавых выспаў (1973 г.)

«І калі яны глядзелі на неба падчас ушэсьця Ягонага, раптам сталі перад імі два мужы ў белым убраньні і сказалі: мужы Галілейскія! што вы стаіце і глядзіце на неба? Гэты Ісус, што ўзьнёсься ад вас на неба, прыйдзе гэтак сама, як вы бачылі Яго, калі ўзносіўся на неба.

Тады яны вярнуліся ў Ерусалім з гары, якая называецца Аліўнай, што блізь Ерусаліма, адлеглай на дзень суботні хады» (Дзеі 1:10—12).

Да 6-га стагодзьдзя была створана іканаграфія Ўзьнясеньня ў хрысьціянскім мастацтве, да 9-га стагодзьдзя сцэны Ўзьнясеньня былі намаляваныя на купалах цэркваў.

Многія сцэны складаліся з двух частак: верхняй (Нябеснай) часткі і ніжняй (зямной). Узыходзячага Ісуса часта паказваюць дабраслаўляючым правай рукой, накіраванай на вернікаў, і паказваючым, што Ён дабраслаўляе ўсю Царкву.




Праца Рэмбрандта «Ушэсьце Хрыста» на марцы краіны Выспа Ўшэсьця (1979 г.). Блёк Фуджэйры (1970 г.) «Ушэсьце» з сэрыі «Карціны аб жыцьці Хрыста». «Ушэсьце» на марцы пошты Кайманавых выспаў (2004г.)

Хто з нас ня ведае, што расстаньне з каханым чалавекам пакідае глыбокую рану ў душы. Хто з нас не перажываў разьвітаньняў. І хто з нас ня ведае, што разьвітаньні не абыходзяцца бяз сьлёз і суму. Людзі, якія рассталіся, не адразу могуць вярнуцца да сваіх звычайных спраў, у думках яны ўсё яшчэ на месцы разьвітаньня. Расставацца — гэта дрэнна, складана, сумна. Вучні расталіся не з нейкім Сябрам — яны расталіся з Самім Богам! Зьвярніце ўвагу на тое, які іх настрой?

«І калі дабраславіў іх, пачаў аддаляцца ад іх і ўзносіцца на неба. Яны пакланіліся яму і вярнуліся ў Ерусалім зь вялікаю радасьцю...» (Паводле Лукаша 24:51,52).

Нейкая дзіўная радасьць... Пра што можна цешыцца разлучыўшыся з каханым Настаўнікам?

Пасьля Свайго Ўшэсьця Хрыстос не пакінуў сьвету, але знаходзіцца ў ім у Сьвятым Духу, Якога Ён паслаў ад Бацькі. Таму, хоць Хрыстос і сышоў, але пакінуў шмат чыньнікаў для нашай радасьці. І перш за ўсё таму, што Ісус — наш заступнік на нябёсах.




Абраз Ушэсьця Гасподняга, іканастас Нацыянальнага сабора. Сувэнірны ліст пошты Румыніі, надрукаваны ў 2018 годзе

«Заўсёды радуйцеся. Бесьперастанку малецеся. За ўсё дзякуйце: бо такая за вас воля Божая ў Ісусе Хрысьце. Духа не гасеце» (Першае да Фесаланікійцаў 5:16—19).

Быць вучнем Ісуса... Як ім быць? Калі казаць максымальна коратка, то вучнем Ісуса зьяўляецца той, хто хоча рухацца па сьлядах Ісуса і ўсе свае ўчынкі робіць, прысьвяціўшы сваё жыцьцё таму, каб быць больш падобным да Яго ва ўсіх адносінах.

# Дзеі пасьля Ушэсьця

## Сыходжаньне Сьвятога Духа

Падзею Сыходжаньня Сьвятога Духа яшчэ называюць як дзень Сьвятой Тройцы, Пяцідзесятніца ці Сёмуха. У Старым Запавеце Пяцідзесятніца — гэта Сьвята штогадовага ўспаміну ўзыходжаньня Майсея на вяршыню гары Сінай, дзе зьявіўся яму Бог і заключыў з яго народам Завет, і даў яму Запаведзі, і абяцаў ягонаму народу збаўленьне. У Новым Запавеце Пяцідзесятніца — гэта Сьвята, зьвернутае да будучыні, калі адбудзецца канчатковая перамога Божая, зьдзейсьненая Ім у Сваім стварэньні. Гасподзь паслаў на Сваіх вучняў Сьвятога Духа, Які сышоў на іх у выглядзе вогненных языкоў полымя.

«Калі настаў дзень Пяцідзясятніцы, усе яны былі аднадушна разам. І раптам зрабіўся шум зь неба, як бы ад павеву моцнага ветру, і напоўніў увесь дом, дзе яны былі. І зьявіліся ім языкі падзеленыя, як бы вогненныя, і апусьціліся па адным на кожнага зь іх. І напоўніліся ўсе Духам Сьвятым і пачалі гаварыць на іншых мовах, як Дух даваў ім вяшчаць» (Дзеі 2:1—4).




Марка пошты Ватыкана (1962 г.)

На марцы самы раньні малюнак Спасланьня Сьвятога Духу на апосталаў — мініяцюра ў Эвангельлі Рабулы (6 ст.) — нагадвае іканаграфію Ўшэсьця. Апосталы стаяць на ўвесь рост, у цэнтры — Найсьвяцейшая Багародзіца, на якую Сьвяты Дух у выглядзе Галубкі пралівае чароўнае сьвятло, як ваду ці прамяністы алей гэтак жа, як на мазаіцы Вадохрышча ў арыянскім баптыстэрыі ў Равене Яна пралівае Сваю мілату на Хрыста, а на Апосталаў Сьвяты Дух сыходзіць толькі ў выглядзе агністых пламеньняў, струменяў чароўных энэргій, паказаных увачавідкі.

Пра прысутнасьць Марыі ў Сыёнскай сьвятліцы ў тым часе ў Дзеях Апостальскіх не гаворыцца, аднак факт гэты захаваўся ў Паданьні, і таму Маці Божую працягваюць маляваць на абразах Сёмухі.




Карціна Тыцыяна «Сыходжаньне Сьвятога Духа на Апосталаў» (1555) у самым прыгожым храме Вэнэцыі царкве Санта Марыя делла Салутэ на марцы пошты Гаяны (1993г.)

Сьвяты Дух спачывае ўжо не на Сьвятой Зямлі, не на Скрыні Запавету і не ў Сьвятое Сьвятых Ерусалімскага храму. Ён спачывае на вучнях Хрыста, якія паверылі Ягонай пропаведзі, якія прынялі Ягонае слова, якія, пакінуўшы ўсё, што мелі, і, узяўшы свой

крыж, пайшлі за Ім. Ад гэтага моманту яны — Сьвятая Зямля, яны — Скрыня Запавету і Божы Храм. Сьвяты Дух, які спальвае ўсякую нечысьціню, спачывае на іх у выглядзе агню, але не апальвае іх, бо яны ўжо ачышчаны пакаяньнем і Божым Словам. Ад сёньня яны адно цэлае з Божай сілай, якая будзе магутна дзеяць праз іх, пацьвярджаючы кожнае слова іхняй пропаведзі пра Хрыста шматлікімі знакамі і цудамі. Самае галоўнае, што робіць Дух Сьвяты — гэта дар усынаўленьня Айцом. Ён вядзе нас і пераконвае нас. Без Яго мы не здольныя цярпець для Хрыста і з Хрыстом, без Яго мы не зможам любіць Айца, мы будзем вечна баяцца, будзем вечна рабамі.




Дэталь карціны Эль Грэка «Сыходжаньне Сьвятога Духа» выявілі на марках пошта Ватыкана (1975 г.) і пошта Гішпаніі (1962 г.), (картмаксімум дае ўяўленьне аб усёй карціне)

Эль Грэка сярод Апосталаў зьмясьціў і Апостала Паўла, якога не магло быць сярод Апосталаў, таму што ён яшчэ не быў зьвернуты з Саўла ў Паўла і знаходзіўся ў постаці ганіцеляў хрысьціян.

Калі мы чуем пра дары духоўныя, дары ад Духа Сьвятога, то, канечне ж, і нам таксама хочацца іх атрымаць...

Нехта нават можа сказаць, што ён не можа служыць Богу, бо не атрымаў ад Яго дароў для служэньня. У такім мысьленьні праяўляецца нездольнасьць Богу служыць. Бо для таго, каб служыць Яму — не абавязкова аздараўляць хворых ці маліцца іншымі мовамі. Служэньне само па сабе мае вартасьць. Калі ты хочаш сапраўды служыць Яму, то любая патрэбная справа дасьць табе столькі ж радасьці, колькі і малітва за хворых ці навучаньне. Галоўнае — ведаць і верыць, што ты робіш гэта для Яго. Проста служыш і не чакаеш узнагароды за гэта.

Божы дар, дар Духа Сьвятога, сёньня даецца кожнаму з нас. Кожнаму, хто здольны яго прыняць... І тут узьнікае цяжкасьць. Мерай таго, наколькі мы жывем з Хрыстом, мы становімся здольнымі таксама прыняць Сьвятога Духа, Хрыстовага Духа. А жыць з Хрыстом азначае жыць так, як жыў Ён. Такім самым, вельмі простым, чалавечым жыцьцём. З радасьцю і ў прастаце сэрца здабываючы «штодзённы хлеб», шукаючы Божую волю ў сваім жыцьці, прымаючы, як ад Бога, як добрае, так і злое, і будучы за ўсё ўдзячным Богу. А Бог, які не шкадуе сваіх дароў нават для людзей «чужых» і далёкіх ад Яго, тым больш людзям сваім хутка дасьць свой найбольшы Дар.



Выява карціны «Сашэсьце Сьвятога Духа» Вашку Фэрнандыша (1475 — 1542) не блёку Партугаліі (2012 г.)

Калі добра зразумець гэтую тэму, то становіцца зразумелым вядомае выказваньне

Сьвятога Аўгустына: любі і рабі што хочаш. Паверце, Сьвяты Аўгустын і блізка не заахвочваў да анархіі. Ён добра разумеў, што той, хто сапраўды любіць, не зможа парушаць Божы Закон.

«...ўсе, каго водзіць Дух Божы, — сыны Божыя; бо вы не прынялі Духа рабства, каб зноў жыць у страху, а прынялі Духа ўсынаўленьня, Якім заклікаем: Авва, Войча! Гэты самы Дух сьведчыць духу нашаму, што мы — дзеці Божыя. А калі дзеці, дык і спадкаемцы Божыя, супольныя спадкаемцы Хрыстовыя, калі толькі зь Ім пакутуем, каб зь Ім і праслаўіцца» (Да Рымлянаў 8:14—17).

## Апостал Андрэй

Апостал Андрэй, Андрэй Першазваны (па-старажытнагрэцку: Ἀνδρέας Πρωτόκλητος, Andréas Prōtóklētos) — адзін з 12 вялікіх Апосталаў — вучняў Ісуса Хрыста. Андрэй паходзіў з Бэтсаіды (Галілея). Абодва яны Андрэй і Сымон былі рыбакамі і жылі ў Капэрнауме, на беразе Генісарэцкага возера.

«На другі дзень зноў стаяў Ян і двое вучняў ягоных; і, угледзеўшы Ісуса, Які ішоў, сказаў: вось Ягня Божае. Пачуўшы ад яго гэтыя словы, абодва вучні пайшлі за Ісусам» (Яна 1:35—37).




Марка пошты Бапутатсваны (1981 г.) з цытатай: «Вось Ягня Божае, Якое бярэ на Сябе грэх сьвету...» (Паводле Яна 1:29)

«Адзін з двух, што чулі пра Ісуса ад Яна і што пайшлі сьледам за Ім, быў Андрэй, брат Сымона Пятра. Ён першы знаходзіць брата свайго Сымона і кажа яму: мы знайшлі Мэсію, што азначае: Хрыстос» (Паводле Яна 1:40,41).

Як бачым, па сьцьверджаньню Эвангельля паводле Яна, Андрэй быў адным з вучняў Яна Хрысьціцеля й яшчэ раней, чым яго брат Сымон (Пётр), быў заклiканы на Апостальства, а таму ў грэцкіх рэлігійных паданьнях называецца Першазваным. Разам са сваім братам Сымонам (Пятром) і двума сынамі Зэвядзея (Якавам і Янам), таксама Апосталамі, лічыцца самым блізкім вучнем Хрыста.




Дуча ды Буанінсэнья (італ. Duccio di Buoninsegna) — «Пакліканьне Апосталаў Пятра і Андрэя». Нацыянальная галерэя мастацтваў (Вашынгтон). Марка пошты краіны Рас-эль-Хайма (1970 г.)

У сынаптычных Эвангельлях апісана сцэ-на пакліканьня галілейскіх рыбакоў Андрэя і Пятра, якая адбылася пазьней на беразе Генісарэцкага возера, пасьля чаго браты ўжо не пакідалі Ісуса і паўсюль спадарожнічалі яму.

«А праходзячы каля мора Галілейскага, убачыў Сымона і Анд-рэя, брата ягонага, якія закідвалі мярэжы ў мора, бо яны былі рыбакі. І сказаў ім Ісус: ідзеце за Мною, і Я зраблю вас лаўцамі людзей. І яны адразу, пакінуўшы мярэжы свае, пайшлі за Ім» (Паводле Марка 1:16—18).




Пошта Ватыкану ў 2000 годзе выпусьціла марку з фрэскай працы Даменіка Гірландая, напісаная ў пэрыяд 1481—1482 гг. «Пакліканьне першых Апосталаў» (італ. Vocazione dei primi apostoli). Разьмешчана ў Сыкстынскай капэле, Ватыкан

У цэнтры фрэскі возера ў горнай даліне. Зьлева намаляваныя рыбакі Пётр і Андрэй у момант, калі Ісус, стоячы на беразе, заклікаў іх да сябе. Справа намаляваны больш позьні момант з Эвангельскага апісаньня, калі Ісус, ужо разам з Пятром і Андрэем, заклікае Яна і Якава, якія чыняць сетку ў лодцы на возеры. На пярэднім пляне Пётр і Андрэй, ужо апранутыя ў плашчы традыцыйных колераў (жоўты або аранжавы для Пятра, зялёны для Андрэя), намаляваныя ўкленчанымі перад Ісусам, які ўрачыста дабраслаўляе іх. Акрамя таго, на пярэднім пляне прысутнічае мноства назіральнікаў у сучаснай аўтару вопратцы, іх асобы належаць флярэнтыйцам, якія пражывалі ў той час у Рыме.

Пасьля Зыходу Сьвятога Духа на Апосталаў, Сьвяты Андрэй абвяшчаў Эвангельле ў Малой Азіі, Фракіі, Македоніі, дайшоў да Дуная, прайшоў узьбярэжжа Чорнага мора, Крым. У кнізе «Беларусь далетапісная» ёсьць разьдзел, прысьвечаны вандраваньню па нашых землях апостала Андрэя Першазванага.

Пра вандраваньне Апостала Андрэя распавядаў летапісец Нестар у «Аповесьці мінулых гадоў». Ён сьцьвярджаў, што Апостал Андрэй узьнімаўся ўверх па Дняпры, і дайшоў да месца, дзе цяпер стаіць горад Кіеў. Тут ён спыніўся на начлег. Устаўшы ранкам, ён сказаў сваім вучням: «Бачыце гэтыя горы? На гэтых горах зазьзяе ласка Божая, будзе вялікі горад і Бог збудуе тут шмат цэркваў!»




На марцы пошты Украіны (1999 г.) царква Сьвятога Андрэя Першазванага з анёлам ў Кіеве, збудаваная мясцовымі дойлідамі на месцы, дзе, паводле паданьня, быў узьведзены крыж Апосталам Андрэем Першазваным у час яго падарожжа на Поўнач (паводле «Аповесьці мінулых гадоў»)

А вось аўтары «Магілёўскай хронікі», напісанай у сямнаццатым стагодзьдзі, даносяць нам, што Апостал спыняўся і там, дзе цяпер Магілёў, благаславіўшы гэтыя мясьціны. Памаліўшыся, ён пайшоў далей да месца, дзе цяпер стаіць Ноўгарад. Адтуль ён накіраваўся ў Рым, а пасьля ў Фракію. Па дарозе ён нёс людзям Добрую Вестку пра Хрыста, не зважаючы на вялікія цярпеньні і перасьледаваньні ад паганаў. Апошнім горадам, у які прыйшоў Апостал Андрэй у 62 годзе, быў горад Патры. Тут ён учыніў шмат цудаў, аздараўленьняў, палымяна прапаведаваў Хрыста, навяртаў паганаў. Гэта ўгнявіла мясцовага кіраўніка Эгеата, які прыгаварыў Сьвятога да расьпяцьця на Х-падобным крыжы. Два дні Сьвяты Апостал пра-

паведаваў і навучаў людзей з крыжа, а пасьля памёр.



На марцы пошты Гамбіі (2000 г.) рэпрадукцыя карціны Рызі Францыска (Francisco Rizi) «Сьвяты Андрэй», 1646. Музэй Прада «Пакутніцтва Сьв. Андрэя» карціна Мурыльё, Барталамэ Эстэбана, 1675 — 1682. Нацыянальны музэй Прада на марцы з блёку пошты Рэспублікі Гвінэя (2012 г.)
Рубенс «Пакутніцтва Сьвятога Андрэя». Фонд Карлас Антвэрпэна, Мадрыд. Марка пошты Гішпаніі (1994 г.)

Дыяганальны крыжрэлікварый, у які ўклалі часткі крыжа Апостала Андрэя захоўваецца ў саборы Патры на паўвостраве Пелапанэс (Грэцыя).

Пры імпэратары Канстантыне Вялікім мошчы Сьвятога Апостала Андрэя былі ўрачыста перанесены ў Канстантынопаль і пакладзены ў храме Сьвятых Апосталаў.

## Камень веры

Апостал Пётр (Сымон) нарадзіўся ў Віфсаідзе на паўночным беразе Галілейскага возера ў сям'і простага рыбака Ёны. Ён быў жанаты і разам са сваім братам Андрэем зарабляў рыбнай лоўляй. Імя Пётр (Petrus — ад грэцкага слова «камень», «скала», арамейскае «кефас») яму даў Ісус, які, сустрэўшы Сымона і Андрэя, сказаў ім: «Ідзіце за мной, я вас зраблю лаўцамі чалавекаў».

Стаўшы Апосталам Хрыста, Пётр заставаўся зь ім да канца зямнога жыцьця Ісуса, стаўшы адным з каханых вучняў. Па характары Пётр быў вельмі жывы і запальчывы: менавіта ён пажадаў ісьці па вадзе, каб падысьці да Ісуса. Ён жа адсек вуха рабу першасьвятара ў Гефсіманскім садзе.

У ноч пасьля арышту Ісуса Пётр, як і прадказваў Настаўнік, баючыся наклікаць на сябе непрыемнасьці, тройчы зрокся Хрыста. На ўласным прыкладзе першы з Апосталаў убачыў, як лёгка можна стаць апошнім. І толькі пасьля пакутных сьлёз Пятра прагучалі зьвернутыя да яго слова Выратавальніка: «...Пасі авечак Маіх» (Яна 21: 17).

Але перш Ён задаў яму вельмі простае пытаньне: «Ці любішш ты Мяне?» Задаў яго тройчы, так што Пётр нават знэрваваўся, але пасьля ночы з пеўнем гэта было не лішнім: тройчы ён зрокся тройчы паспавядаў сваю любоў.

Пётр першым, не разважаючы, адказаў Ісусу, які спытаўся вучняў, што яны пра яго думаюць, «Ты ёсьць Хрыстос, сын Бога жывога» і, не гледзячы на ўсё, з усіх Апосталаў Пётр першым убачыў Уваскрэслага Хрыста.

Усе гэтыя падзеі апісаныя ў папярэдніх артыкулах.

Па Ўшэсьці Ісуса Хрыста Сьвяты Пётр, як вярхоўны сярод Апосталаў, зьявіўся першым настаўнікам і прапаведнікам Слова Божага, павялічыўшы лік веруючых на тры тысячы за адзін дзень. Апостал Пётр прапаведаваў вучэньне Хрыста ў розных краінах і зьдзяйсьняў незвычайныя цуды: уваскрашаў мёртвых, вылечваў хворых і нямоглых.

«Пётр і Ян ішлі разам у храм а дзявятай гадзіне малітвы. І быў чалавек, кульгавы ад улоньня маці ягонай, якога насілі і садзілі кожнага дня каля дзьвярэй храма, што називаліся Прыгожымі, прасіць міласьціны ў тых, што ўваходзілі ў храм; ён, убачыўшы

Пятра і Яна каля ўваходу ў храм, прасіў у іх міласьціны. Пётр зь Янам, прыгледзеўшыся да яго, сказаў: зірні на нас. І той пільна глядзеў на іх, спадзяючыся атрымаць ад іх што-небудзь. Але Пётр сказаў: срэбра і золата няма ў мяне, а што маю, тое даю табе: у імя Ісуса Хрыста Назарэя ўстань і хадзі. І, узяўшы яго за правую руку, падняў; і раптам умацаваліся ў таго ступакі і калені, і, ускочыўшы, устаў, і пачаў хадзіць, і ўвайшоў зь імі ў храм, пахаджаючы і падскокваючы, і славячы Бога...» (Дзеі 3:1—8).




На марцы пошты Тога, выдадзенай у 1968 годзе, выява аднаго з габэленаў Рафаэля «Вылячэньне кульгавага» (1515. Лёндан. Музэй Вікторыі і Альберта)

Калека сядзіць на падлозе, не зводзячы ўмольнага погляду са стаячага перад ім Пятра, які, моўчкі ўзяўшы руку няшчаснага, пільна глядзіць на яго. За імі са зласьлівай зайздрасьцю назірае зза калёны іншы кульгавы. Побач з Пятром Ян, за яго сьпіной бачная галава сьвятара, на твары якога нявера ў цуд. Вакол тоўпяцца людзі, на тварах якіх жывая цікавасьць да падзеі ці поўныя абыякавасьць да чужога няшчасьця.

Паміж 1425 і 1428 гг. Мазача (Тамаза дзі Джавані дзі Сімонэ Касаі Гвідзі) у садружнасьці з Мазаліна ды Панікалі выконвае размалёўкі ў капэле Бранкачы ў царкве СантаМарыя дэль Карміне ў Флярэнцыі, якія сталі галоўнай працай нядоўгага жыцьця жывапісца. Сюжэты фрэсак узятыя з «Дзеяў Апосталаў». Большасьць прысьвечаныя жыцьцю Апостала Пятра. Дзьве фрэскі Мазача адлюстраваныя на блёку Цэнтральна — Афрыканскай Рэспубліке (2014 г.)




Фрэскі Мазача на блёку пошты Цэнтральна — Афрыканскай Рэспубліке (2014 г.)

На полі блёку відарыс фрэскі, сюжэт якой узяты з «Дзей Апосталаў» (4:32—37 і 5:1—11). У гэтай частцы кнігі апісваецца, як раньнехрысьціянская абшчына зьбірала маёмасьць у агульнае карыстаньне, каб раздаваць яго ў адпаведнасьці са справядлівымі прынцыпамі. Аднак нехта Ананія, прадаўшы свой маёнтак, пры ўступе ў абшчыну ўтаіў частку выгандлеваных грошай. Пасьля дакорлівых слоў Апостала Пятра Ананію ахапіў такі страх, што ён сканаў.




Дэталі гэтай фрэскі бачым на марках пошты Ватыкану (1960 г.) і Італіі (1978 г.)

Мазача ў гэтай фрэсцы намаляваў два сюжэты: Пётр раздае маёмасьць, ахвяраваную апосталам, і сьмерць Ананіі, чыё нежывое цела ляжыць поруч ног Яна.

На наступнай марцы Італіі выява фрэскі Мазача, на якой намалёвана, як вернікі выносілі хворых на вуліцы Ерусаліма ў надзеі на тое, што Пётр сваім ценем ахіне каго небудзь зь іх і ён выздаравее. Людзі прыязджалі нават з іншых паселішчаў, і ўсе вылечваліся. (Дзеі 5:15,16).




Фрэску «Апостал Пётр, які вылечвае хворага сваім ценем» разьмясьціла на сваёй марцы пошта Італіі ў 2001 годзе

У 1512 годзе геній эпохі Высокага Адраджэньня Рафаэль прыступіў да маляваньня фрэсак у другім пакоі апартамэнтаў Папы Юлія II Ватыканскага палацу — станцы д'Эліадора. Сюжэт адной з фрэсак — «Вызваленьне Апостала Пятра з вязьніцы» быў узяты з «Дзеяў Апосталаў» (Дзеі 12:1—8), бо быў адмыслова прыхільны Папа Юлій II да рымскай царквы Сан Пьетра ін Вінколі (Сьвяты Пётр у ланцугах), дзе захоўваліся тыя самыя ланцугі, у якіх Апостал Пётр знаходзіўся ў вязьніцы.

«Тым часам цар Ірад падняў рукі на некаторых людзей царквы, каб зрабіць ім ліха, і забіў Якава, брата Янавага, мечам; а ўбачыўшы, што гэта даспадобы Юдэям, сьледам за тым узяў і Пятра, — тады былі дні праснакоў, — і, затрымаўшы яго, пасадзіў у цямніцу і загадаў чатыром чацьверыкам воінаў вартаваць яго, маючы намер пасьля Пасхі вывесьці яго да людзей. І так Пятра вартавалі ў цемры; тым часам царква рупліва малілася за яго Богу. Калі ж Ірад хацеў вывесьці яго, у тую ноч Пётр спаў паміж двума воінамі, скаваны двума ланцугамі, і ахова каля дзьвярэй вартавала цямніцу. І вось, анёл Гасподні стаў перад ім, і сьвятло азарыла цямніцу; анёл, штурхнуўшы Пятра ў бок, разбудзіў яго і сказаў: устань хутчэй! І ланцугі апалі з рук ягоных. І сказаў яму анёл: падперажыся і абуйся. Ён зрабіў так. Пасьля кажа яму: апрані адзежу тваю і ідзі за мною» (Дзеі 12:1—8).




Фрэска Рафаэля «Вызваленьне Пятра» на марцы Рэспублікі Нігер (1983 г.)

У цэнтры — анёл схіляецца над сьпячым Апосталам Пятром, у правай частцы — анёл асьцярожна выводзіць Пятра з вязьніцы, а ў левай частцы вартаўнікі, якія прачнуліся, паднімаюць трывогу пасьля зьнікненьня Пятра.




Пошта краіны Антыгуа і Барбуда 6 кастрычніка 2000 выпусьціла ў зварот сэрыю «Жывапіс з музэя Прада». На адным з блёкаў наміналам 6 даляраў карціна Рыберы «Вызваленьне Апостала Пятра»

Гэтай жа падзеі вызваленьнея Пятра прысьвяціў сваю працу гішпанскі мастак Юзэпэ дэ Рыбера (Jusepe de Ribera, мянушка Спаньалета — Маленькі гішпанец,

пасьлядоўнік Караваджа, жыў і працаваў у Нэапалі.).

Царкоўны гісторык Эгезіп паведамляе, што калі Сьвятога Пятра шукалі для забіцьця, сябры прасілі яго ўцячы з Рыма.




«Зьява Хрыста Сьвятому Пятру на Апіевай дарозе» — Анібале Карачы — (1602). Брытанская Нацыянальная галерэя. Відарыс карціны на марцы пошты Ангілы (1971 г.)

Схіліўшыся на сьлёзныя маленьні Пётр даў абяцаньне сысьці з горада і, разьвітаўшыся з усімі пасьля саборнага маленьня, выдаліўся адзін. Калі ён быў ля гарадзкіх варот, то ўбачыў ідучага ў горад Ісуса Хрыста; пакланіўшыся яму, Сьвяты Пётр спытаў:

— Куды ідзеш, Ісусе?

— Іду ў Рым, каб ізноў укрыжавацца, — адказаў яму Бог і стаў нябачны.

Зьдзіўлены Апостал зразумеў, што яму трэба вярнуцца ў Рым.

«Куды ідзеш» — так назваў свой славуты раман Генрык Сянкевіч («Quo vadis», 1896), прысьвечаны драматычным падзеям хрысьціянства часоў Нэрона. Аўтар гэтага рамана, уганараваны ў 1905 годзе Нобэлеўскай прэміяй.




У 2001 годзе пошта Польшчы выпусьціла ў зварот сувэнірны ліст з маркамі, на якіх адлюстраваныя кадры з фільма «Quo vadis»

На адной зь іх Апостал Пётр у рымскіх катакомбах падчас таемных малітваў хрысьціян, на другой — фігура Апостала Пятра і сцэна, у якой ён дабраслаўляе патрыцыя Вініцыя і хрысьціянку Лігію.

Пётр вярнуўся ў Рым і быў арыштаваны. Падчас ганеньняў Нэрона на хрысьціян Апостал Пётр быў раскрыжаваны на перавернутым крыжы ў 64 годзе (па іншай вэрсіі ў 67—68) уніз галавой, аб чым маліў сваіх катаў, паколькі Пётр лічыў сябе нявартым памерці так, як памёр Хрыстос.




Да 450-годзьдзя з дня сьмерці Мікеланджэла пошта Ватыкана ў 2014 г. выпусьціла марку з карцінай Мікеланджэла «Укрыжаваньне Сьвятога Пятра» з Капліцы Паоліна Апостальскага Палаца. Пошта Мальты ў 1967 г. адлюстравала ўкрыжаваньне Пятра з нагоды 1900 -х угодкаў яго пакутніцкай сьмерці Сьвятых Пятра і Паўла

Пакутніцкая сьмерць была свайго роду ўмовай апостальства. Вучань яго, Сьвяты

Клімэнт, запытаўшы цела Апостала, зьняў яго з крыжа і пахаваў з гонарам на Ватыканскім узгорку.



Карціну «Укрыжаваньне апостала Пятра», створаную мастаком Мэрызі ды Караваджа ў 1600 годзе, надрукавала пошта Сувэрэннага Мальтыйскага ордэна ў 1988 г. з выкананьнем картмаксімума і спэцгашэньнем

Цяпер карціна захоўваецца ў капэле Чэразі царквы Санта-Марыя дэль Попала ў Рыме.

Пакутніцкая сьмерць была свайго роду ўмовай апостальства. Вучань яго, Сьвяты Клімэнт, запытаўшы цела Апостала, зьняў яго з крыжа і пахаваў з гонарам на Ватыканскім узгорку.

Пошта Мальты ў 1967 годзе адлюстравала ўкрыжаваньне Пятра з нагоды 1900-х угодкаў пакутніцкай сьмерці Сьвятых Пятра і Паўла

Апосталы Пётр і Павел на першым Ерусалімскім саборы Царквы ў 51 годзе вырашылі складанае пытаньне царкоўнага жыцьця: ці павінны хрысьціяне, зьвернутыя з паганства, выконваць юдэйскі Закон? Пётр выступаў за строгасьць, Павел — за разуменьне і павагу да людзей іншай культуры. Рашэньне гэтай праблемы стала кампрамісным: былых язычнікаў не абцяжарылі выкананьнем старазапаветных нормаў, за выключэньнем забароны на блуд і ўжываньне ідалаахвярнага і крыві.

Пошта Ватыкану шмат увагі надае тэмам, прысьвечаным Апосталу Пятру.



Над месцам пахаваньня Апостала Пятра ў цяперашні час разьмешчаны галоўны алтар (марка Ватыкана 1967 году) Сабора Сьвятога Пятра (марка Ватыкана 1933 год)

Акрамя адрозьненьняў у поглядах, у Пятра і Паўла была агульная любоў — Хрыстос. Ідучы за Ім, яны маглі знаходзіць агульную мову адзін з адным і дзейнічаць на карысьць Касьцёла, не разьдзіраючы яго супярэчнасьцямі, а змацоўваючы мудрымі рашэньнямі. Кожны зь іх, прытрымліваючыся сваіх перакананьняў, мог і пачуць іншага і абмяркаваўшы, знайсьці рашэньне.



4 лютага 2000 года Ватыкан выпусьціў сэрыю марак у сувязі са Сьвятым 2000 Годам чатырох галоўных базылік Рыма. Над базылікай Сьвятога Пятра мазаіка Сьвятога Пятра, разьмешчаная над Сьвятымі варотамі. На марцы Зямлі СААР з сэрыі «Сьвяты год» (1950г.) бронзавая статуя Пятра ў Саборы Сьвятога Пятра ў Рыме.
У 1938 годзе пошта Ватыкана выпусьціла ў зварот марку з выявай статуі Сьвятога Пятра скульптара Джузэпэ Дэ Фабрыса (1790—1860) перад базылікай Сьвятога Пятра.
У правай руцэ Пётр трымае ключ, а ў левай руцэ скрутак. За Пятром на балюстрадзе базылікі фігуры Апосталаў.

На іконах Апостал Пётр і Апостал Павал практычна заўсёды разам, нярэдка нават абдымаць адзін аднаго. Але ў сваім зямным жыцьці яны бачыліся ўсяго некалькі разоў, прычым у іх былі сур'ёзныя рознагалосьсі і канфлікты. Чаму ж у царкоўную традыцыю яны ўвайшлі неразлучнымі?




У 2006 годзе пошта Ватыкану выдала сэрыю марак, прысьвечаных 500-годзьдзю з дня сьмерці Андрэа Мантэны. На адной з марак відарыс левай дошкі Алтара царквы Сан дзэн у Вэроне з выявай Апосталаў Пятра і Паўла, Эвангеліста Яна і Сьв. Зянона. Марка Ватыкана (1961 г.) з выявай Апосталаў Пятра і Паўла, якую знайшлі ў рымскіх катакомбах на саркафагу 12-гадовага дзіцяці (2-е стагодзьдзе). У сэрыі «Музэйныя экспанаты» пошта Сэрбіі ў 2015 годзе пусьціла ў зварот марку з гравюрай 1815 года з выявамі Сьвятога Пятра і Паўла. Праца невядомага аўтара

Апосталы Пётр і Павал былі вельмі рознымі людзьмі, але ў гісторыю Касьцёла яны ўвайшлі разам бо абодва Апостала прысьвяцілі свае жыцьці Ісусу. Абодва Апостала прынялі пакутніцкую сьмерць за веру Хрыстову ў адзін дзень у Рыме. Павал, як рымскі грамадзянін, «сьсечаны мячом» (гэта значыць абезгалоўлены), Пётр укрыжаваны.

Усе людзі розныя. У гэтым наша слабасьць, але ў гэтым і наша сіла. Калі мы будзем спрачацца і да хрыпаты даказваць сваю правату, кожны застанецца сам на сам са сваёй праўдай. Калі мы навучымся чуць адзін аднаго і знаходзіць агульную мову, кожны з нас стане багацей, а разам мы будзем сілай, здольнай зьмяніць сьвет да лепшага. Хай прыклад Сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла паслужыць нам прыкладам таго, што гэта магчыма.

## Апостал Павал

*Сьвяты Павал з Тарсу — адна з самых яркіх зорак у сьвеце хрысьціянскага грамадзтва і самых таленавітых галасоў, якія калі-небудзь было дадзена, каб пачуць чалавецтву. Апостал народаў прыцягнуў велізарную колькасьць язычнікаў, якія жылі да гэтага ў цені сьмерці. Да такой ступені атаясамляў сябе з Ісусам Хрыстом, што ён мог пра сябе сказаць: «Праз закон я памёр для закона, каб жыць дзеля Бога. Я ўкрыжаваўся з Хрыстом, і ўжо ня я жыву, а жыве ўва мне Хрыстос. А што цяпер жыву ў целе, дык жыву вераю ў Сына Божага, Які палюбіў мяне і аддаў Сябе за мяне». (Да Галятаў 2:19,20)*

**1.Фарысэй Саўл**

Саўл нарадзіўся ў галоўным горадзе Кілікіі — пладароднай мясьціне паўднёва-заходняй часткі Малой Азіі — Тарсе. Бераг Міжземнага мора знаходзіўся ў некалькіх кілямэтрах ад горада. Насельніцтва Тарса — збор розных народаў, якія суіснавалі пад уладаю Рыма. Габрэі прыйшлі сюды пасьля развалу імпэрыі Александра Македонскага. Бацька будучага Апостала займаўся вытворчасьцю намётаў, якія гатаваліся са ску-

ры і знакамітай асобнай «кілікійскай воўны», якую давалі чорныя авечкі і якія па сёньняшні дзень пасьвяцца на схілах Таўра. Рымскае грамадзянства ставіла сям'ю Паўла ў даволі высокае становішча і давала нашчадкам прывілеі ва ўсіх кутках вялікай імпэрыі. Юдэйскае Імя Саўл, што азначае «той, пра каго прасілі», хлопчык атрымаў пад час абразаньня, на восьмы дзень ад свайго нараджэньня. Бацькі Паўла былі фарысэямі, належалі да самай нацыяналістычна настроенай часткі габрэяў, якая безумоўна падпарадкоўвалася закону Майсея. З маленства Павал старанна вывучаў тэксты Сьвятога Пісаньня ў школе пры тарсыйскай сынагозе. Ва ўзросьце трынаццаці гадоў, ён ужо добра ведаў гісторыю габрэйскага народу, разумеў паэзію псальмаў і прозу прарокаў. Пяць ці шэсьць гадоў Павал вывучаў Сьвятыя тэксты так, каб разумець першапачатковы сэнс Пісаньня і захоўваць габрэяў ад магчымых парушэньняў Закону пад кіраўніцтвам духоўнага настаўніка Гамаліііла ў Ерусаліме. Пасьля вучобы Павал вяртаецца дадому ў Тарс, каб набыць гандлёвыя навыкі, бо гэта была абавязковая ўмова для будучых рабінаў. Павал працаваў у хатнім бізнэсе па вырабу намётаў. Ён прапаведаваў у сынагозе і нават імкнуўся навяртаць богабаязных язычнікаў з прымусам шанаваць усе юдэйскія традыцыі. У трыццацігадовым узросьце Саўл вяртаецца ў Ерусалім, каб прыняць актыўны ўдзел у зьнішчэньні руху, які быў выкліканы пропаведзямі Ісуса Хрыста.

Два гады прайшло ад укрыжаваньня Ісуса Хрыста, але ў Ерусаліме заставалася шмат людзей, якія бачылі, чулі Хрыста і якія верылі, што Ён уваскрэс зь мёртвых. Адным зь іх быў Стэфан. Стэфан казаў, што Ісус жывы і што ён ведае Яго. Павал выклікаў Стэфана на дыспут. Ён сьцьвярджэньне выказваў, што не было ніякага Ўваскрэсеньня і што цела Ісуса было скрадзенае Ягонымі вучнямі. Больш таго, сьцьвярджаў ён, Мэсія павінен прыйсьці ў славе Госпадняй, прыйсьці пераможцам, а ня быць кінутым Богам для ўкрыжаваньня. Стэфан, у сваю чаргу, спасылаўся на Майсея і прарокаў, якія казалі, што Збаўца ня прыйдзе пераможцам, але аддасьць Сябе на пакуты і будзе забіты, каб уваскрэснуць зь мёртвых.




Выява карціны гішпанскага мастака Хуана дэ Хуанэса (Juan de Juanes) «Стэфан ў сынагозе» (Музэй Прада, Мадрыд) на марцы Гішпаніі (1979 г.)

На гэтым дыспуце перамог Стэфан і Павал, у «лепшых» фарысэйскіх традыцыях, пачаў перасьледаваць Стэфана. У горадзе пачаліся хваляваньні і ўлады вырашылі за лепшае арыштаваць Стэфана, каб аддаць яго на суд Сынэдрыёну. Разьюшыла судзьдзяў і слухачоў тая частка выступу Стэфана, дзе яны пачулі папрок за забойства Сына Божага. Усё гэта скончылася забіцьцём Стэфана пад Скалою Пакараньняў. «...і, вывеўшы за горад, пачалі біць яго камянямі. А сьведкі паклалі сваю адзежу да ног юнака, якога звалі Саўлам. І білі камянямі Сьцяпана, які маліўся і казаў: Госпадзе Ісусе! прымі дух мой! І, схіліўшы калені, усклікнуў моцным голасам: Госпадзе! ня лічы ім грэху гэтага! І, сказаўшы гэта, спачыў» (Дзеі 7:58—60).

Павал ня кідаў камяні забойства, але ён сьцярог адзеньне забойцаў і чуў апошнія словы Стэфана: «Госпадзе! Ня лічы ім грэху гэтага».



Рэмбрант Харменс ван Рэйн «Пабіцьцё камянямі Сьв. Стэфана» (1625) (Ліён, Музэй мастацтваў) на блёку пошты СэнтВінсэнта (2003 г.)

На заднім пляне сядзіць юны Саўл — будучы апостал Павал.




Карціна «Сьвяты Стэфан» Луіса дэ Маралеса на марцы Гішпаніі (1970 г.)

На галаве Сьвятога, першага хрысьціянскага мучаніка, спачывае камень, па яго шчоках коцяцца сьлёзы і струменьчык крыві на яго шыі. Вочы накіраваны да неба, як бы сьведчаць: вось, бачу я нябёсы расчыненыя і Сына Чалавечага, Які стаіць праваруч Бога (Дзеі 7:56).

Цяпер Саўл стаў прымушаць вернікаў Хрыстовых адракацца ад Яго пад пагрозамі цяжкага пакараньня.

Ён сам пазьней так раскажа аб ганеньнях хрысьціян, якія ён рабіў: «я Юдэй, нарадзіўся ў Тарсе Кілікійскім, выгадаваны ў гэтым горадзе ў нагах у Гамалііла, рупліва настаўлены ў бацькоўскім законе, шчыры слуга Божы, як і ўсе вы сёньня. Я нават да сьмерці гнаў пасьлядоўнікаў гэтага вучэньня, вяжучы і аддаючы ў цямніцу і мужчын і жанчын...» (Дзеі 22:2—4).

### 2. Тераўтварэньне Саўла

На пачатку вясны Саўл у суправаджэньні памочнікаў выехаў зранку ў накірунку Дамаска. «Як засьведчаць пра мяне першасьвятар і ўсе старэйшыны, ад якіх і пісьмы ўзяў да братоў у Дамаску, я ішоў, каб тамтэйшых прывесьці ў аковах у Ерусалім на катаваньне» (Дзеі 22:5).



Картмаксімум пошты Мальтыйскага Ордэну (1984 г.) з выявай карціны Мікеланджэла Мерызі ды Караваджа. Цяпер карціна «Пераўтварэньне Саўла» захоўваецца ў Рыме, у царкве Санта Марыя дэль Попала, капэла Чэразі

На пяты дзень падарожжа Саўл дасягнуў Галілейскага мора, дзе здавалася кожны камень казаў пра Ісуса жывога, бо гэтая зямля поўнілася ўспамінам пра Яго, пра Ягонае жыцьцё і Ягонае служэньне. «І калі я быў у дарозе і падыходзіў да Дамаска, пад полудзень раптам азарыла мяне вялікае сьвятло зь неба. Я ўпаў на зямлю і пачуў голас, які казаў мне: Саўле! Саўле! чаго ты

гоніш Мяне? Я адказваў: хто Ты, Госпадзе? Ён сказаў мне: Я Ісус Назарэй, Якога ты гоніш. Тыя, што былі са мною, бачылі сьвятло і перапалохаліся, але голасу Таго, Хто ґаварыў да мяне, ня чулі. Тады я сказаў: Госпадзе! што мне рабіць? А Гасподзь сказаў мне: устань і ідзі ў Дамаск, і там табе сказана будзе ўсё, што назначана табе рабіць» (Дзеі 22:6—10).




Гэта падзея адлюстравана таксама на малым лісьце пошты Ватыкану, надрукаваным у 2009 г. На ім відарыс габэлену Рафаэля «Перамяненьне Саўла»

Павал паверыў Госпаду і пакорна падпарадкаваўся першаму, няхай і простаму загаду. Сьляпы Саўл пачаў свой невядомы шлях і было некалькі дзіўна, што цемра ў вачах асьвятлялася духоўным сьветам. Божае сьвятло напаўняла ўсю ягоную душу і ён ішоў наперад.




«Перамяненьне Саўла» па дарозе ў Дамаск. Марка Ватыкану (2014 г.). Старажытны горад Дамаск на марцы пошты Сірыі (1991г.)

Караван са сьляпым Саўлам прыйшоў да дому Юды, багатага юдэйскага купца і начальніка мясцовай сынагогі. Саўла чакалі. Чакалі з радасьцю мясцовыя фарысэі, але зь вялікім жахам чакалі Саўла і «назарэі».

Саўл нічога не запрасіў у гаспадара дома. Ён адмовіўся ад ежы і зьвярнуўся да пакаяннай псальмы Давіда, але з новым разуменьнем і ўсьведамленьнем граху праз ахвярную сьмерць Ісуса Хрыста: «Зьлітуйся, Божа зь мяне ў вялікай ласцы Тваёй, і ў мностве шчадротаў Тваіх загладзь беззаконьні мае! Адмый мяне шматкроць ад беззаконьня майго, і ад грэху майго ачысьці мяне: бо беззаконьні мае я ўсьведамляю, і грэх мой заўсёды перада мною. Табе, Табе аднаму я зграшыў і прад вачыма Тваімі благое ўчыніў: таму справядлівы Ты будзеш у прысудзе Тваім, і чысты ў судзе Сваім».

Ананія, пасланец Госпада да Саўла, прыйшоў да яго зранку, каб ускласьці на яго руку і па волі Божай вярнуць яму зрок. Гасподзь сказаў Ананію: «ідзі, бо ён ёсьць Мой выбраны посуд, каб абвяшчаць імя Маё перад народамі і царамі і сынамі Ізраілевымі; і Я пакажу яму, колькі ён павінен адпакутаваць за імя Маё».

Ананія абвясьціў Саўлу волю Божую: «Бог бацькоў нашых наперад выбраў цябе, каб ты ўведаў волю Ягоную, убачыў Праведніка і пачуў голас з вуснаў Ягоных, бо ты будзеш Яму за сьведку перад усімі людзьмі ў тым, што ты бачыў і чуў; дык вось, чаго ж ты марудзіш? Устань, ахрысьціся і змый грахі твае, заклікаўшы імя Госпада Ісуса».

Ананія ахрысьціў Саўла. І Саўл, маючы характар гняўлівы і неспакойны, адчуў мір у сэрцы сваім. Ён па новаму адчуваў словы Давіда: «Добра зрабіў Ты рабу Твайму, Госпадзе, паводле слова Твайго. Добраму разуменьню і веданьню навучы мяне, бо запаведзям Тваім я веру. Пакуль я цярпеў, я блукаў; а сёньня слова Твайго трымаюся».

Першая спроба пропаведзі пра Ісуса Хрыста скончылася вынікам адмоўным і

Саўл адчуў сябе падобна Майсею, якога таксама па першаму выступу не зразумелі габрэі Егіпта. І Саўл на тры гады зьяжджае ў Аравійскую пустыню, каб вучыцца — вучыцца ў васкросшага Ісуса Хрыста.




Пошта Егіпту ў 2004 годзе выпусьціла сэрыю марак «Адкрыйце для сябе скарбы Егіпта». На адной зь іх пустыня — выгляд з гары Сінай

Вяртаньне Саўла ў Ерусалім ня дало значных вынікаў, але вельмі значным было тое, што ён на працягу пятнаццаці дзён амаль бесьперапынна слухаў Апостала Пятра пра Ісуса Хрыста.




Пошта Гішпаніі ў 1961 годзе адлюстравала на марцы карціну мастака Хасэ Марыя Сэрт і Бадзія «Сьвяты Пётр і Сьвяты Павал»

Каб пазьбегнуць непрыемнасьцей у Ерусаліме, Саўл вяртаецца дадому, у Тарс. Два далейшых года жыцьця ў Тарсе не былі «салодкімі» для будучага Апостала. Сям'я ніяк не зразумела ягоны адыход ад юдэйскіх традыцый. Ён, па меншай меры тры разы адчуў на сабе тое цяжкае пакараньне — «сорак удараў без аднаго» за невыкананьне Закону Майсеева.

Пазбаўлены дома і сям'і, згубіўшы грамадзкае становішча, Саўл схаваўся недзе ў пячоры Таўра. Гісторыкі кажуць, што гэта было ў 41 ці 42 годзе па Раству Хрыстову. Кажуць, што захавалася і сама пячора пад назваю «Пячора Сьвятога Паўла».

Атрымаўшы ад Госпада дабраславеньне, Саўл зразумеў, што гатовы аддаць усяго сябе на служэньне Ісусу Хрысту. І вось, гэты саракалетні, амаль што лысы, крываногі чалавек, слабы фізычна, але моцны духам, у адзіноцтве і невядомасьці выйшаў з пячоры, каб казаць пра Ісуса Хрыста.




З нагоды Тысячагодзьдзя нараджэньня Апостала Паўла пошта Мальтыйскага Ордэну ў 2008 годзе выпусьціла прыгожы блёк з выяваю Алтара царквы Сьвятой Тройцы ў Вітэрбо, намаляванага італьянскім мастаком Іпаліта Рамана ў 1537 годзе

Ісус уручае ключы Сьвятому Пятру ў прысутнасьці Сьвятога Паўла. Унізе — заказчык карціны для Алтара — кардынал Эгідыо да Вітэрбо з сястрой Пацыфікай Антоніяй.

**3. Першае мэсійнае падарожжа Апостала Паўла**




Першае падарожжа Апостала Паўла

Мэсійныя падарожжы Апостала Паўла апісаныя Эвангелістам Лукашам у кнізе Дзеі Апосталаў — другой па аб'ёме ў Новым Запавеце.

Паралельна падарожжу Ісуса Хрыста ў Ерусалім служыць падарожжа Апостала Паўла ў Рым. У абодвух падарожжах ажыцьцяўляецца Божы плян уратаваньня. Калі ў Эвангельлях апісваецца распаўсюджваньне Благой весьці ў прысутнасьці Хрыста, то ў Дзеях — пасьля Яго ўзьнясеньня.

Першае мэсійнае падарожжа Апостала Паўлапачалося ў Антыахіі.




У 1939 годзе аўтаномнае дзяржаўнае ўтварэньне ў складзе Турцыі Хатай выпусьціла шэраг марак, на адной зь якіх «Львы Антыахіі» (1939 г.)

Павел рушыў у падарожжа з Варнавам, што азначае «сын суцяшэньня», і яго сваяком Янам Маркам каля 46 года пасьля н. Х.

«Тыя, пасланыя Духам Сьвятым, сыйшлі ў Селяўкію, а адтуль адплылі на Кіпр, і, быўшы ў Саламіне, прапаведавалі слова Божае ў сынагогах Юдэйскіх; а мелі яны пры сабе і Яна для служэньня. Праўшоўшы ўвесь востраў да Пафа, знайшлі яны аднаго чарадзея ілжэпрарока, Юдэя, якога звалі Варысус, які быў з праконсулам Сергіем Паўлам, мужам разумным. Той, паклікаўшы Варнаву і Саўла, пажадаў пачуць слова Божае. А Яліма чарадзей, — так тлумачыцца імя ягонае, — пярэчыў ім, стараючыся адвярнуць праконсула ад веры. Але Саўл, ён жа і Павал, напоўніўся Духам Сьвятым і паглядзеўшы на яго, сказаў: о, поўны ўсякае хітрыны і ўсякага зладзейства сыне д'яблаў, вораг усякай праўды! ці не перастанеш зводзіць з роўных дарог Гасподніх? І цяпер, вось, рука Господняя на цябе: ты асьлепнеш і ня ўбачыш сонца да часу. І раптам напалі на яго морак і цемра, і ён, паварочваючыся то туды, то сюды, шукаў павадыра. Тады праконсул, усачыўшы, што адбылося, увераваў, зьдзіўлены вучэньнем Госпаднім» (Дзеі 13:4—12).




Апостала Паўла з Эвангелістам Маркам намаляваў мастак Альбрэхт Дзюрэр і пошта Арабскага Эмірату Ум Эль Квайн з нагоды 500-годзьдзя нараджэньня мастака выпусьціла ў 1972 годзе сэрыю марак. На адной зь іх выява карціны Дзюрэра «Сьвяты Павал і Сьвяты Марк»

Менавіта з гэтага часу Апостал стаў пастаянна называцца Паўлам замест ранейшага імя Саўл — у памяць аб навяртаньні Сергія.

«Адплыўшы з Пафа, Павал і ўсе, хто былі зь ім, прыбылі ў Пэргію, у Памфілію; але Ян, адлучыўшыся ад іх, вярнуўся ў Ерусалім» (Дзеі 13:4—13).




Марка пошты Кіпру (1994г.) з відарысам «старажытнай карты Кіпру»

На Кіпры вельмі шануюць Варнаву.




Першая марка пошты Кіпру, прысьвечаная Варнаве, была выпушчана ў 1928 годзе: «Адкрыцьцё пахаваньня Сьвятога Варнавы»

З Пэргэ Павел і Варнава праз горы Таўрус рушылі ў Антыахію Пісідыйскую.

У 1966 годзе поштай Кіпра з нагоды 1900-ай гадавіны сьмерці Апостала Варнавы выпушчана сэрыя марак.




На адной зь іх «Адкрыццё цела Сьвятога Варнавы», на другой «Старажытная ікона святога Варнавы»

Варнава — кіпрскага паходжаньня, быў першым з 70 вучняў Хрыста (Дзеі 4:31—37). Ён наведаў шмат краін для распаўсюджваньня Сьвятога Эвангельля, але, калі вярнуўся на Кіпр, то быў забіты фанатычнымі габрэямі.

Сьвятое цела таемна пахавалі за межамі Саламіна. Грабніца была забытая да 478 н.э., калі на месцы пахаваньня быў заснаваны манастыр.




У 1980 годзе пошта Вэнгрыі выпусьціла сэрыю марак «Сем цудаў сьвету». На адной зь іх статуя Зэўса ў Алімпіі (слановая косьць, золата; ад. 430 да н. Х.), Скульптар Фідый (пач. V ст. — каля. 432 да н. Х.)




Зэўсу прысьвечана таксама марка Грэцыі (1973 г.) з малюнкам грэцкай амфары: Зэўс паражае зьмея Ваджрой чароўнай сьмяротнай зброяй

Гэты адрэзак шляху ў 160 кілямэтраў быў адным з найбольш складаных з-за нападаў рабаўнікоў, і нават рымскія войскі не маглі нічога зрабіць, каб зьмяніць сытуацыю.

У Антыахіі Павел з Варнавам былі прынятыя вельмі зычліва, яны абвяшчалі Божае слова пра Ісуса Хрыста і навярнулі ў хрысь-

ціянства шмат язычнікаў, але гэта ўгнявіла ўплывовых габрэяў, якія справакавалі хваляваньні сярод насельніцтва.

Мэсіянеры вырашылі адправіцца ў Іконію, дзе сытуацыя паўтарылася і Паўла з Варнавам ледзь не забілі камянямі.

Адтуль яны рушылі ў Лістру, дзе Павал аздаравіў хворага чалавека, а ў сваім навучаньні заклікаў верыць у адзінага Бога. Але не ўсе разумелі іх словы, Паўла называлі Гермесам, а Варнаву — Зэўсам, і ўрэшце іх зноў спрабавалі забіць камянямі, не разумеючы іх вучэньня.



На марцы Грэцыі, выдадзенай у 1986 годзе, відарыс Гермэса, сына Зэўса і Маі

Павел быў выведзены за горад і моцна пабіты, але ўсё ж выжыў. Мэсіянэры вырашылі вярнуцца і, наведваючы заснаваныя раней супольнасьці, дабраліся да Дэрбэ, а ў порце Аталіі селі на карабель да Антыахіі Сірыйскай, дзе праз год скончылі сваё першае мэсійнае падарожжа.

**4. Другое мэсійнае падарожжа Апостала Паўла**



Другое падарожжа Апостала Паўла

У другое мэсійнае падарожжа Павал накіраваўся з Тарса ў 50–52 гадах. Павал у суправаджэньні Сілы (яго вучань з Антыахіі, які стане першым біскупам Карынфа) другі раз пакінуў Антыахію Сырыйскую, але на гэты раз па сушы. Іх вандроўка праходзіла праз Тарс, Дэрбэ, Іконію і Антыахію Пісідыйскую (гэты шлях праходзілі падчас першага падарожжа), а потым, мінаючы Фрыгію і Лідзію, яны дайшлі да Траады над Эгейскім морам. Там Павал меў візію македонца, які прасіў яго прыйсьці. У ліпені 50 года Павал прымае рашэньне накіравацца ў Македонію і пачаць эўрапейскае служэньне на зямлі Грэцыі.




Сьвяты Апостал Лукаш на марцы пошты Румыніі (2017 г.)

Рашэньне Паўла сфармавалася пад уплывам Лукаша, які стаў вучням і памочнікам апостала.

Урач Лукаш паходзіў з Нэапаля, марскога порта горада Філіпы. Менавіта ён стаў першым гісторыкам узьнікненьня хрысьціянства. У сярэдзіне апісаньня другога мэсіянэрскага падарожжа Паўла Лукаш піша «Мы» (Дзеі 16:10). Таксама ў пасланьні да Філімона Апостал Павал падцьвярджае: «Вітае цябе Эпафрас, вязень разам са мною дзеля Ісуса Хрыста, Марк, Арыстарх, Дымас, Лукаш, супрацоўнікі мае» (Да Філімона 23).

Павал у суправаджэньні Сілы, Цімафея і Лукаша паплылі караблём да Нэапаля з прыпынкам у Самафракіі.

Нэапаль — горадпорт на маленькім мысе насупраць вострава Фазас. Порт Нэапаля абслугоўваў вялікі горад Філіпы, які знаходзіўся ў трох мілях ад Нэапаля. Росквіт Філіпаў вызначыўся тым, што ён знаходзіўся паміж гарамі і балотам, што давала яму стратэгічную абароненасьць.




Відарыс Апостала Паўла на фоне руін Філіпаў, замалёўку якіх зрабіў археоляг Н. Daumet у 1861 г., разьмясьціла на марцы пошта Грэцыі ў 1992 годзе

У горадзе не было сынагог і зборы нямногіх юдэяў праходзілі на адкрытым паветры на крыху агароджаных пляцоўках. Апостал з памочнікамі пайшлі туды, дзе знайшлі толькі некалькі жанчын, якія прыйшлі памаліцца. Павал зьвярнуўся да іх з пропаведзьдзю і ўзьвясьціў ім таемства Хрыстова. Іх слухалі з увагаю. І Гасподзь адкрыў сэрца аднаой зь іх. Лідзія, так звалі гэтую жанчыну, якая паходзіла з горада Фіятыр. Гэта была жанчына дабрачынная і багабойная. Язычніца па нараджэньню, але з выкананьнем правілаў Ноя. Яна тэрмінова хрысьцілася ў Паўла. І не адна, а з усім сваім домам.

Згуртавалася невялікая царква, якую складалі амаль што адны жанчыны. Царква з павагаю падпарадкоўвалася Паўлу. Абвяшчаючы Божае слова ў Філіпах, Павал, Сіла і Цімафей збавілі апантаную жанчыну ад злога духу. У Філіпах яна лічылася варажбіткаю, і яе аздараўленьне перастала прыносіць прыбытак гаспадарам, якія завялі судовую справу на Паўла і Сілу, распрануўшы і пабіўшы іх розгамі. Павал і Сіла апынуліся ў турме.

Знаходжаньню Паўла ў турме прысьвяціў сваю працу на адным з габэленаў Рафаэль. «Пад поўнач Павал і Сіла, малячыся, славілі песьняй Бога; а вязьні слухалі іх. Раптам стаўся вялікі землятрус, так што захістаўся падмурак цямніцы; адразу адчыніліся ўсе дзьверы, і на ўсіх кайданы паслаблі» (Дзеі 16:25—26).




Рэпрадукцыю гэтага габэлену, што цяпер знаходзіцца ў Сыкстынскай капэле Ватыкана, на малым лісьце разьмясьціла пошта Ватыкана ў 2008 годзе

Рафаэль уяўніў землятрус у выглядзе волата, які разрывае глебу і нават мяжу самога габэлена. (Фігура волата на марцы не адлюстраваная).

Вартаўнік, які іх пільнаваў, пасьля землятрусу разам з усёй сваёй сямьёй прыняў хрост. На наступны дзень, згодна з рымскім правам, Паўла і Сілу вызвалілі.

З Філіпаў Апостал народаў накіраваўся ў Фэсалоніку, дзе навярнуў у хрысьціянства шмат людзей, выклікаўшы абурэньне юдэяў, якія пачалі бунтаваць народ. Апостал пакінуў гэты горад, у якім засталіся Сіла і Цімафей, а сам рушыў у Афіны — сталіцу старажытнай эліністычнай цывілізацыі, дзе скрыжаваліся шматлікія філязофскія і рэлігійныя кірункі.

На афінскім Арэапагу Павал прамовіў сваю вялікую знакамітую прамову. Сярод

слухачоў было шмат філёзафаў. Павал заклікаў да пакаяньня і навяртаньня, яго ўважліва слухалі.

Філёзафы аспрэчвалі веру, аддаючы перавагу розуму.

«А некаторыя мужы, прыстаўшы да яго, уверавалі; сярод іх быў Дыянісій Арэапагіт і жанчына, якую звалі Дамар, і іншыя зь імі» (Дзеі 17:34).




Постаць Паўла з паднятай у гору рукой падчас прамовы на Аэрапагу (пагорак Арэса) у цэнтры Афінаў на марцы пошты Грэцыі (1937 г.)

«І вось, пакідаючы часіны няведаньня, Бог сёньня наказвае людзям усім усюды пакаяцца; бо Ён вызначыў дзень, у які будзе справядліва судзіць сьвет праз загадзя вызначанага Ім Мужа, даўшы доказ усім, уваскрэсіўшы Яго зь мёртвых. Пачуўшы пра Ўваскрэсеньне зь мёртвых, адны насьміхаліся, а другія казалі: пра гэта паслухаем цябе іншым часам» (Дзеі 17:30—32).




Яшчэ адзін малы ліст пошты Ватыкана прысьвяціла наступнаму габэлену Рафаэля «Павал прапаведуе ў Афінах»

Павал намаляваны з паднятымі рукамі, ён прапаведуе пра бесьсмяротнасьць Душы. Група гледачоў, прадстаўленая ў розных стадыях узбуджэньня. Яны слухаюць вучэньне Апостала. На ніжняй правай частцы блёку, бліжэй да гледача, знаходзяцца Дамарыс і Дыянісій Арэапагіт, якія ў зьдзіўленьні становяцца на калені пад уплывам словаў Паўла, навярнуўшыся ў хрысьціянства.

Павал лічыў сваё выступленьне няўдалым, бо, як сам потым казаў, спадзяваўся толькі на свае чалавечыя магчымасьці. Ён разважаў над гэтым падчас 80-кілямэтровай дарогі ў Карынф, дзе жыў у 51–52 гадах і пісаў Першае пасланьне да Фесаланікійцаў.




1900-годзьдзе з часу знаходжаньня Апостала Паўла ў Карынфе ў 1951 годзе адзначыла пошта Грэцыі выданьнем маркі з партрэтам Апостала працы мастака Эль Грэка

У Карынфе да Паўла далучылася габрэйская сям'я Акілы і Прыскілы, якую выгналі з Рыма па загадзе імпэратара Клаўдзія, згодна зь якім усе юдэі павінны былі пакінуць сталіцу. Тым часам у Карынф прыбылі Сіла і Цімафей. Паўлу ўдалося навярнуць у хрысьціянства Крыспа, кіраўніка сынагогі, аднак непрыхільная да Паўла частка габрэяў абвінаваціла яго перад новым праконсулам у Ахаі, які палічыў спрэчку рэлігійнай і ня стаў ні ў чым абвінавачваць Паўла.

Павал, пакінуўшы Карынф у таварыстве сужэнства Аквілы і Прысцылы, паплыў

у бок Сырыі. У Кенхрэях, згодна з абяцаньнем, ён абстрыгся. Потым ён затрымаўся ў Эфэсе, дзе пакінуў Акіла і Прыскілу абвяшчаць Божае слова. З Эфэса Павал паплыў у Кесарыю і наведаў Ерусалім, адкуль вярнуўся ў Антыахію, закончыўшы сваё другое мэсійнае падарожжа.

**5. Трэцяе мэсійнае падарожжа Апостала Паўла**



Трэцяе падарожжа Апостала Паўла

Трэцяе мэсійнае падарожжа выпала на 54–58 гады. Маршрут часткова супадаў з папярэднімі. Мэта падарожжа заключалася ва ўмацаваньні хрысьціянскіх супольнасьцяў. Павел выйшаў з Антыахіі Сырыйскай і працягнуў падарожжа па сушы праз Тарс, Дэрбэ, Лістру, Іконію, Антыахію Пісідыйскую ў Эфэс, дзе шмат жыхароў ужо прымала Яго вучэньне зьнішчаючы язычніцкіх бажкоў і іх сымбалі.



На марцы фірмы Zazzle (2015 г.) выява карціны Эсташа Лесюэра «Пропаведзь Сьвятога Паўла ў Эфэсе» (1649 г)

«А Гасподзь у начной уяве сказаў Паўлу: ня бойся, а прамаўляй і не змаўкай, бо Я з табою, і ніхто ня зробіць табе ліха; бо ў Мяне многа людзей у гэтым горадзе. І ён заставаўся там год і шэсьць месяцаў, навучаючы іх слову Божаму» (Дзеі 18:9—11).

«У Лістры адзін чалавек, не валодаючы нагамі, сядзеў, бо кульгавы быў ад улоньня маці сваёй, і ніколі не хадзіў. Ён слухаў прамоўцу Паўла, які, зірнуўшы на яго і ўбачыўшы, што ён мае веру на атрыманьне ацаленьня, сказаў гучным голасам: табе кажу ў імя Госпада Ісуса Хрыста: стань на ногі твае проста! І той адразу ўскочыў і пачаў хадзіць» (Дзеі 14:8—10).




Карэл Дужардзін (Karel Dujardin), «Сьвяты Павал вылечвае калеку ў Лістры», 1663. Рэйксмузэум. Дэталі карціны на марках С'ера Леонэ (2001 г.)

У Эфэсе ў той час асаблівым культам карысталася Артэміда (багіня дзетанараджэньня).




Храм Артэміды разьмясьціла пошта Вэнгрыі на марцы з 1980 году

У Дзеях Апосталаў згадваецца яшчэ пра Дзьмітрыя, які перасьледаваў Паўла за яго эвангэлізацыйную дзейнасьць, што пагражала яму стратаю працы, бо ён рабіў срэбныя храмы і фігуркі Артэміды.

Калі спыніўся бунт, Павал, паклікаўшы вучняў і даўшы ім настаўленьні і разьвітаўшыся зь імі, выйшаў у Македонію. У Траадзе Павел ўваскрэсіў Яўціха — хлопца, які, зморany сном, зваліўся з трэцяга паверха, калі слухаў яго доўгую прамову Тут Павал піша пасланьне «Другое да Карынфянаў».




Як выглядала фігурка Артэміды паказвае выява на марцы пошты Лівіі, выдадзенай у 1921 годзе




У 1960 годзе пошта Мальты выпусьціла яшчэ адну сэрыю з трох марак «Караблекрушэньне Сьвятога Паўла». На адной зь іх Апостал трымае разгорнутае пасланьне «Другое да Карынфянаў»

Прайшоўшы тыя землі і наставіўшы вернікаў шчодрымі словамі, прыйшоў у Эладу. Там прабыў ён тры зімовыя месяцы ў Карынфе.

«Калі ж, з прычыны ўзрушэньня супраць яго Юдэяў ён хацеў выправіцца ў Сірыю, дык прыйшло яму на думку вярнуцца праз Македонію» (Дзеі 20:1—3). З Філіпаў вырушыў водным шляхам праз Асс у Міліт. Пад канец трэцяга падарожжа Павел напісаў «Пасланьне да Рымлянаў». Ён запрасіў у Міліт старэйшын з Эфэса і ў разьвітальнай прамове расказаў пра перасьлед і цярпеньні, прадказваючы ім, што яны яго больш не ўбачаць.




Руіны храма Апалона ў Карынфе, 650 г. да н.э., марка Грэцыі (1933г.)

«І вось, сёньня я пабуджаны Духам іду ў Ерусалім, ня ведаючы, што там здарыцца са мною; толькі Дух Сьвяты сьведчыць ва ўсіх гарадах, кажучы, што кайданы і пакуты чакаюць мяне. Але я ні на што не зважаю і не даражу сваім жыцьцём, толькі б з радасьцю зьдзейсьніць абавязак мой і служэньне, якое я прыняў ад Госпада Ісуса, прапаведаваць Дабравесьце мілаты Божай. І сёньня, вось, я ведаю, што ўжо не пабачыце болей аблічча майго ўсе вы, сярод якіх хадзіў я, прапаведуючы Царства Божае» (Дзеі 20:21—24).

Гэтыя словы выклікалі ва ўсіх смутак, хоць і былі своеасаблівым запаветам. Хрысьціяне спрабавалі адгаварыць Паўла ад падарожжа ў Ерусалім. «Але Павал у адказ сказаў: што вы робіце? чаго плачаце і засмучаеце сэрца маё? я ня толькі хачу быць вязьнем, але гатовы памерці ў Ерусаліме за імя Госпада Ісуса» (Дзеі 21:13).

Потым ён даплыў да Тыра праз Родас, а адтуль праз Кесарыю да Ерусаліма, закон-

чыўшы там сваё трэцяе і апошняе мэсійнае падарожжа.

Не зьдзейсьніліся яго мары, Павал ня змог дабрацца да Рыма — сталіцы імпэрыі. У хуткім часе ён прыбудзе ў Рым, але ўжо пры зусім іншых драматычных абставінах.

**6. Падарожжа Апостала Паўла ў Рым і апошнія гады жыцьця**



Падарожжа Апостала Паўла ў Рым

Пасьля прыбыцьця Паўла ў Ерусалім у канцы свайго трэцяга місіянэрскага падарожжа, ён быў арыштаваны. На другі дзень пасьля таго, як Паўла арыштавалі, прывялі яго з цьвердзі ў вярхоўны габрэйскі суд Сынедрыён. Адказы Паўла на судзе выклікалі такое абурэньне, што яго гатовы былі разарваць. Уратаваў яго рымскі тысячаначальнік з салдатамі.




Дзіцячы малюнак выявы Ерусаліму на марцы пошты Ізраілю (1998 г.)

У вязьні Паўлу адбылося відзеньне. «У другую ноч Госпадзь, зьявіўшыся яму, сказаў: мацуйся, Паўле; бо як ты сьведчыў за Мяне ў Ерусаліме, так трэба табе сьведчыць і ў Рыме. А як разьвіднела, некаторыя Юдэі склалі змову, і прысягнулі ня есьці і ня піць, пакуль не заб'юць Паўла...» (Дзеі 23:11,12). Даведаўшыся пра гэта, тысячаначальнік выслаў Паўла ў Кесарыю. У Кесарыі Павал стаяў на допыце перад рымскім правіцелем Феліксам. Ён не знаходзіў Паўла вінаватым, але ўвязьніў яго ў цямніцы.

З маланаселенага паселішча ў 2-ой палове 1 ст. да н. э. Ірад зрабіў галоўны партовы горад каралеўства па беразе Міжземнага мора. Ён пабудаваў порт, адзін з найбуйнейшых у Рымскай імпэрыі і назваў «Кесарыя» у гонар рымскага імпэратара Аўгуста. Акрамя порту Ірад пабудаваў тэатар, гіпадром і водаправод, які прынёс сьвежую ваду жыхарам горада.




Кесарыя — пэрліна будаўнічых праектаў Ірада. Марка Ізраілю (2011 г.)

Пазбаўленьне волі Паўла ў Кесарыі Прыморскай доўжылася на працягу двух гадоў. Месца Фэлікса займае Порцый Фэст, які запрасіў цара Агрыпу выслухаць Паўла. У выніку Паўла ня вызвалілі і ён, як рымскі грамадзянін, запатрабаваў суду кесарава. Яго зь іншымі вязьнямі адпраўляюць у Рым.

У час плаваньня пачалася вялікая бура. «Але як многа дзён ня відаць было ні сонца, ні зорак, а бура набірала ў моцы, дык нарэшце зьнікла ўсякая надзея на нашае выратаваньне. І як доўга ня елі, дык Павал, стаўшы сярод іх, сказаў: мужы! трэба было паслухацца мяне і не адыходзіць ад Крыта,

чым бы і ўніклі мы гэтых нягодаў і шкоды; а цяпер умаўляю вас падбадзёрыцца духам, бо ніводная душа з вас не загіне, а толькі карабель; бо анёл Бога, Якому належу я і Якому служу, зьявіўся мне сёньня ўначы і сказаў: ня бойся! Паўле! табе трэба паўстаць перад кесарам, і вось, Бог дараваў табе ўсіх, што плывуць з табою. Таму падбадзёрцеся духам, мужы, бо я веру Богу, што будзе так, як мне сказана: нам выпадае быць выкінутымі на якую-небудзь выспу» (Дзеі 27:20—26).

Так і сталася. «А калі ўратаваліся, тыя, што былі з Паўлам, даведаліся, што востраў называецца Меліт» (Дзеі 28:1).

З нагоды прыбыцьця Паўла ў Рым поштай Італіі ў 1961 годзе была выпушчана сэрыя з дзьвюх марак, на якіх разьмешчаны малюнак з Бібліі Борсо д'Эстэна, рукапіс якой выкананы ў Ферары паміж 1455 і 1461 гадамі.



Картмаксімум «Падарожжа ў Рым» пошты Італіі (1961 г.)

Пошта Мальты пастаянна прысьвяае свае выданьні падзеі побыту Апостала Паўла на іх высьпе. Дызайн маркі 1919 г. заснаваны на біблейскім сюжэце і зроблены па карціне Густава Доры — «Сьвяты Павал пасьля караблекрушэньня»

Ззаду Сьв. Паўла ў вогнішчы зьмяя, сюжэт, які адбыўся пазьней, а не ў момант караблекрушэньня.




Караблекрушэньне Сьвятога Паўла адлюстравана на марцы пошты Мальты ўжо ў 1919 годзе. У 1960 годзе пошта Мальты выпусьціла сэрыю з трох марак, на першай «Караблекрушэньне Сьвятога Паўла»

«Калі ж Павал набраў многа хмызу і клаў на вагонь, выскачыла ад жару зьмяюка і павісла на руцэ ў яго. Іншапляменцы, калі ўбачылі павіслую на руцэ ў яго зьмяю, казалі адзін аднаму: праўда, чалавек гэты — забойца, калі яму, ўратаванаму ў моры, суд Божы не пакідае жыцьця. Але ён, абтросшы зьмяю ў вагонь, не зазнаў аніякае шкоды. Яны чакалі былі, што ён пухнуць пачне, альбо што раптам упадзе мёртвы; але, чакаючы доўга і ўбачыўшы, што ня сталася зь ім ніякай бяды, думку зьмянілі і казалі, што ён — Бог» (Дзеі 28:3—6).




Маркі Мальты. 1. Густаў Доры «Сьв. Павал пасьля караблекрушэньня кідае зьмяю ў агонь» (1930). 2. «Выпадак са зьмяёй» (1990 г.), выданьне з нагоды візіту Яна Паўла II на Мальту. 3. «Сьв. Павал кідае зьмяю ў агонь» (2008 г.) — Царква Сьвятога Паўла ў Валецьце

Паданьне гаворыць, што пасьля гэтага выпадка зьмеі на Мальце сталі неядавітымі.

Гэта зьмяюка найшла сваё адлюстраваньне на некалькіх марках пошты Мальты.

«Навакол той мясьціны былі валоданьні першага чалавека вострава, называнага Публіем; ён прыняў нас і тры дні гасьцінна частаваў. Публіеў бацька ляжаў, пакутуючы ад гарачкі і ад болю ў жываце: Павал увайшоў да яго, памаліўся і, усклаўшы на яго рукі свае, ацаліў яго. Пасьля гэтай падзеі і астатнія на востраве, хто быў хворы, прыхо-дзілі і былі вылечаны» (Дзеі 28:7—10).



Другая марка з названай вышэй сэрыі марак пошты Мальты (1960 г.) — прыняцьце Публіем хрысьціянства. На трэцяй — жыхары Мальты разьвітваюцца з Паўлам

«І рабілі нам шмат гонару, і на дарогу далі ўсё патрэбнае» (Дзеі 28:11).



З нагоды сьвяткаваньня года Сьвятога Паўла, пошта Мальты ў 2008 годзе выпусьціла сэрыю марак і блёк, на якіх адлюстраваныя статуі гэтага Апостала

На полі блёку малюнак, дзе ў цэнтры Апостал Павал з зьмяёй на руцэ.

«Праз тры месяцы мы адплылі на Александрыйскім караблі, пад знакам Дыяскураў, які зімаваў на тым востраве і, ў Сыракузы прыплыўшы, пабылі там тры дні; адтуль адплыўшы, прыбылі ў Рыгію; а празь дзень, як павеяў паўднёвы вецер, прыбылі на другі дзень у Путэол, дзе знайшлі братоў і былі ўпрошаныя пабыць у іх сем дзён, і потым паплылі мы ў Рым. Тамтэйшыя браты, дачуўшыся пра нас, выйшлі нам насустрач да Апіевай плошчы і трох гасьцініц; убачыўшы іх, Павал падзякаваў Богу і падбадзёрыўся духам. А як прыйшлі мы ў Рым, дык сотнік перадаў вязьняў военачальніку, а Паўлу дазволена жыць адасоблена з воінам, які вартаваў яго» (Дзеі 28:12—16).

Падарожжу Паўла ў Рым пошта Ватыкану прысьвяціла сэрыю «1900 — годзьдзе з дня прыбыцьця Паўла ў Рым».



На марцы за 15 лір — Апостал Павал ў Рыме. На марцы за 30 лір — маршрут падарожжа Апостала Паўла ў Рым

Кніга Дзеяньняў апавядае, што Павал прапаведаваў у Рыме на працягу двух гадоў у чаканьні суда.



На марцы пошты Босьніі і Герцагавіны (2014 г.) залатнік цара Нэрона. У 1985 годзе ў Сан Марына для Міжнароднай выставы выпушчана марка з выглядам Калізэю у 85 г. н. э. Каля Калізэя стаіць Калос Нэрона, бронзавая статуя ў 30 м вышынёй.

Далей не згадваецца, што адбылося пасьля, але некаторыя крыніцы сьцьвярджаюць, што Павал быў вызвалены Нэронам і працягваў прапаведаваць у Рыме.

Кірыл Іерусалімскі кажа, што Павал «аддана прапаведаваў Эвангельле, і далучыў да веры імпэратарскі Рым, і нёс вестку ўсюды, нават да Гішпаніі, нягледзячы на бясконцыя перашкоды»

У Бібліі не гаворыцца, як і калі Павал памёр. Хрысьціянская традыцыя лічыць, што Павал быў абезгалоўлены, як рымскі грамадзяні, ў Рыме падчас кіраваньня Нэрона каля сярэдзіны 60-х гадоў у абацтве Трэ Фантанэ.

Гай у сваім Дыспуту супраць Прокла (198 г. н.э.) згадвае месца, у якім, верагодна, захоўваліся астанкі апосталаў Пятра і Паўла:

«Я магу пазначыць труны апосталаў, калі вы гатовыя пайсьці ў Ватыкан або на шлях Асцыяна, вы знойдзеце труны тых, хто заснаваў гэтую Царкву».




На блёку пошты Мальты (2004 г.) карціны Невядомых мастакоў 14 ст.

Карціны на блёку пошты Мальты; — «Апостал Павал і яго дзеі»:

— Прасьвятленьне Саўла,

— Знаходжаньне Паўла на Мальце, калі яго ўкусіла зьмяя,

— Пропаведзь хрысьціянства Паўлам,

— Адсячэньне галавы Апостала Паўла




На марцы Ватыкану (2014 г.) у гонар стагодзьдзя з дня заснаваньня Грамадства Дачок Сьвятога Паўла дэталь статуі Сьвятога Паўла, зробленай французскім скульптарам П’ерам Эцьенам Маннот на пачатку 18 стагодзьдзя, якая знаходзіцца ў Базыліцы Сьвятога Яна Латэранскага

Ў 1967 годзе да 1900 — годзьдзя сьмерці Пятра і Паўла пошта Мальты выдала марку «Пакутніцтва Паўла»




На марцы Ватыкану (2014 г.) у гонар стагодзьдзя з дня заснаваньня Грамадства Дачок Сьвятога Паўла дэталь статуі Сьвятога Паўла, зробленай французскім скульптарам П’ерам Эцьенам Маннот на пачатку 18 стагодзьдзя, якая знаходзіцца ў Базыліцы Сьвятога Яна Латэранскага

У чэрвені 2009 года папа Бенедыкт XVI абвясьціў вынікі раскопак магілы Паўла ў базыліцы Сьвятога Паўла паза сьценамі. Саркафаг не адчыняўся і дасьледаваўся з дапамогай зонда. На саркафагу маецца надпіс на лацінскай мове: «Апостал Павал пакутнік».

## Марыя Магдаліна

У Новым Запавеце 24 жанчыны называюцца паімённа. Пра іх складаюць легенды, іх выявамі ўпрыгожваюць сьцены храмаў і палацаў, у іх гонар будуюць храмы і малююць іконы, аб іх пішуць кнігі... Сярод найбольш вядомых і папулярных знаходзіцца Марыя Магдаліна.




Карціны «Марыя Магдаліна, якая просіць пакаяньне» Тыцыяна на марцы СССР (1971 г.) і Тынтарэта на блёку Гаяны (2013 г.)

У Новым Запавеце імя Марыі Магдаліны згадваецца толькі шэсьць разоў:

1.«Марыя, называная Магдалінаю, зь якое выйшлі сем дэманаў...» (Паводле Лукаша 8:2).

«Уваскрэснуўшы рана ў першы дзень тыдня, Ісус зьявіўся спачатку Марыі Магдаліне, зь якое быў выгнаў сем дэманаў» (Паводле Марка 16:9).

2. «Былі тут і жанчыны, якія глядзелі здалёк; сярод іх была і Марыя Магдаліна, і Марыя, маці Якава меншага і Ясіі, і Саломія, якія тады, як Ён быў у Галілеі, ішлі сьледам за Ім і служылі Яму, і іншыя многія, што разам зь Ім прыйшлі ў Ерусалім» (Марка 15:40,41)

3. Потым прысутнічала на Галгофе: «сярод іх былі Марыя Магдаліна і Марыя, маці Якава і Ёсіі, і маці сыноў Зевядзеевых» (Паводле Мацьвея 27:56).




Фрэска «Укрыжаваньне» Падуанскага цыклу Джота на марцы Малаві, выдадзенай у 1978 годзе

Магдаліна ў моцным горы і роспачы кідаецца да крыжа, каб абняць яго, зь яе плячэй звальваецца адзеньне і кладзецца каля ног нейкай бясформеннай масай. Гэтым прыёмам Джота падкрэсьліў сілу яе гора, самазабыўны адчай.

4. «І ўзяўшы Цела, Язэп абгарнуў яго чыстым палатном і паклаў яго ў новай сваёй магіле, якую высек у скале; і прываліўшы вялікі камень да дзьвярэй магілы, адышоў. Была ж там Марыя Магдаліна і другая Марыя, якія сядзелі насупраць магілы» (Паводле Мацьвея 27:59—61).




Марыя Магдаліна на картмаксімуме пошты Францыі (1973г.). Скульптура з грабніцы Шпітальнай царквы Тонера «Пахаваньне»

Марка Аўстрыі (1964 г.) з выявай вітража 12 стагодзьдзя Сьвятой Марыі Магдаліны з царквы Вэінтэнсфельд (Weitensfeld), і статуя Апостала з партала сабора Сьвятога Стэфана ў Вене 5. «Як прайшла субота, на сьвітаньні першага дня тыдня, прыйшла Марыя Магдаліна і

другая Марыя паглядзець магілу» (Паводле Мацьвея 28:1).




Марка Аўстрыі (1964 г.) з выявай вітража 12 стагодзьдзя Сьвятой Марыі Магдаліны з царквы Вэінтэнсфельд (Weitensfeld)




Марка пошты Бэльгіі (1949 г.), паказвае Сьвятую Марыю Магдаліну. Дэталь карціны Жэрара Давіда

«І ўвайшоўшы ў магілу, убачылі юнака, які сядзеў з правага боку, адзетага ў белыя шаты: і жахнуліся. А ён кажа ім: не жахайцеся. Ісуса шукаеце Назараніна, укрыжаванага; Ён уваскрэс, Яго няма тут. Вось месца, дзе Ён быў пакладзены. Але ідзеце, накажэце вучням Ягоным і Пятру, што Ён запабегне вас у Галілеі; там Яго ўгледзіце, як Ён сказаў вам» (Паводле Марка 16:5—7).

6. «Уваскрэснуўшы рана ў першы дзень тыдня, Ісус зьявіўся спачатку Марыі Магдаліне, зь якое быў выгнаў сем дэманаў» (Паводле Марка 16:9).

«Сказаўшы гэта, абярнулася і ўбачыла — стаіць Ісус; ды не пазнала, што гэта Ісус. Ісус кажа ёй: жанчына! чаго ты плачаш? каго шукаеш? Яна, думаючы, што гэта садоўнік, кажа Яму: спадару! калі ты вынес Яго, скажы мне, дзе ты паклаў Яго, і я забяру Яго. Ісус кажа ёй: Марыя! Яна, абярнуўшыся, кажа Яму: Раввуні! — што азначае: Настаўнік! Ісус кажа ёй: не кранайся Мяне, бо Я яшчэ ня ўзыйшоў да Айца Майго; а ідзі да братоў Маіх і скажы ім: узыходжу да Айца Майго і Айца вашага, і да Бога Майго і Бога вашага» (Паводле Яна 20:14—17).




«Не затрымлівай мяне», Тыцыян. Блёк пошты Выспаў Кука (1973 г.)

Сцэна зьявы Хрыста Магдаліне пасьля Ўваскрэсеньня. Яна спачатку не пазнае Яго, прымаючы за садоўніка, потым спрабуе дакрануцца да Яго, але Ісус адхіляецца ад яе. «Я бачыла Госпада! Ён гаварыў са мной!» — паведамляла Марыя вучням Ісуса аб цудоўнай зьяве. І радасьць яе дасягнула такіх памераў, якіх дасягаў яшчэ нядаўна яе смутак.

«Хрыстос Уваскрос! Ён сапраўды Сын Божы! Я бачыла Госпада!...» — гэта была першая добрая вестка, якую прынесла Марыя Магдаліна Апосталам, першая ў сьвеце пропаведзь пра Ўваскрэсеньне.

Паводле паданьня, Марыя Магдаліна прапаведавала ня толькі ў Ерусаліме. Калі Апосталы разышліся зь Ерусаліма ва ўсе

канцы сьвету, то яна пайшла разам зь імі. Марыя, якая захавала ў сваім, палаючым боскай любоўю сэрца, кожнае слова Збавіцеля, пакінула родны край і адправілася з пропаведзьдзю ў паганскі Рым. І ўсюды яна абвяшчала людзям пра Хрыста і Яго вучэньне. А калі многія ня верылі, што Хрыстос уваскрэс, яна паўтарала ім тое ж, што сказала ў сьветлую раніцу Уваскрэсеньня Апосталам: «Я бачыла Госпада! Ён гаварыў са мной». З гэтай пропаведзьдзю яна абышла ўсю Італію.




Велікодныя яйкі. Маркі Польшчы і Сэрбіі

Легенда кажа, што ў Італіі Марыя Магдаліна прыйшла да імпэратара Тыберыя (14—37г.) і распавяла яму пра жыцьцё, цуды і вучэньні Хрыста, аб Яго няправедным асуджэньні юдэямі, аб маладушшы Пілята. Імпэратар усумніўся ў цудзе Уваскрэсеньня і папрасіў доказаў. Тады яна ўзяла яйка, і, падаючы яго імпэратару, сказала: «Хрыстос Уваскрос!». Пры гэтых словах белае яйка ў руках імпэратара стала яркачырвоным.

Яйка сымбалізуе зараджэньне новага жыцьця і выказвае нашу веру ў будучае агульнае Уваскрэсеньне. Дзякуючы Марыі Магдаліне звычай дарыць Велікодныя яйкі ў дзень Хрыстова Ўваскрэсеньня распаўсюдзіўся паміж хрысьціянамі ўсяго сьвету.

Пасьля сустрэчы з Уваскрэслым Хрыстом Марыя Магдаліна стала хрысьціянамі лічыцца Апосталам самай вялікай надзеі.

«Яе заступніцтва няхай дапамагае і нам жыць гэтым досьведам: у час плачу і пакінутасьці слухаць Уваскрэслага Хрыста, які кліча нас па імені, і з сэрцам поўным радасьці ісьці і абвяшчаць: «Я бачыў Пана! Я зьмяніў жыцьцё, бо ўбачыў Пана! Цяпер я не такі, як раней, я іншы чалавек. Зьмяніўся я так, бо бачыў Пана. Гэта наша сіла і наша надзея!», — сказаў у завяршэньне катэхезы Пантыфік.

## Чатыры Эвангеліста і іх сымбалі

Пастаўлена кропка ў канцы апошняга артыкула «Біблейскія гісторыі»... Але ці можна не напісаць пра тых, дзякуючы каму мільёны пазналі Добрую навіну і мільёны ў яе паверылі? Пазьней іх назавуць Эвангелістамі.

«Эвангелі́сты (па — грэцку: εὐαγγελιστής — якія апавяшчаюць добрую вестку) — Апосталы, аўтары чатырох кананічных Эвангельляў — Мацьвей, Марк, Лукаш й Ян». Самыя вялікія аўтары з усіх вядомых.




Якоб Ёрданс — «Чатыры Эвангеліста» (1622—1625. Музэй Люўр, Парыж). Выданьне Верхняй Вольты (1967 г.)

На карціне Якоба Ёрданса магутныя, пераканаўчыя выявы чатырох Эвангелістаў — Марка, Мацьвея, Лукаша і Яна. Сьвятыя Апосталы на карціне пагружаныя ў вывучэньне тэксту Бібліі. Яны стануць аўтарамі

кніг Новага Запавету, якія апавядаюць пра зямное жыцьцё Ісуса Хрыста. Перад намі людзі, пражыўшыя поўнае цяжкасьцяў жыцьцё, убеленыя сівізной, трое зь іх старыя і мудрыя. На іх фоне асабліва прыкметная юнацкасьць малодшага Эвангеліста — Яна.

Так распарадзілася царкоўная гісторыя, што чатыры Эвангельлі (Чатырохэвангельле) — Эвангельлі ад Мацьвея, ад Марка, ад Лукаша і ад Яна завуць кананічнымі кнігамі, маючы на ўвазе пад гэтым, што яны прайшлі працяглы, цяжкі, прыдзірлівы працэс царкоўнай рэцэпцыі, на праўдзівасьць: былі апрабаваны, апазнаны і захаваны, як адпавядаючыя духу новазапаветнага Адкрыцьця і як апостальскае сьведчаньне.

У хрысьціянскай традыцыі паасобныя Эвангелісты прадстаўлены з канкрэтнай сымболікай. Паходзяць сымбалі Эвангелістаў з уяўленьняў прарока Езэкііля.




«Бачаньне Езэкііля». Карціна Рафаэля (1518). Палацо Піццы, Флярэнцыя. Блёк пошты Антыгуа і Барбуды 1983 г.

«Падабенства абліччаў іхніх — абліччa чалавека і абліччa ільва з правага боку ва ўсіх чатырох; а зь левага боку — абліччa цяляці ва ўсіх чатырох і абліччa арла ва ўсіх чатырох» (Езэкііль 1:10).

Гэтая сымболіка зьвязана са зьместам, заключаным на пачатку кожнага Эвангельля. Сьвяты Мацьвей прадстаўляецца з сымбалям чалавека, таму што яго пераказ Добрай Навіны пачынаецца з людзкой генэалёгіі Ісуса Хрыста. Сьвяты Марк — са львом, бо першыя разьдзелы яго Эвангельля апісваюць прадказаньні Яна Хрысьціцеля ў пустыні (а пустыня — гэта часта месца знаходжаньня львоў).




Чатыры Эвангеліста і іх сымбалі на блёку пошты Тога (1978 г.)




Блёк пошты Манака (2000 г.) «Чатыры Эвангеліста і іх сымбалі»

Сьвяты Лукаш прадстаўляецца з быком ці валом, таму што яго пасланьне пачынаецца ад апісаньня таго, як Захарый складвае ахвяры ў сьвятыні, а гімн «Благаславенны Бог Ізраіля...» гаворыць пра рог збавеньня. Сьвяты Ян — з арлом, які сымбалізуе духоўныя ўзьлёты Эвангеліста ў

пралёгу, які апісвае Боскую прыроду Ісуса Хрыста.

У Новым Запавеце ўсяго знаходзяцца 27 сьвятых кніг: чатыры Эвангельлі, кніга Дзей Апостальскіх, сем Саборных Пасланьняў, чатырнаццаць Пасланьняў Апостала Паўла і Апакаліпсіс Апостала Яна Багаслова. Два Эвангельлі прыналежаць двум Апосталам з ліку 12-ці — Мацьвею і Яну, два — супрацоўнікам Апосталаў — Марку і Луку.

Кніга Дзей напісана таксама супрацоўнікам Апостала Паўла — Лукашам. З сямі Саборных Пасланьняў — пяць прыналежаць Апосталам з ліку 12-ці — Пятру і Яну, і два — братам Бога па целе, Якаву і Юдзе, якія таксама насілі ганаровае найменьне Апосталаў, хоць і не прыналежалі да аблічча 12-ці. Чатырнаццаць Пасланьняў напісаны Паўлам, які, хоць і позна быў закліканы Хрыстом, але тым ня менш, як закліканы менавіта Самім Богам да служэньня, зьяўляецца Апосталам у вышэйшым сэнсе гэтага слова, зусім роўным па добрай якасьці ў Цэрквы з 12 Апосталамі.

Аўтары Новазапаветных кніг:




Аўтары Новазапаветных кніг: Апостал Пётр, Апостал Якаў, Апостал Юда на марках пошты Манака (2000 г.) і Апостал Павал на марцы пошты Грэцыі (1951 г.)

Апакаліпсіс прыналежыць Апосталу з ліку 12-ці Яну Багаслову.

Такім чынам усіх пісьменьнікаў Новазапаветных кніг — восем.

Новы Запавет быў напісаны на гутарковай мове першага стагодзьдзя — на кайнэгрэцкай.

Біблія, якую мы трымаем у руках, напісана на аснове знойдзеных крыніц, сьпіс якіх адкрываюць папірусы, другога-трэцяга стагодзьдзяў. Усяго ж пісьмовых крыніц, але больш позьняга часу, знойдзены тысячы.

Тое, што Біблія дайшла да нас і мы можам яе вывучаць і ёй навучацца, зьяраць па ёй сваё жыцьцё гэта — цуд: цуд тых, хто прыйшоў да нас з глыбокай старажытнасьці.

## Усьпеньне і Ўшэсьце Багародзіцы

Легенда абвяшчае, што пасьля расьпяцьця Хрыста Марыя заставалася на апецы Апостала Яна і зноў наведала многія мясьціны, зьвязаныя з жыцьцём яе Сына.




Марка пошты Мальтыйскага Ордэна (1991г.) «Сьмерць Марыі». Караваджа. (1605—1606. Люўр).

Аднойчы Ёй зьявіўся анёл, сказаўшы, што праз тры дні Яна павінна ўвайсьці ў рай, дзе Яе чакае Яе Сын. Затым анёл адарыў Яе пальмавай галінай, якую Яна, у сваю чаргу, уручыла Сьв. Яну, сказаўшы, каб несьлі гэтую галіну наперадзе Яе труны.

Божая Маці пажадала разьвітацца з Апосталамі, якія ў той час прапаведавалі Хрыста ў іншых краінах. І вось Гасподзь цу-

дадзейным чынам сабраў усіх Апосталаў да Яе, акрамя Апостала Тамаша.

Гэтай падзеі прысьвяціў сваю працу «Сьмерць Марыі» Караваджа.

Божая Маці намаляваная так, як быццам Яна толькі што памерла, але Яе цела не проста ляжыць... Калі прыгледзецца: ложа можна заўважыць толькі каля галавы, а далей ложа няма. Багародзіца як бы лунае ў паветры. Каб падкрэсьліць асаблівую сьвятасьць Багародзіцы, Караваджа ўвянчаў Яе німбам — толькі Яе, хоць і Апосталы, і Марыя Магдалена праслаўлены Царквой як Сьвятыя.

Тэма карціны Ван дэр Гуса адпавядае апісаньню ў Залатой легендзе (XIII стагодзьдзе). Апосталы з усяго сьвету цудоўным чынам апынуліся каля Яе. Па позьнесярэднявечнай традыцыі, адлюстраваны момант сьмерці ў сучасным яму літургічным кантэксьце.



Сьмерць Марыі — адзін з пяці або шасьці захаваўшыхся шэдэўраў Ван дэр Гуса на марцы фірмы ZAZZLE, выдадзенай у 2015 годзе

Сьвяты Пётр выконвае ролю сьвятара. У зьзяньні над ложкам зьяўляецца Хрыстос у суправаджэньні анёлаў. Ён працягвае рукі насустрач душы Марыі. Хрыстос дэманструе свае раны; ён паўстае як Збаўца, Пераможца сьмерці, на якога паміраючая Маці ўскладае ўсе свае надзеі.

Далей у апісаньні Ўсьпеньня Божай Маці гаворыцца, што ўначы ўвесь дом нечакана напоўніўся аглушальным шумам, зь якога зьявіўся Сам Ісус у суправаджэньні процьма анёлаў. Душа Марыі пакінула цела і Ісус, прыняўшы Яе ў свае рукі, перанёс на Нябёсы.



Адна з найвялікшых марак сьвету, выдадзена поштай Польшчы ў 1960 г. На марцы галоўная частка Алтара Віта Ствоша са сцэнай Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Дзевы Марыі

У цэнтральнай частцы скульптура Дзевы Марыі, якая падае на рукі Апостала Якава Старэйшага. Зьлева знаходзіцца Сьвяты Пётр з кнігай, а справа Сьвяты Ян Эвангеліст. Позірк іншых Апосталаў накіраваны ўверх, дзе разьмешчана сцэна Ўнебаўзяцьця Найсьвяцейшай Дзевы Марыі. Яна трапляе ў рай у суправаджэньні свайго Сына.

Апостал Фама прыбыў у Ерусалім праз тры дні пасьля пахаваньня. Ён быў вельмі засмучаны тым, што не разьвітаўся з Божай Маці. Апосталы, спачуваючы яму, вырашылі адсунуць камень ад магільнай пячоры, каб даць і яму магчымасць разьвітацца з целам Божай Маці. Аднак, адкрыўшы пячору, яны знайшлі там толькі адны пахавальныя пакрывалы.

Зьдзіўленыя Апосталы маліліся Богу, каб Ён адкрыў ім, што сталася з целам Божай Маці. Увечары, пасьля трапезы і малітваў, яны пачулі сьпеў Анёлаў. Зірнуўшы ўгору, Апосталы ўбачылі Божую Маці, акружаную Анёламі, у зьзяньні нябеснай славы. Яна сказала Апосталам: «Радуйцеся! Я з вамі

ўсе дні і заўжды буду вашай малітвеніцай перад Богам». Узрадаваныя Апосталы ўсклікнулі: «Прасьвятая Багародзіца, дапамагай нам!» Так Ісус уславіў Сваю Маці.




Марка пошты Гішпаніі (1962). Сэрыя: Таямніцы Сьвятога Ружанца. «Усьпеньне Багародзіцы», карціна Матэо малодшага Сэрэсо (Cerezo), (1650) Музэй Прада

На карціне Рубенса намалявана Ушэсьце Дзевы Марыі, хор анёлаў падымае яе да выбуху Боскага сьвятла.




Блёк пошты Лесота (1990) «Узьнясеньне Дзевы Марыі», Рубенс (1637), (Лёндан, Інстытут мастацтваў Курто)

У жывапісу гісторыя Усьпеньня і Ушэсьця Божай Маці цалкам адлюстравана ў шасьці сюжэтах: анёл прадвесьціць Марыі яе скон і ўручае ёй пальмавую галіну; Марыя разьвітваецца з апосталамі; узяцьце яе душы на Нябёсы; працэсія, якая ідзе з целам Марыі да месца пахаваньня; пахаваньне; душа Марыі ўзьядноўваюцца зь яе целам і Марыя ў целе ўзносіцца на Нябёсы. Каранацыя Дзевы Марыі, якая адбылася адразу пасьля Ушэсьця.




«Ассунта (Ушэсьце Маці Божай) і Санта» (1747), марка Італіі (2003 г.) да III стагодзьдзя з дня нараджэньня Карада Джыакінта (Corrado Giaquinto, 1703—1766). Катэдральны Сабор ў Мальфета




На марцы пошты Ватыкану (1977г.) абраз Усьпеньня Найсьвяцейшай Багародзіцы з часаслова XV стагодзьдзя, які захоўваецца ў апостальскай Бібліятэцы Ватыкана




«Каранацыя Дзевы Марыі» — рэпрадукцыя карціны Эль Грэка на марцы Гішпаніі (1962г.)

Хрыстос ускладае вянок на галаву Божай маці, Царыцы Нябеснай, анёлы трубяць у трубы, сьвятыя, поўныя глыбокай пашаны, сузіраюць тое, што адбываецца. Залаты фон, які ідзе ад бізантыйскай традыцыі выявы нябёсаў, спалучаецца тут з рэльефна выпісанымі фігурамі.



«Каранаваньне Марыі». Блёк Грэнады (1997г) з сэрыі «Жывапіс». Алтар мастака Фра Анджэліка (Fra Beato Angelico), (1434 — 35. Уфіцы)

У Каралеўстве Валенсія, амаль у кожным доме ёсьць абраз працы Хуана дэ Хуанэса (Juan de Juanes) «Каранацыя Дзевы Марыі».




«Каранацыя Дзевы Марыі» Хуана дэ Хуанэса на марцы Гішпаніі (1979 г.)

Малюнкі па бакам сымбалізуюць асноўныя містычныя імёны Прачыстай Дзевы.

На карціне гішпанскага жывапісца Дыега Веласкеса (1599—1660) намалявана каранаваньне Дзевы Марыі Сьвятой тройцай. Палатно было створана мастаком у 1645 годзе. Гэту падзею, якая адбываецца на нябёсах пасьля Усьпеньня Багародзіцы, яна павінна была прыняць за сваю чысьціню, бязгрэшнасьць і сьвятасьць.




«Каранаваньне Дзевы Марыі» Дыега Веласкеса на блёку Лесота (1989 г.)

Сьвята Каранацыі адсутнічае ў праваслаўным набажэнстве і адзначаецца 22 жніўня ў каталіцкім календары.

Менавіта каранацыя робіць Дзеву Марыю Царыцай Нябеснай.

## Сьвяты Мацьвей, Апостал і Эвангеліст

Сьвяты апостал Мацьвей захаваў у Эвангельлі зямное жыцьцё Хрыста, пачынальна ад Яго нараджэньня і канчаючы Яго сьмерцю і Ўваскрэсеньнем. Эвангельле напісана Сьвятым Мацьвеем у 42-м годзе ў Палестыне на габрэйскай мове і перакладзена на грэцкі. Па часе свайго напісаньня — гэта самае раньняе з усіх чатырох Эвангельляў. Эвангельле ад Мацьвея гэта мосьцік паміж Новым і Старым Запаветам. І гэта альтэрнатыва Старому Запавету. Пачынаецца Эвангельле ад Мацьвея радаслоўнай Ісуса.

Апостал Мацьвей (на іўрыце: מַתִּתְיָהוּ— Матыцьягу або מתי — Матэй, «Дар Яхвэ») адзін з дванаццаці Апосталаў Хрыстовых, жыў у пачатку 1-га тысячагодзьдзя н. э. у галілейскім горадзе Капернаўм.

Мацьвей быў мытарам, гэта значыць зборшчыкам падаткаў для Рыма. Гэта была самая зьняважаная ў юдэяў пасада, носьбіты якой лічыліся ў юдэяў за здраднікаў радзімы і рэлігіі. Размаўляць са зборшчыкам падаткаў лічылася грахом, мець зносіны зь ім — апаганеньнем. Таму надзвычай уразіла фарысэяў і кніжнікаў, калі Ісус паклікаў мытара быць Ягоным вучнем.



«Пакліканьне Сьвятога Мацьвея». Відарыс карціны Караваджа (Michelangelo Merisi da Caravaggio, 1599—1600. Сабор Сан Луіджы дэі Франчэзі) на марцы фірмы ZAZZLE, USA

У цені за сталом ідзе падлік дзённай выручкі мытара Левія, у чым яму дапамагае стары ў акулярах. Ахоўнікі, узброеныя маладыя людзі, апранутыя па апошняй модзе павярнулі галовы ў бок ізноў прыбылых. Струмень сьвятла, які падае з таго боку, дзе стаяць Ісус і апостал Пётр, прарывае цемру. Сьвятло веры ўварвалася ў мітусьлівы, пыхлівы сьвет Левія. Постаць Ісуса амаль цалкам закрывае Пётр. Толькі Яго галава і рука ярка вылучаны на цёмным фоне. Левій у зьдзіўленьні запытальна паказвае рукою на сябе, чакаючы пацьверджаньня.

Юдэйскія настаўнікі не маглі зразумець, што Бог «прыйшоў заклікаць не праведнікаў, а грэшнікаў да пакаяньня» (Паводле Мацьвея 9:13).

«Праходзячы адтуль, убачыў Ісус чалавека, што сядзеў на мытні, якога звалі Мацьвей, і кажа яму: ідзі за Мною. І ўстаў той і пайшоў за Ім» (Паводле Мацьвея 9:9).

У карціне «Пакліканне Сьвятога Мацьвея» нідэрляндзкі мастак Ян ван Хэмесэн паказвае момант, калі Ісус уладна заклікае Мацьвея ісьці за Ім. У выніку, зборшчык падаткаў у Капэрнаўме ператвараецца ў аднаго з дванаццаці апосталаў і аўтара першага Эвангельля. Мацьвей сядзіць у кутку насупраць Ісуса. Ён апрануты ў багатую вопратку і модны галаўны ўбор. Да сярэдзіны 16-га стагодзьдзя гэты дзіўны цюрбан быў атрыбутам ліхвяроў і банкіраў. Двое маладых людзей занятыя, лічэньнем грошай і запаўненьнем бухгалтарскіх кніг, зусім ня ведаюць аб знакавай падзеі, якая адбываецца прама перад іх вачыма: у адказ на заклік Ісуса, Мацьвей здымае свой галаўны ўбор і гатовы адмовіцца ад усіх мірскіх уладаньняў. Хоць сцэна адлюстроўвае сучаснае жыцьцё ў Антвэрпэне, будынкі ззаду кажуць пра біблійныя часы. Такое зьмешваньне сучаснага і біблейскага наводзіць на думку, што гісторыя паўтараецца.




«Пакліканьне Мацьвея». Дэталь карціны Яна ван Хэмесэна. Выпуск пошты Ганы (1995 г.)

Хрыстос і Яго вучні не аспрэчылі запрашэньне Мацьвея і наведалі яго хату, дзе падзялілі трапэзу з сябрамі і знаёмымі мытара — такімі ж, як і гаспадар, мытарамі і грэшнікамі.

«І ўбачыўшы гэта, фарысэі сказалі вучням Ягоным: навошта Настаўнік ваш есьць і пье з мытнікамі і грэшнікамі? А Ісус, пачуўшы гэта, сказаў ім: не здаровыя маюць патрэбу ў лекары, а хворыя; ідзеце, навучэцеся, што азначае: „міласьці хачу,

а не ахвяры“, бо Я прыйшоў заклікаць не праведнікаў, а грэшнікаў да пакаяньня» (Паводле Мацьвея 9:11—13).




На марцы пошты Ватыкану (1983г.) словы з Нагорнай пропаведзі Ісуса: «Дабрашчасныя міратворцы, бо яны сынамі Божымі назавуцца» (Паводле Мацьвея 5:9)

Сьвяты Мацьвей услухваўся навучаньням Настаўніка, бачыў незьлічоныя Яго цуды, хадзіў разам з 12 Апосталамі з пропаведзьдзю да «найболей загіблых авечак дому Ізраілевага...»




Відарыс карціны Рэмбрандта «Эвангеліст Мацьвей натхнёны Анёлам» на марцы Сувэрэннага Мальтыйскага Ордэна (1985г.)

Атрыбут Апостала Мацьвея, ці Левія, — анёл з крыламі, таму майстры жывапісу малююць Мацьвея, як правіла, пішучым сваё Эвангельле пад кіраўніцтвам анёла. Пры ім могуць быць манэты ці кашалёк — атрыбуты яго ранейшага рамяства. Сьвяты Мацьвей лічыцца апекуном рамесьнікаў, будаўнікоў, сталяроў, разьбяроў, кавалёў, банкіраў, мытнікаў а таксама ахоўнікам ад коклюшу і бясплоднасьці.




Пошта Польшчы разьмясьціла на марцы (1991г.) ілюстрацыю «Сьвяты Мацьвей Эвангеліст» з Пултускага Кодэксу 11 стагодзьдзя




На марцы пошты Аўстрыі (1971г.) выява статуі Сьвятога Мацьвея (алтар з 1520 г.), які трымае сякеру — зброю, якая была выкарыстана, каб абезгаловіць яго ў Эфіёпіі

Легенда апавядае, што ў Эфіёпіі, дзе цар стаў дамагацца простай дзяўчыны хрысьціянкі Мацьвей асудзіў яго за грэх, за замах на Хрыстову нявесту, і ў выніку загінуў пакутніцкай сьмерцю ад сякеры.

Сьвяты Мацьвей быў сьведкай пакут і сьмерці, Ўваскрэсеньня Хрыста і Яго Ўшэсьця на неба. Успрыняўшы дарункі Духу Сьвятога, які сышоў на Апосталаў у дзень Сёмухі, Апостал Мацьвей спачатку 8 гадоў прапаведаваў у Палестыне. Потым абышоў з Дабравесьцем Сірыю, Лідзію, Пэрсію,

Парфію, скончыўшы свае прапаведніцкія працы пакутніцкім сконам у Эфіёпіі.

Заслугай Сьвятога Мацьвея зьяўляецца яшчэ і тое, што сваім прыкладам прыцягнуў іншых, каб пра Ісуса Хрыста пісалі ішыя Апосталы.. Так зьявіліся яшчэ тры Эвангельлі, якія адзін адно дапаўняюць.

## Эвангеліст Марк

Менавіта Сьвяты Марк стаў родапачынальнікам такога літаратурнага жанру, як Эвангельле. Ён першы выкарыстаў словы «Добрая Вестка» — «Эвангеліён». Яго Эвангельле карацейшае за іншыя, не самае лепшае з пункту гледжаньня мовы, але ён усё роўна — першы.

Юнак Ёханан па мянушцы Маркус (палатыні — «молат») быў пляменьнікам Варнабы. Хутчэй за ўсё, менавіта ў доме яго маці Марыі адбылася Апошняя Вячэра, а таксама магчыма, што ёй належаў і той кавалак саду на Алейнай гары, дзе Ісус у апошні раз знаходзіўся з вучнямі.

Сьвяты Пётр называе Марка сваім сынам, хутчэй за ўсё з прычыны таго, што ён яго ахрысьціў. Вячэрнік (Сьвятліца) служыў апосталам сховішчам пасьля сьмерці Настаўніка: менавіта туды адправіўся Сьв. Пётр пасьля таго, як анёл вывеў яго з вязьніцы, там Сьв. Пётр навучаў юнага Марка ўсяму, што ведаў і памятаў аб словах і дзеяньнях Хрыста, а хлопец слухаў і напаўняўся зьдзіўленьнем, што пазьней адбілася ў напісаным ім Эвангельлі, якое яшчэ называюць «Эвангельлем цудаў». Менавіта Марк засяродзіў увагу на аздараўленьнях, уваскрасеньнях, прароцтвах, аб'яўленьнях, а не на пропаведзі, багаслоўскім тлумачэньні місіі Хрыста. Марк кажа не толькі пра вялікую колькасьць цудаў, але і пра тое, што вучні і пасьлядоўнікі Хрыста атрымаюць у спадчыну таксама і Яго лёс — пакутаваць, як і Настаўнік.




«Чатыры Апосталы» — Пётр і Ян, Марк і Павал — выява працы Дзюрэра на марцы пошты Вэнгрыі (1978г.)

Калі Павал і Варнава распачалі з Антыёхіі першае апостальскае вандраваньне для пропаведзі Эвангельля юдэям і язычнікам, то разам зь імі, памагатым, адправіўся і Марк (Дзеі 13:5). Суправаджаючы старэйшых апосталаў, ён прайшоў з усходу на захад выспу Кіпр; быў сьведкай цудоўнай паразы сьлепатою па слове апостала Паўла вешчуна Варыісуса. Прыбыўшы затым у Малую Азію, Марк у горадзе Пэргіі чамусьці пакінуў яго з Варнавою і вярнуўся ў Ерусалім, у хату маці сваёй.

У Ерусаліме Марк далучыўся да Апостала Пятра, і Апосталы распачалі вандраваньне ў Рым. Дбайныя рымскія хрысьціяне, не здавольваючыся вуснай пропаведзьдзю апосталаў пра Ісуса Хрыста, прасілі Марка пакінуць і пісьмовы помнік пададзенага імі вучэньня. Марк выканаў гэта жаданьне і напісаў Эвангельле, скарыстаўшыся тым, што чуў пра Хрыста ад Пятра. Гэта Эвангельле — другая па часе напісаньня кніга Новага Запавету і таму займае ў ім другое месца.

У сваім Эвангельлі Марк не гэтулькі выкладае вучэньне Ісуса Хрыста, колькі малюе цудоўныя чароўныя Яго дзеяньні, ясна паказваючы ў Ім Уладара ўсіх стварэньняў,

бачных і нябачных, усёмагутнага Бога — што асабліва пераканаўча павінна было быць для хрысьціян з язычнікаў.




Эвангеліст Марк на марцы Ватыкана (1971г.), мастак Фра Анжэліка

Эвангельле Марка пачынаецца аповедам пра зьяву Яна Хрысьціцеля, які сваёю пропаведзьдзю ажывіў пустэльню Юдэйскую, быў голасам абранага ў пустэльні і ў гэтым стаўленьні прыпадобніўся льву, які жыве і рыкае ў пустэльні. Таму на абразах Эвангеліст Марк малюецца, звычайна, разам з сваім сымбалям зь ільвом.




На марцы Даніі (1973г.) мініяцюра з выявай апостала Марка (старонка з Кнігі Далбі; XI в.; 300 г. каралеўскай бібліятэцы)

Пасьля апостальскіх прац у Рыме Марк пасланы быў Апосталам Пятром для пропаведзі Слова Божага ў Аквілею, багаты горад на паўночным беразе Адрыятычнага мора, які зваўся таму другім Рымам. Заснаваўшы там царкву, Марк, па ўказаньні Апостала Пятра, адправіўся ў Егіпет. У самай Александрыі заснавана была Маркам царква хрысьціянская.




Пошта Люксэмбургу ў 1978 г. выпусьціла марку з выявай карціны 19-га стагодзьдзя «Сьвяты Марк зь ільвом» — росьпіс па шкле

Праз некалькі гадоў пасьля гэтага Марк быў у Антыёхіі.

Затым Марк ізноў адправіўся ў Егіпет, куды праз нейкі час прыбыў і Апостал Пётр. Апосталы заснавалі царкву ў Бавілёне, адкуль Пётр і напісаў сваё Першае пасланьне малаазійскім хрысьціянам.

Па просьбе Апостала Паўла Марк адправіўся ў Рым, а з Рыма ў Малую Азію ў фрыгійскі горад Калосы. Апостал Павал незадоўга да скону выклікаў Марка разам з Апосталам Цімафеем з Малой Азіі ў Рым на дапамогу сабе. «Марка вазьмі і прывядзі з сабою, — пісаў Апостал Павал Цімафею, — бо ён мне патрэбен для служэньня». Калі Марк пасьпеў выканаць гэта жаданьне, то мог быць сьведкай пакутніцкага скону ў Рыме абодвух сваіх настаўнікаў, вялікіх Апосталаў Пятра і Паўла, якія прыблізна ў адзін час пакутавалі за Хрыста ў Рыме. Павел, як рымскі грамадзянін, быў усечаны мячом, а Пётр раскрыжаваны на крыжы.

Затым Марк ізноў адправіўся ў сталіцу Егіпту. Марк заснаваў у Александрыі хрысьціянскую вучэльню, якая праславіцца ў наступнай гісторыі царквы знакамітымі настаўнікамі і бацькамі царквы. З Александрыі Апостал прадпрымаў вандраваньні для пропаведзі Эвангельля ў Афрыку, Лівію, іншыя краіны.

Марк, першы біскуп Александрыйскай царквы, быў і першым яе пакутнікам. Язычнікі, узлаваныя посьпехам яго пропаведзяў, уварваліся ў царкву, схапілі, абвязалі Апостала вяроўкамі і вялі па вуліцах горада, а потым, скатаванага, зьмясьцілі ў вязьніцу. Апоўначы Сьвятому пакутніку зьявіўся анёл Гасподні з радаснай весткай пра хуткую асалоду на небе. На наступную раніцу апантаны натоўп з лютасьцю зноў бязьлітасна цягаў Апостала па вуліцах горада, ад чаго Марк неўзабаве сканаў. Язычнікі вырашылі спаліць яго цела. Ужо разьведзены быў агонь, як раптоўная цемра, страшны гром, землятрус і град расьсеялі натоўп, а дождж затушыў агонь. Цела Апостала пахавалі хрысьціяне.




Гэтая паштовая марка выпушчана ў чэрвені1968 г. у гонар 1900-годзьдзя пакутніцтва Сьв. Эвангеліста Марка і вяртаньня часткі яго мошчаў з Вэнэцыі ў Егіпет і ўрачыстага адкрыцьця новага Сабора Сьвятога Марка ў Каіры

Над мошчамі Сьвятога Марка ў IV веку пабудавана была царква.

Паданьне кажа, што Сьв. Марк загінуў «у восьмы год Нэрона» у Александрыі. Там яго цела захоўвалася да 828 года, калі правіцельмусульманін вырашыў разбурыць храм. Каб цела Эвангеліста не зьнікла, двое купцоў употай вывезьлі яго ў Вэнэцыю, прыкрыўшы скрыню сьвінінай, каб мусульмане не рабілі мытнага дагляду. Плян атрымаўся, а Сьвяты Марк стаў заступнікам Вэнэцыі.

Цяпер у Вэнэцыі над уваходам у Базыліку скульптура апостала Марка, а пад ёй сымбаль Сьв. Марка — крылаты леў.




На паштовым блёку «900-годзьдзе з дня асьвячэньня базылікі Сьвятога Марка», выпушчаным Італіяй сумесна з Сан-Марына ў 1994 годзе, зьмешчана выява Базылікі, якая была пабудавана для месцаваньня мошчаў апостала Марка, якія 31 студзеня 829 года былі прывезены з Александрыі ў Вэнэцыю

Сьвяты Марк апісвае ў сваім Эвангельлі дзеі і цуды Хрыста, падкрэсьліваючы гэтым царскую веліч Сына Божага. У яго Ісус Хрыстос ня толькі «сын Давідаў», як ў Мацьвея, а Сын Божы, Уладар, Цар сусьвету. Гэта яшчэ адна прычына, чаму ў іканаграфіі сымбалям Сьвятога Марка зьяўляецца леў — каралеўская жывёла, сымбаль моцы і сілы.

## Эвангеліст Лукаш — летапісец міласэрнасьці

Сьвяты Лукаш пакінуў пасьля сябе дзьве бясцэнныя рэліквіі, якія забясьпечылі яму падзяку ўсяго хрысьціянства. Імі зьяўляюцца Эвангельле і Дзеі.

Аўтар трэцяга Эвангельля і Дзеяў Апосталаў паходзіў з Сірыі. Па прафэсіі ён быў лекарам, пра што гаворыцца ў лісьце Сьв. Апостала Паўла да Каласянаў. Лукаш, выха-

ваны ў паганстве, прыкладна ў 50 г. у першы раз сустракае на сваім шляху Сьвятога Паўла, далучаецца да яго як вучань, спадарожнік і лекар. Разам з Паўлам хадзіў у Ерусалім для раздачы міласьціны галодным, суправаджаў яго ва ўсіх іншых падарожжах на працягу 17 гадоў аж да самай сьмерці Апостала народаў.




Мініяцюра з Эвангельля Сьв. Лукаша («Біблія ў Aracoeli» XIII ст.), якое захоўваецца ў Ватыканскай Апостальскай Бібліятэцы, на марцы пошты Ватыкана (1972 г.)

У тым ліку і ў марскім падарожжы ў Рым, у час якога адбылося так падрабязна і маляўніча апісанае ім караблекрушэньне.




Пошта Чэскай Рэспублікі ў 2000 годзе выпусьціла марку з рэпрадукцыяй карціны Майстра Тэадорыка — прыдворнага мастака Карла IV Чэскага

На грудзях Сьвятога Лукаша, з левага боку, блізка да сэрца, можна заўважыць крыж. Крыж ледзь прыкметны. Мастак хацеў паказаць, што Бог знаходзіцца ўнутры вашага сэрца. Некаторыя людзі не могуць бачыць гэта, але вы ведаеце пра гэта, і гэта самае галоўнае. У левай руцэ Сьвяты Лукаш трымае кнігу. Кніга тоўстая, з белымі старонкамі, але яны пустыя. Падобна на тое, што Сьвяты Лукаш гаворыць, што мы павінны запоўніць гэтыя пустыя лісты. У верхнім левым куце з сініх аблокаў тырчыць Вол. Вол выглядае сьвятым, таму што мае крылы, як правіла, толькі сьвятыя жывёлы маюць крылы. Вол паставіў дзьве нагі на плячо Сьвятога Лукаша і выглядае, што ён нешта кажа яму на вуха.

Пасьля пакутніцкай сьмерці Паўла ў Рыме Лукаш, па сьцьвярджэньню царкоўных гісторыкаў, усё сваё далейшае жыцьцё да 80-гадовага ўзросту прысьвяціў місіянэрскай дзейнасьці, якая праходзіла ў Італіі, Далмацыі, Македоніі, Грэцыі, дзе былі напісаныя яго Эвангельле і Дзеі апосталаў, і, нават, у Афрыцы.

Паводле адной вэрсіі, Лукаш памёр натуральнай сьмерцю ва ўзросьце 84 гадоў, паводле другой, быў павешаны на аліўкавым дрэве ў Ахайі ў Грэцыі.

Хоць сам, верагодна, ня ведаў Ісуса, аднак быў знаёмы са сьведкамі падзей і ад іх, як з першай крыніцы, чэрпаў усе зьвесткі. Пабудова яго Эвангельля падобна на папярэднія Эвангельлі ад Мацьвея і Марка. Але Эвангельле ад Лукаша на 30% большае па зьместу. Толькі ён перадаў сцэну Зьвеставаньня Найсьвяцейшай Багародзіцы і раства Яна Хрысьціцеля і Ісуса, наведваньне Елізаветы, пакланеньне пастухоў, ахвяраваньне ў храм і знаходжаньне Яго ў храме, — таму Лукаша называюць аўтарам Эвангельля Дзяцінства Ісуса. Ён таксама перадаў першае навучаньне Ісуса ў Назарэце і спробу замаху на Яго жыцьцё, уваскрашэньне хлопца з Наін, аповед аб жанчыне ў доме Сымона фарысэя, аб працы набожных жанчын, запісаў крык Елізаветы: «Дабраславёная Ты сярод жанчын, і дабраславёны плод улоньня Твайго!» (Паводле Лукаша

1:42), гнеў Апосталаў на горад у Самарыі, распаўсюдзіў зьвесткі аб 72 вучнях, а таксама прыпавесьці:

аб неўрадлівым дрэве, аб запрошаных на вясельле, аб страчанай авечцы і драхме, пра заганнага ўладара і пра багацея і Лазара. Ён перадаў нам сцэну вылячэньня дзесяці пракажоных і навяртаньне Закхея.

Менавіта ў гэтым Эвангельлі — і толькі ў гэтым — знаходзяцца апісаньні сустрэчы Ісуса з грэшніцай, якая абмыла Яму ногі алеем (7, 36—50), эпізод з кіраўніком мытнікаў Закхеем (19: 1—10), аповед пра разбойніка, які спачувае Ісусу на крыжы (23, 40—43).




Сьвяты Лукаш. Марка Ватыкана з сэрыі «Чатыры Эвангеліста» (1971г.), фрэска мастака Фра Анжэліка

Сымбалям Сьвятога зьяўляецца вол, і гэта тлумачыцца тым, што Эвангеліст быў цярплівым і верным, як гэтая жывёла. А яшчэ, вол — адзін з чатырох зьвяроў з бачаньня прарока Езэкііля і што вол быў звычайнай ахвярай Старога Закону.

Дзеі Апосталаў — гэта, фактычна, адзіны дакумэнт аб паходжаньні Царквы, які расказвае пра тое, што адбывалася пасьля Ўшэсьця Ісуса. У многіх выпадках Лукаш быў удзельнікам апісаных падзей.

Мы абавязаны яму многімі дэталямі з жыцьця Маці Божай.

Паданьні надзяляюць Лукаша дарам жывапісца. Лічыцца, што менавіта ён намаляваў першыя абразы Маці Божай, калі Яна была яшчэ жывой.

Невялікая сцэна грэхападзеньня чалавецтва, выразаная на падлакотніку трона, сымбалізуе, што Марыя і Хрыстос новыя Адам і Ева, якія вызваляць людзей ад першароднага граху. За сьпіной Сьв. Лукаша праз прыадчыненыя дзьверы бачныя вол і кніга — яго традыцыйныя атрыбуты як аднаго з аўтараў Эвангельля. Дзьве постаці, якія любуюцца пэйзажам, магчыма, Якім і Ганна, бацькі Марыі.




Марка пошты Ганы, 1991г. Сэрыя «Калядны жывапіс». На марцы карціна Рагіра ван дэр Вэйдэна «Сьвяты Лукаш малюе Мадонну». Бостанскі музэй вытанчаных мастацтваў

Сярод іншых аповедаў пра жыцьцё Хрыста менавіта аўтар Эвангельля і Дзеяў Апосталаў найбольш сканцэнтраваўся на дабрыні, якой Ісус адорваў грэшнікаў. Лукаш ня толькі, як Марк, пісаў пра цуды, якія зьдзейсьніў Ісус, не толькі, як Ян, падкрэсьліваў любоў, як матыў Божага дзеяньня ў сьвеце, не толькі, як Мацьвей, адкрываў нам Царства Божае. Лукаш пераказаў зьмест найпрыгажэйшых момантаў сустрэч Ісуса з грэшнікамі і захаваў фундамэнтальнае, прыведзенае ў прыпавесьцях, вучэньне Ісуса пра міласэрнасьць. Таму Сьвятога Лукаша называюць «песьняром Божай міласэрнасьці», бо толькі ў яго Эвангельлі зьмешчана дзьве цудоўныя прыпавесьці Ісуса пра Божую міласэрнасьць. Адна распавядае пра Міласэрнага Самараніна (10, 25—37), другая — пра міласэрнага бацьку і двух братоў (15, 11—32). Лукаш узгадвае

гэтыя прыпавесьці ў той частцы Эвангельля, дзе Ісус прадстаўлены як вандроўны настаўнік.




«...слава ў вышынях Богу, і на зямлі мір, і ў людзях добрая воля» (Паводле Лукаша 2:13). Ватыкан. 1983 г. Марка з сэрыі «Міжнародны год міру»

«А калі набліжаліся дні Ўшэсьця Ягонага ад людзей, — кажа аўтар — Ён захацеў ісьці ў Ерусалім» (9, 51). Не сам горад, аднак, зьяўляецца яго мэтай, але тое, што павінна адбыцца там.




Марка Люксэмбургу (1978) з выявай Сьвятога Лукаша, як заступніка мэдыцынскіх унівэрсытэтаў

Сьвяты Лукаш зьяўляецца апекуном Гішпаніі і горада Ахаі; пераплётчыкаў, лекараў, мастакоў і скульптараў, натарыюсаў, мясьнікоў, ювэліраў. Яго імя носіць цэнтар «Карытас», разьмешчаны пад Менскам.

У іканаграфіі Сьв. Лукаш прадстаўлены як малады чалавек з цёмнымі, кароткімі, кучаравымі валасамі, у туніцы. Часам малюецца, калі малюе карціну. Яго атрыбутамі зьяўляюцца: кніга, палітра, мэдыцынскае абсталяваньне, скальпэль, малюнак або статуя маці Божай, вол, скрутак.




Паштовая марка Італьянскай Рэспублікі, выдадзеная ў 1993 годзе ў азнаменаваньне 400-годзьдзя з дня заснаваньня нацыянальнай Акадэміі Сьвятога Лукаша, як нябеснага заступніка ўсіх мастакоў

Эвангельле на працягу дзесяці разьдзелаў (9:51—19:27) распавядае пра падарожжы Ісуса, падчас якіх Хрыстос паказвае тое, як таямніца міласэрнасьці спаўняецца ў канкрэтных, добра вядомых нам жыцьцёвых сытуацыях. І менавіта адно з казаньняў Сьв. Лукаша заканчваецца заклікам любіць ворагаў нашых: «А вы любеце ворагаў вашых, і дабрачыньце, і пазычайце, не чакаючы нічога; і будзе вам узнагарода вялікая, і будзеце сынамі Ўсявышняга; бо Ён добры і да няўдзячных і да ліхіх.

Дык вось, будзьце міласэрныя, як і Айцец ваш міласэрны» (Паводле Лукаша 6:35,36).

Невядома, дзе знаходзіцца магіла Сьвятога Лукаша. Але да сёньняшняга дня паказваюць яго мошчы ў капліцы сабора Сьвятой Юстыны ў Падуі.

## Сьвяты Ян — Эвангеліст і Апостал любові

Сьвяты Ян, Апостал, сын Зевядзея, рыбака, нарадзіўся ў Віфсаідзе ў зямлі Галілейскай. Ён быў братам Сьвятога Якава старэйшага і зарабляў рыбалоўствам аж да дваццаць пятага года жыцьця. Выхаваны ў сямейных традыцыях верапаслушным, чакаў разам з усімі рэлігійнымі габрэямі зьяўленьня Мэсіі.

Калі прыйшло паведамленьне, што на Ярдане зьявіўся муж, які заклікае да пакаяньня, якога народ лічыць за абяцанага Мэсію, ён пабег у гэта месца і ўбачыў Сьвятога Яна Хрысьціцеля, папярэдніка Збаўцы, не доўга, аднак, пры ім застаўся.



Ян Багаслоў і Сьвяты Ян Хрысьціцель. Марка Баўгарыі (1991г.) да 450-годзьдзя з дня нараджэньня Эль Грэка

Аднойчы папраўляў у сваёй лодцы сеткі разам з братам Якавам, калі прыйшоў Гасподзь Ісус і заклікаў абодвух, каб яны далучыліся да Яго і сталі Яго вучнямі. Ён паслухаўся прызыву Ісуса і стаў Яго пя толькі вучнем, але і Апосталам.

Яго палюбіў Хрыстос з-за анёльскай чысьціні і душэўнай прыхільнасьці, якія свайму Настаўніку выяўляў. Таму ў Эвангельлі ён па праве называе сябе каханым вучнем Ісуса, і называе не з гонару, але з падзякі і любові да свайго Боскага Настаўніка.

Любоў Збавіцеля цудоўным чынам падзейнічала на Сьвятога Яна, зрабіла сьведкам Яго Сьвятых таямніц. Ён з Пятром і Якавам быў сьведкам Яго перамяненьня на Фаворы, ён бачыў Яго маленьне на Алейнай Гары. На Апошняй вячэры ляжала яго галава на грудзях Ісуса, толькі яму сказаў Ён пра здраду Юды.




Блёк пошты Рэспублікі Тога (1984г.). Андрэа дэль Кастана «Тайная вячэра». Каля 1450. Фрэска. Трапезная цэрквы Санта-Апалонія. Музэй Андрэа дэль Кастана, Флярэнцыя

Ён прымаў разам з Марыяй і Магдаленай удзел у пакутах і сьмерці Збаўцы, стоячы пад крыжам. Там зрабіў Ісус любімага вучня спадчыньнікам любові да каханай Маці, яго прызначыў на Яе апекуна і абаронца.




«Расьпяцьце Хрыста на крыжы» або «Дзіда». Кук Ісландс, 1977. Рубенс

Побач з Хрыстом намаляваныя ўкрыжаваныя разбойнікі Дысмас і Гестас.

Хрыстос памірае на крыжы падчас зацьменьня сонца. Асуджаныя зламысьнікі абок яшчэ пры жыцьці. Салдаты гатовыя паско-

рыць іх сьмерць. Справа, «дрэнны злодзей» Гестас змагаецца. Дысмас, «добры злодзей» пакорліва глядзіць на неба. Ля іх ног, Марыя, Ян Багаслоў і Марыя Клеопа аплакваюць сьмерць Хрыста. Марыя Магдалена спрабуе перашкодзіць Рымскаму легіянэру Лонгіну ўдарыць Ісуса Хрыста дзідай.



«Ісус Хрыстос на крыжы». Аджман, 1973. Марка з сэрыі «Крыжовы шлях»

Ян бачыў сьмерць Ісуса, бачыў бок Яго дзідай працяты, ён бачыў, як б'е з раны кроў і вада. Зьнімаў з крыжа цела і склаў на рукі Маці Балеснай. Быў пры пахаваньні Яго ў магілу і не зьдзівіўся, калі яму Сьвятыя жанчыны заявілі, што бачылі Ісуса, а неадкладна пабег з Пятром да Яго магілы, і першы стаяў над пустой магілай.




«Палажэньне ў труну», Пітэр Паўль Рубенс, 1611—1612.). Блёк пошты краіны Выспы Кука (1977

З вялікай напругай сіл імкнуцца ўтрымаць на вазе яго цела блізкія, усхвалявана працягвае рукі да Хрыста ўкленчаная Магдалена, у журботным экстазе парываецца абняць цела сына Марыя, якую беражліва падтрымлівае Ян. Цяжка правісае грузнае амярцьвелае цела Хрыста.

Зьзяньне, якое разгараецца вакол галавы Хрыста, як бы плавіць, ператварае ў патокі вогненнай, залаціста — чырвонай лавы пакрываючыя высокае неба хмары. Сама постаць Хрыста зьяўляецца цудам: правільна складзенае прыгожае цела сьвеціцца знутры і, здаецца, не мае вагі. Яго сьнежнабелыя аслоны паднімаюцца ўверх невядомай сілай, злучаючыся з вогненнымі аблокамі. Моц сьвятла нарастае ад прарослай каранямі ямы магілы да падпаленага неба, ад стражнікаў і гледачоў, якія стаяць за межамі малюнка, да Хрыста.




«Уваскрасеньне Хрыстова». Карціна Альтдорфера Альбрэхта (1518) (Вена Мастацка-Гістарычны Музэй) на марцы пошты Выспы Кука (1970 г.)

Праз некалькі дзён потым Ян стаяў з іншымі вучнямі над возерам Галілейскім. Ісус зьявіўся на беразе, а Ян Яго адразу пазнаў і сказаў аб гэтым Сьвятому Пятру. Потым елі разам рыбы, якія злавіў Пётр.

Калі пасьля Ушэсьця Госпадняга, Сьвяты Пётр і Сьвяты Ян пайшлі ў храм, аздаравілі ў Імя Ісуса кульгавага, які ў іх прасіў міласьціну і абвясьцілі народу Уваскрэсеньне Хрыста, то за гэта кінулі іх у турму. Вышэйшым савет, выпускаючы з турмы, загадаў ім строга, каб ужо больш не прапа-

ведавалі ў Імя Ісуса. Гэта патрабаваньне адхілілі з абурэньнем, кажучы, што мы павінны больш слухаць Бога, чым людзей, і як раней распавядалі Эвангельле. Калі іх зноў пасадзілі ў цямніцу, вызваліў іх анёл, і яны зноў вучылі ў храме. Прысуджаныя да бічаваньня, радаваліся, што церпяць за Хрыста і не пераставалі ўхваляць Яго Імя.




Сьвяты Ян і Сьвяты Пётр. Дэталь карціны Альбрэхта Дзюрэра на марцы пошты Умм-эль-Кайвайна, выдадзенай у 1972 годзе з нагоды 500-годзьдзя з дня нараджэньня мастака

Неўзабаве пасьля гэтага адправілі іх калегі Апосталы ў Самарыю, дзе быў створаны невялікі прыход з хрысьціян. Апосталы далі ім сакрамэнт канфірмацыі і вярнуліся ў Ерусалім. Пасьля шматгадовага знаходжаньня ў гэтым горадзе наведаў Ян некалькі краін, каб ім несьці добрую вестку аб прыходзе Хрыста. Маці Божая была зь ім. Ён шанаваў Яе, і вялікай Яна была акружана павагай, а калі пераехаў у Эфэс, дзе ён заснаваў сталіцу біскупа, узяў Яе з сабой, каб надалей выконваць апошняе даручэньне Ісуса Хрыста.

У капліцы Сан-Хуан-дэ Касельлес (Sant Joan de Caselles Church), якая лічыцца адной з лепшых пабудоў у раманскім стылі ў Андоры знаходзіцца Алтар 16-га стагодзьдзя, у верхняй частцы якога вакол статуі Сьвятога Яна паказаныя дванаццаць сцэнаў з кнігі Адкрыцьця і жыцьця Сьвятога Яна. Гэтыя дванаццаць выяваў сталі зьместам 12 марак, выпушчаных французскай паштовай Адміністрацыяй з 1969 па 1972 гады.




«Біскуп і слуга». Фрэска, якая ўпрыгожвае Алтар капліцы Сан-Хуан-дэ Касельлес. Марка Андоры (1972 г.)

Калі Марыя адчула, што неўзабаве памрэ, Ян пераехаў зь Ёй у Ерусалім і стаяў каля Яе перад сьмерцю.




«Сьмерць і Ўсьпеньне Прасьвятой Багародзіцы» — дэталь цэнтральнай часткі Алтара ў касьцёле Марыяцкім у Кракаве — на марцы Рэспублікі Польшча (1933 г.), выдадзенай з нагоды 400 гадавіны сьмерці Віта Ствоша

У цэнтральнай частцы знаходзіцца скульптура Дзевы Марыі, якая падае на рукі Апостала Якава Старэйшага. Зьлева ад Дзевы Марыі знаходзіцца Сьвяты Пётр, які чытае кнігу, а справа Сьвяты Ян Эвангеліст, які выцірае вільготныя ад сьлёз вочы. Астатнія Апосталы глядзяць уверх у розных позах малітвы і смутку.

Вялікі быў яго смутак, калі прыйшоў момант расстаньня з каханай Маці. Суцяшала

толькі надзея, што калі-небудзь убачыць Яе ў славе нябеснай побач з Сынам, а Найсьвяцейшая Дзева Марыя запэўніла яго, што і на Нябёсах пра Яго не забудзе.

Затым ён вярнуўся ў Эфэс і, па патрабаваньню вернікаў узяў пяро, загадаў усеагульны пост і малітву і пачаў сваю працу над Эвангельлем са слоў: «У пачатку было Слова (г. зн. Сын Божы), і Слова было ў Бога, і Бог быў Словам». Меў тады Ян 85 гадоў.




На марцы Люксэмбурга (1978г.) Сьвяты Ян за працай над Эвангельлем

Зьмест яго пісьма атрымаўся такім узьнёслым, што на карцінах і статуях у яго гонар мастакі разьмяшчалі абок Яна арла.

Ён зьвяртаецца да вернікаў са словамі: «Шчасьлівыя тыя, хто чуе словы гэтага прароцтва і выконвае усё, што ў ім напісана, бо час блізка»




На марцы Андоры (1970г.) Сьвяты Ян у катле з кіпячым алеем

Сэрца яго было напоўнена любоўю, а жыцьцё — бесперапынны шэраг актаў любові. З-за любові і дзеля Хрыста і выратаваньня душы гатовы быў усё трываць. Калі ўспыхнулі ў другі раз ганеньні на хрысьціян, намесьнік Азіі загадаў схапіць яго і адправіць у Рым, дзе яго кінулі ў кацёл, напоўнены кіпячым маслам. Гасподзь Бог выратаваў яго так цудоўна, што выйшаў ён цэлым і непашкоджаным. Язычнікі прыпісвалі яго выратаваньне вядзьмарству, а імпэратар Даміцыян выгнаў яго на востраў Патмас, дзе Ян запісаў сваю знакамітую Сьвятую кнігу Адкрыцьцё.




На марцы Андоры (1971) сцэна з жыцьця Апостала. «Сьвяты Ян у выгнаньні на Патмасе». Марка фірмы ZAZZLE (2015г.)
На марцы дэталь карціны Ераніма Босха

Сьвяты Ян запісвае бачаньня, якія зьяўляюцца яму то ў жахлівых, то ў надаючых надзею вобразах. Пабуджаны анёлам, ён падымае свой позірк на неба, дзе бачыць Марыю з Немаўляткам, «апранутых у Сонца», і не заўважае дэмана, які хоча ўкрасьці ў яго чарніліцу.

Чацьвёртае Эвангельле зьмяшчае шмат адрозьненьняў у супастаўленьні з Эвангельлямі другіх Эвангелістаў. Іншае ў Яна і разьмяшчэньне матэрыялу, зьвязанага з жыцьцём і дзейнасьцю Ісуса, іншыя літаратурныя сродкі, якімі карыстаецца Аўтар гэтага Эвангельля. У Яна Ісус жыве і вучыць, перш за ўсё, у Ерусаліме.

Эвангельле ад Яна складаецца з апісаньня цудаў Ісуса («кніга знакаў»: 1—12) і гісторыі Яго пакут («кніга запалу»: 13—21).

Разьмешчаныя на працягу ўсяго Эвангельля прамовы Ісуса ўяўляюць сабой як бы асобныя багаслоўскія трактаты. У Эвангельлі ад Яна Ісус зусім не кажа так тыповымі для Сыноптыкаў прыпавесьцямі.

У чацьвёртым Эвангельлі шмат вобразаў, якія пераходзяць часам у алегорыі. Над імі неабходна доўга разважаць і адкрываць у іх праўды больш высокага парадку. Таму Эвангельле ад Яна яшчэ называюць як «Эвангельле духоўнае».

Акрамя Адкрыцьця і Эвангельля напісаў Ян яшчэ тры лісты, у якіх гаворыцца ў асноўным аб любові да Бога і бліжняга.

Пасьля сьмерці імпэратара Ян вярнуўся ў Эфэс, і ўзяў на сябе кіраваньне хрысьціянскімі суполкамі.

Калі ж Сьвяты Ян стаў вельмі стары, так што яго вучні ў царкву сталі насіць на руках, ужо не мог казаць пропаведзі і казаў толькі словы: «Сыны, любіце адзін аднаго!» Ён так часта гэта казаў, што нарэшце яны спыталіся ў яго: «Настаўнік, чаму ты заўсёды толькі гэта кажаш?» А ён адказаў: «Гэта загад Госпада. Хто яго выконвае, то гэтага ўжо хопіць».

На канец надышоў той момант, калі Гасподзь Ісус павінен быў узяць да сябе самага каханага з сваіх вучняў. Сьвяты Ян жыў у той час у Эфэсе, і налічваў ужо больш за сто гадоў. Узяўшы аднойчы з сабой некалькі сьвятароў, пайшоў зь імі на адну з гор навакольных, і, стаўшы ў яе вяршыні, ён загадаў сабе там магілу выкапаць. Калі скончылі капаць, зьвярнуўся да вучняў: «мір вам, браты» і загадаў ім сысьці. Яны пайшлі і азірнуўшыся, убачылі, што магіла яго зьзяе Сьвятлом. 27 сьнежня 104 года ад Нараджэньня Ісуса Хрыста гэта здарылася.

Па вельмі старым паданьні Ян выпіў чашу з атрутай, каб пераканаць прыхільнікаў ідалаў, што таму, хто служыць Хрысту, нішто не можа нашкодзіць. Любоў сьмерці не баіцца. І гэтай любові ні адзін з Апосталаў болей не прапаведаваў, чым «Апостал любові».




«Ян Эвангеліст», Аданіс Ван Дэйк (1599—1641) Вэнгрыя. 1969 г. Марка з сэрыі «Рэпрадукцыі карцін нідэрляндзкіх мастакоў. Музэй Іштвана Добо ў Эгеры» і Музэй вытанчаных мастацтваў у Будапэшце

У руцэ Ян трымае чашу з атрутай, зь якой вылазіць зьмяя.

Паміраючы, Апостал Ян казаў: «любіце адзін аднаго, таму што гэта запаведзь Божая». Так запісана ў яго Эвангельлі: «Запаведзь новую даю вам, палюбеце адзін аднаго; як Я палюбіў вас, так і вы палюбеце адзін аднаго; па тым пазнаюць усе, што вы Мае вучні, калі будзеце мець любоў між сабою» (Паводле Яна 13:34,35).

З гэтай прычыны Царква ў дзень Сьвятога Яна, дае вернікам блаславёнае віно са словамі: «Спажывайце любоў Сьвятога Яна».

Заканчваецца Эвангельле ад Яна словамі: «Гэты вучань і сьведчыць пра гэта і напісаў гэта: і ведаем, што ў ісьціне сьведчаньне ягонае. Многа й іншага стварыў Ісус; але калі б пісаць пра тое падрабязна, дык, думаю, і самому сьвету не ўвабраць напісаных кніг. Амін» (Паводле Яна 21:24,25).

# Адкрыцьцё

*Адкрыцьцё Ісуса Хрыста, якое даў Яму Бог, каб паказаць рабам Сваім, што мае быць неўзабаве. (Адкрыцьцё 1:1)*

## I. Зьява Хрыста Яну Эвангелісту на Патмасе

Кніга «Адкрыцьцё Яна», займае адмысловае месца сярод кніг Сьвятога Пісаньня і апісвае апакаліпсічныя бачаньні, якія, датычаць сканчэньня сьвету, Другога Прышэсьця і Страшнага Суда.

У многіх месцах Бібліі можна прачытаць прарочыя словы, што Зямля, на якой мы жывём, не будзе існаваць вечна. Але найбольш пра гэта гаворыцца ў апошняй кнізе Бібліі «Адкрыцьцё» Яна, напісанай на высьпе Патмас.




«Сьвяты Ян на высьпе Патмас». Марка пошты Гішпаніі (1974 г.) з выявай карціны Эдуарда Расалеса (Eduardo Rosales, 1836—1873)

Сьвяты Ян з арлом, які сымбалізуе духоўныя ўзьлёты яго Эвангельскага вучэньня і паведамляемых у ім боскіх таямніц.

Ян быў адным з дванаццаці апосталаў Хрыста. Калі ён быў у ссылцы на высьпе Патмас, зьявіўся яму Хрыстос і аказаў: «Я ёсьць Альфа і Амэга, першы і апошні»; тое, што бачыш, напішы ў кнігу і пашлі цэрквам, якія ў Азіі: у Эфэс і ў Сьмірну, і ў Пергам і ў Фіятыру, і ў Сардыс, і ў Філядэльфію і ў Ладыкію» (Адкрыцьцё 1:10,11).




Альфа і Амэга каля німба Хрыста. Фрагмэнт росьпісаў рымскіх катакомбаў (4 ст.) на марцы Ватыкану (1975 г.)

Над уваходам у пячору Апакаліпсісу на высьпе Патмас знаходзіцца мазаіка, на якой паказаны Сьвяты Ян і яго вучань Прохар, які запісвае бачаньні Яна.




Ікона з выявай мазаікі над уваходам у пячору Апакаліпсісу. Грэцыя (1995 г.)

На мазаіцы ў верхняй частцы тэкст: «Ὁ Ἅγιος Ἰωάννης ο Θεολόγος» («Сьвяты Ян Багаслоў»),

Апостал Ян у сваіх бачаньнях раскрывае перад чытачом розныя бакі вайны паміж дабром і злом і працэс духоўнага самавызначэньня ў людзях, у выніку якога адны зь іх становяцца на бок дабра, іншыя — на бок зла. На працягу разьвіцьця сусьветнага канфлікту Суд Божы ўвесь час зьдзяйсьняецца над асобнымі людзьмі і народамі.




Сьвяты Ян з адным з біскупаў «сямі цэркваў» на марцы Андоры (1972 г.)




Пошта Манголіі ў 1968 годзе выпусьціла ў зварот марку з выявай карціны мастака Алонса Кана (Alonso Cano de Almansa) «Сьвяты Ян-Эвангеліст на высьпе Патмас». (1646 — 1650. Будапэшт. Музэй выяўленчых мастацтваў.)

Фрэска «Зьява Хрыста Яну Эвангелісту на Патмасе» намалявана ў 1520—1523 гадах мастаком Антоніа Карэджа на купале царквы Сан Джавані Эвангеліста ў Парме. Купал, размаляваны мастаком так, што стварае ілюзію нябеснага зводу. Сьвяты Ян глядзіць на Хрыста, які яўляецца яму ў арэоле сьвятла. Цуд адбываецца ў прысутнасьці адзінаццаці апосталаў, якія разьмешчаны сваеасаблівым шэрагам на аблоках. Па баках купальнай кампазыцыі намаляваны чатыры Эвангеліста: Лукаш, Мацьвей, Марк і Ян.




Фрэска «Зьява Хрыста Яну Эвангелісту на Патмасе» на блёку пошты Экватарыяльнай Гвінэі (1974 г.)

«Адкрыцьцё» пачынаецца з Пасланьняў сямі цэрквам, якія азначаюць сем пэрыядаў ці эпох у гісторыі Царквы ад яе пачатку да «скону».

## II. Прароцкае бачаньне

Часткі 4—10 Адкрыцьця Яна — прароцкае бачаньне, якое пачынаецца на небе — у сьвеце духоўным, нябачным, з апісаньня «Бога на троне», які трымае Кнігу, запячатаную сям'ю пячаткамі. Карціна, якую малюе тут Эвангеліст, ёсьць як бы іканапісны малюнак нябеснага набажэнства, дзе неба ёсьць падабенства храма, а нябачная прысутнасьць Божая паказана ў выглядзе праменяў сьвятла.

«Дваццаць чатыры троны» — гэта знак чалавецтва. Дваццаць чатыры старца, па дванаццаць абапал, — знак выбраньнікаў чалавецтва. Кніга — гэта гісторыя сьветабу-

довы, якая бачная Богу ў закончаным і дасканалым выглядзе.

«І з трона зыходзілі маланкі і грымоты і галасы, і сем сьветачаў вогненных гарэлі перад тронам, якія ёсьць сем духаў Божых. І перад тронам мора шкляное, падобнае да крышталю; і пасярод трона і навокал трона чатыры жывыя істоты, поўныя вачэй сьпераду і ззаду: І першая жывая істота была падобная да льва, і другая жывая істота падобная да цяляці, і трэцяя жывая істота мела аблічча, як у чалавека, і чацьвёртая жывая істота, падобная да арла лятучага» (Адкрыцьцё 4:5—7).




Бог на троне з Кнігай і «сем сьветачаў вогненных» на марцы пошты Андоры (1972 г.)

Апісаньне гэтых жывёл паўтарае бачаньне прарока (Езэкііль 1:5—10), дзе сказана, што «гэтыя жывёлы зьяўляюцца Херувімамі» (Езэкііль 10:20).




Пошта С’ера Леонэ ў 2015 г. выпусьціла блёк з выявай карціны Рубенса «Бачаньне прарока Езэкііля»

Наступная выява фрэскі 10 ст., якую польскія архэолягі знайшлі ў Егіпце ў Фарасе (сучасны Судан). Сымбалі Эвангелістаў рвзьмешчаны вакол выявы Хрыста ў кутах крыжа. Фрэску за яе зьмест сталі называць «Крыж Эвангелістаў».




У 1971 годзе пошта Польшчы выпусьціла марку з выявай жывёл — сымбаляў Эвангелістаў

## III. Лёсы чалавецтва

З 6-й часткі пачынаецца раскрыцьцё лёсаў чалавецтва.

Раскрыцьцё Ягнём-Хрыстом сямі пячатак таямнічай кнігі служыць пачаткам апісаньня розных фаз вайны паміж дабром і злом, паміж Царквой і д'яблам.




Божае Ягня на марках Ліхтэнштэйну (2015 г.) і Вэнгрыі (1995 г.)

Здыманьне першай пячаткі адпавядае пачатку апошніх часоў перад галоўнымі падзеямі: «І я бачыў, што Ягня зьняло першую з сямі пячатак...»

Пасьля здыманьня кожнай з першых чатырох пячатак тэтраморфы ўсклікаюць Яну — «ідзі і глядзі» — і перад ім па чарзе зьяўляюцца апакаліптычныя вершнікі. Ужо ў Кнізе прарока Ісаі ёсьць вобразы вершнікаў — носьбітаў біча Божага, навальніцы Божай (Ісая 22:6,7).

На марцы Гішпаніі выява адной зь ілюстрацый X ст. з кнігі «Тлумачэньне на Апакаліпсіс» (776 год) манаха Беата Ліэбанскага (лат. Beatus Liebanensis).




Чатыры вершнікі Апакаліпсісу на марцы Гішпаніі (1975г.). Пошта Рэспублікі Чад (1969 г.) адлюстравала момант, калі Апостал Ян бачыць выяву чатырох вершнікаў і занатоўвае ўбачанае

Коньнікі, пасланцы лёсаў Божых, маляваліся таксама ў Кнізе прарока Захарыі: «уначы бачыў я ўяву: вось, муж на рыжым кані стаіць паміж міртамі, якія ў паглыбленьні, а за імі коні рыжыя, пярэстыя і белыя...» (Захарыя 1:8) і (Захарыя 6:2—6).

Хто ж гэтыя чатыры вершніка ў Апакаліпсісе?

Гэта выява тых катастроф, якія спасьцігнуць сьвет у яго самыя цяжкія, пераходныя, крытычныя часы.

Першым з вершнікаў зьяўляецца Мор, які скача на белым кані. За Морам скача Вайна на крывавым кані і з велізарным мячом. З Вайной, у сувязі з масавымі разбурэньнямі і морам, прыходзіць Голад. Голад тоўсты, але скача на лядашчым чорным кані, увасабляючы абжорства і голад адпаведна. І з голадам будзе Сьмерць. Яе конь бледны. За ёй наступае Пекла, якое паглынае ўсе пакінутыя душы.




На марцы Злучаных Штатаў Амэрыкі маляўніча паказаныя коні, але яшчэ без вершнікаў




«Чацьвёра вершнікаў» Дзюрэра на блёку пошты Мазамбіку (2011 г.)

У аркушы «Чацьвёра вершнікаў» з цыклу дрэварытаў Дзюрэра «Апакаліпсіс» (1496—1498) адносна невялікая кампазыцыя зьмясьціла ў сабе бязьмежную энэргію гневу Божага. Над зямлёй лунае анёл — пасланец, а па зямлі праносяцца караючыя вершнікі, пад капытамі гінуць грэшныя людзі. Радкі Сьвятога Пісаньня гучаць у кожным штрыху майстра Рэнесансу.

«І калі Ён зьняў пятую пячатку, я ўбачыў пад ахвярнікам душы забітых за слова Божае і за сьведчаньне, якое мелі яны. І залямантавалі яны моцным голасам, кажучы: дакуль, Уладыка сьвяты і праведны, ня судзіш і ня помсьціш жыхарам зямным за кроў нашу? І дадзена было кожнаму зь іх белае адзеньне, і сказана ім, каб яны супакоіліся яшчэ на нядоўгі час, пакуль і

саслужнікі іхнія і браты іхнія, якія будуць забітыя, як і яны, дапоўняць лік» (Адкрыцьцё 6:9—11).




«Зьняцьцё пятай пячаткі» (Visión del Apocalipsis) — так называецца карціна Эль Грэка (1608—1614, Метрапалітэн-музэй, Нью-Ёрк V). Відарыс карціны адлюстраваны на марцы краіны Сэнт-Вінсэнт і Грэнадзіны (2014)

Сюжэт карціны адпавядае тэксту Кнігі: душы памерлых, якія згінулі за веру, за Слова Божае, зьвяртаюцца да нябёсаў, І Гасподзь шле ім белае адзеньне. На пярэднім пляне неймаверна выцягнутая постаць Сьвятога Яна з прасьцёртымі ўгару рукамі і тварам, зьвернутым да нябёсаў. У глыбіні карціны, нібы ў бяздонным правале, сьвятыя пакутнікі паўстаюць са сваіх магіл, каб атрымаць белае адзеньне. Яны распасьціраюць рукі да нябёсаў, патрабуючы помсты за свае пакуты. Выцягнутыя агаленыя фігуры кідаюцца, нібы языкі полымя. Справа знаходзіцца група з трох мужчынскіх фігур на фоне зялёнай драпіроўкі, якія прымаюць з рук херувімаў белыя адзеньні...

Эль Грэка атрымалася адлюстраваць містычнае бачаньне апакаліпсісу ў колеры, сьвятле і руху. Ствараецца ўражаньне, што фарбы на карціне сьвецяцца, лучацца загадкавым перламутравым сьвятлом...

Абраныя праведнікі сабраліся ў Нябесным Ерусаліме, каб пакланіцца Боскаму Ягню, Якое сымбалізуе Хрыста.

«...вялікае мноства людзей, якога ніхто ня мог палічыць, з усіх плямёнаў і каленаў, і народаў і родаў стаяла перад тронам і перад Ягнём у белым адзеньні і з пальмавымі галінкамі ў руках сваіх» (Адкрыцьцё 7:9).

Гэтым радкам з «Адкрыцьця» прысьвечаны Гентскі алтар у каталіцкім катэдральным саборы Сьвятога Бавона ў бэльгійскім горадзе Гэнт. Надпіс на алтары паведамляе, што праца над ім была пачата Хубертам ван Эйкам і скончаны яго братам Янам. Асьвячоны 6 траўня 1432 г.




Гентскі алтар на блёку Бэльгіі (1986 г.)

Алтар складаецца з 24 панэляў, на якіх намаляваны 258 чалавечых постацяў. Вышыня алтара ў цэнтральнай частцы дасягае трох з паловай мэтраў, шырыня — пяці мэтраў.

У цэнтры на алтары Ягня, сымбалізуючае Хрыста. Яго кроў праліваецца ў чару. Над Ягнём у зьзяньні лунае голуб, знак Сьвятога Духу. Вакол укленчаныя і якія славяць Яго Анёлы — двое зь іх трымаюць прылады Пакут: крыж, дзіда і цярновы вянок, два іншых — слуп (атрыбут бічаваньня Хрыста). Унізе — шасьцікутная хрысьцільня

з крыніцай жыцьця. Першы плян зьлева заняты прарокамі, філёзафамі, мудрацамі — усімі, хто прадказаў нараджэньне Выратавальніка. Тут жа знаходзяцца антычны паэт Вяргілій і вялікі Дантэ і язычнікі, якія былі дараваны Царквой. Справа — пэрсанажы Новага Запавету; яны стаяць укленчаныя. За імі разьмясьціліся герархі Царквы. На заднім пляне яшчэ дзьве вялікія групы. Зьлева вернікі ў блакітным адзеньні. З процілеглага боку Сьвятыя Дзевы-пакутніцы на чале з Сьвятой Агнесаю, Сьвятою Варвараю, Сьвятою Даратэяю і Сьвятою Ўрсулаю. У глыбіні — выява Новага Ерусаліма. У паветры застылі залатыя кадзілы, якімі ўзмахнулі анёлы. Залатыя прамяні тонкімі лініямі льюцца з німба, які атачае голуба — Сьвяты Дух. З усіх бакоў да Ягняці, кроў якога ператварылася ў крыніцу жыцьця, павольна і ўрачыста набліжаюцца сьвятыя, праведнікі, апранутыя ў сіняе, і пакутуючыя грэшніцы. Справа і зьлева — салдаты, судзьдзі, паломнікі і пустэльнікі. Яркім сонечным сьвятлом заліты шырокі зялёны луг. (Навукоўцы налічылі на Гентскім алтары больш 30 выглядаў расьлін).

## IV. Пачатковыя бедзтвы і вайна анёлаў з цмокам

У 7-й частцы гукі сямі анёльскіх труб узьвяшчаюць пачатковыя бедзтвы, якія павінны спасьцігнуць людзей за іх няверу і грахі. Першыя чатыры трубы, падобна першым чатыром пячаткам, утвараюць адзіную групу, вынікам дзеяньня якой зямля, моры і рэкі зрабіліся непрыдатнымі для жыцьця людзей. Апісваецца пашкоджаньне прыроды і зьяўленьне ў сьвеце злых сіл. Перад пачаткам бедзтваў вернікі атрымліваюць на чало (на лоб) пячатку, якая захоўвае іх ад маральнага зла і ад долі ганебных.

«І ўгледзеў я другога анёла моцнага, які сыходзіў зь неба, апрануты ў хмару; над галавою ў яго была вясёлка, і аблічча ў яго як сонца, і ногі ў яго як стаўбуры агнявыя, у руцэ ў яго была кніжка разгорнутая. І паставіў ён правую нагу сваю на мора, а левую на зямлю...» (Адкрыцьцё 10:1,2).




«Анёлы Апошняга Суда» — фрэска Трогера на марцы Аўстрыі (1968 г.)




«Анёлы» — фрагмэнты карціны «Страшны суд» Мікеланджэла Буанароці на марках Ватыкану (1976 г.)

Паводле Біблейскага апавяданьня, народ Божы ішоў за слупам агністым, гэта значыць Анёлам, які правадырнічаў ім. Тутака ж — мэсіянскі Анёл Новага Запавету: ён вядзе новы народ, які ідзе за Ім, як у старажытнасьці за агністым слупам. У руцэ ў яго расчыненая кніжка. Заўважым, што насамрэч гаворка ідзе не пра кніжку, а пра

маленькі скрутак. Вялізарны Анёл трымае маленькі скрутак — гэта Дабравесьце Нова-га Запавету, малое па памеры, але вялікае па значэньню. Аўтар жадае падкрэсьліць яго адрозьненьне ад папярэдняй кнігі, за-пячатанай сям'ю пячаткамі, той велізарнай кнігі таямніц Божых, якая была адчынена Ягнём.




«Моцны» Анёл, «апрануты ў хмару» на мар-цы пошты Андоры (1969 г.)

«І зьявілася на небе вялікая азнака — жанчына, адзетая ў сонца; пад нагамі ў яе месяц, і на галаве ў яе вянок з дванаццаці зорак. Яна мела ва ўлоньні і крычала ад бо-лю і родавых пакутаў. І другая азнака зья-вілася на небе: вось, вялікі чырвоны цмок зь сямю галовамі і дзесяцьцю рагамі, і на галовах у яго сем дыядэм...» (Адкрыцьцё 12:1—3).




«Жанчына, адзетая ў сонца» і «чырвоны цмок» на марцы Андоры (1969 г.)

Супраць Царквы паўстае агністачырво-ны цмок, які мае сем галоў і дзесяць рагоў. Гэта той зьмей, які спакусіў Адама, зьмей, званы д'яблам і сатаною. Адбудзецца выра-шальная бітва.




Выява Бітвы Арханёла Міхаіла з д'яблам на марцы Аўстрыі (2012 г.)



«Вайна ў небе. Арханёл Міхаіл у барацьбе з падшымі анёламі.» Блёк Замбіі (1997) з вы-явай карціны Рубенса




Выява Бітвы Анёлаў і Арханёла Міхаіла з д'яблам на марцы пошты Андоры (2014 г.) з Алтара царквы ў вёсцы Пратс. Майстар Канільё. 16 век

«І адбылася на небе вайна: Міхаіл і анёлы ягоныя ваявалі супроць цмока, і цмок і анёлы ягоныя ваявалі супроць іх, але ня ўстоялі, і не знайшлося ўжо ім месца на небе. І скінуты быў вялікі цмок, старавечны зьмей, называны д'яблам і сатаною, змусьціцель усяго сьвету, скінуты на зямлю, і анёлы ягоныя скінуты зь ім» (Адкрыцьцё 12:7—9).




На марцы пошты Італіі (1954 г.) і на марцы пошты Рэспублікі Нігер (1983 г.) выява карціны «Бітва Арханёла Міхаіла з д’яблам» (Рафаэль. 1518 г. Люўр, Парыж)

«А калі цмок убачыў, што скінуты на зямлю, пачаў прасьледаваць жанчыну, якая нарадзіла дзіця мужчынскага полу. І дадзены былі жанчыне два крылы вялікага арла, каб яна ляцела ў пустыню ў месца сваё ад аблічча зьмея і там кармілася час, часы і паўчасу» (Адкрыцьцё 12:13,14).




«Жанчына і цмок» Малюнак Анжэйскага габэлену на марцы Францыі (1965 г.). На канвэрце малюнак «Арханёл Міхаіл ваюе з д’яблам»

У замку францускага горада Анжэ выстаўлены знакаміты «Габэлен Апакаліпсісу» — самы вялікі сярэднявечны (14 ст). габэлен у сьвеце: з першапачатковых 140 мэтраў захавалася 103 мэтры даўжыні і 6 мэтраў у вышыню. Зьмест выяваў на габэлене ілюструе Кнігу «Адкрыцьцё» Яна.




Малюнак мастака Эдгара Талусана «Жанчына змагаецца з цмокам». Марка пошты Філіпін (2001 год)

## V. Апошні суд

*Праведныя ўспадкуюць зямлю, і будуць жыць на ёй вечна. (Псалтыр 37:29).*

Вось як апісвае Судны дзень Ян Эвангеліст: «І ўгледзеў я вялікі белы трон і Таго, Хто сядзеў на ім, ад аблічча Якога ўцякала неба і зямля, і не знайшлося ім месца. Угледзеў я мёртвых, малых і вялікіх, якія сталі перад Богам, і кнігі разгорнутыя былі; і іншая кніга разгорнутая, якая ёсьць кніга жыцьця; і суджаны былі мёртвыя, згодна з напісаным у кнігах, паводле ўчынкаў сваіх» (Адкрыцьцё 20:11,12).

Мастакі адлюстравалі ў сваіх працах сваё бачаньне гэтай грандыёзнай падзеі.




Вісэнтэ Кардучо. Судны дзень». Марка Перу (2008 г.)

У Музэі рэлігійнага мастацтва сабора Лімы знаходзяцца чатыры карціны мастака Вісэнтэ Кардучо (de Vicente Carducho, Флярэнцыя, 1575 — Мадрыд, 1638), на якіх мастак адлюстроўвае сваё разуменьне падзей Апошняга суда. Гэтыя карціны адлюстраваныя поштай Перу на марках у 2008 годзе.




На наступнай марцы выява карціны «Ўваскрашэньне плоці»

«Тады аддало мора мёртвых, што былі ў ім, і сьмерць і пекла аддалі мёртвых, якія былі ў іх; і суджаны быў кожны паводле ўчынкаў сваіх...» (Адкрыцьцё 20:13).

«і сьмерць і пекла ўкінуты ў возера вогненнае. Гэта — сьмерць другая. І хто ня быў запісаны ў кнізе жыцьця, той быў укінуты ў возера вогненнае» (Адкрыцьцё 20:14,15).




На трэцяй марцы выява карціны «Асуджаныя ў агонь вечны»

«І ўгледзеў я троны і тых, што сядзелі на іх, якім дадзена было судзіць, і душы абезгалоўленых за сьведчаньне Ісуса і за слова Божае, якія не пакланіліся зьверу, ні вобразу ягонаму, і не прынялі кляйма на лоб свой і на руку сваю. Яны ажылі і валадарылі з Хрыстом тысячу гадоў» (Адкрыцьцё 20:4).

Гэта «Абраныя». А як быць «Абраным», адказвае Апостал Павал у сваім пасланьні: «Бо, калі б мы судзілі самі сябе, дык бы нас ня судзілі; а калі бываем суджаныя, дык караемся Госпадам, каб ня быць засуджанымі разам са сьветам» (Першае да Карынфянаў 11:31,32).




На чацьвёртай марцы «Абраныя»

Маштабная фрэска «Страшны суд» (італ. Giudizio universale, літар. «Апошні суд» ці «Апошні прысуд») фрэска Мікеланджэла займае ўсю сьцяну ззаду алтара Сыкстынскай капэлы.



«Страшны суд» (італ. Giudizio universale, літар. «Апошні суд» ці «Апошні прысуд») фрэска Мікеланджэла на блёку пошты Цэнтральна Афрыканскай Рэспублікі (2011 г.) — гэта выява фрэскі на алтарнай сьцяне Сыкстынскай капэлы ў Ватыкане

Тэма карціны — другое прышэсьце Хрыста. Мастак працаваў над фрэскай чатыры гады — з 1537 па 1541. Яе адкрыцьцё адбылося ў пярэдадне Дня Ўсіх Сьвятых.

Колькасьць пэрсанажаў «Страшнага суда» трохі больш чатырохсот. Вышыня постацяў вар'іруецца ад 250 см (для пэрсанажаў верхняй часткі фрэскі) да 155 см у ніжняй частцы.

У двух люнэтах прадстаўлены групы анёлаў, якія нясуць сымбалі Мукаў, знак ахвяры Хрыста, якую ён прынёс у імя выратаваньня чалавецтва. Адсюль пачатак чытаньня фрэскі.

Цэнтар усёй кампазыцыі — постаць Хрыста — Судзьдзі з Дзевай Марыяй, акружаныя натоўпам прапаведнікаў, прарокаў, патрыярхаў, сівіл, герояў Старога Запавету, пакутнікаў і сьвятых. Хрыстос паказаны ў самы момант пачатку Суда. Па Вазары: «Хрыстос,

гледзячы з жудасным і адважным тварам на грэшнікаў, паварочваецца і праклінае іх». У аблічвы Судзьдзі няма ні спачуваньня да грэшнікаў, ні радасьці за блажэнных: час людзей і іх пакут зьмяніўся трыюмфам чароўнай вечнасьці. Поплеч Хрыста — Дзева Марыя, якая з пакорай не ўмешваецца ў рашэньні Судзьдзі, яна толькі чакае вынікаў. Погляд Марыі накіраваны на Царства Нябеснае.



Хрыстос і маці Божая. Дэталь фрэскі Мікеланджэла на марцы пошты Ватыкана (1994 г.)

Другое кола пэрсанажаў у левым баку: група з пакутнікаў, духоўных бацькоў Царквы, нявіньніц і блажэнных. Амаль усе пэрсанажы: нявіньніцы, сівілы і гераіні Старога Запавету гэта жанчыны.

У правай групе — пакутнікі, спавядальнікі і іншыя блажэнныя — пераважаюць мужчынскія постаці.

Ніз фрэскі — канец часоў: у цэнтры анёлы з трубамі і кнігамі ўзьвяшчаюць Страшны суд; зьлева ўнізе прадстаўлена ўваскрашэньне мёртвых, угары — ушэсьце праведнікаў; справа ўгары — захоп грэшных дябламі, унізе — пекла.

Гэты твор сваім зьместам і майстэрствам ня можа не ўражваць.

На мой погляд зьмест фрэскі «Страшны суд» Мікеланджэла адпавядае зьместу наступнага тэксту Эвангельля: «І раптам, пасьля смутку дзён тых, сонца памеркне, і месяц ня дасьць сьвятла свайго, і зоркі спадуць зь неба, і сілы нябесныя пахіснуцца; і тады зьявіцца азнака Сына Чалавечага на небе; і тады заплачуць усе плямёны зямныя і ўбачаць Сына Чалавечага, Які будзе ісьці на аблоках нябесных зь сілаю і славаю вялікай; і пашле анёлаў Сваіх з трубою громагучнаю, і зьбяруць выбраных Ягоных ад чатырох вятроў, ад краю нябёсаў да краю іх» (Паводле Мацьвея 24:29—31).

## VI. Выратаваньне

Дваццаць першая частка Апакаліпсісу — гэта свайго роду эпілёг і разам з тым вяршыня Адкрыцьця Яна. Калі ў папярэдніх частках гаварылася пра падзеньне чалавецтва, пра кары і катастрофы, пра мужнасьць і цярпеньні сьвятых, пра ўзрастаньне адначасова двух царстваў — царства антыхрыста і Царства Хрыста, — пра панаваньне на зямлі зьвера і лжэпрарока і пра наступнае тысячагадовае Царства Хрыстова, то ў дваццаць першай частцы распавядаецца

ўжо пра тое, што будзе па той бок гісторыі, па той бок зямнога падарожжа чалавецтва, пра тое, што зьяўляецца мэтай усёй гісторыі выратаваньня, гэта значыць пра ператварэньне сьвету.

Дваццаць другая частка, як і папярэдняя, — гэта нібы абраз будучыні, карціна зьмененага Богам сьвету, бачаньне чалавецтва і ўсяго космасу, якое зноў апісана фарбамі старажытных прароцтваў. Яно сапраўды падобна на выдатны абраз з яркай вясёлкай фарбаў, са шматлікімі знакамі і сымбалямі, якія нясуць у сабе вельмі вялікі і глыбокі сэнс.

«І ўгледзеў я анёла, што сыходзіў зь неба, які меў ключ да бездані і вялікі ланцуг у сваёй руцэ. Ён узяў цмока, зьмея адвечнага, які ёсьць д'ябал і сатана і скаваў яго на тысячу гадоў» (Адкрыцьцё 20:1,2).




Анёл з ключом ад бездані і скаваным сатаной на марцы Андоры (1970 г.)

«О, калі б Ты разадраў нябёсы і сышоў! горы расталі б ад аблічча Твайго...» (Ісая 64:1) — усклікае прарок Ісая, а Псалмапевец кажа: «Як сарна імкнецца да водных патокаў, так душа мая імкнецца да Цябе, Божа!» (Псалтыр 42:2). Гэтыя два воклічы Старога Запавету, найважнейшыя, словы, якія ідуць з глыбіні сэрца, знаходзяць адказ, па-першае, у зьяве Хрыста і, нарэшце, у тым Царстве, якое Ён заснаваў і тварэньне якога Ён нарэшце завершыць.

«Так, прыйдзі, Госпадзе Ісусе...» (Адкрыцьцё 22:20).

У першых частках Кнігі Быцьця мы бачым дрэва жыцьця як знак зносін з Богам. Гэта адзінае дрэва жыцьця, якое ўзвышалася пасярод рая. Тут ужо замест аднаго дрэва — шэрагі дрэў, якія растуць уздоўж ракі жыцьця. Як вы памятаеце, паводле аповеду Кнігі Быцьця, чалавек пазбавіўся як духоўнай, так і фізычнай неўміручасьці. А тут, у апошняй частцы апошняй кнігі Бібліі, чалавек ізноў знаходзіць і дрэва жыцьця, і раку жыцьця. Дрэва жыцьця — гэта неўміручасьць. І не будзе нічога праклятага.




«Анёл ля ракі жыцьця» на марцы пошты Гішпаніі (1975г.). (Беатус, тлумачэньне на Апакаліпсіс, 1086. Бурго-дэ-Осма, Сабор, Гішпанія)

Апакаліпсіс, нягледзячы на свае грозныя староні, нягледзячы на страшныя карціны, бясспрэчна зьяўляецца кнігай сьветлай надзеі, якая адказвае на ўсе спадзевы Старога Запавету.

Біблія завяршаецца самай таямнічай, самай грознай з кніг Новага Запавету, кнігай, якая замацавалася ў шматлікіх творах сусьветнага мастацтва.

Гэта кніга пра крызіс чалавечага роду, пра крызіс культуры і таму зразумела, што сёньня яна гучыць для нас цалкам надзённа.

І яшчэ: гэта кніга не проста набор змрочных антыўтопій ці нейкіх жудасных карцін, здольных пасеяць толькі роспач і паніку. Апакаліпсіс насычаны надзеяй.

Несумнеўна, гэта найвялікшая кніга надзеі, бо, чым чарней гістарычная пэрспэктыва, якую дае нам прарок, тым дзіўней гучаць пераможныя трубы, трубы сьветлага міру, які прыходзіць на зьмену цемры ў выніку перамогі дабра над злом.




Анёл узводзіць калёну, якая сымбалізуе вернікаў на небе. Марка пошты Андоры, 1970 г.

Ян бачыць новае неба і новую зямлю. Гэта Новы Ерусалім, ён таксама спускаецца зь неба.




«Слава Новага Ерусаліма» палатно Стэйсі Лі на марцы фірмы ZAZZLE

Прыгажосьць горада не паддаецца апісаньню, ён будзе домам ня толькі для ўваскрэслых людзей, Сам Бог будзе жыць з выратаванымі. Божае Валадарства будзе бясконцым. Анёл загадвае Яну не запячатваць словы кнігі, бо Другое прышэсьце, а разам зь ім і выратаваньне настане ў хуткім часе. Але яно будзе тычыцца толькі тых, хто вытрымае да канца, хто пранясе веру бяз зьменаў. Страшныя войны, гвалт, жахлівая саранча, намаляваная ў Апакаліпсісе, падобная збройным мэханізмам для зьнішчэньня людзей, якія людзі ж і стварылі за апошняе стагодзьдзе, — усё гэта нараджае карціну сапраўды злавесную. І такая гісторыя людзей. Таму Апакаліпсіс — кніга праўдзівая.

Гэта кніга — папярэджаньне ўсіх нас пра тое, што калі чалавецтва будзе грэбаваць Запаветам Божым, яго чакае жорсткая адплата. Але не таму, што

Бог будзе яго караць, — гэта прымітыўнае ўяўленьне. А таму, што Ён стварыў маральны сьветалад, у выніку якога зло заўсёды ўрэшце будзе несьці страты. Адплата прыходзіць рана ці позна. І дабро ўсё адно сьвяткуе. Але чалавек павінен выбіраць, з кім ён — са сьвятлом ці з цемрай. Таму і ў асабістым, і ў грамадзкім жыцьці гэты выбар заўсёды для нас актуальны.




«Бачаньне Сан-Пэдра Ноласко», карціна Франсіска дэ Сурбарана (1629) на блёку пошты С’ера Леонэ (1997)

СанПэдра Ноласко, заснавальнік ордэна Міласэрнасці. Анёл паказвае яму нябеснае бачаньне Новага Ерусаліма.

«Вось, стаю каля дзьвярэй і стукаюся; калі хто пачуе голас Мой і адчыніць дзьверы, увайду да яго і буду вячэраць зь ім, і ён са Мною» (Адкрыцьцё 3:20). Яго ціхі стук — гэта стук да нас, у нашу гісторыю, у нашы душы, у наша жыцьцё. Ці пачуем? Ці адчынім?

# Эпілёг

Напісаны апошні артыкул сэрыі «Біблейскія гісторыі, ілюстраваныя паштовымі маркамі» (Новы Запавет).

Расставацца заўсёды, хоць трохі, але сумна. Ёсьць надзея, што вазьмуся пісаць такія артыкулы, але прапра Стары Запавет... Гэта яшчэ большы кавал працы.

Выбраны мною спосаб знаёмства з Кнігай Кніг — Бібліяй мяне задаволіў. Проста чытаньне было б менш выніковым і менш цікавым... Я прыйшоў да высновы, што Біблія мае бясконцую глыбіню для пазнаньня. Самыя простыя сказы маюць глыбінны сэнс і патрабуюць веры і моцных высілкаў для зразуменьня, хоць часткова, гэтага сэнсу. Просты прыклад. Мільёны людзей штодзённа вымаўляюць словы: «хлеб наш надзённы дай нам сёньня...» (Паводле Мацьвея 6:11). Здавалася б, няма патрэбы разважаць, што Хрыстос хацеў гэтым сказаць. Што хацеў, тое і сказаў, а сказаў менавіта тое, аб чым ведае кожны чалавек: цела патрабуе ежы, каб было здаровае і належна вы конвала свае функцыі.

Але хлеб не дастаецца бяз працы і поту. Галеча вельмі часта выклікана не аб'ектыўнымі прычынамі, але неаднойчы проста бестурботнасьцю, лянотай і дурнотай. Ці просім мы хлеба бяз працы і поту?

Адначасова хлеб — сымбаль жыцьця і любові, патрабуе, каб ім дзяліліся. Праз свой цуд ля Генісарэцкага возера Хрыстос прадставіў таямнічую сувязь паміж Богам і чалавекам праз пасярэдніцтва хлеба.

Але і гэта яшчэ ня ўсё. «Я ёсьць хлеб жыцьця: бацькі вашыя елі манну ў пустыні і памерлі; а хлеб, што сыходзіць зь нябёсаў, такі, што той, хто есьць яго, не памрэ; Я — хлеб жывы, што сыйшоў зь нябёсаў: хто есьць хлеб гэты, будзе жыць вечна; а хлеб, які Я дам, ёсьць Плоць Мая, якую Я аддам за жыцьцё сьвету» (Паводле Яна 6:48—51).

То што мы просім, гаворачы: «хлеб наш надзённы дай нам сёньня...»?




На марцы пошты Гішпаніі (1963 г.) на лацінскай мове словы: «Хлеб наш надзённы дай нам сёньня»

Закончыць дазвольце спасылкай на Кірыла Андэрсана, які кнігу «Біблейскія легенды» папярэднічае словамі:

«Не засталося ніводнага імя, ні адзінай падзеі, згаданай у Бібліі, якое не было б шматкроць перакладзена на мову паэзіі, музыкі, фарбаў і філязофіі. Прыходзіць аднак наступнае пакаленьне і выяўляе скарбы Бібліі ніколькі не зьбяднелымі і кожны раз адкрывае іх для сябе наноў, быццам гэта не адна і тая ж кніга, а велізарная, бясконцая бібліятэка».

Выяўляйце скарбы Бібліі.

Лявон Карповіч, Луна-Воля



# Крыніцы


Біблія. Кнігі Сьвятога пісаньня Старога і Новага Запавету. Кананічныя. У беларускім перакладзе Васіля Сёмухі. World Wide Printing Dunkanville, USA 2002.

Библия, пересказанная детям старшего возраста. Сост. София Дустунис. ТОО МП «А-Я», 1993.

Библейские сюжеты в искусстве. DirectMedia. ООО Питлэнд. Москва, Зеленоград, 2007.

Араповіч Барыслаў і Маццёлмякі Вера. Дзіцячая Біблія. Інстытут перакладу Бібліі, Стакгольм, 1992.

Бутромеев Владимир. Чудеса Господа Бога нашего Иисуса Христа. Москва, 2010.

Величайшие шедевры мировой культуры. Автор сценария: Тим Марлоу. Диск. 1994.

Музеи Ватикана. Москва — Санкт-Петербург, 2007.

Культуралогія. Энцыклапедычны даведнік. Дубянецкі Э. С. Мн.: БелЭн, 2003.

Популярная Библейская энциклопедия. Под редакцией Тима Даули. Российское Библейское общество, Москва, 2006.

Святая земля Иисуса. Дон Ахен. Доко Медиа. 2008.

Священная история Нового Завета в шедеврах мирового искусства в пересказе священника И. С. Виноградова. Москва — Санкт-Петербург, 2004.

Электронная Библейская энциклопедия. «ДиректМедиа» Москва, 2005.

Юлиус Шнорр фон Карольсфельд. Библия в иллюстрациях. Кпрнталь: «Свет на Востоке», 2002.

Albrecht Dürer. Życie Maryi. Opracował ks. Michał Janocha. OVO CARITAS Archidiecezji Warszawskiej, 1991.

Biblia w malarstwie. Warszawa, 1990.

Comlete GUIDE to the BIBLE. Reader's Digest. New York/Monreal 1998.

Jezus historii a Chrystus wiary. Ks/ Józef Kudasiewicz. Redakcja Wydawnictw Katolickiego Uniwersytetu Lubelskiego, Lublin 1987.

Uświęceni w prawdzie. Georges Cottier op. «W drodze» Poznań 1996.

Wielkie Muzea. Pinakoteka Brera, Mediolan. Rzeczpospolita HPS 2007.

Библейские сюжеты в искусстве (https://vk.com/wall-43760121?own=1&offset=360).

Библейский Израиль Библейские сюжеты на почтовых марках

(http://myisrael.at.ua/index/0-583).

Біблія Онлайн (https://www.bibleonline.ru/bible/bel/).

Каталог StampWorld (https://www.stampworld.com/ru/).

Лопухин Александр Павлович. Толковая Библия

(https://azbyka.ru/otechnik/Lopuhin/tolkovaja_biblija_nz/).

Мировая живопись — библейские сюжеты

(https://www.liveinternet.ru/community/1726655/post263768242/).

Obrazy o tematyce biblijnej

(https://biblia.wiara.pl/doc/422837.Obrazy-o-tematyce-biblijnej).

